**Славамір Адамовіч**

# Цана Еўропы,
# альбо
# Гісторыі Вільмана

*раман*

Беларусь – Нарвегія
2002 – 2015

**Менск
“Наш Дом”
2015**

## Пра Аўтара

**Славамір Адамовіч** нарадзіўся 8 сакавіка 1962 году ў сям'і Беларусаў.

Вучыўся ў беларускай школе мястэчка Будслаў у паўночна-заходнім рэгіёне Беларусі, адным з самых прабеларускіх. Скончыў 8 класаў, потым – Сьвірскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, пасьля якога працаваў у Казахстане. Далей – служба ў савецкіх ваенна-марскіх сілах, у дыверсійным сьпецпадразьдзеле. Пасьля службы – работа на Беларускай чыгунцы, на станказаводзе імя Кірава ў Менску. У 1986-м, маючы ўжо 24 гады веку, паступіў на дзённае аддзяленьне філфака БДУ. З гэтага часу пачынаецца станаўленьне Аўтара як Беларускага пісьменьніка і грамадзяніна...

Скончыў БДУ ў 1992-м, працаваў у афіцыйным ведамасным выданьні ''Настаўніцкая газета''. У 90-я гады 20-га ст. браў актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцьці Беларусі. Словам і справай супраціўляўся антыбеларускаму рэжыму нутраной акупацыі, за што трапіў за краты, дзе трымаў сухую галадоўку. Адбыў у турме 10 месяцаў і пад ціскам грамадскасьці быў адпушчаны на свабоду ў 1997-м.

У 1999-м выйшла найлепшая кніга паэта – ''Плавільшчыкі расы''.

У 2000-м працаваў на будоўлях Нью-Ёрку. У гэтым жа годзе ў яго нарадзілася дачка Ксенія Мілаш-Адамовіч.

У 2002-м паехаў у Нарвегію, жыў у бежанецкіх лагерах, ад выпадку да выпадку працаваў на розных выпадковых работах і – пісаў сваю кнігу жыцьця, якую назаве потым ''Цана Еўропы...''.

Любыя імёны і прозьвішчы персанажаў у гэтым тэксьце зьяўляюцца мастацкай выдумкай аўтара, а магчымае іх супадзеньне з імёнамі і прозьвішчамі рэальных асобаў зьяўляецца абсалютна выпадковым.

# КНІГА ПЕРШАЯ

## 2002

**Зборы ў дарогу;
апошняе спатканьне з жанчынай;
разьвітаньне з Радзімай; Менск – Варшава –
Берлін – Осла; здаёмся ў паліцыю; транзіткі;
інтэрв'ю для UDI; запалярны Рогнан
у Салёнай даліне.**

***

Дарагая мая названая Сястра!

Як добра, што ты ў мяне нейкім дзіўным чынам зьявілася. Па крайняй меры, цяпер мне ёсьць каму пасылаць гэтыя пісьмёны; гэтыя лісты з дрэва жыцьця, якое ўжо адшумела сваёй кронай добрую палавіну веку.

Ці мог нехта з нашага пакаленьня ўявіць сабе хоць аднойчы, што для многіх з нас барацьба за паўстаньне Нацыі працягнецца доўгімі гадамі турмы; пабіраньнем з панскага стала ў эміграцыі; поўным

зганеньнем і жабрацтвам; ціхім пераходам у варожы лагер і зьнікненьнем з публічнага жыцьця?..

Усё лета 2002-га я рыхтаваўся да ад'езду: вылечыў у трэцяй сталічнай клініцы свой застарэлы гемарой; перааформіў маёмасьць на маці – адзінага чалавека, каму ў гэтым сьвеце давяраю; перарабіў гару драбнейшых, але ня менш важных справаў. Я ўжо не кажу пра збор і афармленьне розных даведак, дазволаў ды іншых падобнага роду папер.

А ў жніўні мне пазваніла Яна – маё няспраўджанае са студэнцкіх гадоў каханьне. Што ж, гэта было нечакана, прыемна і – сумна, бо я быў поўны ад'ездам, тым болей, што ў кішэні заставаліся апошнія рублі ў нацыянальнай валюце, а дарожны запас кранаць было нельга.

Я быў у паніцы і пры гэтым заставаўся такім сабе дзяшовым піжонам: вырадзіўся ў чорны сінтэтычны касьцюм, чорную кашулю са штучнага шоўку; купіў бутэльку савецкага шампанскага і прыхапіў два крышталёвыя фужэры – адзначыць сустрэчу.

Мы спаткаліся каля Дома быту на вуліцы Маскоўскай і паехалі ў маю любімую Лошыцу – да мяне дамоў Каханьне не захацела.

Было горача як для сярэдзіны жніўня, на праспекце Незалежнасьці бязьлістыя каштаны выкінулі дыстрафічныя сьвечкі квецені, а ў лошыцкім садзе яблыні страсалі недасьпелыя дробныя яблычкі.

Засуха была ў горадзе і над Кантынентам, а тут Яна, ды так блізка, на шырыню далоні, і я вяду Яе па маёй Лошыцы, па гэтай высьпе старасьвецкага Духу і Цішыні ў цэнтры двухмільённай сталіцы.

На узьмежку, паміж былымі досьледнымі палямі бульбянага інстытуту, мы і разьмясьціліся. Я наліваў шыпучае віно ў крышталёвыя фужэры,

расшпіляў і зашпіляў свой сінтэтычны пінжак, хмялеў і штораз даўжэй затрымліваў позірк на маршчынках, рассыпаных па Ейным твары.

Вядома, успаміналі мы наша агульнае: мастацкі інстытут і сумесныя выезды *на бульбу,* студінтэрнат № 2 на Кастрычніцкай і вандроўкі дызелем у Вільню...

Ад шыпучкі, гарачыні і ўспамінаў мы абое хутка прыхмялелі. Тут бы мне і перайсьці да актыўных дзеяньняў, забыўшыся пра гэтыя чортавы правілы і мараль. А я, а я, Сястра, у гэты самы момант думаў, што на двары дзень і мы ў садзе не адны, і як мне ня спэцкаць адзіны ў маім гардэробе касьцюм; і ці не пакрыўджу я няўрымсьлівым дамаганьнем маё такое высокае, вялікае і нябеснае каханьне!

І вось я так думаю ці ня думаю, ці ў мяне ўвогуле пуста ў галаве і касьцях, але раптам я бачу, што яна ўжо на сьпіне, і белая блюзка вылезла з джынсаў, і відаць белае цела вакол цёмнага пупка. Цяпер я ўжо сапраўды не магу думаць, бо позірк мой упёрся туды, ніжэй граніцы паміж верхам і нізам чалавечага цела; туды, дзе ўлоньне маёй Каханай, пра якое я фантазіраваў не адну адзінокую ноч. А яно, а яно ж такое прыцягальнае, вечнае, жыцьцядайнае, – раптам пачало рухацца ў такт нябачнай мне мужчынскай сіле. Ня ведаю, хто быў зь ёю ў гэты момант – бог, д’ябал, ёйны былы муж, але толькі ня я, – слабы, нікчэмны, ніякі... Мне ўзяць бы яе тут жа, пад высокім яшчэ жнівеньскім сонцам, на былых бульбяных барознах, на сваім сінтэтычным пінжаку; ну калі ня ўзяць, дык упіцца вуснамі ў гэту жывую крыніцу жарсьці і наталеньня! Дык жа не! Ня мог! Не хацеў?! Ня меў сілы і адвагі?!. Божа мой, я пацярпеў поўнае фіяска, крах! Я зрабіў невымольны грэх у той момант, калі не адказаў на такія яскравыя заклікі

майго Каханьня, калі не падтрымаў агмень Ейнага прагненьня любові...

Бясконца грэшны і слабы, Сястра, я пакінуў нашу Радзіму і маё няспраўджанае Каханьне. І пакуль я не вярнуся, мне будзе зноў і зноў сьніцца той раньні жнівеньскі надвячорак, калі пад старым вішнёвым дрэвам насустрач нябачнай мужчынскай сіле рухалася Ейнае ўлоньне.

***

13 верасьня 2002-га мы пакінулі Радзіму – я і мой таварыш. Праводзілі нас на Варшаўскі цягнік некалькі сяброў і самыя блізкія людзі – бацькі.

У Брэсьце падсела ў наша купэ юная полька-пасьлядыпломніца з *трэцяга сэктару*. Як з абазнанай у грамадска-палітычнай справе, зь ёй было пра што пагаварыць, але пра палітыку якраз і не хацелася. Перабываючы на роднай зямлі апошнія хвіліны, хацелася пра нешта добрае гаварыць і сьветлае. Напрыклад, якая яна маладая і спрытненькая...

Пакуль саставу мянялі калёсныя пары, я адкаркаваў „Белавежскую" і мы з Агнешкай добра выпілі за нашы бела-чырвоныя *айчызны*, дайшоўшы хуценька да бусяк і яскрава-палымяных пазіркаў.

Сусед варочаўся на сваім купэйным палку, ня піў і быў заклапочаны ня столькі разьвітаньнем з Радзімай, колькі тым, як мы будзем дабірацца да нашай мэты пасьля Варшавы.

У сталіцы польскай я разьвітаўся з Агнешкай, пакінуўшы пры сабе ейны здымачак 3х4 з пажаданьнямі *шчэньсьлівэй дрогі* і выйшаў на перон. Зямляк мітусіўся зь білетамі.

Усю дарогу, пакуль мы дабіраліся да партовага

нямецкага Кілю, не выходзіла з галавы „Хатынская аповесьць” пісьменьніка Алеся Адамовіча ды родная цётка Геня Чантарыцкая-Ляшковіч, якая падчас апошняй Вялікай вайны два з паловай гады адрабіла на прымусовых работах – тут, на гэтых выштукаваных немчыкамі сельскіх гаспадарках, якія мы назіраем з вакна імклівага ціхаходнага цягніка.

Асаблівае месца заняў у памяці эпізод з пенсійнага веку парай у агульным вагоне экспрэсу „Цуген-Кіль”, які выносіў нас да берагоў Паўночнага мора. Пенсіянерчыкі з непрыхаванай непрыязнасьцю сагналі нас з месцаў каля самага вакна. Мы з земляком моўчкі пераселі, бо напэўна ж гаспадары мелі рацыю, напэўна ж яны селі на свае *законныя* месцы, указаныя ў білетах. Але вось гэты зазор, гэты непераадольны каньён, які ўзьнік паміж імі і намі, *унтэрменшамі,* ён не пакідае мяне і сёньня, ён стварыў, выкрасіў энергію высокага напружаньня... І што мне, чалавеку з класічным рымскім профілем, грамадзяніну Ост-Еўропы, – што мне з усёй гэтай напругай рабіць. Як мне выкінуць з галавы гэтых пенсійнага веку гітлерюгендаў мінулага стагодзьдзя?

***

У Кіль мы прывалілі вечарам і мусілі заначаваць у гатэлі, які абышоўся нам надзіва танна.

На другі дзень мы былі на ўзводзе: з шэнгенскай візай, выдадзенай нямецкай амбасадай у Сталіцы, нам трэба было нейкім чынам сесьці на паром „Кора Лайн”, які курсуе паміж нарвежскім Осла і нямецкім Кілем.

Пакуль чакалі адпраўкі, патусаваліся ў партовых ваколіцах. У нейкага характэрнага выгляду

юнака набыў стосік чорна-белых улётак нацыяналістычнай *NDPD*[1] з абавязковым профілем Геса. Ну вядома, проста на памяць.

Як ні дзіўна, пры пасадцы на паром ніхто нас не шманаў і не пытаўся, чаго мы промся ў Нарвегію, калі віза ў нас на 15 дзён для знаходжаньня ў Германіі.

Месцы мы ўзялі самыя танныя. Наша каютка была ніжэй за ватэрлінію, дзесьці ў трумных дэках. Зрэшты, уся іншая пасажырская тэрыторыя была нам даступная. Мы з земляком лазілі з палубы на палубу, упершыню ў жыцьці разглядаючы такі агромністы карабель. Ноччу прайшлі праліў Скагерак. Сьніўся паром „Эстонія”, які затануў падчас шторму ў Балтыйскім моры 15 гадоў таму; сьнілася нелегальная работа на будоўлі. Дзесьці глыбока пад нашымі шконкамі спакойна і мерна гудзелі механізмы карабельных машын.

16-га пасажырскі паром „Кора Лайн” стаў на якар у марскім порце Осла-ф’ёрду. Так і не заўважыўшы ні паліцыі, ні мытных службаў, мы вольна ступілі на зямлю невядомай нам Нарвегіі. Першым чынам трэба было знайсьці цэнтральны тэрмінал грамадскага транспарту. Мы ўзвалілі на сябе нашыя клункі і пайшлі шукаць.

На вакзале, каля вялізнага бронзавага тыгра нас чакаў зямляк, аднакурсьнік майго спадарожніка (яны абодва скончылі Ізам – Інстытут Замежжа). Мы пачалі былі гучна праяўляць свае радасныя эмоцыі спатканьня, але зёма нас хутка абсадзіў: „Ціха вы, тут поўна паліцыі, пачуюць, што мы замежнікі – заграбуць для высьвятленьня, а мы з вамі хто? Правільна, нелегалы. А нам гэта патрэбна? Правільна, нам гэта зусім непатрэбна. Таму надалей размаўляем на вуліцы ціха і пры крайняй

---

[1] *NDPD* – нацыянальна-дэмакратычная партыя Германіі.

неабходнасьці... А вось і наш бус. Ехаць далекавата, у так званы „Пакістан". Чаму такая назва? Ды ўсё проста: гэта раён Осла, дзе селіцца ці ня ўся каляровая эміграцыя з колішніх Індакітаю, Індастану, араба-мусульманскага сьвету, з Афрыкі... Тутэйшых практычна няма, жыльлё таннае. Вось там і я жыву ў невялічкім хібелі, гэта паддашак, калі па-нашаму...".

У земляка мы завісалі двое сутак: паелі ўвесь наш чорны хлеб Радзімы, выпілі айчынную гарэлку і затачылі паляндвіцу.

Зямляк радзіў нам ехаць бусам у Крысьціянсанд, здавацца там у паліцыю, прасіць палітычнага прытулку. Разьлік быў такі, што лепш знаходзіцца ў краіне легальна і пакуль тое шукаць спосабы зарабіць.

Крысьціянсанд прытуліўся на паўднёвым беразе Нарвегіі, і зямляк спадзяваўся, што нас не адашлюць далёка на поўнач.

І вось мы ўжо сышлі з аўтобуса ў сталіцы нарвежскага поўдня. Электронны тэрмометр на вакзале паказвае плюс 8 па Цэльсіі. Халаднавата для сярэдзіны верасьня, але, што праўда, гарадок утульны. Ціха, ні людзей, ні ветру з мора. Падключаем інтуіцыі і шукаем вуліцу, на якой павінна быць паліцэйская ўправа. А 12-й ночы знаходзім будынак, стукаем у замкнёныя дзьверы, перамаўляемся праз дамафон. Нарэшце нам адчыняе нейкі барадаты дзядзечка, падобны хутчэй да капітана рыбацкай шхуны, чым да паліцэйскага, і праводзіць да канторкі, за якой сядзіць гэткі ж самы троль, толькі без барады. Паколькі у спадарожніка дыплом Інстытуту Замежжа і „perfekt" па ангельскай, ён і вядзе далейшыя перамовы з дзіўнымі для нашага вока паліцэйскімі.

Нас не абшукваюць, адно просяць паказаць якое-небудзь пасьведчаньне асобы. Я працягваю журналісцкае, запоўненае па-ангельску. Дакумент

выклікае давер, дзядзечкі робяцца для нас ледзь ня членамі сям'і. Мне здаецца, што ў аднаго з іх, у барадатага, нават непрыкметная мужчынская сьляза зьявілася ў куточку вока...

Запісаўшы нашы прозьвішчы, выслухаўшы кароткія легенды нашага зьяўленьня ў іхным ціхім гарадку, дзядзечкі выклікалі таксі. Прыйшоў пасажырскі міні-вэн, мы расьселіся з думкай, што ехаць прыдзецца кудысь на ўскрай гораду. Як жа мы былі шакаваныя, калі метраў праз сто наша падарожжа скончылася перад тутэйшым гатэльчыкам. Барадаты дзядзечка паліцэйскі пажадаў нам „дабранач" і папярэдзіў, што гэтае ж таксі забярэ нас заўтра назад у паліцыю. Стомленыя дарогай і зьдзіўленыя тутэйшай паліцыяй, мы заваліліся спаць. Шукаць парнуху па TV ужо не было сілаў.

На другі дзень мы перажылі яшчэ адзін культурны шок: жанчына-паліцэйская таемна ад нас абшукала нашыя торбы. Мы з земляком сьпярша хацелі абурыцца, але падумалі лагічна і супакоіліся: наўрад ці гэтыя паліцэйскія дзедымарозы будуць падкідваць нам наркотыкі ці іншыя рэчавыя доказы нашай віны, калі ўчора яны выклікалі нам таксі, каб мы ня дай бог не замарыліся, ідучы стометроўку да гатэлю. А 2-й дня нас пасадзілі на самалёт мясцовых авіяліній кампаніі „Відэроэ" і праз 40 хвілін мы прызямліліся ў міжнародным аэрапорце Гардэмуен, што блізу Осла. Застацца на поўдні Нарвегіі нам не ўдалося.

У аэрапорце мы разгубіліся настолькі, што цэлую гадзіну не маглі атрымаць багаж і выйсьці з тэрміналу, дзе нас чакаў прадстаўнік Дырэктарату па справах замежнікаў. Не дапамагла і сябрава ангельская – таварыш паводзіў сябе 100-працэнтова па-беларуску сьціпла і ня йшоў на кантакт з людзьмі, каб атрымаць якую параду ці дапамогу.

Урэшце выбіліся з людскога мурашніку, трапілі

ў рукі ўладаў і былі транспартаваныя ў транзітны лагер для бежанцаў. Там мы і пачалі нашае знаёмства з так званым трэцім сьветам, сьветам Апакаліпсісу, які так любіць мадэляваць у сваіх кінастужках Галівуд.

У Лісакеры, нашым першым часовым лагеры, нам выдалі адзеньне, пасьцельную і грошы на курава й кішэнныя расходы.

З часоў нелегальнага перабываньня ў Нью-Ёрку я ня бачыў у адным месцы столькі рознарасавых тыпаў. Усе яны – афрыканцы, арабы, азіяты, бежанцы з былой Цітавай Югаславіі, каўказцы, румынскія цыганы, і, вядома, былыя грамадзяне былога СССР кучкаваліся ў свае нацыянальна-племянныя групы. Адным словам, *Новы Бабілён*. Былыя савецкія і былыя югаславы для паразуменьня паслугоўваліся рускай, Афрыка, Азія і арабскі сьвет гаварылі па-ангельску. Па французскім прanoнсе можна было пазнаць прадстаўнікоў былых французскіх калоній.

Кармілі нармальна, калі не сказаць, што аж занадта тлуста. Ну а чарнасыў давалі, відаць, каб у бежанцаў не было запораў.

Тут упершыню убачыў, як дзеці трэцяга сьвету гуляюць апельсінамі ў футбол.

У Лісакеры мы з земляком яшчэ жылі ў адным пакоі, але ўжо амаль не размаўлялі – гэта ў аэрапорце пачалося, праскочыла нейкая іскра непрыязьні. І перш за ўсё ад мяне, бо я чакаў ад знаўца ангельскай большай актыўнасьці, а ён маўчаў і толку ад ягоных ведаў не было практычна ніякага.

У чарзе па нейкія даведкі пазнаёміўся з маладымі чачэнцамі. Яшчэ поўны патрыятычным уздымам, напісаў па-руску два ці тры вершы, забузіўшы іх на чачэнскай тэме. Падараваў маім новым каўказскім знаёмцам. Але хутка лёг на душу нейкі

непрыемны асадак, калі гэтыя маладзёны нешта нядобрае сказалі на адрас майго ружанцу з крыжыкам, які я тады насіў. А праз якія суткі яны прапанавалі пераходзіць у іслам...

Між тым, Дэпартамент хоць і павольна, але рабіў сваю справу. Атрымаўшы ад нас папярэднюю інфармацыю пра тое, чаму, якім шляхам і калі мы заваліліся ў Нарвегію, нас зь земляком разлучылі: ён застаўся ў Лісакеры, а мяне накіравалі ў Сандвіку – іншую транзітку, разьмешчаную на тэрыторыі былой вайсковай часткі.

Сандвіка... Нешта тут ёсьць, што назва гэтага нарвежскага мястэчка так падобная да твайго імя, Людвіка. Хоць паміж Нарвегіяй і нашай Краінай тры тысячы вёрстаў, а нешта ўсё ж ёсьць. І гэтае нешта я цяпер спрабую адшукаць.

У транзітцы, што каля Сандвікі, я сядзеў цэлы месяц. Бежанецкія дзеці працягвалі гуляць апельсінамі ў футбол, у сталоўцы сьвініны не давалі, каб не пакрыўдзіць смакавыя рэцэптары мусульманаў (непаліткарэктна забыўшыся пра правы мясаедаў хрысьціян).

Тут пазнаёміўся з маладым земляком з Гарадзеншчыны, які, як і я, спадзяваўся так ці інакш зарабіць грошай, каб дабудаваць дом на Радзіме. Раздабылі неяк бутэльку гарэлкі і балявалі ў ваколіцах лагеру... Тут жа, у транзітцы, разьвітаўся з сімпатыямі да вольналюбнага племя каўказцаў, якім вось толькі што прысьвячаў вершы...

А было так. У залі адпачынку з більярдным сталом і TV стаяла некалькі электранагравальнікаў вады, каля якіх заўсёды тоўкся бежанецкі народ: папіць кавы ці чаю за кошт установы, паглядзець адзіны рускамоўны канал, які перадаваў з Аджарыі. Заля была адчыненая круглыя суткі. Вечарам людзей заходзіла болей, у іншы час – меней, але даступіцца да чайнікаў і папіць гарачага можна было заўсёды.

І вось бачу аднойчы, як прастору вакол скараварак займаюць каўказскія хлапчукі 8-10 гадоў, не падпускаючы нікога з чужых. А побач у більярд гуляюць іхнія дарослыя, пільна прыглядаючы за нашчадкамі.

Раптам нейкім чынам да чайнікаў з казённай заваркай даступаецца малады мужчына адэкватнага такога ўсходнееўрапейскага тыпу. Што тут пачалося! Як у добра пастаўленай тэатральнай сцэне, дарослыя „сыны гор" кідаюць свой більярд, дружна абураюцца і абступаюць чужака. На першы погляд, абурэньні горцоў могуць здацца справядлівымі: чужак адагнаў малых, можа нават каго штрухнуў (хоць не, такога не было), а так зь дзецьмі нельга... На самой жа справе на маіх вачах адбывалася практычнае навучаньне маладняка дзеяньням у групе з адначасовай правакацыяй чужака на неадэкватныя паводзіны...

Адэкватны аказаўся нашым, тым самым маладым беларусам з Гарадзеншчыны, зь якім я потым пазнаёміўся.

У Сандвіцы я першы раз пагаліў сам сабе галаву, пазбавіўшы такім чынам свой класічны рымскі профіль ад патрыцыянскіх кучаравінак на скронях. Тут жа зарабіў грыбок у пазногаць на вялікім пальцы левай нагі, бо шкадаваў чаравікі 41-га памеру і цэлы месяц насіў чортавы красоўкі 40-га, што былі зацеснымі.

Цэлы месяц, цэлы месяц чакаў я, калі ж нарэшце завершыцца інтэрв'ю-допыт у Дэпартаменце па справах замежнікаў. Першы раз выклікалі ў сярэдзіне кастрычніка, распытвалі паўдня. Перакладала зусім маладая перакладчыца, з рускіх. Чамусьці абнадзеіла, што справа мая відавочная і павінна вырашыцца на маю карысьць. Я глядзеў на ўсё гэта больш скептычна, бо меў перад вачыма іншыя прыклады: дазвол на жыхарства і работу ў

Нарвегіі даюць найперш афрыканцам, азіятам, сэксмяньшыням, жыдам і *шамілям*. Грамадзянаў хрысьціянскага веравызнаньня з былога СССР масава высылаюць за межы шэнгенскай зоны.

У канцы кастрычніка адбылося вынікова інтэрв'ю. Дапытвалі да познага вечара: глядзелі відэакасэту, якую я прыхапіў з сабой; гарталі мае кніжкі вершаў, мой „Турыстычны дыярыюш" па выніках вандроўкі на Памір-Алай; удакладнялі выбраныя месцы з тэстамэнту галадоўшчыка... Выходзіў я з дзяржбудынку ці не апошні, наперадзе перамяшчаліся некалькі маладых клеркаў з Дэпартаменту, сярод іх дзяўчына. І вось карцінка: у дамы з рота выпадае цыгарэта, дама па інэрцыі робіць некалькі крокаў уперад, але вяртаецца, падымае сваю згубу і ўстаўляе назад у рот. Тут выклічнік! Нямая сцэна з пытальнікам: навошта? Беспрэцэдэнтная эканомія? Аўтаматызм? Дагэтуль пад уражаньнем.

На другі дзень па завяршэньні інтэрв'ю мяне пасадзілі на самалёт. Куды ляцеў – ня ведаў, адно што Нурлан, гэта значыць рэгіён дзесьці на поўначы Каралеўства.

24 кастрычніка прызямліліся ў гарадку Буда. Завея, холадна. На маршрутцы даімчалі да чыгункі. Пасадка ў двухвагонны мадэрновы цягнічок. Раскошны салон, зялёныя крэслы і нейкі тэхналагічна адмысловы пах, малекулярная гармонія якога была разарвана смуродам майго бежанецкага цела.

***

Дзень добры, дарагі зямляк! Ня ведаю, ці дойдзе да цябе гэты ліст, але напісаць мушу, бо яно трэба найперш мне: у маёй бясконцай цялеснай адзіноце адчуць сябе далучаным да такога невера-

годна пярэстага і назаўжды роднага сьвету, які я зусім нядаўна пакінуў, – да Радзімы. А хто, як ня ты, можа быць для мяне ейнай знакавай постацьцю? Хто іншы, калі ня той, які спыніў мае ўцёкі ад свайго.

Памятаеш Вялікі Горад першай палавіны 80-х? Мы прыехалі ў яго з правінцыі адначасова. У адзін дзень засяліліся ў інтэрнат на Марыянскай, што ў прастакутнай Серабранцы, а потым кожны з нас прасіў каменданта, каб толькі не падсяляў да буйных і алкаголікаў. Эх, як зараз бачу, толькі я да яго з просьбай, а ён усьміхаецца так прыязна і кажа, „вязёць табе, парэнь, тут ужо адзін а том жэ прасіл”... Вось так мы і пражылі з табой у адным пакоі больш за два гады. І якія гады! Самая маладосьць была, Вялікі Горад адкрываў перад намі свае спакусы... І вось тут ты перш за ўсё сваім уласным прыкладам паказаў, як можна не адракацца свайго – наскасьці, мовы – і пры гэтым адчуваць сябе адэкватным, жывым у гэтым недасканалым сьвеце. Ты гаварыў на класічнай нашай, курыў „Арбіту” і частаваў мяне „Такайскім” у рэстаране „Лета”.

А першая зарплата ў ашчадкасе станказаводу Кірава? Як ты юрыдычна граматна паставіў на месца касірку, калі яна запатрабавала расходны лісток запоўніць па-руску! Маўляў, а ў пракурора сваё патрабаваньне паўторыш?.. Так мы з таго часу і запаўняем усе бюракратычныя паперкі па-нашаму: некаторым сківіцы набок верне, а церпяць – да пракурора ўсе баяцца.

Што там казаць, у той час ты для мяне быў Настаўнікам. Павячэраўшы яечняй з цыбуляю ды выпіўшы з пірамідальнага пакету крамнага малака, мы браліся за кніжкі: ты сьлібізаваў двухтомнік „Маркс и Энгельс об искусстве”, я перачытваў „Лазню” ды іншыя апавяданьні Максіма Гарэцкага...

Успамінаць нашу маладосьць можна бясконца, тым болей, што прыпала яна на перыяд такіх грандыёзных зьменаў, як распад Імперыі і паўстаньне Рэспублікі. На жаль, сталасьць нашу агортваюць іншыя колеры і адчуваньні, сам ведаеш. Вясною сёлета мне стукнула 40, і я раптам рэзка, можна сказаць, беспаваротна зразумеў, што з маладосьцю скончана, а дары з неба так і ня ўпалі, і свой скарб я так і не знайшоў, і цяпер тэрмінова трэба вырастаць у дарослага мужчыну, і каб у кішэні нарэшце завяліся грошы...

Дарагі дружа, зямляк і таварыш! Ведаю, ты даў мне добрую навуку, як жыць Духам. Але гэты Дух не жыве бяз нашых грэшных целаў, якія патрабуюць хлеба штодзённага. А за што яго набыць, калі ў кішэні толькі мінулагоднія тралейбусныя квіткі? Вось я і выправіўся на пошук сродкаў. Вось і сяджу цяпер чорт ведае дзе за Палярным нарвежскім кругам, у мястэчку Рогнан. Тут знаходзіцца наш бежанецкі пастаянны лагер, тут чакаем мы адказаў з Дэпартаменту. Нас тут, напэўна, чалавек 300. Некаторых, праўда, дэпартуюць: сезон перад Калядамі – сезон дэпартацыі. Здаецца, што трапіў у такі сабе міні-СССР: тут і ўзбекі, і казахі, і кіргізы, і ўкраінец, статны і русявы; а гэтыя горныя: грузіны, сям'я армянчыкаў, ічкерыйцы; сямейны грамадзянін з Піцеру; азеры яшчэ; саратаўскі студэнт, які вучыць мяне карыстацца кампутарам; якісьці южык няпэўных нацыянальных рысаў, што загнаў мне плёначны фотаапарат і я цяпер маю свой уласны і першы за жыцьцё фоцік!..

О, зусім забыўся пра іншых гаротнікаў нашай зямелькі! Ну, тут таксама, як у Ноевай пасудзіне: найперш уся Афрыка – сьвятлейшыя і цямнейшыя, з пляскатымі насамі альбо неверагодна лупатыя; менш за ўсё разбіраюся ў азіятах, але ё і такія;

многа аўганцаў, некаторыя разумеюць па-руску і вельмі камунікабельныя з намі, былымі савецкімі; сустракаюцца палестынцы і нават – ты будзеш сьмяяцца – знайшоўся адзін сямейны жыд з Расеі.

Момант майго прыбыцьця ў лагер у той жа вечар быў адзначаны самагонам тутэйшай вытворчасьці, так што з'яўленьне у новых пенатах аказалася змазаным. Толькі праз суткі пачаў знаёміцца з суседзямі, атрымаў сумку з казённым начыньнем: кухонны посуд, пасьцельная бялізна... Падсялілі да ўзьбека. За сьцяной – зямляк Жэня са Слуцку, цясьляр, валасы чорныя з адлівам, і ўжо перанёс тут інфаркцік. Надта дзівіўся, што ў бальніцы яму давалі чырвонае віно і нават каньяк для падтрыманьня формы.

Месяц часу мы хадзілі на курсы нарвежскай, павыдавалі нам розныя дапаможнікі. І тут я ўспомнў, што нешта ж мяне падштурхнула ў 1986-м купіць шведска-рускі слоўнік. Дагэтуль не магу дацяміць, на якой халеры ён мне быў патрэбны?! Але ж вось набыў. І толькі цяпер становіцца зразумелай таемная сувязь паміж той купляй і сёньняшняй маёй сітуацыяй. Інтуіцыя, дзядзька, інтуіцыя адчувала будучыню і рыхтавалася да яе. Праўда, асеў я ня ў Швецыі, ну ды тут розьніца невялікая паміж краінамі і мовамі...

Перад Калядамі бясплатныя курсы прыкрылі рашэньнем новасфармаванага нарвежскага ўраду. Затое паставілі ў падвале адміністрацыйнага будынку вялізны TV і цяпер пасьля 12-й ночы ўся мужчынская палова лагеру, не зважаючы на розьніцу веравызнаньняў, глядзіць порнаканал „TV-1000". У гэты час на бежанецкай тэрыторыі стаіць поўная цішыня, толькі зоркі Вялікага Каўша міргаюць над лагерам і з краю ў край начнога неба пераліваецца блакітна-ружовае Паўночнае зьзяньне.

# 2003

### Першы мабільнік; грузін Гоха знаёміць з Кантэйнерам; вайна ў Іраку; падарожжа у Фінку; горы, горы; вершы для прынцэсы; нарвежская рыба і нарвежскі хлеб; эмісары з Осла.

***

... Ну дык вось, Новы 2003-ці сустрэлі банальнай калектыўнай п'янкай нашым савецкім колам паводле нарвежскага часу. Многім званілі на мабільнікі родныя і знаёмыя. У мяне гэтай цацкі яшчэ не было, таму я застаўся без віншаваньняў. Пілі тутэйшы самагнёт, які тут цісънуць аж чатыры самагонныя „сям'і"-канкурэнты: армянчык Славік, хахол-адзінец Пятро, сямейны беларус Міхалок з Маладэчына і малдаванскі гагауз К*а*ля (не-не, не Калян, а К*а*ля, націск на „а"). Чорт яго ведае, здаецца ў Міхалка найлепшай якасьці, але хахол прадае таньней, хоць і дамоўлена між імі трымаць роўную цану. Нічога, здадуць хутка мужыка, асабліва армянчык, гэты ірвецца да манаполіі, якшаецца з адміністрацыяй лагеру. Адно слова – душа купіпрадай. Нездарма армяны жыдам сімпатызуюць.

У студзені, прыхапіўшы кішэнны слоўнічак, паехаў я цягніком у сталіцу нашага Нурлану гарадок Буду. Завея была, марозна, ледзь знайшоў патрэбную краму, затое сваю першую „Нокію" усё ж набыў. Цяпер вось цацкаюся з гэтым апаратам, вывучаю, куды-што націскаць, хоць раздражняе страшэнна: рады пытацца не люблю, а сам туплю і ад гэтага заводжуся.

Акрамя персаналу адміністрацыі, тутэйшых мы амаль ня бачым. Ну хіба што раз на тыдзень у

краме ды ў бібліятэцы. Завучваю па-ціху нарвежскія фразы. Цікавыя атрымліваюцца міжмоўныя суплёты: наша сьцьвярджальнае „так” – гэта іхнае „дзякуй”; ад нашага „добра” у іх засталося толькі „бра”, але значэньне захавалася. Ну, што да слова „акурат”, дык тут поўная адпаведнасьць, адно што яны лацінкай пішуць. Ну нічога, будзем неяк вывучаць, ангельскай жа я ня ведаю, таму на ёй выехаць ня ўдасца.

Узьбекаў нашых па Дублінскай канвенцыі ўжо дэпартавалі: аднаго ў Грэцыю, другога ў Данію. Мяне перакінулі ў іншы пакой, у той жа дзень засялілі новага уцекача – грузіна Гоху. Тоўсты такі, але дабрадушны і гаваркі. У той жа вечар, не пасьпеўшы як сьлед разьмясьціцца з дарогі, пайшоў і вынес з крамы – ну не паверыш! – баранову нагу кіль на пяць, а можа і на ўсе дзесяць. Схаваў пад дублёнку, а дастаў ужо ў нас у пакоі. Мы потым пачаставаліся, падсьмейваючыся з норгаў (хоць рэшткі маральнага індывіда ўва мне і абураліся, але толькі моўчкі і ўжо бяз чырвані на шчоках).

„Дурань!” – сказаў Гоха, убачыўшы на стале маю вячэру з адвaранага вермішэлю, смажанай пячонкі і маянэзу. Праз які тыдзень ён узяў мяне ў начную вандроўку па мястэчку. Я грэшным чынам падумаў, што мы пойдзем лавіць рыбу з гарадскога прычалу. Да таго ж ён і вуду захапіў. Але падарожжа аказалася куды цікавейшым і, баюся, рэзка паўплывала на маральнага індывіда ўва мне.

Хадзілі мы ня доўга – спыніліся ў дварах за крамай „Rimi”, дзе стаялі два кантэйнеры: адзін вялікі зялёны, зьняты з аўтамабільнага шасі і пастаўлены відавочна пад загрузку, другі – звычайны, пад арганічныя адкіды. На вялікім вісеў цацачны замочак, але дзьверы былі не прымкнёныя. Гоха, стараючыся не рыпець, прыадчыніў іх і пасьвяціў ліхтарыкам. У гэты момант я ўбачыў

малюнак, які, сабраўшы ўвесь свой жыцьцёвы досьвед і сякі-такі розум да купы, спрабую зразумець яшчэ і сёньня.

У кантэйнеры, зваленая ў беспарадку, ляжала звычайная чалавечая яда, не прададзеная ў краме. Тут былі: сыры розных гатункаў, кілбасныя вырабы, малочная маса, падобная на наш тварог, хлебабулачныя; чыпсы; упакоўкі маянэзу, гарчыцы і кетчупу; селядцы у расоле; фарш і фасаваная сьвініна; мука; некалькі скрыняў дарагога алею ў фігурных шкляных бутэльках... Некалькі хвілін я стаяў з адвіслай сківіцай, Гоха таямніча ўсьміхаўся. Потым прашаптаў: „Я ведаю, ты ня з нашых, ты ня тырыш у крамах, але і купляць іхны сраны вермішэль – ня самае разумнае. Цяпер ты ведаеш, дзе браць добрую яду, прычым бясплатна і не парушаючы іхныя законы".

Па дарозе назад у лагер Гоха растлумачыў мне рэшту. Аказваецца, нераспрададзеныя да пэўнага тэрміну прадукты ідуць прамым ходам у адкіды, на звалку, іх не адпраўляюць на другасную перапрацоўку, як гэта робяць з паперай, пластыкам, шклом і металамі. У пераважнай бальшыні яшчэ *ядомыя* прадукты проста зарываюць у зямлю. Тысячы бежанцаў па ўсёй Еўропе палююць на гэтыя пратэрмінаваныя прадукты, эканомячы сваю еўравалюту. Праўда, кажа, у Осла, напрыклад, даступіцца да кантэйнераў няпроста: іх закрываюць на замкі, паліцыя ганяе начных паляўнічых на прадукты...

Вось такія ў нас тут, сябра, справы. Мне здаецца, зараз самы час успомніць 1990 год. Памятаеш, Імперыя дажывала апошнія месяцы. У нетрах ейнага крамлёўскага чэрава нашчадкі ідэйных камуністаў дзялілі скарбы 15-ці рэспублік-сясьцёр, а народ шукаў малочныя сумесі для немаўлят, пральныя парашкі і зубную пасту. Найбольш прадпры-

мальныя тралявалі гэты дэфіцыт з Польшчы. Потым зьявіліся талоны. Вялізныя чэргі па гарэлку, бойкі, інфаркты, атручэньні падробкамі і летальныя зыходы… І вось у гэтым крызісным годзе я вырашыў адзначыць свой дзень нараджэньня. Мы былі студэнтамі-перастаркамі Інстытуту замежжа – ізамаўцы. Самы прэстыжны інстытут у тады яшчэ савецкай Рэспубліцы. Дык вось, памятаеш, які мы тады стол арганізавалі былі з мінімуму прадуктаў? Я і цяпер узгадваю з неверагоднай асалодай той вечар. Ты быў у мяне за кухара й тамаду. Мы тады накупілі ў крамах яек, кабачковай ікры так званай, колькі нейкай, здаецца; маянэзу дзесьці раздабылі, бульбы ды чаго там яшчэ? Ну і плюс наш ратунак – правінцыйныя запасы: крышку кілбаскі, крышку кумпячка сьвінога… Каб не твае залатыя рукі кухара-самавука, мы не пасядзелі б так добра, не. Эх, як пілося і елася! Які пір духу мы тады зладзілі пад занавес Імперыі! На свае 50 я мару паўтарыць гэтую раскошу сумоўя аднадумцаў пад добрую чарку ды сытую закуску. І ты ізноў будзеш у мяне кухарам. Толькі гэтым разам мы будзем раскашавацъ-піравацъ у маім уласным доме, будзем піць добры алкаголь, яды будзе ўдосталь і гародніны; абявязкова нарвежскую траску закажам і чырвоных рачкоў-крэветак, і гэта, яшчэ марской капусты – страх люблю! Праўда, ня ўсе са старой каманды зьбяруцца. Ужо ніколі больш ня будзе з намі нашага басяка Анатоля. Дзяўчаты замужам і хутка будуць бабулямі – не да гуляў ім. Застаемся мы, старыя ідэйныя халасьцякі: ты; наш мілы Чэрап; Дышля; бяспашпартны Кавезік (яго яшчэ адшукаць трэба); Латыша абавязкова не забыць, каб ён нарэшце паеў дасмаку…

Дарагі зямляк, мы абавязкова адзначым нашыя паўвеку! Вось толькі надыхаюся вольным паветрам гор, зьбяру такі-сякі капіталец і вярну-

ся. Ты ня думай: буду жывы – абавязкова насыцім нашу плоць арганікай, а душы – сяброўскай размовай! Вер, зямляк, абавязкова і ў гэтым жыцьці!

***

Прайшло паўгоду, як я на чужыне. Шэсьць месяцаў напружанага чаканьня адказу з Дэпартаменту. Ужо можна сказаць, што ніякага асаблівага падыходу да маёй справы ня будзе – будзе ў мяне стандартны шлях да легалізацыі: спачатку не дадуць дазволу на работу і часовае пражываньне. Потым касацыя, пасьля, магчыма, усё ж прапануюць які-небудзь прытулак. А могуць і дэпартаваць, як тысячы іншых былых савецкіх. Неверагодна, але паводле маіх назіраньняў да грамадзянаў з былой Імперыі тут ставяцца больш непрыязна, чым да якіх афрыканцаў ці арабаў. Вось скурай адчуваю.

Між тым, вясна прыйшла ў нашу запалярную старану. Я ледзь не штодня прападаю ў гарах, якія з двох бакоў навісаюць над нашай Салёнай далінай. На прыпёках цьвіце падбел, зусім як у нас. Бягуць з вышыняў малыя і вялікія плыні вады. А днямі разгледзіў у кустах ружовыя кветачкі воўчага лыка, якія нагадалі мне маё шчасьлівае, вольнае дзяцінства...

У нас вясна, толькі не для ўсіх яна ў гэтым годзе ўсьцешная: Злучаныя Штаты напалі на суверэнны Ірак. Пад маркай барацьбы з дыктатарам Хусэйнам. Усім лагерам глядзім навіны. Старажытны Багдад у агні, пад бомбамі і снарадамі амерыканцаў. Брыдка, агідна проста, бо ўварваньне адбываецца пад заслонаю прыгожых словаў пра дэмакратыю і правы чалавека...

За два тыдні вайны – тысячы забітых і параненых іракцаў, маюць страты і акупанты. Што гэта

акупацыя суверэннай краіны ісламскай веры дасьць штрушок міжнароднаму тэрарызму – гэта без ніякіх. Мы яшчэ ўбачым выбухі ў еўрапейскіх сталіцах. У Брусэлі адчуюць ня толькі пах нафты – густа запахне крывёю трэцяй сусьветнай. Гэта будзе дыскрэтная, пакрокавая, пункцірна-рознавектарная вайна ўсяго астатняга сьвету супраць духоўна і фізічна азызлай белай расы *залатога мільярду*.

Прыйшоў этап новых уцекачоў. З экс-савецкіх – украінец Падпаха аднекуль з цэнтральнай Украіны, былы мент, чаго зусім не хавае. Кажа, ад гэтай Еўропы яму нічога такога і ня трэба, ніякіх прытулкаў. Яму тысяч 50 „зялёных" як-небудзь агораць і – дамоў. „Няхілае жаданьне, думаю сабе, я таксама хоць заўтра ірвануў бы дамоў, каб мне такія грошы".

Падпаха нябось, што беспрацоўны – за сацыяльныя[2] грошы набыў машыну і прапанаваў мне падскочыць з ім на першамайскія сьвяты у Фінку, як любоўна мы тут называем Фінляндыю. Я, вядома, згадзіўся, а чаму не. Крыху пераэкывалі, перабіраючы праз мяжу, але ніякіх ні памежнікаў, ні мытнікаў так і ня ўбачылі, хоць назад з Фінкі Падпаха траляваў звышлімітныя гарэлку і цыгарэты.

Выехалі 30-га красавіка, доўгі час імчалі раўнінай па шведскай старане, яркае сонца і сьнег сьляпілі вочы, а дарогу трэба было праглядаць пільна, бо чамусьці ласі і алені любяць шпацыраваць праз яе туды-сюды. Падмяніць за рулём Падпаху я ня мог – кіраваць ня ўмею, неяк не навучыўся.

Бліжэй да поўначы, калі мы спусьціліся з верхавіннага плато ў раён гарадоў, пачалі сустракацца нам купы шведаў паабапал дарогі, пераважна

---

[2] *Сацыяльныя грошы* – выплаты на пражыцьцё й рэчы першай неабходнасьці.

моладзь, якія палілі вогнішчы, адзначаючы нейкае сваё паганскае сьвята – ні то нашу вераб'іную ноч, ні то сваю ноч ведзьмаў. Адным словам, вогнішчы палалі няслаба, народ ад душы весяліўся і часам шпурляў бутэлькі, не заўсёды пустыя, а некаторыя нават падалі на палатно шашы.

У фінскі гарадок Оўлу мы прыкацілі ноччу 1-га мая, дзе я спыніўся ў пакойчыку майго земляка Мірона. Ён пакінуў Радзіму ў тым жа 2002-м, толькі на паўгоду раней. Фінку выбраў, асабліва не выбіраючы – проста далёка ў Еўропу забірацца яму не хацелася. Цяпер, як і я, ён чакае ў лагеры адказу ад фінскіх уладаў. Яму, праўда, шанцуе больш: выбіў сабе асобны пакойчык, інтэрнэт у яго тут – гэта другі наш зямляк, Макар, наладзіў яму віртуальную сувязь...

У Мірона гасьцяваў я два тыдні: днём вандравалі зь ім па ягоных фінскіх ваколіцах, заходзілі ў кавярні, глядзелі праз плот на тэрыторыю завода „Нокія". Там, уздыхалі мы, працуе рабочая эліта, зарабляе добрыя грошы, а летам атрымае свае законныя адпачынкі і паедзе грэць пуза куды-небудзь у Тайвань-Малайзію. Так мы цокалі языкамі, аблізваліся і ехалі на роварах піць фінскае піва.

У тутэйшым лагеры для бежанцаў таксама поўна *савецкіх*. Землякоў нашых прываліла аж цэлая каманда, „наваполацкія" называюцца. Ніхто зь іх ні на які прытулак не спадзяецца – хлапцы проста выкарыстоўваюць сітуацыю, каб крышку бабак адбіць, карыстаючыся сьпецыфікай фінскіх законаў. Землякі ўжо прапаноўвалі мне драбязу ад шкарпэтак да рознага электроннага начыньня. Прыйшлося расчараваць – кажу, я сам з розьнічным таварам працую. Зьдзівіліся, паверылі і зьмянілі тэму.

З нагоды майго прыезду зямляк Даніла арганізаваў лазьню. Эх, папарыліся дадушы! Пад фінскі

венічак пакумекалі пра нашу айчынную палітыку. Потым зашліфавалі распараныя душы фінскай крамнай і рашылі, што ў Еўропе трэба браць грошы, а ўкладаць іх у справу – дома. Зрэшты, як і жыць – таксама дома.

Гасьцяваньне ў Фінцы адпусьціла маю закамянелую лагерную душу. Вярталіся мы з Падпахам у нашу Norge, можна сказаць, зь лёгкім сэрцам. І без прыгодаў.

Па вяртаньні з Фінляндыія пайшоў у горы. Стаў хадзіць ледзь не штодня. Бо як жа я мог прапусьціць такую раскошу – пайсьці вясной у горы! Першы раз у нарвержскія горы!..

Яшчэ ляжаў сьнег, і горныя плыні бушавалі на ўсю сваю зьберажоную за зіму сілу. Цьвілі жоўтыя і сінія першацьветы, толькі-толькі набухалі бярозавыя пупышкі, нягледзячы на тое, што ўжо быў канец мая. І хоць я пабываў і на фантастычным Памір-Алаі, і бачыў з вакна цягніка велічны Урал, і вандраваў з сябрамі па Карпатах і крымскіх пагорках, але толькі тут, у нарвежскіх скалах, я адчуваю неверагодную, адчайную свабоду. Відаць, таму, што я тут адзін, абсалютна адзін і разьлічваць магу толькі на сябе, свае сілы і кемлівасьць...

У першую маю вылазку ў Сальтф’ельлет[3] акрамя чаю і бутэрбродаў я прыхапіў старэнькі дыктафон і мой першы плёначны фоцік – вучыўся здымаць пейзажы, запісваў галасы птушак, шумы водаспадаў і свае адзінокія каментары.

Былі і крытычна-кур’ёзныя сітуацыі. У першай жа вандроўцы перажыў сапраўдны страх за жыцьцё, калі быў заvіс над бурхлівай ракой, ня могучы варухнуцца ні ўзад, ні ўперад. Вісеў, пры-

---

[3] *Сальтф’ельлет* – назва горнага ўчастку, які цягнецца ад мястэчка Рогнан да ледніка Свартысен (Чорны Лёд) у рэгіёне Нурланд.

ляпіўшыся ня тое што целам – нутром! – да вертыкалі скалы, пакуль не прайшла паніка. З таго часу я больш не раблю эмацыйных парываў. Горы любяць, калі па іхных рамёнах перамяшчаецца спакойны і разважлівы сьледапыт. Вучуся ў гарах быць якраз такім.

Дарагі зямляк, за гэты бежанецкі год напісаў я ўсяго тры вершы – ну ня ідуць нешта, няма таго парыву, які быў дома. Дыярыюш свой запаўняю акуратна і ці не штодня, але прыходзіцца перахоўваць у матрацы, зь якога мусіў выразаць кавалак паралону, каб зрабіць тайнік.

Напісаў быў верш прынцэсе Нарвегіі Марце Луізе, натхнёны ейнай міласьцю і простасьцю. Ведаеш, ніякай фанабэрыі ў вачох, здаецца такой блізкай і сваёй, як дачка якой-небудзь нашай перадавой даяркі ці работніцы паляводчай брыгады. Бяз сьмеху, так і выглядае.

І вось паслаў я той верш не куды-небудзь, а ў самую каралеўскую рэзідэнцыю. І месяцы праз два атрымаў адказ за подпісам каралеўскага сакратара. Як маладыя кажуць, было *прыкольна* атрымаць жоўты канверт і ліст на гербавай паперы з сымболямі каралеўскага дому.

Набыў я нарэшце вуду і навучыўся закідваць блешню. Цяпер, каб разнастаіць свой рацыён, хаджу на рыбу. Ловіцца пераважна траска і селядзец. Некаторыя вопытныя з нашых савецкіх ловяць квейту – камбалу, альбо палтус. Рыба гэта смачная, амаль бяз костак, ловіцца на селядца. Для нарвежца рыба – як для нас бульба: прадукт звычайны і неадменны. Але ня думай, што ў краме ты купіш нарвежскую рыбку за так сабе цану. Не, дарагая рыбка у нарвежскай краме, даражэйшая за сьвініну і ялавічыну – калі, вядома, не паўфабрыкаты купляць. Проза жыцьця, што зробіш.

Ну ды рыбку можна самому злавіць, а вось з

хлебам – бяда. Вось ужо год пражыў у гэтай мілай краіне, і разумею ўсё болей, што да тутэйшага хлеба я так і не прывыкну. Па-першае, калі яго цэлымі паддонамі можна выкідваць у кантэйнер для адкідаў, дык ці можа такі прадукт называцца хлебам? Зямляк, нас як вучылі ў нашым савецкім грамадстве, дзе ў нядаўнія часы жыццё чалавека не каштавала і аднаго камплекту турэмнай робы? Нас вучылі, што хлеб – усяму галава. І дзяды прыказвалі, што хто кінуў хлеб на дол, той моцна зграшыў перад богам. Таму калі раптам кавалачак хлеба выпадаў з рук, яго стараліся як найхутчэй падняць, абдзьмухаць ад пылу хоць бы рытуальна і калі ня зьесьці, то беражліва пакласьці на стол. Так было і так у нас ёсьць, як бы там ні плішчылася ў нашу старану цывілізацыя.

Ну а тут, у гэтай цацачнай краіне ф'ёрдаў і троляў, на хлеб ня дзьмухаюць, а проста ў сьмецьце адпраўляюць, у сьмярдзючы жалезны кантэйнер. А раніцай прыязджае вялікая жоўтая машына, выгружае гэты хлябок у сваё чэрава і вывозіць на звычайную звалку... Ты ж, як і я, фантазёр і мастак, дык паспрабуй уявіць гэтую грандыёзную цывілізацыйную карціну, вартую пэндзля Пітэра Брэйгеля ці якога Босха: тысячы боханаў розных гатункаў – з гарбузнымі і сланечнымі семкамі, з семем ільну ды іншымі інгрыдыентамі – па ўсёй Нарвегіі тысячы жоўтых сьмецьцявозаў у пэўныя дні тыдня вывозяць на сотні вялікіх і малых звалак. На звалках – прыватных і дзяржаўных – працуюць магутныя жоўтыя машыны шведскага аўтамабільнага канцэрну „Вольва". Яны старанна і метадычна, з германа-нардычнай грунтоўнасьцю трамбуюць тоны прадукту, што яшчэ ўчора быў гарачым цестам, потым сьвежым цёплым боханам у папяровым ці цэлафанавым пакеце па цане ад аднаго да пяці-шасьці еўра, які так і не пасьпелі

купіць... Га, чым не ідовішча апакаліпсісу, вартае увекавечваньня на палотнах новых галандскіх жывапісцаў?

Зрэшты, не. Новых галандцаў ня будзе. Вопытныя вандроўнікі па бежанецкіх лагерах кажуць, што такую карціну можна назіраць па ўсёй Заходняй Еўропе: мільёны боханаў, тысячы тон хлеба – проста ў зямлю!.. Памятаеш, як там у нашага земляка Дастаеўскага пра адну-адзіную сьлёзку дзіцяці? Маўляў, ці варта ўсё хоць адзінай дзіцячай сьлязы?.. Ну а я хачу задаць сваё рытарычнае пытаньне: ці мае права цывілізацыя на далейшае існаваньне, калі хоць адзін бохан хлеба ня проста выпадкова ўпушчаны на зямлю з нязграбных рук, а зарыты ў яе сьвядома?

Ты ведаеш, павінна ў нашым жыцьці хоць нешта мець сапраўдную цану. Не, ня так: павінна быць тое што ня мае цаны, што нельга ацаніць, што неацэнна ў прынцыпе...

Вось на нашых вачох цывілізацыя спрабуе зрабіць неацэннымі „правы чалавека". Дык ці ня гэтыя апошнія зрабілі магчымым тое, што хлеб, які быў „усяму галава", стаў проста *элементам утылізацыі*?

Дарагі ты мой чалавек, я чаго толькі не перажыў у жыцьці, тым больш пасядзеўшы ў турме, але нават я не чакаў, што самае брутальнае ў маім жыцьці я ўбачу ў самай добраўпарадкаванай краіне сьвету.

А можа рыба ў Нарвегіі дарагая таму, што такі дзяшовы ў гэтый краіне хлеб?

P.S. Мой бацька ў свой час зьбіраў цікавую і для сучаснага заходняга сьвету проста немагчымую калекцыю – зборку рэчаў, знойдзеных у хлебе Мядзельскай пякарні. Калекцыя многа гадоў ляжала на шафе, пастаянна папаўняючыся. Больш за ўсё ў ёй было цьвікоў. Вось у такой цікавай

краіне праходзіла наша дзяцінства. І калі – у 70-х гадах 20-га стагодзьдзя! І што – цьвікі у хлебе, які *всему голова*...

Зямляк, як я стаміўся ад іхняга хлеба. Як раздражняюць усе гэтыя пазахлебныя інгрыдыенты – семкі, разынкі, гарэхі!.. А хлеб павінен быць хлебам, каб у ім чуваць была сіла жытнёвага ці пшанічнага коласу. Каб бохан можна было прыціснуць да грудзей, адразаючы акраец зьлева направа, пачынаючы разрэз са стараны, дзе сэрца, і завяршаючы на старане, дзе душа.

Днямі перачытваў „Ракавы корпус" Аляксандра Салжаніцына і знайшоў радкі якраз да нашай тэмы. Адзін з герояў аповесьці, Шубін, кажа: *„Каблуками давя белые буханки и захлёбываясь молоком – мы совсем ещё не будем счастливы"*. А я дадам: у іхным хлебным прадукце ніколі ня знойдуць цьвікоў, але і душы таксама.

Ага, вось яшчэ ўзгадаўся адзін выпадак з хлебам. Было гэта ў далёкім 1980-м, я тады служыў у марской вучэбцы ў Караляўцы (цяперашні расейскі Калінінград). Мы – навабранцы і зь нецярпеньнем чакаем вестак з дому, а хто – і маміных ватрушак. І вось аднаму ці то ўзьбеку, ці таджыку прыходзіць пасылка з лавашом – традыцыйнай выпечкай народаў мусульманскай веры. Вядома, пакуль той хлеб пераслалі з Азіі ва ўсходнюю Еўропу, на ім завяліся плямкі пеніцыліну. Але ці гэта страх для падсавецкага чалавека, які і не такое перажываў? Аднак старшына рашыў паказаць, што дбае пра здароўе сваіх падначаленых і выкінуў тыя ляпёшкі. А ў выніку атрымаўся вялікі скандал, бо той узьбек (ці таджык) пакрыўдзіўся, патрабаваў вярнуць яму матчын хлеб і кляўся алахам, што прыстрэліць *культурнага* старшыну...

Перад Калядамі здарылася са мной прыгода: рашыў я перайсьці ў іслам. Ведаеш, я ніколі ня

быў добрым каталікам, хоць і адзначаў нашы сьвяты з сям'ёй. Але ў касьцёл не хадзіў – польская мова раздражняла настолькі, што хацелася стукнуць ксяндза падсьвечнікам у патыліцу. А тут так збрыдзела мне нешта ўсё еўрапейскае, увесь гэты культурны фальш белай цывілізацыі, ды яшчэ знаёмства з Кантэйнерам. Мне гэтыя булкі белага хлебу ў сьметніцы часам у сьне сьняцца... Ну, вось і перакленіла мяне, кажу тут знаёмым мусульманам, што вось так і так, а калі ў вашу веру? А яны і радыя, адразу адзін узяўся мяне курыраваць, бо, кажа, калі ён прывядзе мяне ў сваю веру, дык яму алах залічыць гэта як вялікі плюс...

Карацей, знайшлі мне Каран на рускай мове, паказалі, якія разьдзелы найперш прачытаць для ўводзінаў, як і колькі разоў на дзень маліцца... А праз нейкі час у наш запалярны бежанецкі лагер іхныя сьвятары з Осла наведаліся. Пабачыў я іх і неяк здрэйфіў: усе чорнабародыя і смуглатварыя, у белых сваіх хламідах, вочы блішчаць і як-бы зь нейкай такой патойбаковай глыбіні глядзяць, – ці то ўжо з раю, ці то яшчэ з пекла. І так ад гэтых позіркаў непрыемна... Ну але выгляду не паказаў, цярплю. Запрасілі на сходку ў падвальным пакоі, адведзеным для малітвы. Эмісары з Осла з нашымі мусульманскімі вернікамі, вядома, па-іхняму гавораць, па-арабску. Сёе-тое куратар мне перакладае, называе прозьвішча аднаго зь іх: мула Крэкар.

Чую, пра Ірак загаварылі, і бачу, што твары слухачоў яшчэ больш пацямнелі, а голас прамоўцы неяк трывожна, як па стромай скале, уздымаецца ўверх і там застывае...

Куратар мой так і не патлумачыў, што ж там было пра Ірак у прамове мулы Крэкара.

Так я ўвайшоў у 2004-ы – з Каранам у руках і белымі боханамі хлеба ў вачох – хлеба, які я ўпер-

шыню ў жыцьці убачыў не на хлебных паддонах у краме, а ў зялёным жалезным кантэйнеры для адкідаў і сьмецьця.

## 2004

**„Жалезная" Эрна; „падарунак" на дзень нараджэньня; дыяспара заступаецца; вясельле азера; таямніцы тутэйшай звалкі; ізноў горы; газонакасільшчык; віно з блакітных ягад; забойства на горным плато; грыбоў у лесе як рыбы ў моры; Зэйнаб; Мікола з Гішпаніі транзітам праз Нарвегію; такія чужыя *свае;* „сурвэтка"; сем тысяч за 2 гады; гуманітарны прытулак.**

***

Дарагая Сястра мая!

Вось і скончыўся дзьве тысячы трэці, які я так ніколі і не пражыву на Радзіме, бо аддаў яго прыгожай, сытай, саманадзейнай і хітрай Чужыне.

Гэты год пачаўся з забойстваў. У бежанцаў, якія гадамі сядзяць у лагерах, чакаючы адказу ад ўладаў, пачынае зрываць дах. І тады яны ідуць і вытрасаюць душу з тутэйшых. У студзені малады пакістанец залез у мірны дамок 80-гадовай бабулькі і кокнуў яе фактычна бяз дай прычыны (грошаў у старой у хаце не было – свае капіталы нарвежцы трымаюць у банках). Газэты не змаглі не заўважыць, што жанчына перажыла нямецкую акупацыю, але не перанесла бежанецкай навалы.

У лютым ужо ў нашым запалярным рэгіёне самаліец, ізноў жа малады, сьмяротна параніў нажом шафёра рэйсавага аўтобусу, які не пускаў

афрыканца ў салон без білета. Ізноў газэты прайшліся жорсткай франтальнай крытыкай па палітыках і палітычных партыях. Асабліва дастаецца правым, якія сёньня маюць большыню ў Стортынгу і ўрадзе. Лідэр партыі Правых і міністр дэпартаменту камунальнай гаспадаркі Эрна Сольберг пачала была закручваць гайкі адносна палітыкі прыёму бежанцаў, але гэта толькі ўскладніла праблему. Дасьціпны народ абыгрывае імя „Эрна" са словам „ерн" – жалеза, а ў выніку атрымліваецца мянушачка „Жалезная Эрна" („ерн Эрна"). Да таго ж гэты палітык у спадніцы настолькі масіўная (кіль пад 150 на выгляд) і пры тым русавалосая і мілая з твару, што выходзіць зусім добра і па-сямейнаму. Як толькі бачыш яе на экране TV, хочацца думаць нешта такое прыемнае пра сям'ю чалавек з дзесяці як мінімум, пра Велікодныя булкі, калдуны, бульбяную „бабку" і законныя дранікі. А па ўсім – пра выкананьне шлюбнага абавязку на салідным драўляным ложку з металічным каркасам.

Ну ды сімпатыі мае мне не дапамаглі – акурат 8-га сакавіка, на свой сорак другі дзень нараджэньня, я атрымаў адмову на прашэньне пра палітпрытулак. Можаш сабе ўявіць, які я быў злы і проста раз'юшаны. Ты ж ведаеш, ехаў я ў гэты край не ў эміграцыю і не па прытулкі – я ж не бязбацькавіч, і Радзіма для мяне гэта маё ўсё. Я прыпёрся сюды, каб здабыць матэрыяльную незалежнасьць, каб зарабіць. Ну а калі пайшлі такія расклады, што без прытулку ніяк, то і я падключыўся да спаборніцтва. Тым болей, што, як я лічыў, у мяне ўсе казыры на руках, усе правы за мной.

Аказалася, што не, казыры на руках у тых, хто забівае: у афрыканцаў, арабаў. „Не, здавацца рана," – зрабіў я разумную выснову і даў „дабро" свайму дзяржўнаму адвакату Эйнару Хесельбургу на падачу касацыйнай скаргі.

Падключылася і наша новая еўрапейская дыяспара са штаб-кватэрай у Брусэлі. Даслалі абурана-пагрозьлівыя лісты на адрас нарвежсіх уладаў і ў праваабарончыя еўрапейскія інстытуты. Чакаем вынікаў.

Ужо цэлы год сядзіць у нашым лагеры гарацякач з Азербайджану – малады недавук-наркаман, які дастае ўсю нашу бежанецкую грамаду. Ягоная неўратычная энэргія не дае яму спакою ні на хвіліну – гэта перад хуткім канцом. Не дацягне і да 40. Тым болей, што ў яго, як ён кажа, самая цяжкая форма гепатыту.

Дык вось, у маі адзначылі мы ягонае вясельле з тутэйшай дурніцай. А было так. Адзін мой знаёмы афрыкан, хрысьціянін, наладзіўся хадзіць на нядзельную імшу ў наша сяльцо. Ну дык во, хадзіў-хадзіў, пакуль не пазнаёміўся з тутэйшай дзяўчынай. І так гэтая маладая нарвежка-таўстуха прыкіпела да паджарага афрыкана, што аж да нас у лагер пачала прыходзіць. Вось тут, у гэты момант, і параманіў наш азер тутэйшую любаньку – пачаў яе на вечарынкі свае запрашаць, *касячкі* забіваць навучыў, самагонку піць і лаяца паматушкі рускімі словамі...

Потым было „вясельле маладых" – азербайджанскага наркамана з гепатытам у крыві і маладой нарвежскай дурнічкі ў *цяжкой вазе*.

Прыехалі аднекуль з правінцыі ейныя бацькі майго веку. Наша рускамоўная бежанецкая кодла адкрыта падсьмейвалася зь іх, падымаючы шклянкі з самагонкай *за здароўе маладых*.

Урэшце рэшт госьці перапіліся і згубілі кантроль над сітуацыяй. Тады прыйшлі суседзі-славяне, выцягнулі „маладога" на двор і за кустом чорных парэчак увярнулі яму трохі ў бакі...

Нядаўна „маладая пара" пераехала кудысьці пад Осла, дзе нявеста знайшла нейкую работу. Уяўляю сабе, якое цікавае сямейнае жыцьцё яе чакае...

***

Здароў, зямляк, каб над табой поп яшчэ доўга не зароў! Дык ты там не здаесься, як некаторыя, трываеш? Гэта добра, гэта ўхваляю.

А памятаеш, як ты летам нуль другога заваліў да мяне з разьбітай галавой? Ты казаў, што ачнуўся ў купалаўскім скверы, дзе цябе гопнікі стукнулі за твой інтэлігенцкі выгляд. І вось ты з акрываўленай галавой дабіраўся грамадскім транспартам з цэнтру сталіцы аж да нас у Курасоўшчыну, каб атрымаць у мяне першую сяброўскую дапамогу – настаўніку ад вучня. Я тады аддаў табе мой стылёвы летні плашч, нейкія сьпінжакі і швэдры, ведаючы, што ў бліжэйшыя гады мне іх ужо не насіць...

Ты тады быў у вельмі дрэнным эканамічным стане і прадаваў мне сваё апошняе дабро – залаты ланцужок з часоў нашага жыцьця ў Серабранцы.

Вось тады я яшчэ раз пераканаўся: трэба ехаць, трэба шукаць шляхі да эканамічнай незалежнасьці, без якой і духоўная свабода выглядае сумнеўнай. Бо чым бы я дапамог табе, каб не было ў мяне тады свайго жытла, гарачай вады і сто грамаў з закускай у лядоўні?

Цяпер я сам вяду абсалютна спартанскае існаваньне ў гэтым лагеры, чакаючы адказу на маю касацыйную скаргу. Ты ўжо ведаеш, што кармлюся я з Кантэйнера, пераводзячы сваю сацыяльную выплату ў паўночна-амерыканскія даляры. Яшчэ пачаў зьбіраць і здаваць пустыя пляшкі. А нядаўна адкрыў новую крыніцу эканамічнай падтрымкі – прыватную звалку. Я вывучыў распарадак рабочага дня і прыязджаю туды, калі работнікі звалкі садзяцца ў свае легкавушкі і едуць дамоў.

На звалцы я знаходжу ўсё, што мне патрэбна для аўтаномнага існаваньня: у кантэйнеры для металічнага лому чакаюць мяне наварочаныя

велікі, якія толькі троху падрамантаваць – і паехаў; у іншым – вопратка, толькі пракіпяціць... Часу ў мяне поўна, таму летам я працую нясьпешна. Іншы раз зусім блізка падбягае ліска, і тады колькі хвілін мы глядзім у вочы адно аднаму. Вядома, першай адводзіць свой цікаўны позірк яна і, вінавата фыркаючы, адбягае за плот. Зімой часам пужае мяне кароль тутэйшых узьлескаў лось, калі нечакана ў ціхім марозным паветры пад ім звонка трэскаецца сухая сасновая лапка.

Тутэйшая звалка камуны *Сальтдал*[4] адкрывае мне, дапытліваму чужынцу, элементарнае жыцьцё сёньняшніх нашчадкаў колішніх вікінгаў. Фактычна я магу прасачыць па адкідах жыцьцё таго ці іншага роду ад нараджэньня да сьмерці. Вось напрыклад, у сям'і якога-небудзь Юна Ларсэна падрасла дачка Брунхільда, яе рыхтуюць да канфірмацыі. Аднойчы дзяўчына-падлетак бярэ пакет і згружае ў яго ўсю сваю дзявочую драбязу яшчэ з часоў хрышчэньня. Першыя завушнічкі і першыя пярсьцёнкі, купленыя мамай на ейнае 6-годзьдзе; здымачкі памерам 3х4, яшчэ чорна-белыя, на адваротным баку якіх пазначана: „Б.Л., 10 гадоў, 1971"; цэлая жменя рознакаляровых гузічкаў і караляў, сярод якіх я намацваю і срэбны ланцужок з сэрцайкам...

Такіх пакецікаў я вунь колькі дасьледваў! Збольшага ў іх адно і тое ж: драбяза, якая збіралася ў дзіцячым пакоі ад нараджэньня да канфірмацыі.

У пакетах дарослых дам часта хаваюцца сьведчаньні сямейных драм. „Дарагому Уле ад Эльзы. На памяць. 1962"... Колькі падобных надпісаў прачытаў я на розных – чорна-белых і каляровых – здымках за час, пакуль я берсеркам хаджу па гэтай звалцы. Дзе вы цяпер, Уле і Эльза? Чаму пера-

---

[4] *Сальтдал* – Салёная Даліна.

сталі вам быць дарагімі вашыя здымкі, альбомы, кніжкі пра каханьне з дарчымі надпісамі? Няўжоткі нічога не каштуе здымак блізкага чалавека, які некалі быў каханым? Няўжо сапраўды людская памяць такая кароткая? Няўжо мне выпала быць апошнім сьведкам вашага былога каханьня – тут, на месцы яго апошняга спачыну. Ужо на іншую – сваю – памяць я забяру вашы чорна-белыя здымкі 60-х. Астатняе, як вы і рашылі, я пакіну на гэтай невялікай запалярнай звалцы, што ляжыць паміж двума горнымі хрыбтамі, паміж якімі, у Салёнай Даліне аднайменнай камуны, пражылі свой век дзесяткі пакаленьняў вашага роду...

Праз некалькі дзён работнікі звалкі перасыпяць гэты ўчастак сьпецыяльнай сольлю, якая дапамагае распаду неарганічных матэрыялаў. Потым трактарыст утрамбуе пакецікі з недавыкарыстанай пудрай, крэмам „Nivea”, старымі шампунямі, пройдзецца па вашай памяці і вашым каханьні і ўрэшце засыпле іх скальным халодным друзам. І толькі некалькі здымачкаў дзяўчыны Эльзы з шыньёнам на русай галоўцы і хлопца Уле з прычоскай „пад Бітлоў” застануцца ў маім архіве, каб сьведчыць, што вы ўсё ж былі...

Самае сумнае, калі зазіраеш у пакецікі бабуляў. Гэта значыць, што іх ужо няма, а ўнукам бабуліна драбяза тым больш не патрэбна, калі яны і сваю не берагуць.

У бабуліных пакецiках – старызна ўсяго 20 ст.: карычневыя грабеньчыкі, модныя ў 30-х – 50-х; металічныя пярсьцёнкі з устаўкамі з танных камянёў; старыя скукожаныя рыдыкюльчыкі, якія служылі сваім гаспадыням яшчэ пэўна да разрыву вуніі са Швэцыяй у 1905-м; драўляныя пацеркі-ружанцы з алюмініевымі крыжыкамі; дэкаратыўныя талерачкі і падсьвечнікі з алюмінію... Доўгія гады гэтая драбяза старэла разам са сваімі ўладаль-

ніцамі, падтрымліваючы ў іх агмень памяці. І вось цяпер усё: прыняўшы з маіх рук апошняе чалавечае цяпло, гэтая драбяза сьледам за гаспадынямі вяртаецца ў прах, адкуль ўсё яно і паўстала.

***

Неяк апароў у кантэйнеры з сэканд-хэндам заплечнік з намётам і мяне зноў пагнала з лагера ў горы. Цяпер у мяне было ўсё, каб вандраваць па вышынях хоць сабе і тыдзень. Аднаго разу я і сапраўды блукаў трое сутак аж пакуль ня скончыўся правіянт. А калі вярнуўся ў лагер, „дабрахот" азер пачаў гавэньдзіць, што ён вельмі перажываў маю „прапажу" і быў гатовы замальдаваць у паліцыю. Во, думаю, гепатытны хітрэц, мог мне скандалу непатрэбнага нарабіць. Набыў булдаку бутэльку нашай лагернай самагонкі за ягоныя па мне „пераживаньні", зь ім жа мы яе і расьпілі, а на другі дзень я ізноў уцёк у бязьлюдзьдзе.

У гарах існуеш як мінімум у дзьвюх плоскасьцях: у звычайнай гарызанталі, і ў вертыкалі. Варта падняцца на любую вяршыньку, на любы большменш сур'ёзны валун, і ты ўжо адрываесься ад гарызанталі, ты ўжо, можна сказаць, пакідаеш зону Эўклідавай геаметрыі... Скала, на вяршыні якой ты стаіш, – гэта першая прыступка *вертыкальнай палярызацыі*. Потым паветраная прастора – другая прыступка вертыкалізацыі. Ну і стратасфера – прыступка да неба. Так што калі мы кажам *зорнае, блакітнае неба* – мы кажам правільна. Усё, што за стратасферай – нябеснае, усё, што перад – зямное. Нездарма антычныя, нардычныя багі жылі на горных вяршынях. Хрысьціянскі ўзьняўся крыху вышэй – на аблокі (пра алаха ня ведаю). Адным словам, там, дзе пачынаецца тэрыторыя багоў,

адчуваеш сябе адпаведна. Пры гэтым мне абсалютна не патрэбны ніякія механічныя прыстасаваньні, каб тут жа сігаць з гары і лётаць. Я занадта жывы, каб бяздумна рызыкаваць сваім фізічным існаваньнем. Каб адчуваць палёт, мне трэба цьвёрда ўпірацца ў вяршыню маімі нагамі, якія і паднялі мяне на яе...

Не скажу, не, мяне ніколі – нават у дзяцінстве – не цягнула ў нейкія экзатычныя краіны і на іншыя кантыненты. У горы таксама мне не хацелася – нават тады, калі з Алікам Апанасэвічам чыталі ў яго ў хаце „Плутонію" Обручава.

Ёсьць такое правіла: не жадай – і яно здарыцца. Так і ў мяне: не хацеў я гор – і яны прыйшлі. Як да Магамета прыйшла ягоная гара.

***

Было гэта сёлета ў ліпені.

Сярэдзна дня, сонца высока ў небе і не зьбіраецца яго пакідаць. Высокія травы на недагледжанай камунальнай тэрыторыі сьпяшаюцца адбушаваць, пакуль ня скончыўся кароткі запалярны перыяд вегетацыі. Я іду з лагеру ў Рогнан, у публічную бібліятэчку (ці, можа, я ішоў назад, зь мястэчка ў свой бежанецкі лагер, ня ведаю). Істотна іншае: праз многа гадоў пасьля першага прагляду на дабітым відаку галівудскай стужкі „Газонакасільшчык" я убачыў нажыва чалавека з такім *забойчым* механізмам у руках.

Гэта быў тутэйшы пенсіянер гадоў пад 70 на выгляд – крэпенькі мацачок, які падстрыгаў сваёй матарызаванай касой газон вакол будынку. Зрэшты, тут трэба ўдакладніць: травы як такой каля хаты не было, таму правільней будзе сказаць, што старычок ад няма чаго рабіць проста гладзіў даўно пастрыжаны пляц.

Газонакасілка была безумоўна шматсільнай і нахабна вырыгвала, выплёўвала са свайго чэрава ў ціхае местачковае навакольле нэрвова-разбуральны трэск і бензінавы смурод. Я спыніўся і назіраў за апаратарам хвілін пятнаццаць. Ніколі не забуду гэты малюнак: ціхая летняя сярэдзіна дня, справа і зьлева над далінай – зялёныя горы, вышэй над усімі намі – вялізная сонечная свастыка, проста перада мной – утульны белы дом і купа крывабокіх палярных бяроз, вакол якіх з кавалкам сьмярдзючага жалеза соваецца стары мудак.

Я стаяў і спрабаваў зразумець: няўжо каб скасіць некалькі сотак рэдкай траўкі на беднай паўночна-нарвежскай глебе, трэба пускаць у ход такую магутную тэхніку? Пытаньне маё было з шэрагу рытарычных. Замест адказу я паспрабаваў успомніць сюжэт галівудскага трылеру, у якім нейкія ўмоўна станоўчыя героі гінуць пад нажамі газонакасілкі. Сёньня, зямляк, я ня пэўны, хто там ад чаго гіне ў прыдуманым кінасюжэце, але дакладна ведаю, што каб раптам ажыла газонакасілка ў руках нарвежскага пенсіянера і насьмерць пакалечыла яго, я ні хвіліны не пашкадаваў бы старога, ведаючы адно: справядлівасьць адбылася і трэба ісьці сваёй дарогай.

***

Сярэдзіна лета за Палярным Кругам. Пара збору чарніц, якія тут называюць *блакітнымі ягадамі*. Памятаеш, як 20 гадоў таму я прыносіў іх на кухню нашай студбрыгады, якая тады будавала сьвінарнік у нейкім карэльскім сяле? Цяпер я хаджу у нарвежскі лес, зьбіраю тыя самыя чарніцы і раблю зь іх віно. Спачатку проста засыпаў іх цукрам. Потым зьявіўся Гоха і пад-

казаў, што лепш заліваць сіропам – вінчык настойваецца хутчэй...

Пілі-каштавалі ўсе, хто заходзіў у наш блок. Сапраўды, ад таго морсу крыху хмялела ў бежанецкай галаве, настрой лепшаў і зьяўляўся апетыт. О, каб мы былі разам, як некалі ў маладыя гады, мы замуцілі б ня толькі віно – каньяк нарвежскі запалярны гналі б мы ў раздольных гарах! І *адзінокі паляўнічы на горную курапатку* заходзіў бы на нашу стаянку здымаць пробу.

***

Восень-2004 была нялёгкай. Дзіва што – два гады адбыць сярод невядома якіх людзей. Іншы раз такая хваля нянавісьці накрывала, такі Гальфстрым ярасьці працінаў наскрозь, што карцела ўсіх гэтых бліжніх і далёкіх грызьці зубамі і душыць уласнымі прыгожымі рукамі, прывучанымі толькі трымаць асадку ды лашчыць жанчын у пяшчотных месцах...

У верасьні апанавала мяне нянавісьць асабліва – завяршаўся сезон вольніцы, калі я днямі мог прападаць у гарах, адпачываючы ад лагерных чалавекападобных. Вось-вось пачнуцца халады, сьнег, і прыйдзецца невылазна сядзець у сваім бежанецкім логвішчы, слухаючы несамавітае пярдзеньне чорных і несупынную лаянку савецкіх белых.

Душа, брат, прагла сатысфакцыі, а рукі проста смылелі – так хацелі зьліцца з тронкамі нажа ці з прыкладам якога-небудзь самазараднага карабіну Сіманава.І тады я вырашыў: прыйшоў час узьняцца ў горы і скласьці ахвяру сваім багам. Іначай тут, у нізіне, я без ніякіх ахвяраваньняў перарэжу горла якому-небудзь гома эрэктусу.

Зьбіраўся нядоўга. Усё неабходнае было пад

рукамі: заплечнік, вялікія і малыя пластпакеты, матузы-шпагаты, ліхтарык, соль, запалкі; старанна нагастрыў ёмкі нож, выдадзены мне разам з іншым кухонным начыньнем яшчэ ў кастрычніку 2002-га…

Падымаўся доўга, часта спыняючыся на перадых, прыслухоўваючыся да галасоў нагорнага лесу і шуму асеньніх вадаспадаў. Разам са мной падымалася па-над усім і сонца – абсалютна чыстае і нейтральна-усьмешлівае. Пад абед зусім распагодзілася, і тады на вышынных раўнінах Салёных гор я ўбачыў авечы статак, які, быццам касяк селядцовых, то зьбіраўся да кучы, то раптам распадаўся на купкі і адзінокія асобіны.

На плато, як заўсёды, дзьмуў вецер. Па той бок нарвежска-шведскай мяжы відаць былі засьнежаныя вярхі гор вышынёю каля дзьвюх тысяч метраў Я прысеў пад кавалак скалы і дастаў сабойку.

Яны былі акурат перада мною, калі я дапіў чай і пусьціў па ветры пусты пакецік з-пад нейкіх тутэйшых ландрынак. У кожнай – вялікай і малой – на кожным вуху целяпаўся вялікі зялёны клямар з нумарам. На тоўстых кучаравых шыях у бараноў і старых авечак матляліся і пазвоньвалі бляшаныя званкі. На першай прыступцы да неба было нязвычна слухаць бляшаны звон і мэканьне дурной скаціны. Гэта ўсё роўна, як-бы ўвесь наш бежанецкі інтэрнацыянал раптам прызямліўся тут, на высакагорнай раўніне, і пачаў лапатаць на сваіх нацыянальных суржыках, разьбіўшыся на групы і банды.

Мяне ізноў скаланула ліхаманка агрэсіі, якая прыціхла была, пакуль я сюды падымаўся. „Нічога. Гэта добра, – падумалася, – менш развагаў, рука будзе цьвёрдай, а сэрца – бяз жалю”. Я намацаў у кішані кантэйнерны хлеб з інгрыдыентамі, дастаў і пачаў кідаць гэтай біблейскай скаціне, выбіраючы ахвяру.

Было адразу ясна, што дарослую рэзаць не выпадае: многа важданіны, руно вялікае, ды і мяса аж занадта, усё не данясу, частку прыйдзецца кінуць...

Але мне, прагнаму да забойства, пашанцавала: у статку быў падрост, напалавіну меншы за дарослых. Маладняк ёсьць маладняк, што ў людзей, што ў дзікіх зьвяроў, што ў свойскай скаціны. Маладняк сьмела ідзе да рук, шукае важака, прагне навукі, а яшчэ больш гульні, і часта гіне, яшчэ не абцяжараны вопытам барацьбы за выжываньне.

Маёй здабычай, маёй ахвярай маім новым нардычным багам аказалася ярачка. Я не хацеў самку, бо найперш ненавіджу самцоў, але не было часу выбіраць. Кожную хвіліну над галавой мог зьявіцца гелікоптэр лясной аховы, бо гэтым летам засуха і шмат пажараў, і яны часта патрулююць...

Лёс выбраў яе, зімовага акоту сімпатычную ярачку з роўнай, яшчэ не агарбелай, як у дарослых, мордачкай. Яна не пасьпела даесьці мой хлебны гасьцінец – я спрытна ўхапіў яе за руно на карку, тузануў на сябе ўверх, падставіў нагу і паваліў набок. Ад страху ў скаціны пасыпаліся чорныя авечыя гарошыны памёту, і можна было б расчуліцца. Але тут паўстала перада мной такая яскравая карціна несправедлівасьці сьвету, так паласнула па мне лязо дзікай злосьці, што месца для жалю ў душы не засталося. Я зручней перахапіў тронкі нажа, адвёў скаціне галаву як мага далей на сьпіну і ўпэўненым рухам паласнуў лязом па выстаўленым безабаронным горле.

Як на духу кажу: яна ня мучылася. Нож быў сапраўды востры і я адлучыў галаву ад тулава за якіх дваццаць секунд. Цяжэй было без расьцяжкі зьняць скуру, але і гэтаму даў рады. Разабраў за якой паўгадзіны, раз-пораз паглядаючы на неба, за гарызонт і перад сабою. Парэшткі – скуру, вантробы, галаву і капыты – зарыў у сыры тарфянік блізкага балотца. Мяса зладаваў у вялікі пластпа-

кет, усё гэта ў заплечнік. І толькі па завяршэньні ахвяразабойчай аперацыі мяне нарэшце адпусьціла акрутная, я адваліўся на сьпіну пад скалой і на некалькі хвілін выпаў з рэальнага часу.

... Сьнілася сястра, чамусьці старэйшая за мяне, мы дурэем зь ёю на нашым вялікім хутары, месяц чэрвень, густа пахне язьмінам і ўжо зацьвітае раньняя бульба-пасьпешка. Я казычу сястру залёным коласам азімага жыта, яна пырскае на мяне сьцюдзёнай вадой з медыцынскай піпеткі...

Ад гэтых маленькіх кропелек, якія каколі мне лоб і шчокі, я і прачнуўся. Церусіў лёгкі пералётны дождж. Не заставалася нічога іншага, як, перамагаючы лёгкую апатыю пасьля мімалётнага сну, закінуць за плечы нелягкую ношку і вяртацца ў даліну. Мяса яшчэ гадзіну таму жывога стварэньня прагравала мне паясьніцу праз тоўсты поліэтылен і гэткія ж тоўстыя брызентавыя сьценкі заплечніка. Ці не ад гэтага жыва-мёртвага цяпла раптам узьнікла жаданьне і востра захацелася жанчыну. З тым і вярнуўся ў лагер.

***

На другі дзень я зрабіў у нашым блоку сьвята – паставіў на стол сьвежую бараніну і маё чарнічнае віно. Бежанцы мусульманскай веры яшчэ на дварэ пазнавалі пах кашэрнага мяса і падцягваліся да нас на паверх. Усім было цікава, зь якой гэта нагоды хрысьціянін частуе ўсіх баранінай. Ну вядома, першым за сталом аказаўся азер і, падміргваючы як свой свайму, выказаў здагадку, што я атрымаў *пазітыў*[5]. Я не пярэчыў. Потым ён засумняваўся, што я купіў столькі бараніны.

---

[5] *Пазітыў* – станоўчы (пазітыўны) адказ на просьбу аб палітычным прытулку.

„Вядома, не, – паблажліва ўсьміхаючыся, згадзіўся я. – Ёсьць іншыя спосабы, і ты іх ведаеш".

Азер здзіўлена хмыкнуў і неяк аж палагаднеў і прыціх, не перастаючы, аднак, піць, закусваць кашэрным і курыць адначасова. Ён быў пэўны, што я гэтага барана ўкраў у супермаркеце „Rema-1000", як некалі тое рабіў грузін Гоха.

Ну а што я, я не пярэчыў, хай будзе так. Усё роўна ж маёй праўдзе не паверацьь, нават калі б я і прызнаўся, нават калі б расказаў гісторыю пра кашэрнае мяса ня прозай, а вершам, расстаўляючы акцэнты выразнымі жэстамі.

Вечар ахвярапаяданьня прайшоў надзіва спакойна. Прыбраўшы са стала аб'едкі і посуд, набівалі касякі, курылі і тупа сьмяяліся. Зрабіў і я некалькі зацяжак, прыкідваючыся дурным і сьмяшлівым ад наркаты. У той жа час маё сапраўднае *я* трымала сітуацыю пад кантролем і таксама ўсьміхалася, толькі па-сапраўднаму, сапраўднай пераможнай усьмешкай. Толькі сапраўдны я ведаў, што на месцы ўжо напалову зьедзенай сёньня ахвярнай авечкі мог быць любы з гэтых абкураных балванчыкаў, а найперш азер. І была гэтая праўда да таго простая, што і сапраўды хацелася сьмяяцца.

***

Пасьля ахвярапрынашэньня і трызны я ізноў уцёк *на прыроду* – збалансаваць свае рознавектарныя *я* сузіраньнем прыгожага.

Быў цудоўны верасьнёўскі дзень: ціхі, ясны і цёплы. Акурат такі, калі бяруць чысты самаробны кошык і ідуць па грыбы.

Кошыка ў мяне не было, і таму я выправіўся з тым жа самым заплечнікам, пачапіўшы на руку старую жаночую торбу.

Я ішоў знаёмымі сьцежкамі да горных нарвежскіх дач, час ад часу намацваючы ў кішані звычайны грыбны сьцізорык. Вельмі хутка мне прыйшлося яго раскласьці і прымяніць па прызначэньні – вакол дач грыбоў было мора. Дакладней, як рыбы ў моры: многа і розных.

Хай не прыраўнуе мяне Радзіма, але ніколі раней я ня бачыў столькі грыбоў! Крамяныя здаровыя баравічкі і падасінавікі, камунікабельная сямейная кантарэль і падбярозавікі падступалі пад самыя сьцены летніх запалярных домікаў. Я хутка наладаваў заплечнік і торбу ляснымі дарамі. Я размаўляў зь імі, як з даўнімі і добра знаёмымі таварышамі – ну як з табой, напрыклад, мой дарагі зямляк. Каля якога-небудзь асабліва прыгожага экзэмпляру я іншы раз проста валіўся на мох і заміраў, услухоўваючыся ў самога сябе і навакольле. У душу ўваходзіў сусьветны спакой, а неба абяцала вечны рай, затрымліваючы нада мною лёгкае воблачка, абрысамі падобнае да любімай жанчыны...

***

Восень, паўтараю, была напружанай. Не да грыбоў і ягад было бежанецкаму народу, не да вольнасьці горных прастораў – кожны думаў, як зачапіцца за дабрабытнае нарвежскае Каралеўства і забыцца нарэшце пра дыктатуры, голад і войны ў сваіх краінах...

Штодзень кагосьці выправоджвалі паводле Дублінскай. Некалькі разоў на месяц прысылалі новыя партыі бежанцаў (вайна ў Іраку набывала размах). Не спыняла свайго адчайнага руху лавіна ўцекачоў са змардаванага Аўганістану. Гэта былі пераважна маладыя аўганцы, якія нарадзіліся ў

пачатку-сярэдзіне 80-х, у самы разгар савецка-аўганскай вайны. Траплялiся нават былыя афіцэры былой гвардыі Бабрака Кармаля, якія нядрэнна гаварылі па-руску і хіліліся хутчэй да нас, былых савецкіх, чым да сваіх прававерных братоў-мусульманаў. Многа было такіх, якія праклiналі распад СССР...

Дзесьці пад канец кастрычніка ў дамок, які я дзяліў з сям'ёй кіргіза, падсялілі маладзенькую сям'ю аўганца. Гаспадару было на выгляд крыху за дваццаць, а ягонай дачушцы – тры. Звалі маленькую Зэйнаб, і яна стала нашай самай вялікай радасьцю ў гэты неспакойны час дэпартацыяў і ўнутрылагерных перамяшчэньняў. Дзяўчынка ўвесь час прасілася на вуліцу, дзе ўжо ляжаў пульхны чысты сьнег, які яна бачыла ўпершыню, напоўніцу праяўляючы сваё захапленьне белым дзівам.

Маленькая чорнавалосая смуглянка Зэйнаб з бліскучымі вочкамі-вішанькамі натхніла мяне на верш. *Насупраць маёй кватэркі Жыве дзяўчынка Зэйнаб. Частуе мяне цукеркамі І дзеліць на ўсіх кебаб*, – пісаў я, думаючы пра сваю ўласную дачку Ксеню, якую апошні раз бачыў, калі дзяўчынцы было ўсяго год і шэсьць месяцаў.

Маленькая Зэйнаб пакінула сьветлы ўспамін у маім трывожным лагерным існаваньні. І пяшчотныя радкі верша, якія я спадзяюся некалі прачытаць свайму дзіцяці, а то і ўнукам.

Праз які месяц сям'ю аўганцаў адсялілі да сваіх аднаверцаў, а ўзамен прыслалі былога ўкраінскага шахцёра Міколу. Падсялілі яго акурат ў мой пакой, дзе і пражылі мы зь ім тыдні чатыры ці крыху больш.

Мікола, як і мой зямляк з Гарадзеншчыны, быў мне блізкі сваёй славянскай адкрытасьцю. Ён чытаў маю жорсткую турэмную прозу і дыярыюш

вандроўніка, а калі стамляўся, то распавядаў пра сваё: як згубіў работу на шахтах; як круціўся, каб пракарміць жонку і двох дзяцей; як урэшце ірвануў ў пошуках заробку ў заходнюю Еўропу. Гісторыя ягонага выхаду ў цывілізацыю была больш драматычнай.

Мікола ўласным расповядам пацьвердзіў, што я ўжо і так ведаў: трафік рабочай сілы, як і *жывога тавару* з Украіны арганізаваны крымінальным элементам грунтоўна і з адпаведным цынізмам, як любая бандыцкая справа.

„Некалькі гадоў таму, – распавядае мой сусед, – пайшла чутка сярод нашага ўсходне-украінскага пралетарыяту, што Гішпанія перажывае будаўнічы бум і мае патрэбу ў рабсіле. Далі мне адрасок людзей, якія за адпаведную плату абяцалі дапамагчы ўладкавацца на нелегальную работу. Але дабірацца да Гішпаніі трэба было самому. Сабралася нас такіх чалавек сорак. Заказалі аўтобус і, як турысты, даехалі аж да Тарагоны, што на беразе Міжземнага мора. Там нас павінны былі сустрэць. Нас і сустрэлі...”.

Далей Мікола распавёў, што яшчэ дома добрыя людзі падказалі яму, каб, калі дабярэцца да месца, нікому не аддаваў пашпарт. Грошы, кажуць, плаці, а дакументы не аддавай.

І вось, кажа, прыехалі мы, спыніўся аўтобус, забягаюць у салон такія сабе загарэлыя здаравячкі і да нас: здавайце пашпарты, нешта там аформіць трэба... Ну тут ўжо ці пан, ці прапаў, зь лёгкай торбай прарваўся я да выхаду, аднаму зборшчыку папераў змазаў па храпах, і ходу...

Уцячы-то Мікола ўцёк, але потым нацярпеўся, пакуль знайшоў гэткіх жа гаротнікаў, як сам. У многіх не было ня толькі грошай, але ўжо і дакументаў... Урэшце рэшт Мікола знайшоў работу і нешта нават зарабіў. Калі ж я стаў уводзіць яго ў курс

нашых нарвежскіх бежанецкіх справаў і як мы тут зьберагаем свой сацыял, кормячыся з Кантэйнера, славянскі брат мой заўсьміхаўся і, перапыняючы мяне, расказаў пра іхны гішпанскі Кантэйнер; пра тое, што калі ў паветры летам плюс сорак па Цэльсіі і не нашмат халадней зімою, прадукты па-за маразілкай маюць кароткі век. Таму, кажа, мусілі яны з землякамі скааперавацца, набылі ў складчыну лядоўню і так вырашылі праблему...

Ну а як і чаму наш паўднёвы брат апынуўся ў Нарвегіі, я толкам і не зразумеў, ды і ня надта этычна было ўнікаць у чужыя справы.

Я ўсё ж паказаў яму і нашы Кантэйнеры, і нашу Звалку, падагнаў яму ровар і некалькі разоў мы езьдзілі па тавар.

Аднаго разу знайшлі неклалькі мяхоў пустых бляшанак з-пад піва і сапраўды па-братэрску – не, ня так, як у анекдоце, а па-справядлівасьці – падзялілі іх. Выйшла даляраў па сорак на брата пасьля здачы.

Памятаю, ўзялі мы тады ўпакоўку ці дзьве тутэйшага бутэлечнага піва і пайшлі на пірс. Была адліга, салака гуляла на самай паверхні вады і адзінокая варона перыядычна каркала, переступаючы, як самагубца, па керамічнай страсе публічнай бібліятэкі.

„– Добра вам, хахлы, – сказаў тады я, – у вас ёсьць мора і вялікія жалезныя караблі...".

„– Нічога, затое ў вас, бульбянікі, куды ні кінь – усюды лес, – адказаў Мікола. – Лес, брат, вялікая сіла, гэта мне калісьці адзін з ветэранаў УПА[6] растлумачыў...".

І адчуў я раптам, дапіваючы халоднае горкае піва, што вось у гэты самы момант у гэтай запалярнай Нарвегіі, адкуль да паўночнага полюсу бліжэй, чым да Радзімы, нікога раднейшага за

[6] *УПА* – Украінская Паўстанцкая Армія.

ўкраінца Міколу з горада Белапольле Сумской вобласьці ў мяне няма і невядома ці будзе хто потым.

Перад Калядамі яго адправілі назад у Гішпанію.

***

Пасьля ад'езду Міколы ізноў стала вусьцішна ад адзіноты сярод людзей. Ледзь не штодня валіў сьнег, марозіла і ў горы неяк не хацелася. Хадзіў на лыжах у даліне, раскладаў вогнішча, перакусваў ды ізноў выгульваў сябе, як той знакаміты нарвежац Нансэн па Грэнландыі.

Узаеміны з так званымі *сваімі* з прастораў былога СССР сталі зусім нясьцерпнымі. Нідзе дагэтуль – нават у турме! – ня бачыў я ў людскіх вачох такой хцівасьці, быццам я вырываў у іх з роту апошні ядомы кавалак. Асабліва дасталі мяне тут пузаты сямейны армянчык ды рускі хлюст з Саратава. Ну але цярплю пакуль.

Нядаўна дэпартавалі сям'ю нашых з Маладэчына. Якія яны „нашы", ня ведаю, пашпарты не правяраў, але каб чужыя якія з Усходу, можа й ня так было б крыўдна. А то заходзяць яны неяк да мяне ў пакой, бачаць, над маім ложкам наш нацыянальны сьцяг вісіць, дык баба гэтага землячка і пытаецца з нявінным такім выглядам: „Ой, а что это за *салфетка* на стене?" Во, братка ты мой, якія дзівосы дзіўныя здараюцца, што хоць ты ад сораму ў апраметную праваліся!.. Балюча, зямляк, як балюча і крыўдна! Іншы раз думаеш, а можа і сапраўды эміграцыя? І не вяртацца, адрэзаць, забыць, што было, тое было?.. Паражыць, заткнуць свой боль клямарам, у таксісты пайсьці, як некалі рускія эмігранты ў Парыжы?.. Зямляк, сьцяг наш... *салфеткой*? Не магу, не магу, зямля з-пад ног плыве...

***

Ат, ну яго ўсё! Раскіс нешта... Лепш пахвалюся, якім я за два гады багатыром стаў. Сацыял наш мы два разы на месяц атрымліваем, тут жа, у канторы лагернай адміністрацыі. Нешта даляраў пад чатырыста набягае. Раз у паўгоду мяняю кроны на валюту. Спрабаваў пераводзіць праз банк, але не атрымліваецца. Трымаць у кронах у нарвежскім ашчадным таксама не рызыкую. А калі заўтра дэпартацыя? Прападуць жа! Каралеўству застануцца. Таму, брат, пры сабе прыходзіцца трымаць. За два гады нядрэнная сума набегла як па нашай галізьне – 7 тысяч паўночна-амерыканскіх рублёў! А ты думаў! Лічы, багатыр я цяпер... Праўда, кажуць тут нашы абазнаныя, што пры дэпартацыі адабраць могуць. Чорт яго ведае, во катастрофа будзе: два гады з Кантэйнера жыць, ашчаджаць і – аддаць? Ня ведаю, няма пакуль рашэньня ў мяне. Хаця... не, калі другая адмова прыйдзе, дэпартацыі чакаць ня буду, сам паеду. Пашпарт жа пры мне... Ну добра, брат, з Калядамі цябе! У Новым годзе сьпішымся...

Прывітаньне, Сястра!

Сьпяшаюся паведаміць табе, што акурат сёньня прыйшла віншавальная дэпеша ад адваката – я ўсё ж атрымаў прытулак у гэтай краіне.

Праўда, не палітычны – гуманітарны, у чым паміж імі розьніца, ня ведаю, але, здаецца, галоўнае ня ў гэтым... Цяпер наваляцца новыя клопаты. Невядома яшчэ, куды адправяць на пастаяннае месцажыхарства... Так што ў бліжэйшы час буду заняты.

Ну, з чарговым Новым! З Раством яшчэ раз! Здарова будзь!

Твой *прытулены* Брат.

*30 сьнежня 2004 году, запалярны Рогнан.*

# 2005

**„Бывай, Рогнан! Прывітаньне, Буда!”; першая кватэра; „калі топісься, і за мармона ўхопісься”; напад; тры дні ў шпіталі; апарат для сувязі з паліцыяй; пашпарт – поштай; уцёкі з Каралеўства; невыносная ступень свайго; мая любоў – круп’е; „я вярнуўся, каб сказаць табе „бывай!”; „назад! назад!”; два тыдні ў Вільні; Нарвегія дазваляе вярнуцца; „тройчы бежанец” ізноў за Палярным кругам.**

Прывітаньне, Брат мой, прывітаньне!

Даўнавата мы з табой не абменьваліся ні думкамі, ні нават інфой. Пісалі мне, што ты вярнуўся да актыўнага жыцьця, з чым безумоўна віншую.

Аджываю і я памалу. Ты, думаю, чуў пра мае авантуры апошнім часам? Я толькі ўдакладню некаторыя дэталі. Ну дык уладкоўвайся зручней, чытаць прыйдзецца доўга...

30 сьнежня 2004 году прыйшло паведамленьне, што мне паводле гуманітарных падставаў дазваляецца жыць і працаваць у нарвежскім Каралеўстве. Як потым высьветлілася, дакумент быў прыняты яшчэ да Раства, 13-га, але па якіх бюракратычных калідорах блукаў аж два тыдні, невядома дагэтуль.

Я пісаў, што атмасфера ў лагеры была невыноснай, баяўся сарвацца ў апошні момант. Таму і пагадзіўся, каб пры першай жа магчымасьці мяне перавялі ў якую-небудзь камуну тут, на поўначы (каб трапіць у цэнтральныя раёны Нарвегіі, прыйшлося б чакаць у лагеры яшчэ год, а то і болей). Па невялікім часе прапанавалі Буду – гарадок, які ляжыць яшчэ на 100 км далей на Поўнач. Падпісаўшы неабходныя паперы ды сабраўшы бежанц-

кія клункі, я сказаў *фарвэл*[7] Салёнай даліне, мястэчку Рогнан, гарам і нашаму лагеру, у якім пражыў 2 гады і 4 месяцы.

У Буду пераехаў у канцы студзеня 2005-га. На вакзале сустракалі: чачэн, у мінулым доктар, а цяпер шафёр і перакладчык, і страшненькая тутэйшая кабецінка з пастаянным аскалам, які ў іх усьмешкай завецца (кабетка была чыноўніцай з гарадской канторы для бежанцаў, і ёй даўно пара было б адправіцца на пенсію).

Мяла-гудзела завіруха, цісную мароз і ніводнай блізкай душы ў радыюсе трох тысяч сухапутных кіламетраў.

Ну вядома, лагічна і як закон, што далі мне камунальную двухпакаёвую кватэрку ня ў цэнтры, а ў мікрараёне „Смалістыя дровы". Праўда, на той час я на гэтую акалічнасьць увагі асабліва не зьвяртаў. Галоўнае – асобнае жытло і ніякіх *сваіх* побач! Ды яшчэ падлога з падагрэвам. І вялікая падсобка ў самой кватэры, дзе можна нават матацыкл паставіць. Праўда, не спадабалася мне, што кухня не разьдзелена з так званай заляй.

Камунальную кватэрку на першым паверсе можна было пакінуць і праз дзьверы ў вакне, якія выводзілі ці то на такі сабе першапавярховы балькончык, ці то ў альтанку.

Галоўная сьцяна кватэры з другога боку была сьцяной калідору, і ў гадзіны „пік" чулася, як грукаюць уваходныя дзьверы і тупае публіка.

У першы ж дзень пасьля пярэбараў залез у душ, каб, як той казаў, змыць з сябе лагерны пыл і дух. І быў вельмі зьдзіўлены, калі літаральна праз некалькі хвілін скончылася гарачая вада. „Няўжо і тут, як у нас?" – падумаў з жахам і палез разьбірацца. У выніку маіх сантэхнічных дасьледваньняў

---

[7] *Фарвэл (скажоная нарвежская)* – бывай.

стала ясна наступнае: падагрэў вады адбываецца ў электрычных бойлерах літраў на 50, калі ня меней. Як можна гэтай вадой памыцца за адзін раз сям'я з чатырох, напрыклад, чалавек, для мяне пакуль загадка. Праўда, асабіста я навучыўся граматна разьмяркоўваць гарачую $H_2O$ і мне цяпер памыцца хапае.

У першай сваёй кватэрцы я пасьпеў пажыць тыдні два. Раніцай ішоў на гарадскі аўтобус, паказваў праязны, аплачаны дзяржавай, і ехаў у школу для дарослых вучыць нарвежскую і знаёміцца з няпісанымі правіламі нарвежскага грамадства і пісанымі законамі Каралеўства. Зрэшты, пра мой першы тут школьны перыяд я мала што і памятаю – наступныя брутальныя падзеі выветрылі з мазгоў усё неістотнае...

12 лютага 2005-га была субота, выхадны дзень, і я валяўся на канапе з руска-нарвежскім слоўнікам, думаючы, чым бы яшчэ сябе заняць. Неверагодна, але толькі што вырваўшыся з варожага кола *сваіх,* асалоды ад адзіноты чамусьці не адчувалася. Наадварот, у мазжачку, прадсэрдзях і бронхах разьліваўся паскудны халадок чагосьці атрутнагоркага, што адныя называюць адчаем, іншыя роспаччу, а ўрэшце рэштаў і першы, і другая часта заканчваюцца альбо самаразбурэньнем, альбо цэнтрабежнай агрэсіяй у формах татальнай вайны, тэрору і крывавых народных бунтаў...

Так я валяўся на канапе, безвынікова цярабіў то патыліцу, то задніцу, ды вывучаў камунальныя прадпісаньні, у якую сьметніцу якое сьмецьце выкідваць. Як новаму замежнаму кватаранту, мне даслалі днямі гэтыя камунальныя тлумачэньні і зьвязку рознакаляровых, рознай таўшчыні і памераў, поліэтыленавых пакетаў для адкідаў. Асабліва ўзбудзіла і аж неяк здорава так асьвяжыла ненавязьлівая прапанова картонныя пакеты з-пад

малочных прадуктаў і пластыкавыя з-пад розных маргарынаў ня проста выкідваць у адпаведныя кантэйнеры, а перш чым выкінуць, вымываць іх ад рэшткаў былой яды! Разумееш, Брат, узровень цывілізацыі: перш чым выкінуць – памый!.. Тут я толькі зарагачу гамерычным рогатам, а пісаць нічога ня буду...

Дык вернемся да канапы. Валяўся я валяўся, думаў-думаў, што мне з усёй гэтай нарвежскай свабодай, з маім запалярным прытулкам рабіць, нічога не прыдумаў і выйшаў забраць пошту. Тут і падвярнуліся пад руку гэтыя, ты ведаеш, ходзяць заўжды ўдвох і ў касьцюмчыках такіх, ну рыхтык як з канторы прыказчыкі, – місіянеры, адным словам. Паўночнаамерыканскія, ды яшчэ і мармоны.

І чорт мяне пад'ялдыкнуў павесьціся на іхныя размовы, запрасіць да сябе ў кватэру... Цэлую лекцыйную гадзіну парылі мазгі, паказвалі выбраныя месцы з кнігі мармонаў, а я ўдаваў на зацікаўленага кліента. Урэшце дамовіліся, што заўтра яны прыедуць і забяруць мяне на нядзельную службу ў свой малельны дом...

Да вечара я так і пракантаваўся, вывучаючы кнігу мармонаў і правілы карыстаньня кантэйнерамі для сьмецьця.

Ну а ўжо пад самую поўнач пастукаў да мяне знаёмы чачэн Сулейман, якога разьмеркавалі ў Буду яшчэ раней. Пасядзеў гэты маладзён у мяне, успаміналі мы жыцьцё ў лагеры; памятаю, цыгарэту яшчэ ў яго стрэльнуў. На тым і разьвіталіся.

***

Раніцай 13 лютага 2005 году ў маёй кватэрцы з электрападагрэвам падлогі заверашчаў званок. Хацелася спаць, але мусіў падняцца з той самай

канапы, бо званілі настырна. Паглядзеў у вакно – нікога. Значыць, званілі ўжо ў самую кватэру. Тут і ўспомніў я пра мармонаў, якія абяцалі паказаць службу ў іхнай царкве. З гэтай думкай і адамкнуў дзьверы...

Што было далей, ня памятаю абсалютна. Адно трызьніцца, што было іх двое-трое, у шапачках-масках, якія цяпер модныя сярод бандытаў, тэрарыстаў і рознага роду *службаў аховы*. Здаецца яшчэ, што яны ў адзін голас яўкнулі нешта застрашальнае — каб узмацніць эфект нападу. Далей, відаць, быў трапны ўдар, які і адключыў мяне на нейкі час ад рэчаіснасьці. Толькі, як аказалася, ня так проста забраць жыцьцё, пакуль не прыйшла пара, таму фізіялогія мая змагалася за існаваньне і тады, калі я ўжо быў у адключцы.

Каб я не махаў рукамі, мне зьвязалі іх ззаду пластыкавым шнуром – засталіся сьляды на запясьцях.

Каб не крычаў – душылі маім жа махровым ручнікам, выхапленым з душавога пакою (на шыі нейкі час былі відаць странгуляцыйныя сінякі-палосы).

Зьбівалі прафесійна, бо ні нос, ні зубы, ні корпус цела не пашкоджаны, што цяжка ўявіць па выніках звычайнай бытавой бойкі. Сур'ёзна адбілі толькі правую шчаку, зрабілі зь яе сапраўдную „адбіўную", гематома яшчэ да канца не рассмакталася, так што і вось зараз, у гэтую хвіліну, адчуваю гэты сімвалічны *значок гуманітарнага нарвежскага прытулку*.

Вось так, Брат ты мой зямляк: ад шматлікіх удараў у шчаку я атрымаў міністрасеньне і часовае разбалансаваньне зроку, тыдні два ці тры запалярны сьвет дваіўся ў маіх вачох.

Пасьля таго, як бандыты пакінулі кватэру, я невядома колькі часу валяўся бяз памяці ў вітальні.

Нарэшце апрытомнеў, зразумеў, што адбылося, і ўжо сьвядома пачаў змагацца за выжываньне. Ногі не трымалі ад слабасьці: згубіў носам шмат крыві. На калідор выпаўз на каленях. Перыядычна выключалася памяць, перыядычна спрабаваў устаць на ногі, абапіраючыся сьпіной аб сьцяну. Паспрабаваў паклікаць на дапамогу суседзяў – не аказалася голасу, толькі глухія хрыпы пасьля махровай сьцяжкі-пятлі. Тады выпаўз у пад’езд і, стоячы на каленях, скрываўленым носам (рукі ж ззаду зьвязаныя) націскаў на кнопкі кватэрных званкоў. Скрывавіў усю панэль, але так ніхто і ня выйшаў. Губляючы апошнія сілы, трапіў у суседні калідор, дзе і заўважыў маладую жанчыну з малым дзіцём...

Каму яна званіла, хто разьвязваў мне рукі, ня помню: я ізноў адключыўся.

Ачнуўся ў шпітальнай палаце, з кропельніцай і прымочкамі. Праз суткі прыпёрліся з паліцыі і распытвалі. А што я ім скажу, калі нічога абсалютна ня помню, акрамя таго, як доўга і безвынікова клікаў на дапамогу? На допыце я раптам зразумеў, што цяпер ёсьць зручная нагода патрабаваць іншага жыльля, бліжэй да цэнтру. Сьледчаму я так і заявіў: у кватэру, дзе мяне ледзь не забілі, я не вярнуся.

На чацьвёртыя суткі мяне выпісалі. Сьледчы прывёз у начлежку на вуліцы Банкавай, уручыў нейкі перадатчык, настроены на экстраную сувязь з паліцыяй, і паказаў, як карыстацца.

У начным доме працавалі штатныя работнікі Арміі выратаваньня. Бітыя мужамі жонкі, наркаманы, п’янтосы і проста бадзягі атрымлівалі тут утульны пакойчык на ноч, сьняданак раніцай і вячэру перад сном, душ, чыстую бялізну і біблію на тумбачцы – для выратаваньня душы.

Адразу пасьля сьняданьня мы павінны былі

пакідаць прытулак. Бальшыня начлежнікаў цэлы дзень сноўдалася ў нашым цэнтравым месцы – *Шкляным доме,* пра які я раскажу як-небудзь у наступным пісьме.

Другую кватэру гарадская камуна выдзеліла мне бліжэй да цэнтру, але ўсё ў тым жа раёне. Таксама першы паверх і два ўваходы-выхады: звычайны і праз вакно.

На гэты новы адрас аднойчы прыйшоў канверт з... пашпартам. Сіні нарвежскі пашпарт замежніка з маім абліччам на заламіраваным здымку. Цяпер ужо і веры цяжка даць, што ён у мяне быў, гэты пашпарт. Існаваць яму заставалася нядоўга.

А час ішоў, і вясна прыйшла, і перад вакном кватэры сагнала сьнег, а на невялікай клумбе вытачыліся і пачалі расьцьвітаць нейкія сіненькія садовыя кветачкі, а таксама ўсюдыісны жоўценькі падбел.

Пошта прыносіла папярэджаньні з камуны, што я няправільна раскладваю адкіды па кантэйнерах. Рэкламныя прасьпекты заклікалі абнавіць мэблю, садовы інвентар і нарэшце адважыцца і набыць у крэдыт плоскі плазьменны тэлевізар першага пакаленьня коштам 25 тысяч крон...

Вясна рабіла сваю справу ня толькі за вакном камунальнай кватэры, але і ўва мне. Я выконваў усе камунальныя прадпісаньні, плаціў па рахунках і хадзіў у школу, але ў галаве рабіла сваю работу процілеглая думка, несувымерна мацнейшая за ўсе астатнія разам. Думка была кароткая і вострая, пранікальная, як баявы клінок, як пяхотны штык-нож: „Дамоў!”.

„Дамоў! – крычала мая сапраўдная, ідэальная, эмацыйная і натуральная істота. Ёй дапамагаў цынічны *я* розуму. Ён нашэптваў: „Ну што, што ты тут робіш? Тут няма для цябе будучыні, гэта ня твой час, не твае людзі і не твая дзяржава. Гэты

рэжым, як і рэжым дома, ня хоча бачыць цябе, ён баіцца, што ты парушыш іхны адладжаны механізм пажыраньня, ператварэньня дабра і красы ў горы дрэні... Ты чужы, чужы на іхным сьвяце жыцьця! Яны зьдзекваліся, сьмяяліся з тваіх змагарных памкненьняў, яны даслалі табе адмову ў прытулку на твой дзень нараджэньня, а калі ты не спужаўся, яны далі табе права на работу, але не прызналі ў табе палітычнага байца; яны даслалі табе гэты дазвол акурат пад новы год — думалі, нэрвы твае ня вытрымаюць і ты зваліш зь іхнай выстаўкі паўночна-еўрапейскага сацыял-капіталізму!.. Ну а напад, брутальны напад! Ты ледзь не аддаў богу душу ў гэтай лялечнай дзяржаўцы! Вось цяпер самы раз сказаць ім *фарвел!, гудбай!* і *пошлитенахуй!* з усім іхным дабрабытам...". Так нашэптваў мне мой цынічны *я*. „Дамоў!" – крычалі рэшткі нявытраўленай да астатку душы...

І яшчэ вясна! Як заклікала яна, як прагна смактала маё нутро. Ноздры мне рвала бярозавым сокам, які – я ведаю! – бацька дома зьбірае ў трохлітровыя слоікі; гной у кучы, якой сілай жыцьця пахне вясною гной, гатовы аддаць сябе ральлі і новаму ўраджаю! Божа мой, зарэжце мяне на кучы вясновага гною, дайце сьцячы крыві, хай зьмяшаецца яна з разапрэлай жыжою і насыціць нашу ральлю, нашу!.. Аднойчы яравою вясной!..

... Я яшчэ плаціў па нарвежскіх рахунках, але ў пачатку красавіка рашэньне было прынята: дамоў!

Ведаеш, напад быў цікавы яшчэ і тым, што грошы, мой двухгадовы *капітал*, мае амерыканскія рублі ніхто ня ўзяў – яны ляжалі сабе спакойна ў лопемаркедаўскім чамаданчыку, што даказвае: нападалі ня дзеля таго, каб абрабаваць. Нападалі, каб паказаць сваю сілу і адпомсьціць. Толькі хто і за што? На гэтае пытаньне тутэйшая ўлада не адкажа, я ў тым пэўны.

Паматаю, у дзесятых днях красавіка я пакінуў на кухонным століку апарат для сувязі з паліцыяй, разьвітаўся з кветкамі на клумбе (што зробіш – я сэнтыментальны, а іх ізноў накрыла сьнегам), аддаў ключы бабці з бежанецкай канторы і сеў на цягнік да Осла. Калі высока ў гарах мы перасякалі Палярны круг, разгулялася сапраўдная завіруха, за вакном зьлева стаяла суцэльная белая сьцяна сьнегу, справа – бясконцая скала, і хто б мне тады сказаў, што я яшчэ вярнуся ў гэтыя шыроты і буду пісаць мой неверагодны раман.

Цягнік сунуўся вельмі павольна па вузкай еўракаляі на вышыні 600 метраў над узроўнем сусьветнага акіяну. Тутэйшыя пасажыры займаліся сваімі сытымі справамі, а я – сваёю галоднай: я разьвітваўся з гэтай прыгожай зямлёй і пасылаў у апраметную тутэйшую ілжывую ўладу...

На цэнтральным пасажырскім тэрмінале Осла я доўга вырашаў, як мне рухацца далей; з замілаваньнем назіраў, як малады мужчына прыстойнага выгляду з белымі эластычнымі пальчаткамі зьбірае ў вакзале пустыя пляшкі. „Посьпехаў, калега”, – жадаў я яму ў думках усяго найлепшага, упэўнены, што мне гэтай падзённай работай займацца ўжо ня прыйдзецца...

... Тут жа, на вакзальнай тэрыторыі, напаткаў знаёмага яшчэ па лагеры рускамоўнага аўганца, сімпатыка СССР. Пагаварылі-ўспомнілі, пажадаў і яму посьпехаў у нарвежскай сталіцы на нелегальным становішчы арбайтэра.

Вырашыў ехаць аўтобусам да Стакгольму, а ўжо там арыентавацца па сітуацыі.

На нарвежска-шведскай мяжы маім пашпартам замежніка зацікавіліся, прашманалі рэчы, пералічылі *капітал*, пазванілі ў нарвежскі Ашчадбанк і ўдакладнілі наконт майго рахунку, які я чамусьці не закрыў. Мае словы, што праз Швэцыю

еду транзітам, пераканалі памежнікаў, і я вярнуўся ў аўтобус.

Стакгольм уразіў сваёй архітэктурай і рэдкімі прадстаўнікамі белай расы ў цэнтры сталіцы. Вакзал прыбіралі прадстаўнікі негроіднай, таксі абслугоўвалі носьбіты арабскай. У нашу амбасаду вёз мяне грэк. І толькі ў паліцыі я ўбачыў маладых шведаў-паліцэйскіх, хлапцоў і дзяўчат да 30-ці. У паліцыі я меркаваў як-небудзь выцыганіць прытулак у начлежцы на пару дзён, але нумар не прайшоў. Праўда, я мог проста перачакаць у пастарунку да 5-ці раніцы, калі адчыняўся вакзал...

І вось я дастаў візу і мусіў купіць турпуцёўку для ўезду ў сваю ўласную краіну! Пашпарт замежніка быў мне цяпер без патрэбы. Больш за тое, ён пачаў мне адцягваць кішэню і пячы грудзі. Вяртацца зь ім на акупаваную тэрыторыю было небясьпечна. Аддаць сваім – не было надзейных людзей. Ну і, вядома, проста не хапіла розуму схаваць яго ў якую-небудзь каменную шчыліну Стакгольму, дзе ён дачакаў б ня толькі новага стагодзьдзя, але і Трэцяй сусьветнай, і хуткага патопу... Аднак я быў моцна разбалансаваны, рыштаваньні псіхікі хадзілі хадуном, а адну стратэгічную памылку я ўсё ж зрабіў – перад пасадкай у самалёт „Аставіі" я з гістэрычным задавальненьнем раздзёр мой замежны дакумент, запхаў яго ў пакет і кінуў у прывакзальную сьметніцу.

Калі ж я праходзіў на пасадку, кантралёрка, сярэдняга веку сімпатычная шведка, зьдзіўлена глядзела на мяне, перапытваючы, ці сапраўды я пакідаю краіну свайго гуманітарнага прытулку. Што я мог ёй сказаць у адказ? Хіба тое, што адзіны для мяне рэальны прытулак, адзінае месца, дзе я адчуваю сябе спакойна і ўпэўнена, – гэта жаночае ўлоньне. Толькі там адчуваеш вечнасьць і сябе – вечным.

Сьпецыфічны пах старызны ў салоне самалёта, старыя затаптаныя ходнікі на праходзе, старая абшыўка пасажырскіх крэслаў рэзка нагадалі мне, што я ўжо на тэрыторыі Радзімы. Калі ж сьцюардэса прынесла нашы Рэспубліканскія газэты і загаварыла да нас, псажыраў, па-нашаму, я проста апаў як пухір, я ледзь не самлеў ад неверагоднага напружаньня і адначасова рэлаксу. Хацелася тэатральных жэстаў: кінуцца гаспадыні салону ў ногі; цалаваць ейны службовы хвартух, ня кажучы ўжо пра рукі, плакаць і прасіць дараваньня; і спавядацца, як у касьцёле...

Надвор'е стаяла яснае і было бачна, як унізе пеніцца Балтыйскае мора, якое мы праляцелі вельмі хутка. Ужо цямном прызямліліся ў Нацыянальным аэрапорце з арыфметычнай назвай *„№ 2"* і я адчуў, як эйфарыя вяртаньня імгненна пакідае мяне. Аэравакзал быў амаль пусты, звонку сьвяціліся рэдкія ліхтары і родныя памежнікі здаваліся соннымі ад беспрацоўя – ім не было каго даглядаць і шманаць. Гэтак жа вяла прагарталі яны мой пашпарт з даўно нядзейнай шэнгенскай візай 2002 году і толькі зьдзівіліся, калі я папрасіў дэкларацыю, каб зарэгістраваць свой сямітысячны капітал (толькі пазьней я даведаўся, што даўно ўжо можна ўвозіць у межы Радзімы да 10 тысяч грашовых знакаў у паўночна-амэрыканскай валюце).

З аэрапорту да сталіцы пад'ехаў на прыватным аўто з земляком, які вяртаўся са Швэцыі. Шашу асьвятлялі толькі фары машыны і гэта была добрая нагода для размовы пра параўнальную эканоміку, палітычныя свабоды і перамяшчэньне рабсілы толькі ў адным кірунку – з усходу на захад.

У раёне заводу гадзіньнікаў я перасеў у таксі і ледзь толькі згадаў пра палітычную сітуацыю, як шафёр без ніякай засьцярогі груба аблаяў і ўзурпатара, і ягоную зграю халуёў. „Здравствуй, Роди-

на, здравствуй!" – усклікнуў я сабе ў думках паруску. Паездка здалася мне таннай – два кухлі піва ў нарвежскай забягалаўцы, і я пакінуў зямляку яшчэ адзін – за правільны ход думак.

У пад'езд мяне не прапусьцілі новыя дзьверы з кодавым замком, але ўжо гэта не было для мяне праблемай – упусьцілі суседзі. Дзьверы ў кватэру адчыніла сястра – і хваля свайго накрыла мяне з галавой.

Усе наступныя дні на Радзіме прайшлі ў паўсьне-прастрацыі. Здавалася, што я памёр, душа мая выйшла зь мяне і вітае над тымі мясьцінамі, дзе некалі перамяшчалася маё фізічнае цела.

Вось знаёмы вязе мяне на дапатопнай „Волзе" на маё радавое котлішча, едзем праз нашу Крывіччыну-Літву – праз мястэчкі і вёскі Вялейшчыны; у Крывічах спыняемся каля былой сталоўкі, у якой падавалі такія смачныя катлеты з бульбяным гарнірам і кампотам. Цяпер у тым будынку прыватная крама былога дэпутата Станькі. Яе так і называюць – дэпутацкай.

Зьлева за мостам праз Сэрвач я паказваю таварышу на салідны цагляны асабняк Татарына, які стаіць амаль на тым самым месцы, дзе некалі была прымітыўная запраўка для рэдкіх прыватных машын і прадаваўся керасін для прымусаў і керагазаў. Як сапраўднае прозьвішча Татарына, я ня ведаю і сёньня, але памятаю, што працаваў ён шафёрам аўталаўкі яшчэ калі я быў падлеткам. На той аўталаўцы, зь якой ён езьдзіў па вёсках Мядзельшчыны і прадаваў хлеб і да хлеба, Татарын і зарабіў свой першы капітал.

Толькі адну ночку начавалі мы ў хаце маіх бацькоў. На другі дзень паехалі ў нашу крывіцкую Буду.

Буда – самая старая форма назвы аднаго з нашых самых нацыянальна-адэкватных мястэчак.

Пазьней яго пачалі называць Будслаўе, Будслава. І ўжо ў часы царска-савецкага кіраваньня – Будслаў.

Згодна з легендай, калісьці на вышэйшы – левы – бераг Сэрвачы сышла зь нябёсаў Маці божая і паставіла тут будан, *буду*, каб маліцца за сына свайго... Пазьней прыйшлі манахі-бернардыны і заклалі касьцёл, які сёньня зьяўляецца галоўным дзейным храмам нашай каталіцкай царквы.

Сёньня, на жаль, правінцыя наша імкліва бяднее і вымірае. Ня лепшым чынам выглядае і Буда: землякі забудоўваюцца пераважна на паўднёвым ускрайку мястэчка. Драўляную двухпавярховую забудову, якая належыла жыдам, пасьля іхнага ад'езду зьнесьлі... Зрэшты, што я табе буду расказваць, ты можаш і сам прыехаць туды 2 ліпеня на наш штогадовы каталіцкі фэст Маці божай Будслаўскай ды ўбачыць усё на свае вочы.

Ну а мы з таварышам купілі тады ў прыватнай крамцы бутэлечку вінца і паехалі далей па дарагіх мне мясьцінах і закуточках. У Камарове мы спыніліся каля яшчэ й цяпер прыстойнага выгляду будынку пачатковай школы, у якую я і пайшоў у 1969-м у першы клас. Потым школку закрылі, бо ня стала вучняў. Акурат у маім класе, дзе я вырабляў свой почырк сталёвым пяром і ставіў першыя кляксы, у 90 х мінулага стагодзьдзя працавала крамка, у якой прадавалі хлеб, соль-цукар і радасьць тутэйшых мужычкоў – віно самага апошняга разбору. Але і ў крамкі той век быў кароткі, бо людзей менела, а рэшта купляе ў аўталаўках таго самага Татарына.

Так мы сядзелі на прыступках, расьпівалі чырвонае віно, і я ўспамінаў. Каля блізкай хаты сусед з сынамі нагружаў гноем трактарны прычэп — былі 20-я дні красавіка і людзі зьбіраліся садзіць бульбу. „Нюхай, – сказаў я таварышу, – гэты водар будзе плаваць над зямлёю і тады, калі бензінавы

смурод застанецца адно ў калекцыях парфюмераў. Гэта водар жыцьця, зямляк, жыцьця!”

Потым мы езьдзілі на бабулін хутар. У лепшай хаце стаяў стары куфар, набіты кнігамі, часопісамі, газэтамі і даўнімі школьнымі падручнікамі; над канапай, на якой я некалі спаў падлеткам і падслухоўваў любоўныя ўздыханьні бацькоў, як і сорак гадоў дагэтуль, вісела рэпрадукцыя „Незнаёмкі” невядомага жывапісца. Пахла невынішчальным, знаёмым з дзяцінства пахам старызны, нішчымніцы і заняпаду. Ужо гадоў 20 у гэтай хаце ніхто ня жыў, але мы так ці інакш даглядалі яе, а зімой іншы раз цяплілі печ. Як і даўней, у студні стаяла чыстая сьцюдзёная вада, якой у мінулым веку спаганялі смагу салдаты трох армій: бальшавіцкай, Пілсудскага і гітлераўскай. Набракалі пупышкі ў пасаджаных мною дрэваў: елка вось-вось выпусьціць аксамітныя мяккія іголачкі; па-вясеньняму забранзавела кара дуба... Я пасадзіў іх у далёкім 80-м, перад тым, як пайсьці ў савецкую армію і застрэліць свайго першага аўганца, магчыма, дзеда той самай дзяўчынкі Зэйнаб, з сям’ёю якой зусім нядаўна я жыў пад адным дахам у бежанецкім лагеры.

Ужо перад ад’ездам у сталіцу падсеў рухавік таварышовай „Волгі”, прыйшлося пайсьці ў вёску шукаць дапамогі, дзе і напаткаў я Ромку Мароза, колішняга майго аднакласьніка.

Ромка 20 гадоў адрабіў дальнабойшчыкам на вялікай фуры і аўтамабіль ведаў лепш, чым я ровар. Толькі за чаркай самагонкі, пасьля таго, як ён за некалькі хвілінаў направіў нашу „Волгу”, я разгледзіў, наколькі Ромка пастарэў і асунуўся. Ён ужо перажыў інсульт і быў, як кажуць, „на группе”. На сярэднім пальцы не відаць было колішняй залатой пячаткі з брылікамі. Зрэшты, як і заручальнага пярсьцёнка на правай – жонка пакі-

нула яго. Пакуль езьдзіў па камандзіроўках, вырасьлі ўласныя дзеці і памёрлі бацькі. І шчасьлівая зорка Ромкі Мароза, любімага сынулі цёткі Чэсі і дзядзькі Германа, моцна высьмягла і страціла свой бляск у вечным небе над намі. Толькі ў маёй памяці па-ранейшаму жывуць яркія малюнкі дзяцінства, на якіх ружовашчокі хлапчук жвава круціць педалі зялёнага дзіцячага ровара, а другі бяжыць побач і ўпрошвае: „Марозік-паравозік, дай праехаць...”. Другім хлапчуком быў я, – той, хто ўвесь час даганяў.

І вось цяпер, вярнуўшыся з чужых краёў, я раптам убачыў, што нікога больш даганяць ня трэба: многія даўно дайшлі да фінішу, іншыя рухаюцца ў адваротным кірунку, астатнія хаатычна мітусяцца, спрабуюць выжыць...

Тыя некалькі тыдняў, якія выпала пражыць у нашым вялікім горадзе, я ці ня ўвесь час адчуваў сябе Дарыянам Грэем, які яшчэ не парэзаў брыдкае старое аблічча на палатне карціны. Я сустракаў знаёмыя мне твары, і яны жахалі мяне маршчынамі і сівізной; некаторыя былі ў вельмі заношаным адзеньні, і тады я ўспамінаў, якія добрыя касьцюмы, палітоны і швэдры можна было знайсьці ў маім запалярным Кантэйнеры; з некаторымі я не хацеў здароўкацца, бо ня ведаў, пра што мы можам гаварыць, а ад маўчаньня вочы ў вочы мне заўсёды было няўтульна; іншыя самі не заўважалі мяне... Я бачыў, як катастрафічна старэе маё пакаленьне і абнаўляецца горад; мне не хацелася абнаўленьня, якое хавае апошнія сьляды маёй маладосьці; я ненавіджу ружовую плітку, па якой я не магу ступаць як свабодны чалавек з нацыянальным пашпартам у кішэні; і ўвогуле ўсё навокал было неяк ня так.

Урэшце рэшт аднаго дня ў пераходзе на станцыі метро „Кастрычніцкая” я спатыкаю адно з

многіх няўдалых каханьняў – Таню... Я ня буду табе многа пра яе расьпісваць – зьберагу эмоцыі для пісьма ёй самой. Адзначу толькі, што і гэтае спатканьне было балючым. Ды які нармальны мужык будзе рады таму, што ягоная жанчына працуе ў казіно?!

Мая Танечка працавала круп'е і зьбіралася абараняць кандыдацкую чорт ведае на якой кафедры! Ведаю толькі, што ў нашым унівэрсітэце, былы рэктар якога сядзіць у турме як вораг акупацыйнага рэжыму.

Восьмага мая пазваніў мне знаёмы: памёр наш дарагі Басяк, заўтра разьвітаньне зь ім у Доме пісьменьніка.

У мяне ў кішэні ўжо ляжалі неабходныя ксівы, я быў гатовы ізноў пакінуць сваю краіну, і цяпер мне здалося, што ўвесь сэнс майго вяртаньня на Бацькаўшчыну быў у тым, каб убачыць бацькоў, каханую на пасадзе круп'е і сьмерць калегі-паэта.

9 мая, калі хам-узурпатар адзначаў перамогу жывой славянскай сілы над прагавітым германскім розумам, а над нашай сталіцай разьлягаліся громы салюту і ціха шумеў майскі дождж, мы праводзілі Паэта ў апошні шлях – на вясковыя могілкі на поўдні Краіны. Адзін з нашых папрасіў і мяне паехаць на пахаваньне, але я ведаў, што назаўтра мне выпраўляцца ў іншую старану – на захад. Выйшла так, што *я вярнуўся, каб сказаць яму „бывай!"*.

***

Здаецца, ужо праз тыдзень па вяртаньні рэальная мая *Родзіна* пачала ізноў ламаць мяне праз калена: у маёй кватэры жыла сястра з двума сынамі і ня слухала маіх культурных еўрапейскіх парадаў; як і на чужыне, ніхто не званіў мне і не гаварыў нават дзяжурных фразаў пра здароўе і

посьпехі; брат мой паэт бяздарна загінуў, а каханая дзяўчыначка пайшла ў казіно, пыхкаючы дымком ментолавай цыгарэты. Майго капіталу хапіла б ёй не надоўга. І я сказаў сабе: назад! назад!

Дзень добры, сястра!

Ну вось, цяпер ты прыняла самы жывы ўдзель у маіх авантурах. Толькі ёсьць тут адно няпростае пытаньне: добра гэта ці дрэнна, што дапамагла мне ізноў пакінуць нашы краі? Наадварот, магла б і адгаворваць мяне, прыстыдзіць... Хаця што гэта я, ты сапраўды была злая, пакуль займалася маімі справамі ў нарвежскім пасольстве. Ніколі не забудуся, як на нейкі мой няўцямны адказ ты з усяе душы выштурхнула сваё легендарнае: „Не пізьдзі, зямляк!" Гэта была неверагодная, асьвяжальная фраза. Я тады неяк памацнеў, акрэп у веры, што трэба рабіць тое, што раблю...

Мне так і не ўдалося ўбачыць сваю дачушку: па-добраму мы зь ейнай мамай не дамовіліся, а ламаць сітуацыю праз калена не хацелася. А маглі, маглі мы з тою жанчынай жыць, каб толькі ў мужчыны было больш цьвёрдасьці ў словах і рашэньнях. Чорт яго, зрэшты, ведае! Здаецца, адбываецца тое, што адбываецца. Вось і ўся філасофія.

Калі пасольскія мне нарэшце выдалі даведку, на падставе якой я меў права цягам сутак уехаць, уляцець альбо прыплыць у Нарвегію, я ўзрадаваўся ня менш, чым калі ўзышоў на борт нашай „Аставіі" і пачуў голас бортправадніцы. Такая, сястра, праўда. Я набыў білет на рэйс „Вільня-Осла", бутэльку добрага тутэйшага алкаголю і пайшоў у парк Гедыміна разьвітвацца з усім сваім. Быў апошні дзень мая, зелянела, і ў гальлі старых дрэваў шалелі вароны. У іх ішла пара гнездаваньня, былі яны агрэсіўныя і кідаліся на мінакоў, якія толькі паддавалі ходу.

Зрэшты, атакавалі звар'яцелыя птушкі, памойму, ня ўсіх. Здаецца, шкадавалі былых савецкіх – мужчын і жанчын пэнсійнага ўзросту, якія тут і там зьбіралі пустыя бутэлькі, кучкаваліся на свабодных паркавых лаўках і, пацягваючы таннае вінцо, успаміналі СССР ды абмяркоўвалі свае актуальныя праблемы: сьмерць ветэрана, дзеці ня едуць на госьці, падвышэньне пенсіяў, цэны на хлеб і алкаголь.

Я сядзеў на лаве побач, краем вуха падслухоўваў, краем вока падглядаў і краем сэрца быў разам з імі, былымі савецкімі суграмадзянамі, частка якіх яшчэ і мае землякі.

Я пакідаў іх, каб там, на чужыне, ізноў быць нікім, парывацца шукаць і не шукаць работу; уцякаць у горы, а ў нізіне кожнай паднятай пустою бутэлькай павялічваць капітал сваёй свабоды...

І вось я ізноў над Балтыкай, цудоўнае надвор'е, сіняе неба ўверсе і сінія воды ўнізе, дзе белыя грабяні хваляў кучаравяцца, як русыя валосікі на ўлоньні любімай жанчыны.

Я вяртаюся ў краіну Паўночнага Шляху. Мінулі Балтыйскае мора, пад намі Швэцыя, таксама *зямля пад белымі крыламі* і яшчэ больш *сінявокая*, чым мая Радзіма...

Вечарам самалёт прызямліўся ў аэрапорце Гардэмуэн. Гэтым разам я быў адзін, пад хмяльком і як ніколі ўпэўнены ў сабе, таму хутка знайшоў выхад з тэрміналу, сеў у электрычку і праз паўгадзіны шпацыраваў па сталічнай Карл-Юханс гатэ[8]. Надвор'е стаяла проста неверагоднае! Здаецца, уся жывая сіла гораду выйшла на вуліцы і ў паркі. Уражвала і само відовішча дэманстрацыі людской сытасьці: сотні байкераў у скуры; дарагія адкры-

[8] *Карл-Юханс гатэ* – галоўная вуліца нарвежскай сталіцы Осла.

тыя аўто невядомых мне мадэляў з моцнымі торсамі за рулём і прыгожымі дзяўчатамі справа... Перад Стортынгам млява-сыта гайдалася палотнішча нацыянальнага сьцягу Нарвегіі. Перад каралеўскім палацам шнуравалі турысты, фатаграфуючы каралеўскіх гвардзейцаў.

Калі нарэшце сьцямнела, выйшлі на промысел прастытуткі. Адна зачапілася вокам за мой стыльны зялёны плашч да пятаў і прапанавала пайсьці зь ёю. Негрыцянка была мажная, з крутымі сьцёгнамі і бюстам няслабага калібру, у класічных калготках у сетачку, і мне яе таксама хацелася, што тут казаць. Хацелася, але я не паддаўся, кіраваны рэшткамі разбэрсанага розуму.

Усю ноч я кантаваўся ў раёне вакзалу, адчуваючы да гэтай тэрыторыі нейкую прыязнасьць, нібы да блізкага знаёмага ці нават сябра. Заходзіў у кавярні і слухаў рознагалосьсе глотак, рызыкуючы трапіць у п’яныя разборкі...

Раніцай сеў на цягнік да запалярнай Буды. За вакном зелянелі нізіны і шумна веселак ніспадалі долу верхнія воды гор.

## 2005-ы,
## працяг

**Усё ідзе сваім ходам; 100 гадоў свабоднаму Каралеўству; „Европа сдохла...”; сустрэча з міністрам; мае польскія госьці; пісьмо ў рэдакцыю „Нямецкай хвалі”; бліскучы пыл чужыны; рускія ў Нарвегіі; чорны парасон; інтэрдзень.**

Прывітаньне, дарагі зямляк!

Здароў, наш няўрымсьлівы *латышскі стралок*! Думаю, ты яшчэ памятаеш гэтую сяброўскую мя-

нушку, якую мы далі табе на палявых практыкаваньнях па філасофіі агульнай справы?

Пішу табе як таварышу, зь якім пасьпеў, дзякуй богу, разьдзяліць хлеб і віно падчас майго падпольнага вяртаньня на Радзіму. У той вечар, калі я гасьцяваў у цябе, я мог бы гасьцяваць у маладой жанчыны. Ды ты памятаеш, мы ішлі разам з пахаваньня, ліў майскі дождж, і ў маёй дзяўчынкі прамоклі ножкі. І гэта было добрай падставай паехаць да яе, разагрэць курыцу, якую яна пакінула ў духоўцы яшчэ з раніцы, і зрабіць тое, што не было зроблена ў свой час...

Ты быў апошні з нашых стралкоў, хто бачыў мяне дома. Цяпер я ізноў далёка за межамі нашых контураў. Прыйшла пара расказаць і табе, як мы тут жывём-перабываем, у шматмернай запалярнай прасторы.

Пасьля вяртаньня ў наш гарадок усё пайшло сваёю чаргой: далі кватэру ў цэнтры, дапыталі пра пашпарт і накіравалі ў школу для дарослых вучыць нарвежскую. Аднавілася мая штодзённасьць у статусе гуманітарна прытуленага. Вывучаю горад і блізкія горы. Яшчэ болей чытаю рускамоўныя кнігі, якія знаходжу ў гарадской публічнай бібліятэцы. У рамане „Вяртаньне танцмайстра" Манкеля чытаю: „... нішто не зьнікае назусім, толькі прымае новыя формы, зьяўляюцца новыя выразы, але мара пра валадарства белай расы паранейшаму жыве сярод нас".

Здараецца, калі праходжу праз наш Glasshuset[9], хочацца крыкнуць на невядомай мне мове: „Hey, is there anyone around here?!"[10]

7 чэрвеня нарвежцы адзначылі 100 гадоў дзяр-

---

[9] *Glasshuset (нарв.)* – шкляны дом.

[10] *Hey, is there anyone around here (анг.)* – гэй, тут ёсьць хто-небудзь?

жаўнай незалежнасьці. У 1905-м яны скасавалі свой саюз са Швэцыяй, які вымушаныя былі падпісаць пасьля падзеньня ў 1814-м саюзу з Даніяй.

13-га было горача. Знайшоў краму, дзе прадаюць старызну і нераспрададзенае. Два разы на месяц працуюць. Знакаміты loppemarked – блышыны рынак.

Чытаю, чытаю „Кнігу вады" Лімонава. Трапна піша: „Французы, немцы, американцы давно не энергичны. Я ўбеждался в этом не раз. Жизнь ушла из них. Будущее за какими-нибудь арабами, турками, стоит лишь посмотреть, как они пиздятся, за курдами, за всей непонятной и неприятной европейцам дикой толпой подозрительных личностей. Европа сдохла, она устала и изменилась".

Узгадваю напад і раптам нейкія самаіранічныя радкі прыдумаліся, ды яшчэ й па-руску:

*Был бит, но как-то интересно,*
*лишь по лицу – бока целы...*

Прачытаў неяк у газэце, што ў нашу запалярную Буду прыязджае палітык са сталіцы, міністар замежных справаў Ян Петэршэн ад партыі правых. Ну і вырашыў паглядзець, як тутэйшыя сустракаюць сваіх дзяржаўных людзей. І, галоўнае, адрасу ня ведаю, адно што дзесьці ў цэнтры, на пірсе. Але, думаю, і так пазнаю: паліцыі будзе, дапытлівай публікі... Аднак нічога падобнага і блізка не было – калі я ўбачыў міністра, яго суправаджалі сакратар і мясцовы кіраўнік парт'ячэйкі. Сталага веку пара аднойчы азірнулася, пазнаўшы палітыка. І ўсё: ніякай паліцыі, ніякіх журналістаў і публікі.

Сустрэча зь міністрам адбылася ў летняй кавярні, на беразе бухты. Падал*і* многа чырвоных рачкоў-крэветак і віна. У канцы партыйнай дыс-

кусіі я набраўся нахабства і ўставіў свае тры словы па-нарвежску. Сьпіч быў пра тое, што *нашыя* правыя жадаюць іхным як найлепшых посьпехаў. І на завяршэньне прамовы кніжку сваю паднёс, якую міністар тут жа і забыўся на барнай стойцы.

***

Здаецца, дні на адзіноце бяз нейкай афіцыйнай працы і далёка ад Радзімы павінны цягнуцца павольна, а яны і тут, і тут пралятаюць, і, галоўнае, беспаваротна...

Прытуліў быў на пару дзён польскіх раварыстаў-вандроўнікаў. Казалі, што ад самой Польшчы ішлі. З Буды паплывуць на Лафатэны, гэта выспы, чатыры гадзіны ходу на маршрутным паромчыку, цудоўныя краявіды і проста царства-каралеўства рыбы траскі. Сушаць яе тут на драўляных пярэплатах, як сена...

Палякі – чатыры маладыя хлопцы – аказаліся годнымі прадстаўнікамі *маткі* Польшчы і, здаецца, засталіся ўдзячныя за начлег. Нават выпіў зь імі якогась польскага каляровага бімберу, чокаючыся за Рэч паспалітую і ВКЛ.

Але бывае, брат, такі жаль запалоніць, што ўжо і бурбалкі ня йдуць, і ня дыхаеш, здаецца. І тады ўспамінаецца з дзесьці прачытанага: калі вас давядуць да адчаю сучасьнікі, шукайце дапамогі ў тых, якія ляжаць у магілах. Гучыць змрочна, але што праўда, то праўда: іншы раз толькі зварот да гісторыі і выхад *на прыроду* ратуе ад непапраўнага...

***

Вечарамі слухаю „галасы”: радыё „Свабода”, радыё „Швэцыя”, калі-нікалі „Нямецкую хвалю”. І вось перадаюць, што ў Лондане на другі дзень пасьля абвяшчэньня яго сталіцай алімпійскіх гульняў 2012 году прагрымелі тры выбухі ў метро і адзін у аўтобусе. У гэты момант у Шатландыі праходзіла сустрэча так званай „васьмёркі” – лідэраў вядучых краін сьвету. Відавочна, што гэтыя лідэры і гэтыя краіны робяць нешта ня тое, калі тэрарысты з крыкамі „алах акбар!” узрываюць у іхных гарадах жывую сілу, тэхніку і будынкі.

У школе для дарослых курыў аднаго дня з настаўнікам Бендам. Кажа, дзяды ягоныя сядзелі ў сталінскіх лагерах дзесьці пад Архангельскам, нават нарвежскую з цяжкасьцю ўспаміналі, калі вярнуліся.

СССР перастаў існаваць, але замест *савецкай пагрозы* прыйшла пагроза ісламскага тэрарызму. І пагроза рэальная, бо навокал рвуць, рвуць і рвуць: Англія, Ізраіль, Ірак, Турцыя... Эўропа жыве пад страхам штохвіліннай кары, кары за нахабную самаўпэўненасьць, што яна асімілюе, пераварыць у сваіх цывілізатарскіх вантробах мільёны мігрантаў з мусульманскіх краінаў. Іх прымалі пасьля вайны з перакананьнем, што яны будуць будаваць новую пасьляваенную Эўропу.

І яны будавалі і будуюць: у Нямеччыне, Скандынавіі, Францыі, Партугаліі, Гішпаніі. Але мігранты-мусульмане і ня думаюць асімілёўвацца, распушчацца як лёгкараспушчальныя мінералы, – яны патрабуюць сваёй долі еўрапрадукту ў сваіх нацыянальных формах: мячэці, школы на арабскай, унівэрсітэты... І пэўна ж мільёны гэтых мігрантаў маюць на тое права. Але што далей? Асобныя аўтаноміі? Рэспублікі? А потым? Эўрапейскі халіфат?

21 ліпеня ізноў выбухі ў Лондане, але слабыя, без ахвяраў. І да чаго дойдзе?

Прыйшоў электронны ліст ад паляка Конрада, яны ўжо вярнуліся з вандроўкі.

Адзінота, брат, загнала ў рускамоўны сайт знаёмстваў. Пішу, вядома, па-нашаму. Некаторыя дамы *не понимают*. Мадэратар заблакаваў адну старонку, патрабуе ўнесьці зьмены. О, пільныя маніпулятары нашымі жаданьнямі!

27 ліпеня быў *у начной* на Кантэйнеры. Сустрэў маладога негра, які таксама прыехаў па спажыву. „Божа, забяры маё жыцьцё", як пісаў адзін зямляк.

Сёньня ж амаль забыты „дзень незалежнасьці". Стары „National Panasonic" ледзь ловіць ультракароткія хвалі з чэскай Прагі, зусім як некалі ў дзяцінстве, калі лямпавая радыёла „Riga" хрыпела і трашчэла, пакуль бацька лавіў трансьляцыю „Архіпелагу ГУЛАГ" Салжаніцына. Трэск не даваў спаць нікому ў хаце, маці ясны пень, сварылася, але гэтая сямейная праблема была непараўнальная зь бядой, якую зазналі нашы дзяды ў тым самым ГУЛАГу.

Пра гэта я даведаўся пазьней, гадоў праз 20.

30-га пісаў верш „Дык прыязджай!".

Ізноў на Кантэйнеры. Узяў шмат туалетнай паперы, банку піва, бутэльку рыбнага тлушчу, тры пачкі табакі... Даход, тваю макаўку!

Жнівень, хаджу па грыбы. Набраў сёньня баравічкоў у ельніку. Цуд!

6-га паехалі ад мяне далей у вандроўку Рышард і Марыюш Дамброўскія, якіх я ўчора заўважыў каля той самай крамы, каля якой спаткаў і першую групу польскіх раварыстаў. Рышард і Марыюш – бацька і сын – ідуць на роварах ад Шчытнага. І яны пераначавалі ў мяне, засталіся задаволеныя, пакінулі адрас...

60 гадоў з дня бамбаваньня Хірасімы амерыканскай атамнай бомбай. Цяпер амеры[11] бомбамі нясуць дэмакратыю ў Ірак. Наўрад ці яна перажыве штодзённыя тэрарыстычныя атакі і абстрэлы...

Завыць бы, зараўсьці берсеркам ад усяго!.. Ноччу люблю ўсіх жанчын падпарадак, а раніцай ад сораму іду купляю цыгарэты, каб пусьціць дымам сваю бяду. Толькі брату Толіку ўжо ўсё пох... – адпачывае сабе ў Гарошкаве пад бярозамі.

Пачуў, што руская рэдакцыя „Нямецкай хвалі" плануе выпускаць пятнаццаціхвілінную перадачу пра справы нашай Радзімы. Можна было б сказаць дзякуй, але перадачка будзе па-руску, што нацыянальныя сілы ніяк прыняць ня могуць і ўжо рэзка на гэта адрэагавалі. Я ў гэтай сувязі падумаў, што гітлераўцы ў свой час паказалі куды лепшае разуменьне нашай сітуацыі. Пад нямецкай акупацыяй нацыянальныя часопісы і газэты выходзілі на нашай мове, на ёй жа працавалі нашы школы, якія савецкія партызаны стараліся зьнішчыць, а многіх настаўнікаў расстралялі... Адным словам, расхваляваў і мяне нямецкі „падарунак". Гэта што ж выходзіць, гітлераўскія „к*а*ты" размаўлялі з намі па-нашаму, а сучасныя нямецкія „дэмакраты" хочуць размаўляць моваю нашага шматгадовага палітычнага апанента – па-руску?

Напісаў ім пісямцо на зададзеную тэму. Як той казаў, каб ведалі, што мы нічога не забыліся.

Знайшоў у Кузьмы Пруткова: „што скажуць пра цябе іншыя, калі ты сам пра сябе нічога сказаць ня можаш?" Залатыя словы! Вось таму я гавару і пішу перш за ўсё пра сябе – каб і астатнія маглі пра мяне адгукнуцца.

Перш чым сесьці за пісьмовы стол і пісаць далей, я адкрываю вакно і праводжу рукою па падва-

---

[11] *Амеры (вульгарызм)* – амерыканцы.

коньні. На далоні застаюцца сьляды бліскучага пылу, пылу з нарвежскай скалы, перасыпанай невядома калі бліскучай празрыстай слюдою. Здараецца, я знаходжу яе ў гарах...

Нарвежскі пыл на падваконьні – іншы, ня наш. У сухія дні яго многа вісіць у гарадскім паветры, ён асядае на століках летніх кафэ. Такога бліскучага пылу ў нас няма. Наш пыл – цяжкі і тлусты, бадай, як лёс самой нацыі. Ён паўстае з нашага падзолу, з нашых тарфянікаў, бульбяных палёў і грунтавых дарог – грунтоўны салідны пыл над Краем, які знаходзіцца ў становішчы перманентнай барацьбы.

Дзень добры, Сястра!

У нас весела: у аэрапорце, што акурат каля базы NATO, паўдня шукалі бомбу. Не знайшлі, як і жартаўніка.

17 верасьня купіў хаеркліпер – машынку для пастрыганьня – і такім чынам адзначыў гадавіну аб'яднаньня нашых крывіцкіх правінцый у адну Рэспубліку.

Раней каўказец прыходзіў, пастрыгалі адзін аднаго, але гэта было такім невыносным выпрабаваньнем маёй гідлівасьці, што словаў няма. Уяві сабе: валасы тлустыя, перхаць і чэрап з такімі выбоінамі, што ў чым толькі мазгі трымаюцца? А мне пастрыгай. І пастрыгаў. А ён потым мяне, хоць і ябы-як. Ня йсьці ж было ў іхныя цырульні й аддаваць 50 даляраў за жменю састрыжаных сівых касмылёў!

З дому пішуць. Кватэрку маю гнілую за лета заліло (а не купляй у жыда!). У брата Паўла ізноў праблемы са скурай (адгукаецца служба ў савецкіх ракетных войсках перад распадам СССР). Бацька п'яны паваліўся і ўдарыўся аб парог хаты. Маці дапамагла цётцы Манюсі вырабіць пашпарт, бо той ужо пара на пенсію.

Купіў фотаапарат і відэакамеру. Вывучаю інструкцыі, каб не сапсаваць здуру (тупы я да тэхнікі). Адправіў пасылку, дык каб атрымаць яе, маці мусіла заплаціць 50000 рублёў пошліны.

У віртуале 22-гадовая Рада пытаецца, ці ў сіле яшчэ прапанова пераехаць у Нарвегію. Тыру падробнаму, ня ведаючы сораму. З-за адсутнасьці гэтага ж культурнага пачуцьця лажу ў порнасайты з бібліятэчнага кампутара.

Пазнаёміўся ў Шкляным Доме з жанчынай, якая прадае крышталь ды іншую рускую нацыянальную драбязу. Распавядае, што з Украіны, мае кватэру ў нашым Койданаве, але выехала ў Нарвегію чамусьці з Мурманску. Адтуль жа возіць свой шырпатрэб на продаж у Буду.

Як і сотні, калі ня тысячы, рускіх жанчын, выйшла яна замуж за нарвежца, вядома, не з-за вялікага ці хай сабе нават сярэдненькага такога каханьня, а з увагі на матэрыяльныя выгоды. Цікава назіраць гэтую *пару кучараву*. Зь ейным мужам я пазнаёміўся яшчэ ў Рогнане, дзе ён на нейкім фэсьце раздаваў прэсу і ўлёткі Нарвежскай кампартыі. Была ў гэтым нейкая пошлая інтрыга: у краіне, якая проста шалее ад перавытворчасьці нацыянальнага прадукту на душу насельніцтва, нарвацца на чухаватага выгляду тутэйшага прапагатара камуністычнай ідэі. Глядзеў я на яго і думаў: а вось адняць бы ў цябе ўсе твае нарвежскія правы ды грашовыя выплаты; а ткнуць бы цябе сытым рылам у тыя боханы нераспрададзенага хлеба, які штовечар выкідваюць нарвежскія крамы, бо штораніцы прывозяць сьвежы; а для зашліфоўкі тваёй камуністычнай ідэйнасьці адправіць у сталінскія лагеры ГУЛАГу-НКВД-ГПУ, праз якія прайшлі і ў якіх палеглі тысячы сапраўдных – не табе роўня! – камуністаў і камсамольцаў, – які інтэрнацыянал запяяў бы ты ў такім выпадку?

Чым жа займаецца гэты дзіва-камуніст, мая знаёмая *руская* так і ня кажа. Падазраю, што ўвогуле нічым, бо часта бачу, як ён фланіруе сярод белага дня па горадзе, пры сустрэчы ні к сялу, ні к гораду гаворачы, напэўна, адзінае яму вядомае рускае слова „корошо”.

Яшчэ адна знаёмая – зусім юная руская дзяўчына, якую маці вывезла з Расеі зусім маленькай. Дзяўчына гэта, як і бальшыня маладых рускіх, вельмі нават сімпатычная і ад нарвежскіх дзяўчат свайго веку адрозьніваецца прыроднай стройнасьцю і жывымі праявамі пароды ў рысах твару. Але вось вопыт ейнага маладога жыцьця ўжо нарвежскі, яна тут вырасла і хто такія каўказцы калі і чула, дык па TV, ня болей. І таму яна ідзе і жыве з адным такім прадстаўніком „свабодалюбнага” Каўказу. Я ведаю гэтага маладога курца і нюхальніка наркаты, бачыў не адзін раз ягоныя шкляныя вочы маладога забойцы-душагуба. Усё, што мог, ён ужо спазнаў, вывучыў і засвоіў; чвартаваньне ня змусіць яго прызнаць іншых людзей вартымі жалю і любові; з бляскам нянавісьці ў зьвярыных зрэнках ён выпусьціць з вас апошнія духі... А пакуль зь ім жыве прыгожая руская дзяўчына, прадстаўніца народу, які ёсьць адвечным ворагам каўказцаў. Яна яшчэ не разумее, што ён проста выкарыстоўвае яе, бо сваіх свабодных тут, бадай, і няма. Зусім нядаўна яго арыштоўвалі проста на вуліцы якраз насупраць маёй кватэры, на маіх вачох. І гэта ня першы раз, хутчэй за ўсё наркотыкі, але мог і пагражаць, і проста рабаваць.

Ведаю некаторых рускіх жанчын, многія незадаволеныя сваім сямейным жыцьцём. Адна былая мурманчанка жыве цяпер каля Свартысэна, турыстычнай Меккі, куды прыязджаюць палюбавацца глетчарамі. Сьпісаліся мы зь ёй, звоніць мне і ў першай жа размове прызнаецца, што ейны нічо-

га больш ня можа, а ёй усяго 43; і я гляджу на ейны фотаздымак у мяне на сайце знаёмстваў і разумею, што жанчына ў самым росквіце, і ёй сапраўды яшчэ трэба і трэба; і я сказаў: „Хорошо, приезжай!” І яна сапраўды прыязджае да мяне, 200 км у адзін бок, і ўжо ж мы адводзім душу, ужо ж і адводзім; і пахнем, як пахнуць коні, тралюючы цяжкія вазы сена з прырэчных заліўных лугоў. Ужо наталіўшыся, па разе трэцім, я фантазірую ёй пра Архангельск, Белае мора і Анегу, і пра ўбогую п'яную станцыю Ўнежма, куды я мару прыехаць з нарвежскім пашпартам і відэафотатэхнікай фільмаваць сваё маленства, бо я там нарадзіўся.

Я там нарадзіўся, на рускай Поўначы, а цяпер жыву на Поўначы нарвежскай; і тут я так разбракаю, як скарынка ў квасе, жаль працінае мяне, але я ўжо не сябе шкадую, а гэтую мурманчанку з нядзеяздольным нарвежскім мужам; я шкадую, я прыпадаю да ейнай запаленай мною купіны і цалую, цалую пераплёт ейнае *кнігі жыцьця*, і старонкі кнігі раскрываюцца насустрач маёй сіле спазнаньня; і я зарываю сваю няўстыдную фізіяномію ў гэтыя гарачыя старонкі, якія пахнуць, якія проста рвуць мне ноздры неверагоднай *воляй да жыцьця*.

***

Ніякіх радыкальных зьменаў не адбываецца, а я гэтага не люблю, Сястра. Уяві сабе, увесь час малады; альбо стары, і дзеці твае ніяк ня вырастуць; а ўвесь век быць жанатым з адной жанчынай? Альбо восень, увесь час восень і дажджы? Вось я і спрабую шукаць падзеі, ці, як людзі кажуць, прыгоды.

Ужо восень. Купіў чорны парасон-стэк з чорнай ручкай і чаравікі сорак першага памеру. Ха-

джу ў піўны бар „Бровар Кая”, іншы раз у кавярню „Кафка”. Люблю гэтыя месцы: у першым людна, у другім – стыльна і далікатна, часам іграюць джаз і блюзавыя тэмы.

19 кастрычніка, серада, гадавіна ўтварэньня Нацыянальнага фронту. А ў школе для дарослых рыхтуюцца да Інтэрнацыянальнага дня: трэба малеваць насьценгазэты, ну акурат як у нас у часы Імперыі.

Дождж не перастае, і чэлес не перастае. Так і жывём – цякучкай.

25-га на Інтэрдні чытаў вершы па-нашаму, паказваў наш стэнд са здымкамі, тлумачыў тутэйшым, што мая краіна – не Расея, проста нам выпала быць суседзямі і не пашанцавала з дыктатарам – не на сваіх працуе.

Піў тут неяк
*на радостях,*
*За здравие тех ворот,*
*Из которых вышел наш народ,*
*А также за здравие того ключа,*
*Который отпирает те ворота не стуча!*

У кафэ „Кафка” была сустрэча з тутэйшымі пісьменьнікамі. Пазнаёміўся з празаікам Турам Аверасам, проста падышоў да яго і адрэкамендаваўся, усунуў яму сваю кнігу вершаў, а ён мне – сваю, нататкі пра вандроўку ў прыбалтыйскія краіны і поўнач Расеі. Ёсьць у кнізе і пра Вільню, але пра нашу там прысутнасьць – ні слова. Зрэшты, як ні словам не згадала рэгіянальная газэта і пра мой выступ на Інтэрднях у школе для дарослых.

Пасьля „Кафкі” запрасіла мяне адна літаратарка з Трумся ў рэстарацыю на карпаратыўны вечар. За сталом многа гаварыў зь ёю. Выпіў два фужэры чырвонага віна, і зьеў кавалачак сьмяр-

дзючай рыбы. І ўсё спрабаваў гаварыць. Потым пайшлі ў кабак „Мой пляц”, там навярнуў кухаль піва, і стала дрэнна, муціла і ціснула ў скронях. Кіраўнічка пісьменьніцкай групы была такая сабе сімпатычная, міла грызла пазногцікі на прыпухлых пальчыках прыгожых эратычных рук.

Ты ўжо даруй, Сястра, але ў цябе рукі не эратычныя, а такія сялянскія, рабочыя, колькі б ты работы перарабіла імі, каб жыла ў нашай правінцыі. А дзетак здаровых колькі магла б нарадзіць!.. Вось што ў цябе прыгожае, дык гэта ікры ножак тваіх, мілыя крэпкія лытачкі. Павер, я ўжо ў *гэтым* крыху разьбіраюся.

Набыў і падключыў кампутар. Знаёмы серб Радвой дапамагае інсталяваць праграмы.

Францыя трэці тыдзень на вушах: паўстала моладзь прыгарадаў, пераважна мігранты-мусульманы; гараць аўтамабілі і будынкі, паліцыя не дае рады. Анархія і хаос. Неверагодна!

А ў Германіі мужлавата-лесьбійскага выгляду Ангела стала першай нямецкай жанчынай-канцлерам.

„Патрыятызм ёсць біялагічная якасьць – „тэрытарыяльны імператыў”. Жывёла абараняе сваю тэрыторыю ад захопніка, не шкадуючы жыцьця. Так і народ, калі ён пэўным чынам арганізаваны, то адчувае сябе як адно цэлае і абараняе свой двор да канца”, – піша ў сваіх успамінах савецкі хірург Мікалай Амосаў.

Перажыў цікавае здарэньне на Кантэйнеры. Пакуль рыўся ў ім – укралі ровар, які стаяў побач. Мужык працягнуў яго перад маім носам, а я зразумеў гэта толькі калі ўбачыў, што тэхнікі маёй, майго хлебадайнага транспарту няма на месцы. Во анэкдот! Праўда, я тут жа стырыў новы, ну ня стырыў, а ўзяў, што валялася без нагляду каля аўтобуснага прыпынку.

Маме споўнілася 70! Курносай крывічанцы з вёскі Вераб'і, галасістай пявульлі і танцорцы, якая фліртавала з Прытыцкім і бяз памяці любіла майго бацьку, русавалосай стройнай маладусе з партбілетам кампартыі СССР – сем дзесяткаў!

А вось і Каляды! Слухаю-гляджу сьвяточную службу з каталіцкага храму ў сталіцы нашай Радзімы. Купіў быў алкаголю й табакі, але ці можа ўратаваць гэта ад адзіноты?!

З Новым годам, Сястра!

З новым змаганьнем!..

## 2006

**Сны;
кашэрныя адкіды для чачэна Ўвайса;
пад знакам Тамары; Леначка Кільлер;
рукі ў пальчатках; голас нянавісьці;
спакусы; батыставыя насовачкі; забытая радня;
школа і мова; эканомія назнайніцу[12];
у тутэйшым касьцёле; кава з празаікам,
які не заўважыў праездам нашых людзей;
новыя рабы; падарожжа на Лафатэны;
паляўнічы на белую курапатку; амфетамін;
лопемаркед – блышыны рынак.**

***

Дзень добры!..

... іншы раз дастаткова толькі таго, што можна некаму напісаць, з кімсьці пагаварыць, кагосьці пачытаць на віртуальнай старонцы, каб ня быць аднаму сярод людзей (сярод прыроды я не бываю адзін).

Іншы раз і гэтага мала – толькі ў адзіноце можна вызваліцца ад ілюзіяў і авалодаць сваёй уласнай здольнасьцю ясна мысьліць. Толькі ў адзіноце можна пачуць праўдзівага сябе...

... Званіла Маці, віншавала з яшчэ адным дачаканым Новым годам. Нехта мужчынскага роду з нашага Мядзелю цікавіўся мною, за нешта дзякаваў бацькам і абяцаў ім дапамогу. Дарэчы, да нас на хутар праклалі дарогу. Так хочацца прайсьці па ёй босым, убачыць мае дрэвы, якім сёлета спаўняецца дваццаць гадоў (я пасадзіў іх перад маім першым вясельлем).

---

[12] *Назнайніцу* – навыварат.

Сны люблю, але яны прыходзяць гэтак жа рэдка, як і вершы. Найчасьцей сьніцца ў студзені. Вось і цяпер... Сьнілася радыё „Свабода”, нехта, каго я называю „мы”, адзначае паўвеку гэтага радыё. Многа мікрафонаў, сцэнічных падмосткаў, і мне трэба выступаць. Але мікрафоны не актывізаваныя, і я разумею, што ўсё падстроена, усё сьпецыяльна, сімулятарна і фальшыва, і я пакідаю фэст...

Я адрынуты. Ды я і ня быў сваім, і яны не былі мне сваімі. Бо свае – гэта радня, гэта Адно, гэта Ячэйка, якая дыхае разам, у адно дыханьне...

Сьніліся цягнікі, якія ідуць пад адхон... Сьніліся маладыя і стыльныя аднавяскоўцы, сярод іх Ромак Мароз, і мы дзесьці выступаем на канцэрце, усе разам, дружна... Гэта значыць, што мы ўжо ніколі ня будзем разам, і ніколі космас нашай правінцыі ня вернецца ў ранейшыя формы.

2 лютага зьляцеўся *на Бачку*[13] з дарослым, саліднага выгляду чачэнам Увайсам. Ён сямейны, малыя дачка і сын, маладая жонка. Мае дарослых дзяцей ад першага шлюбу дзесьці на еўрапейскім сьвеце. Лішне казаць, што мусульманін, чытае каран у інтэрнэце; на сьцяне ў ягонай нарвежскай камунальнай кватэры вісіць правільны чачэнскі сьцяг і сутры па-арабску на залататканым насьценным дыванку. І вось гэты правільны сямейны чачэн разам са мной рыўся у прадуктовым кантэйнеры. І пры гэтым выразна паказваў, што сьвініны ён з бачка не бярэ. Маўляў, не кашэрна. Маўляў, падбіраць адкіды вера дазваляе, але толькі правільныя, кашэрныя... Неверагодна: парынаю ў ступар зьдзіўленьня! Усё зьмяшана ў галаве людской,

[13] *Бачок* – кантэйнер для арганічных, прадуктовых адкідаў, які звычайна выстаўляецца за прадуктовай крамай.

абы даказаць правільнасьць сваёй пазіцыі, выбару, веры...

Адказаў тут адзін з кандыдатаў у прэзідэнты нашай Краіны. Ну што ні фраза, то канцылярская, напышлівая: „гатоўнасьць да барацьбы за нашу родную...", „мы вітаем кожнага сумленнага..., якія гатовы стаць пад сьцяг аб'яднаных дэмакратычных..."

Так і хочацца спытаць: а калі не сумленны і не пад сьцягам „аб'яднаных дэмакратычных", але як ніхто іншы гатовы „да барацьбы за нашу родную", тады што?..

У студзені знайшоў я ў віртуальнай прасторы сваю Тамару. Сімптаматычна, што гэта здарылася перад самымі прэзідэнцкімі выбарамі ў вас там, дома. Цяпер я маю яшчэ аднаго праўдзівага карэспандэнта *з палёў вайны за сваё*. Тамара піша цікава, граматна і, галоўнае, па-нашаму:

„Я ўсё ж баюся, што заліюць нас крывёю. Так проста яны ня выпусьцяць уладу з рук. І ён, і ўсе, хто ім прыкормлены...

У нашай галоўнай ён мужа перавеў у Брэст на пасаду кіраўніка абласной управы МУС. Яна зь ім не паехала, цяпер кожныя выхадныя да яго езьдзіць. І усё паўтарае з нейкім сумненьнем у голасе: "Мы все ждём выборов...".

Ёсьць у нас юрыстка. Не паверыш, але прозьвішча дзяўчыны – Кільлер. А выглядае так, што нават у нашых жанчын дух займае: даўганога-высокая, грудастая, распавядала, як хацела на практыку ў міліцыю трапіць, мянтоўскай рамантыкі дурніцы захацелася. Прыйшла на прыём да начальніка, той сьпярша не згаджаўся такую хадзячую спакусу прымаць. Але неяк угаварыла, дакументы падае... Ён пашпарт паглядзеў і кажа: „Не, ня будзеце Вы тут рабіць, у нас жа галасавая сувязь увесь час падключана. Уявіце сабе, як гэта

будуць Вас выклікаць: Кільлер, на выезд!..". Так і не атрымалася з нашай Ленкі *зьвязды* крымінальнага вышуку".

Med godt samarbeid kan de svakeste vinne[14] – працуючы разам, і слабыя могуць перамагчы. Несумненна. Толькі вось мне прыходзіцца працаваць аднаму (такая прафесія). І пахне, заўсёды пахне дрысьцём. Ды не, што я, – ня пахне – сьмярдзіць! Сьвет перапоўнены дрысьцём і дрыстунамі.

Мая задача – ачышчаць яго. І ёсьць адзін вельмі істотны спосаб ачышчэньня – называньне рэчаў сваімі імёнамі. Бруднае, злое і атрутнае так і павінна абазначацца, адпаведнае кляймо мусіць стаяць на тым, што сьмярдзіць... Ведаю-ведаю, у мяне брудная прафесія, але што зробіш, іншага ня ўмею. Люблю ўсё сьветлае, чыстае і натуральнае, а пад рукі лезе пераважна манструознае, вось і мушу займацца ім. Не хачу, а мушу, іншых няма, ніхто ня йдзе ў чысьцільшчыкі. Бруд разводзіць лягчэй, нават прыемна. Закон такі: чым болей спажываеш, тым болей кантэйнераў, больш адкідаў і больш смуроду...

13 сакавіка, панядзелак. Знайшоў 100 крон і скураныя пальчаткі. Жанчына насіла, памер адпаведны, але і мне пасуюць, пасуюць і маім дагледжаным ручкам. Іх так часта цалавалі жанчыны – там, далёка, дома, дзе кожны год вясной наліваюцца новай сілай мае дрэвы. Рукі мае я берагу і даглядаю. У руках сіла, у вуснах вагонь, а ў думках – мэта...

Дома спрабуюць нейтралізаваць паўстаньне ў сталіцы і акруговых цэнтрах. Праводзяць папераджальныя арышты, ідзе тэлефонная вайна запалохваньняў. Старшыня ССП[15] прыгразіў народу,

---

[14] *Med godt samarbeid kan de svakeste vinne (нарв.)* – працуючы разам, і слабыя могуць перамагчы.

[15] *ССП* – сакрэтная служба прэзідэнта.

што за выхад на вуліцы будуць садзіць як за тэрарызм. На Галоўнай плошчы моладзь разьбіла намётавы лагер; вечарамі адбываюцца людныя мітынгі, народ хоча сапраўдных выбараў сапраўднага прэзідэнта... Радзіма трывожна чакае, ці хопіць адвагі і сілы ў байцоў Супраціву...

Праз пяць дзён стаяньня на плошчы акупацыйныя сілы абарону лагера зламалі. Разгарнуць Паўстаньне не ўдалося і надзеі на перамены згасьлі. І цяпер нехта ўва мне пачынае трывожна рымець: *„Я помню, помню ўсе мае крыўды. Помню, як сыкалі – правакатар! Як псеўда-патрыятычна шапталі гучна:стукач... Я помню адно, я помню быдлячае слова „згода”... Дык перамагайце сёньня пад бела-чырвоным, чыстым! І вашую кроў, счарнелую ад невыноснай ілжы, пырсьніце ў морду рэжыму – няхай захліпнецца хутчэй. Дык перамагайце сёньня! Няма ў вас іншага выбару. Хай вашая перамога стане маёй паразай. І я застануся ў гісторыі тым, хто пакінуў Радзіму ў яе баявыя дні!”*

Ты пытаесься, ці было мне страшна тады і тады, і тады. Я так адкажу: было! Але я не спыняўся казаць сабе: пасябруй са страхам, а як жа, ён сам не пакіне цябе. Ён зьнішчыць цябе, калі ты ня будзеш кантраляваць яго... Пасябруй са страхам. Няхай тады вораг твайго ворага стане тваім сябрам...

Прывітаньне, брат Андрэй!

Дзякуй, што аддаеш належнае маім літаратурным канструкцыям. Ты ведаеш, якую цану плачу я за свой талент: адзінота, шлом[16] і пагарда былых сяброў. Ну вядома, я жывы і мне балюча, толькі я маю волю не зважаць; я іду наперад. І ня так істотна, наперад да канца ці ўсё ж да перамогі. Важна,

[16] *Шлом* – сьмецьце, адкіды.

што я іду, рухаюся, перамяшчаюся, пакрываю адлегласьці і паглынаю кубікаметры кіслароду і вады, выдзяляючы CO2. Бліскавічная рыба макрэль трапечацца ў маіх руках, губляючы ад напругі ікру і малокі. І не бяда, што кроў у яе халодная – полымя бушуе ў нашых фантазіях!..

Ты думаеш, чаму я такі геніяльны? Бо жарсьць, жаданьне культывую я ўва мне і ўліваю ў свае тэксты, карціны і музыку. Бяз высокай жарсьці няма і высокага мастацтва, якому мы пакляліся некалі служыць...

Жыцьцё, брат ты мой, гэта эксьперымент. Бальшыня ўдзельнічае ў ім як эксьпэрыментальныя механізмы і дажывае да ўзросту маральнай і фізічнай састарэласьці. Другая частка людской біямасы выходзіць са строю ў самым пачатку эксьперыментальных дзеяньняў. Прычыны розныя, а галоўная – спакусы. Яны растуць, разрастаюцца ў геаметрычнай прагрэсіі. Чым болей нас, двуногіх, тым болей спакусаў. Як той казаў, у даўнія добрыя часы была адна натуральная спакуса – выжыць і пакінуць па сабе нашчадкаў.

Са з'яўленьнем культуры, з'явілася і першая, інсьпіраваная самім чалавекам, спакуса ня проста выжыць, але жыць як мага даўжэй і камфортна... Сёньня ў сьвеце камфортна жыве так званы „залаты мільярд", альбо „Захад", заходняя, так яе макаўку, цывілізацыя. І вось якраз у гэтых заходніх нетрах рэкламуюцца і выраблюцца новыя – сінтэтычныя – спакусы, якія ёсьць сьмяротнай небясьпекай для той першай спакусы, спакусы жыць і даваць жыцьцё сабе падобным, нашчадкам. І я, брат, прызнаю толькі гэтую апошнюю. Кожны дзень, кожны дзень я праходжу выпрабаваньне Эрасам; кожную хвіліну я чую ў сабе гарачае дыханьне Любові, у якім застываюць усе іншыя, неістотныя, а часам і проста сьмяртэльныя праг-

неньні... Я не жадаю, брат, многа, не жадаю таго, што не нашэптвае мне мой інстынкт. Толькі Любові, для якой неабходны адвечныя інгрыдыенты: чысты белы сьнег зімой, зялёная трава летам, сьвежыя кветкі вясной і сьпелыя здаровыя плады восеньню...

Памятаеш, брат, нашу сустрэчу на Круглай плошчы? Акурат на пераходзе перад кавярняй „Бярозка"? Як павіс я на тваім плячы, стыльны 45-гадовы замежнік, і рыдаў няўстыдна, сапраўднымі гарачымі сьлязьмі... Ты памятаеш, гэта інстынкт мой даў сабе волю, бо толькі сярод свайго і сваіх можна расслабіцца да горкай сьлязы. На чужыне, брат, нават ня плачацца. І ня любіцца на чужыне. Тут я адно чакаю, чакаю, калі прыйдзе пара вярнуцца і ўступіць у свае правы. Гэта будзе час вялікага плачу радасьці і жалю сярод сваіх, свайго і па сваім.

Гэтымі днямі, калі наша Паўстаньне дома не ўдалося, мне карцела ізноў нешта ўзарваць. Астабрыдла лазіць па хлеб у кантэйнер і красьці сэканд-хэнд на блышыным рынку. 19 красавіка вырашыў я паспрабаваць сябе ў звычайнай краме. Думаю, калі зловяць, дык хоць пагляджу тутэйшую турму...

І сапраўды, засякла мяне загадчыца ў відэакамеры, выклікала паліцыю. А ўзяў я, сьмех сказаць, упакоўку пасьцельнай бялізны і пакецік батыставых насовак. Прыехалі два паліцыянты, спакойна так распыталі ды і адпусьцілі. Сказалі толькі, што за такую драбязу дашлюць мне поштай квітанцыю на аплату штрафу.

Вось так я быў пагарэў у нарвежскай краме.

Прысьнілася ангельская фраза: *we shall overcome* – мы пераможам.

17 мая тутэйшыя сьвяткуюць дзень сваёй канстытуцыі. На кантэйнеры знайшоў трэць бутэлькі чырвонага віна – сьвяткую і я... Учора ўвесь дзень у небе раўлі натаўскія зьнішчальнікі. Я пасылаў ім усьлед мае чорныя думкі, але ніводзін пакуль не зваліўся долу. А між тым, колькі пакаленьняў маіх нашчадкаў магло б жыць за тыя грошыкі, якіх каштуе адзін такі самалёцік!

Мой шлях на Поўнач нарвежскую пачаўся з Поўначы рускай – ад станцыі Унежма Анежскага раёну Архангельскай вобласьці, дзе пасьля падзеньня сістэмы ГУЛАГ[17] працавалі вольнанаёмнымі на лесапільні мае дарагія бацькі.

Потым я сам працаваў у прыгожым Карэльскім краі, зь якога значна бліжэй да нарвежскага Нурлану, чым калі дабірацца ад нас да Осла праз Нямеччыну і праліў Скагерак, як гэты і зрабілі мы з таварышам у свой час.

Штосьці падказвае, што прыкладна такімі шляхамі – праз рускую Поўнач ды ўзьбярэжжа Балтыкі – выходзілі нашы продкі на аператыўны прастор, здабываючы паўночны забалтыйскі кантынент, які потым назавуць Скандынавіяй. У старыя добрыя часы, як і сёньня, нас было многа, а вольных і ўрадлівых месцаў – мала, ды і тыя занятыя суседзямі і супляменьнікамі. Пастаянныя міжусобіцы зьнясільвалі, і многія князі рабілі стругі ды вялі свае дружыны на пошукі новых абсадаў. Чуе мой дух, што белы чалавек трапіў сюды адтуль, ад нас, з Кіеўскай, паўночнай і Белай Русі – Літвы. З нашых пушчаў прынёс ён у *Краіну Паўночнага шляху* бадай адзін з галоўных сімвалаў народнай арнаменталістыкі – васьміканцовую зорку, якая сярод усіх іншых найбольш эстэтычна дасканалая.

---

[17] *ГУЛАГ* – галоўнае ўпраўленьне лагераў у СССР.

***

Другі год, брат Андрэй, хаджу я ў школу для дарослых – вучу нарвежскую. Калі ў настроі – цьвялю настаўнікаў. „О, ja!” – рэагуюць яны на заўвагу, ці ня з нашай мовы прывандраваў іхны „svoger”, пакінуўшы на самоце нашага „швагру”. У нарвежскай гук „ш” вельмі актыўны, але ў слове „svoger” перайшоў чамусьці ў „с”, а ў нашай застаўся. І як гучыць! – швагра, швагер, швагрусь... А вось імя маё маім забытым супляменьнікам не даецца – шапялявяць „Шлава” і хоць ты што. Самае неймаверна-прарочае ў гэтым тое, што ў маленстве я сам сваё імя вымаўляў няправільна, я таксама шапялявіў акурат як яны. Я ўжо хадзіў у першы клас Камароўскай пачатковай школкі, а гук „с” мне ўсё яшчэ не даваўся. І вось аднойчы маці вырашыла навучыць мяне як сьлед. Быў ясны асеньні надвячорак, я вярнуўся з урокаў, паеў і мусіў чытаць пропісі. Чытаў нармальна, толькі што гэтае „Слава” шапялявілася пад языком. Прасіла мяне маці, прасіла гаварыць правільна, а потым выхапіла з-за сьпіны бацькаву дзягу ды й перацягнула ёю некалькі разоў. Стрэс быў вялікі, боль і крыўда, і тады назло такой несправядлівасьці, я і залемантаваў нарэшце правільна.

Хто тады мог ўявіць, што па сарака гадах я сам буду вучыць маіх нарвежскіх натаўнікаў не шапялявіць, вымаўляючы маё імя.

Сёньня у нарвежскім каралеўстве дзейнічаюць два афіцыйныя варыянты мовы: *букмол* (кніжная мова) і *нюноршк* (нованарвежская). На радыё і тэлебачаньні гучыць і мова карэнных жыхароў – саамаў.

У нашай запалярнай Будзе (Bodø) верхаводзіць тутэйшы дыялект, які істотна адрозьніваецца ад

літаратурнага варыянту. Бывае, жыхары Осла пераходзяць на агнельскую, каб паразумецца з суграмадзянамі зь якіх-небудзь выспаў на поўначы Нарвегіі.

З кожнай засвоенай фразай, з кожным нарвежскім словам, якія трывала ўмошчваюцца ў спратах памяці побач з нашымі, я набліжаюся да народу, сярод якога жыву. Набліжэньне гэта бывае іншы раз і прыемным, а часьцей – бянтэжыць і злуе. Мне, чалавеку *з другога берагу*, бачна асабліва выразна, як абсалютызацыя *правоў чалавека* вядзе ў шмат якіх асьпектах да элементарнай дэградацыі гэтага самага чалавека.

Ну добра, адмянілі, напрыклад, школьную форму, цяпер хадзі, дзіця, як сабе і ў чым хочаш. Ну а настаўнікі, настаўнікі ўсё ж павінны апранацца як сьлед, ідучы на работу ў школу, ці ня так? А бачыў бы ты, браце, у якіх уборах зьяўляюцца некаторыя *вучыцелі* ў нарвежскай школе! Божа, гэта нельга пяром апісаць. Прыходзіць тут нас вучыць адна перастарка гадоў сарака: грудзі зь блюзкі вывальваюцца, пуп голы, у танных штанах чорных з абарванымі калашынамі (цяпер жа так модна, каб штаніны па зямлі валакліся)...

Яшчэ я ніяк не магу разабрацца ў тутэйшай модзе пісаць у школе алоўкамі, калі можна асадкай. Раздалі і нам алоўкі і сьцёркі. І вось уяўляеш сабе ідыёцкі такі малюнак: сядзіць чалавек дваццаць дарослых людзей, запісваюць за настаўнікам, робяць памылкі і, натуральна, выпраўляюць, сьціраючы. Рыпеньне стаіць у класе ўсе пяць акадэмічных гадзін. Пасьля заняткаў вучнёўскія сталы выглядаюць так, нібы на іх раскладаліся бамжы ці алкаголікі.

Я разумею, калі, як расказвала маці, у часы ейнае маладосьці адразу па вайне пісалі, ашчаджаючы кожны агрызачак алоўка (асадак ніхто ў

вочы ня бачыў!), а чарніла рабілі зь ягад крушыны ды замест сшыткаў выкарыстоўвалі любы кавалак паперы, на якім можна было пісаць.

А тут, у забагацелай Нарвегіі, пісаць у школе алоўкамі? Не разумею. І не пішу. Для гэтага ў мяне ё асадкі.

А во яшчэ была прыгода! Пісалі неяк дыктоўку. На другі дзень вяртае педагог нам нашы работы. Гляджу я ў свой сшытак і нічога зразумець не магу: праўкі зробленыя сінім стрыжнем, дзе мае, а дзе настаўнікавы, – не разабраць. Абураюся так разгневана:" Што, кажу, у Нарвегіі дэфіцыт чырвоных стрыжняў?" І ведаеш, як мне выкладчыца адказвае? Глядзі з крэсла не зваліся, ці на чым ты там зараз сядзіш: гэта, кажа, таму сінім, каб не пашкодзіць псіхіку вучня, калі раптам памылак акажацца многа... Ты ўяўляеш, брат, як далёка ў іх сягнулі *правы чалавека*! І не ў галаве ім, апупелым ад сваёй дэмакратыі, што я асабіста вельмі нэрвуюся, калі па маім сінім нехта таксама крэсьліць сінім. Я не люблю катэгарычна, калі не магу адрозьніць чужога на сваёй тэрыторыі. Так ёй пра гэта і сказаў, тутэйшай шкадавальніцы вучнёўскай псіхікі.

***

Цывілізацыя прадуктуе неймаверна многа ўсялякай дрэні. Мільёны тон лесу і нафтапрадуктаў перарабляюць на ўпакоўку-тару. Рынак: не ўпакуеш – не прадасі. Глядзіш, бывае, і думаеш: ды во гэтая ўпакоўка больш каштуе, чым тая хрэнь, што ў ёй! Зрэшты, за ўсё плаціць ахвяра рынку – пакупнік.

Тутэйшая гаспадыня перш чым здаць пластыкавыя ды кардонныя ўпакоўкі, павінна іх памыць! Калі я праходжу каля чыстых, як лялечныя, до-

мікаў і бачу ў вялікіх празрыстых мяхах чыста вымытыя пушкі з-пад маргарыну, шакаладнай пасты, малака ды сьмятаны, зь мяне выліваецца лава радкоў: „Ешь ананасы, рябчиков жуй...”; я бягу пісаць заяву ў „Аль-Кайду” і падрываю нафтавыя нарвежскія вышкі ў раёне Ставангера; урэшце рэшт у мяне перад вачыма паўстаюць сталічныя дворыкі з разьвешанымі на абшарпаных балконах поліэтыленавымі мяшэчкамі. Іх памылі нашы гаспадыні. Не ад добрага жыцьця, а каб зьберагчы лішні рубель і купіць за яго які вітамін для сваіх дзетак.

А што прымушае нарвежскую гападыню растрачваць пральны парашок, гарачую ваду і свой вольны час на мыцьцё ўпакоўкі, якая, па задуме невядомых мне нарвежскіх эканамістаў, пойдзе на перапрацоўку? Хто навучыў яе гэтаму ідыёцкаму занятку ў той самы час, калі тысячы тон жывога хлеба тысячы крамаў выкідваюць на сьметнік?

Дарагі зямляк, грамадства, якое робіць выгляд, што эканоміць на пластыкавых адкідах і ў той жа самы час на той жа самай тэрыторыі адпраўляе на сьметнік прадукты, ня мае працяглай будучыні. І неістотна, хто ці што яго зьнішчыць: ваяўнічы іслам, дэмаграфічны выбух ва ўсходнеславянскіх землях ці кліматычная катастрофа, – у любым выпадку зьнішчэньне заходняй цывілізацыі будзе маральна правільным. Заходні кантынент нарэшце павінны адпачыць ад неабмежаваных *правоў чалавека*...

Добра, я пакуль перарвуся: сусед зайшоў, мы едзем на Кантэйнер за краму „Rema-1000”. Трэба зрабіць прадуктовыя запасы на наступны тыдзень. Сусед чакае трэцяга нашчадка, я хачу нарэшце купіць кампутар... Мы эканомім. Людзі – вялікія эканамісты. На чужым глупстве і гонары эканоміць асабліва займальна.

***

Ну вось, мы вярнуліся з поўным. Я перакусіў новымі запасамі, прыняў душ і цяпер хачу завяршыць мае пісьмёны.

Крыху з вопыту паходаў у тутэйшы касьцёл. Адкрыты ён нядаўна, гадоў дваццаць таму. Ксяндза Владэка прыслалі з Польшчы, гадоў пяцьдзесят яму. Але няма, няма той упэўненасьці верніка ў ягоным позірку. Відаць, што служыць богу з аглядкай на нарвежскія *дэмакратычныя каштоўнасьці*, г. зн. каб, барані божа, каго не пакрыўдзіць. А я хоць і бязбожнік, але разумею: у храме няма іншай думкі, як пра бога. У нас на нядзельную службу прыходзяць з груднымі дзецьмі, як у ясьлі. І, як у ясьлях, стаіць гоман дзіцячы, і бога пачуць, і зьвярнуцца да яго з малітвай праблематычна.

Жанчыны ў храме тут зь непакрытымі галовамі, што мяне, радыкальнага верніка ў парадак, таксама раздражняе. Цяжка зразумець веру без рытуалу і традыцыі. Гэта як армію пазбавіць штодзённай страявой падрыхтоўкі і палявых практыкаваньняў... Так што не хадзіць мне і тут у касьцёл – у гарах маё сэрца, як сказаў нехта задоўга да мяне.

***

Прывітаньне, дарагая Сястра!

Як там Вільня наша? Віруе, пэўна, турыстамі – лета ж на дварэ? Я таксама штодня вандрую: то ў гарах, то ў пошуках пустой тары. Вось пачытай крыху проста з майго дзёньніка...

27 чэрвеня, у аўторак, выходзіў у горад. У „Павільёне”, каля Шклянога Дому, выпіў кубак кавы за 20 крон (два з паловай еўры), выкурыў

цыгарэту. Зайшоў у вінманапольку, узяў нарвежскай гарэлкі за 305 NOK, 41 з паловаю працэнт моцы. Пярун бы іх ляснуў! Ну ўсё як не ў людзей, ня толькі хлеба чорнага няма, але і звычайнай саракаградуснай цяжка знайсьці! НУ ты падумай: сорак адзін з паловай! Чорт ведае што!

А, ды ну іх! Пайшоў паглядзеў, як загружаецца прадуктамі ангельскі пасажырскі параход „Glazgow".

Вечарам быў на рыбе, лавіў траску.

1 ліпеня першы раз за чатыры гады жыцьця ў каралеўстве схадзіў у нарвежскі кінатэатр. Паказвалі фільм „Код да Вінчы".

2 ліпеня ў нашай Будзе на Бацькаўшчыне адбываецца штогадовы каталіцкі фэст, а я ў Будзе нарвежскай вандрую ў гарах. Начаваў ў паляўнічым доміку, паліў чыесьці цыгарэты і дапіваў чыйсьці сьпірытус пад назваю „Seksti". Мне падабаецца гэтая традыцыя – пакідаць у паляўнічым доміку ня толькі хлеб, соль і запалкі, але яшчэ й алкаголь... Так што не прападзём вандруючы!

6 ліпеня, у басейне з каменным маржом, што паміж лютэранскай царквой і поштай, купаецца дзетвара.

Вечарам швэндаўся па забягалаўках. У „Бровары Кая" бачыў п'яную як зямелька выкладчыцу з нашай школкі для дарослых. У кавярні „Мой пляц" сустрэўся з тутэйшым празаікам Турам. Сьмех і сьлёзы: гэта я, беспрацоўны бежанец, у якога адзіны даход – сацыяльная выплата з касы нарвежскага дзяржбюджэту – прастаўляю тутэйшаму літаратару філіжанку кавы (піва ён не прыняў, бо за рулём).

Ці то кафеіну ў каве было мала, ці то што, але сядзеў мой візаві ні жывы, ні мёртвы, гаварыў пераважна я, хоць і няпроста было – ніякай жа

хвалі эмоцыяў насустрач, нібы палена сядзела перада мной ці які іншапланетнік.

Празаік гэты, Тур Эйнштэйн, вандраваў па Эстоніі, Латвіі ды Літве, быў у Вільні, а пасьля расказаў пра свае ўражаньні і назіраньні ў кнізе „Til” („Туды”), ні разу не ўзгадаўшы пра нашу Краіну, ці хоць бы пра старыя часы Вялікага Княства...

Вандраваў ён у 2002-м, якраз тады, калі я прыехаў у Нарвегію і ўжо *вандраваў* па бежанецкіх перасылках. Кажу яму: „Ты ўжо згадай пра нас, калі ласка, як будзеш наступны раз у нашых краёх аціраццa”.

Дома засудзілі былога рэктара ўнівэрсітэту і былога ж кандыдата ў прэзідэнты, ты ведаеш. Пазасуджвалі маладых паўстанцаў – ты сама мне пра гэта пісала, і я адчуваў, як набракае тваімі сьлязьмі віртуальная прастора і з цяжкасьцю прадзіраецца праз валаконна-аптычныя цянёты твой эмэйл.

Шанцуе мне на сустрэчы з палякамі – і ў гэтым годзе сустрэў аднаго, назваўся Войтэкам. Жыве ў Лондане, як і тысячы ягоных землякоў, а ў Нарвегію прыехаў турыстам, адплываў на Лафатэнскія выспы лавіць траску.

Сястра, прызнаюся яшчэ ў адной афёры: я *выпісваю* да сябе зямлячку Тамару – пазнаёміліся ў нэце. Спрабуем сьпярша легальны варыянт прыезду, хоць і сумняюся, ведаючы адносіны тутэйшых уладаў да гасьцей са славянскага Ўсходу.

Атрымаў з Баргену выніковыя дакументы за курс нарвежскай (падняўся толькі на другі ўзровень – nivå A2 называецца).

Неверагодна! – першы раз за чатыры гады ўбачыў кадры з нашай Краіны, літаральна некалькі секунд пра суд над былым рэктарам, якога засудзілі на пяць з паловай. Гэта расправа, чыстая расправа ўзурпатара над сваім палітычным апанентам!

13 ліпеня дзяржтэлеканал NRK-1 паказаў сюжэт пра польскіх гастарбайтэраў, якіх нарвежскія працадаўцы абдурваюць як толькі могуць: плацяць значна менш, чым сваім грамадзянам; пра аплату медыцынскіх страховак увогуле гаварыць не прыходзіцца... Нарвежскі каментатар так і назваў работнікаў з Польшчы: moderne slaveri – новыя рабы.

Тамары маёй, як і чакалася, нарвежскую візу ў французскім пасольстве не далі (нарвежскага пасла ў нашай Краіне няма). Узлаваўся я ды ўзяў білет на паром да Лафатэнаў. Дайшлі да месца высадкі за чатыры гадзіны. Выгрузіўся, перакусіў каля тутэйшай царкоўкі і сеў на ровар круціць педалі, разглядаць пейзажы і ўзірацца ў перспектыву.

На трэці дзень дарогі пайшоў дождж, захаладала. Але я па-ранейшаму рухаюся наперад, запісваю мае каментары на дыктафон, і гукі Вялікай прыроды, якая, пакуль трывае кароткае запалярнае лета, сьпяшаецца адкаласіць, адгнязьдзіцца, павысейваць ікру, акаціцца, ашчаніца, аджарабіцца, адсьпяваць і адсьвяціць.

Еду, цешуся свабодзе, думаю пра бацькоў і Радзіму. І заўважаю справа закінутага выгляду хатку-домік, ну зусім як наша хата на старым хутары. Праглядаю прылеглую да будынку тэрыторыю, зарослую рэдкім запалярным кустоўем. Бачу слупы і электрычныя драты. Значыць, дом падключаны да цывілізацыі. Вырашаю пад'ехаць: можа чым разжывуся, калі ў гэтым закінутым сквоце ніхто не жыве.

Зьехаў на сьцежку, якая вядзе да дому. Відаць, што па ёй зрэдку ходзяць, толькі незразумела, хто, можа гэткія ж цікаўныя, як і я. Падыходжу і бачу сумны малюнак: у вокнах нейкія надта ж старыя занавескі, каля хаты раскіданая старызна, старыя ж цацкі, кухоннае начыньне, рэбры ад ровараў...

І ніякіх гаспадарчых пабудоваў кшталту студні ці варыўні.

Стукаю ў вакно, суправаджаючы спробу ўсталяваць кантакт з патойбаковым сьветам фразамі на літаратурнай нарвежскай: „Er noen der? Kan jeg be om en fyrstikk?”[18]. Нарэшце ў брудным вакне паказваецца брудны і змучаны твар старога чалавека. Я паказваю цыгарэту, я ўсім сваім выглядам дэманструю, што ў мяне няма дрэнных намераў, я толькі хачу прыкурыць.

Тады заваконны стары адчыняе вакно, раскрывае блок з запалкамі, дастае адну пушку і працягвае мне. Я кажу дзякуй, прыкурваю свой дарожны „Кэмэл” і вяртаюся да ровару. На дварэ неяк асабліва нудна, холадна і сыра. Вось я і разжыўся... пушкай нарвежскіх запалак.

Ужо сеўшы на ровар, заўважаю дзьве кветачкі ў ліпеньскай траве. Гэта мае любімыя гіяцынты. Акажваецца, і тут, за палярным кругам, цьвітуць яны пад кароткім кругласутачным сонцам. І колер такі велікодна-бурачковы. Згружаюся з транспарту, дастаю свой лічбава-мегапіксельны фотаапарат і здымаю. І тут за сьпіною рыпнулі дзьверы і пачуліся галасы – гэта стары выйшаў з дому і тэпае да мяне. За ім дзяўчынка гадоў шасьці і добры шэры сабака.

„Бедны худы стары, – мільганула ў галаве. – ты, як сапраўдны ваяр, выйшаў насустрач небясьпецы, падазраючы ўва мне пагрозу тваёй лядашчай хатцы”.

Яны падыйшлі, і я пачаў тлумачыць, што вось спыніўся, каб сфатаграфаваць кветкі. Сабака ляніва махаў хвастом, штосьці шчабятала дзяўчынка, спрабуючы зьвярнуць на сябе ўвагу. „Вось дур-

---

[18] *„Er noen der? Kan jeg be om en fyrstikk?” (нарв.)* – „Ёсьць там хто-небудзь? Магу я папрасіць запалку?”

ная сітуацыя, – падумаў я ізноў. – А я ж скіраваўся да гэтай хаціны, спадзеючыся абрабаваць яе, калі ня будзе гаспадароў".

Стары нагадаў мне бацьку, якому ўжо 75! Ён часта сьніцца мне, мы дружна п'ём зь ім гарэлку і так добра разумеем адзін аднаго, як ніколі ў рэальным жыцьці... І вось цяпер гэты нарвежскі сухотнага выгляду стары, які спрабуе мне растлумачыць, што хварэў на грудзі, але цяпер яму лепш. І дачка ў яго ёсьць, а гэта – ягоная ўнучка.

Я гляджу на малую, а бачу сваю дачушку Ксеню дзесьці на летува-ліцьвінскім памежжы. Мая дзяўчынка выглядае вельмі энэргічнай, а тутэйшая надта ўжо худзенькая і запушчаная. Дрыжыць ў брудна-шэрага колеру сукеначцы-начнушцы. Што яе чакае у багатай краіне *Паўночнага Шляху*? І хто ейная мама? Наркаманка, якая сплавіла дачку дзеду? „Дзеду", праўда, гадоў 60, ня больш. Стары, змучаны жыцьцём чалавек, гадоў на 15 старэйшы за мяне і настолькі ж маладзейшы за майго бацьку. Ён пераважвае за ўбогі, але ўсё ж свой, уласны агмень, сваё жытло. І таму пачынае раптам распавядаць, што хутка восень, пачнецца паляўнічы сезон, і тады ён стане на лыжы і пойдзе ву-у-унь на тую гару паляваць на горную курапатку. Ён гаворыць і гаворыць: пра сваю хваробу, пра горы, восень і паляваньне... А я, згубіўшы веру ў людскія словы, думаю: бедны, размову пра паляваньне ён завёў, каб даць зразумець незнаёмцу, што гаспадар пры зброі і тым папярэджвае мае магчымыя неадэкватныя паводзіны...

Стары паляўнічы, ягоная ўнучка і добры шэры сабака – ім дзякуй. Гэта знак з вышняга Сьвету, гэта напамін, што ад сябе і Лёсу ўцячы немагчыма. Таму, Сястра, калі ты аднойчы надумаеш наведаць закінуты хутар, то ведай, што там цябе сустрэнуць паляўнічы на белых курапатак, дзяўчын-

ка, якая дрыжыць ад холаду і сьмеласьці гаварыць з незнаёмцам, і маўклівы шэры сабака.

***

Толькі вярнуўшыся на трасу, я ўспомніў, што ў кішані ў мяне ляжыць цэлая шакаладка, а ў заплечніку аж два фоцікі. Доўга дакараў сябе, што не пачаставаў дзіця, не сфатаграфаваў гэтых бедных і беднасьцю сваёй блізкіх і зразумелых мне людзей. Нарэшце паабяцаў сабе прыехаць да паляўнічага на белых курапатак у наступным годзе. Абавязкова прыеду, грунтоўна падрыхтуюся да сустрэчы... Калі толькі лёс не паверне на іншае.

***

Агулам па Лафатэнскіх выспах я прайшоў на ровары 300 км, пачаўшы з Мускенэсу, мінуўшы Лекнес, Стамсунд, Свольвар, зь якога паромчыкам дабраўся да мацерыковага Скутвіку. А ўжо адтуль ізноў роварам да Фаўскі, у якой, праўда, я зусім абляніўся і сеў на цягнік да нашай Буды.

Вандроўка на выспы паддала мне духу варушыцца ў гэтым жыцьці далей, у накірунку да мэты. Праўда, да якой канкрэтна, ведае толькі мой лёс.

***

Іншы раз вечарамі я заходжу ў якую-небудзь піўніцу ў раёне Шклянога Дому. У пятніцу ці суботу, калі тутэйшы *фольк* падцягваецца ў свае публічна-апівошныя месцы. Спачатку я спадзяваўся, што паходы ў кабачок на пару піва дапамогуць

усталяваць кантакты з грамадзянамі нарвежскага Каралеўства. Але, разумееш, не атрымалася. І не атрымаецца. Калі літар піва каштуе 15 еўраў, а каб разьвязаць мяне на размову, патрэбна як мінімум паўлітровая чыстай саракаградуснай, якая пацягне на ўсе 50, то што казаць. Я ж, ты ведаеш, сквапным стаў, жабрацтва навучыла жорсткай ашчаднасьці. Ды і гонару, баюся, у мяне больш, чым у тутэйшага караля. Пакуль я цьвярозы, я гляджу на субяседніка ў лепшым выпадку скептычна.

Ха, раскажу такую гісторыю. Я тут у знаёмага серба ўмудрыўся напіцца харвацкай самагонкі, якую той з адпачынку прыпёр. Сам, халера, каньяк цадзіў, а мяне алкаголем сваіх ворагаў частаваў. Ды без закускі. Вось я і нагрузіўся. Дык во, дайшлі мы да кандыцыі і ў начную забягалаўку пасунуліся. Прыйшлі, уселіся, півам зашліфавалі. Добра стала, скандынавы братамі здаліся. Пайшлі танцаваць, з дзяўчатамі пазнаёміліся... Выйшаў зь імі пакурыць, а назад ўжо вахта не пускае, маўляў, п’яны вельмі. Ну і завязалася некультурная размова, пачаў я блізкія, нават тактыльныя кантакты наладжваць. Не, рук не распускаў, але маўленчаму апарату волю даў – выказаў сродкамі нарвежскай некаторыя патаемныя куточкі маёй крывіцкай душы. Шкада было піва недапітага, што на стале засталося, хоць я яго і не купляў, калі шчыра...

Урэшце прыехала паліцыя – па маёй настойлівай просьбе. Спадзяваўся, што пасадзяць „на суткі”. Дык жа не, чэрці! Прывезьлі ва ўтульнай, белай у сярэдзіне, камеры на калёсах ды і высадзілі каля дому. Маўляў, ідзі і адпачывай, грамадзянін. Дарэчы, турма ў нашым горадку ў самым цэнтры, сімпатычная такая, нядаўна новую агароджу паставілі, з вакна маёй камунальнай кватэркі добра відаць...

Халера, я ж хацеў пра амфетамін напісаць! Дык вось, сяджу я неяк у „Бровары Кая”, абарыгенаў разглядваю, назапашваю, так бы мовіць, уласныя назіраньні. І тут падрульвае адзін з тутэйшых, увесь такі мясісты, так бы і асьвежаваў яго пад Каляды. Гады 22 яму. Размову пачынае па-ангельскіу, а я ж у ёй ні ў зуб нагой. А ён дакладна як наш які-небудзь крутняк з раньніх – усё *чё* ды *чё* па-руску. Гэта наш. Ну а іхны па-ангельску, вядома. Слухаю далей, назіраю. Для дылера хліпкаваты. Сам ужывае, значыць, доўга на гэтай *пасадзе* не працягне, адно перад паліцыяй адмазацца лягчэй: маўляў, не прадаю, а сам ужываю...

Тым часам, дылер за сталом зусім закумарыўся: ня курыцца яму, ня п’ецца, на сон яго цягне, сушыць – відавочныя прыкметы наркамана. Нарэшце гора-нашчадак ваяўнічых вікінгаў плюе – спачатку на падлогу, потым, слухай, у кухаль з рэшткамі піва. „Фак, – думаю, – дачакаўся я неабходных мне кантактаў с мясцовым насельніцтвам! Вось ён, рэпрэзэнтант дабраслаўнай сучаснай Нарвегіі, ува ўсёй сваёй красе...”.

Пасядзеў ён яшчэ крыху, потым страпянуўся, прапанаваў пайсьці ў начную забягалаўку, дзе кебабы прадаюць, – есьці захацеў. Гэта значыць, арганізм ягоны запатрабаваў новай энергіі, каб ачысьціцца ад наркатычнай інвазіі... Я адмовіўся, і ён пацягнуўся да сваёй блізкай мэты адзін – прадавец амфетаміну з далёкай запалярнай Буды, якая стаіць на скальным беразе Заходняга ф’ёрду такой багатай і ўпарадкаванай сёньня Нарвегіі.

... Я больш не хаджу у „Бровар Кая” – неяк, ведаеш ня хочацца піць піва з плявальніц. Я цяпер па выхадных пустыя пляшкі зьбіраю. Іншы раз на вyручаныя грошы купляю бутэлечку, раскладаюся белай запалярнай ноччу дзе-небудзь на беражку, пацягваю невялічкімі глыткамі з пляс-

катай сталёвай біклажачкі, слухаю шум прыбою і ўзгадваю майго таварыша Толіка. Цяпер, калі яго няма, мне трэба жыць і за яго. Кожнаму, кожнаму, Сястра, свой амфетамін.

Добрага дня, Тамара!

Як я і чакаў, нам прыдзецца парушаць ня толькі законы акупацыйнага рэжыму, але і прадпісаньні еўрадэмакратыі, тым болей, што некаторыя правілы ЕС нам якраз і дапамогуць. Табе толькі трэба будзе атрымаць візу ў Фінляндыю, а далей падключацца нашы людзі. Як казалі старажытныя, трэба толькі *валодаць канём, накіроўваць лук і гаварыць праўду*.

А цяпер крыху пра тутэшае жыцьцё. У школе канікулы, таму ўвесь час я ў гарах альбо на рыбе. Нехта зь немцаў зазначыў, што *frei leibt wer sterben kann* – жыве вольна той, хто гатовы памерці. Здаецца, у мяне так і атрымліваецца: я ні ў якім разе не хачу спыніць свой рух раней часу, але імкнуся быць гатовым прыпыніцца назаўсёды. Такое адчуваньне жыцьця дазваляе рабіць тое, што раблю. Вось, напрыклад, 12-га жніўня здаў бутэлькі ў „Rema-1000", бясплатна прыхапіў малаток ды купіў дзьве лямпачкі на 40 WT за 25 крон. 18-га далёка за горадам сустрэў старую пару. Гаспадар спытаўся, ці ня лепш было ў СССР, а гаспадыня распавяла, як яны падарожнічалі па *зялёнай* Польшчы і бачылі многа сторкаў (буслоў). Ну і, вядома, а як жа, – былі ў Кракаве і Аўшвіцы.

Некаторыя паводзіны тутэйшых поствікінгаў не перастаюць зьдзіўляць. Ну хто ня чуў у нас дома пра тое, што скандынавы халодныя і ледзь не затарможаныя, бо вонкава праяўляюць эмоцыі іншы раз больш чым стрымана. Гэта сапраўды так, але тлумачыцца ня столькі арыгінальнай псіхікай, колькі шматгадовай практыкай ў адпаведна аргані-

заваным соцыюме. Каб не пацярпець хуткае фіяска ў барацьбе за месца пад халодным нарвежскім сонцам, трэба як мага менш праяўляць свае пачуцьці, трэба думаць і рэагаваць *у сабе і пра сяб*е. Таму і зьдзіўляе хуткасьць перамяшчэньня нарвежца на звычайнай прагулянцы ў выхадны дзень. Яны не прагульваюцца, не, яны бягуць, чэшуць, пруцца да нейкай сваёй мэты, і назіраць за гэтым хуткасным перамяшчэньнем чамусьці непрыемна. Я спачатку думаў, што гэта проста звычайны тэмп цывілізацыі: бегчы, бегчы да свайго біблейскага апакаліпсісу нават тады, калі на добры толк варта было б проста прайсьціся спакойна, паазірацца па баках і заўважыць, што на зямлі акрамя чалавека жывуць і іншыя праваўладальнікі на чыстую $H_2O$, паветра, сонечныя промні і тэрыторыю рассьсяленьня. Але я, здаецца, памыляўся, бо на прагулках ня ходзяць, а маршыруюць скорым крокам ня толькі дарослыя дапенсійнага ўзросту, але й пенсіянеры. Ну скажы ты, калі ласка, ну пенсіянер куды нясецца стрымгалоў? Хібя ён удзельнічае ў якіх спаборніцтвах на залаты медаль? Адным словам, прыедзеш – убачыш, як тут перамяшчаюцца ў выхадны дзень дзе-небудзь у парку ці ў прыгарадных гарах.

Пра знакамітую ўсьмешку чалавека Захаду раскажу. Ну вядома, чулі мы і пра гэтую легенду: маўляў, там, на Захадзе, людзі такія ўсьмешлівыя, такія прыемныя, адкрытыя, ну проста усьміхаюцца налева і направа... І праўда, усьміхаюцца. але я, добра падумаўшы, не хацеў бы, каб так, як сучасныя нарвежцы, усьміхаліся нашы людзі, часта замораныя надзённымі праблемамі і ад таго часта насупленыя. Насупленасьць нашых зразумелая: ну што крыўдаваць на чалавека, у якога праблемаў гара і ад іх ён ня можа пазбыцца нават на рабоце. Але вось калі ўсьміхаецца тутэйшы,

расьцягваючы скуру на шчоках, а ў вачах – халодная адстароненасьць, і ты, беспрацоўны, нікому тут непатрэбны, ужо падаесься насустрач, думаючы, што вось яна, усьмешка надзеі, вось нехта хоча падаць табе руку сяброўства ці хоць бы прыяцельства, ці проста падае знак, што гатовы зразумець цябе, а можа і падтрымаць, але... не, не, гэта толькі абарончы аскал, так усьміхаюцца рабакопы ў галівудскіх баевіках альбо прастытуткі на Карла Юхана ў Осла… Тамара, у нас пахмурныя на кожным кроку: я моршчу лоб, ты паглядаеш незадаволена, але мы разумеем, што і само жыцьцё хмарнае, і рэдка паказваецца з-за аблокаў свастычны знак удачы, і за нашымі насупленымі позіркамі няма іншых пачуцьцяў, якія не адпавядалі б нашаму вобразу, бо на нашых тварах толькі тое, што мы адчуваем у дадзены момант.

Тамара, я лавіў сьмерць усьпешкі заходняга чалавека; я бачу яе ці ня кожны дзень, асабліва ў дзяржаўных канторах і прыватных крамах. Ты сама адчуеш, як твар, які толькі сьвяціўся насустрач табе сьвятлом усьмешкі, імгненна робіцца мёртвым, і з яго спаўзае ілжывае аблічча ілжывай радасьці, як *расплаўлены кіт*[19] *спаўзае па ваконнай шыбіне.*

Я не ўсьміхаюся ім у адказ. Ну хіба што ў той шчасьлівы момант, калі буду ўваходзіць з самаробнай бомбай у вагон перапоўненай пасажырамі электрычкі, якая ходзіць паміж аэрапортам Гардэмуэн і сталіцай Каралеўства.

Паважаны Прафесар!

Дзякую, што запрасілі на міжнародную канферэнцыю „Дарогі свабоды ў культурах Сярэдняй і Ўсходняй Еўропы”. Я мог бы сёе-тое расказаць на

[19] *Кіт* – ваконная замазка.

гэтую тэму, толькі вось прыехаць да вас ў Прагу ну ніяк не магу. Вы не паверыце, але ў мяне няма магчымасьці крануцца з Каралеўства далей нарвежска-шведскай мяжы. У краіне, якая ратавала калісьці нашых дзядоў нансэнаўскімі пашпартамі[20], я ня маю ня тое што пашпарту, але ўвогуле ніякага сур'ёзнага пасьведчаньня асобы. Ну хіба што машынапісны простакутнічак так званай банкаўскай картачкі, на якой ужо выцьвітаюць літары, – я паказваю яе ў нашым Ашчадбанку, калі атрымліваю грашовую дапамогу ад гарадской камуны. Так і жыву – з думкай пра *дарогі свабоды* і дзе іх шукаць...

Дарэчы, Прафесар, я ня стаў бы дзяліць нас, Усходнюю Еўропу, на геаграфічна меншыя кавалкі. Такая дзяльба не дадае яснасьці, хутчэй наадварот. Для еўрапейскага Захаду нашы краіны ляжаць на Ўсходзе, і ніякіх сярэдзінаў! На Ўсходзе, прафесар, зь якога да іх ўжо пайшла танная рабочая сіла...

*Дарогі свабоды*... Ёсьць два генеральныя напрамкі, паводле якіх мы пракладаем гэтыя шляхі перамяшчэньня.

Адзін з іх – шлях да матэрыяльнай, фінансавай незалежнасьці. Шлях, на якім здабываюць капітал, Прафесар. Другі – гэта пошукі Ідэі, духоўнага апірышча; гэты шлях, пракладаючы які, шукаюць Грааль вызваленьня, шукаюць Чысты Дух, які несувымерна мацнейшы за дух нажывы матэрыяльнага. Зразумець, да якой ты дарогі падрыхтаваны, бывае складана, а то і немагчыма. І тады чалавек увогуле зьбіваецца з усіх дарог, арыента-

---

[20] *Пашпарт Нансэна,* альбо Нансэнаўскі пашпарт быў выпушчаны ў 1922 спачатку для савецкіх грамадзянаў, пазьней для ўсіх, хто ня меў звычайнага агульнаграмадзянскага. Ініцыятыва нарвежца Фрыт'ёфа Нансэна была прызнаная ўладамі 52 краінаў.

цыю губляе, слухае толькі элементарныя фізіялагічныя поклічы.

Давайце, Прафесар, я Вам раскажу крыху пра *мае дарогі свабоды*. Дык вось, цяпер я пракладаю іх аж за нарвежскім Палярным Кругам. Спачатку было нязвычна і сорамна – падымаць пустую тару, якую выкідваюць 16-гадовыя бэйбусы, праязджаючы па трасе на сваіх першых, яшчэ пакуль ня новых, „аудзі", „хондах" і „бумерах". Спачатку, выходзячы на трасу, я пачынаў асабліва востра адчуваць, хто я. Ніяк немагчыма было адрабіцца ад адчуваньня свайго паэтычнага, мастакоўскага велічнага і самадастатковага *Я*. А яго абавязкова трэба было адключыць, адсунуць убок, прагнаць з поля аб'ектыўнай самасьвядомасьці, каб без высокага нэрвовага напружваньня зьбіраць пустыя бутэлькі на дарогах Нарвегіі. Пяць гадоў мне спатрэбілася, Прафесар, каб разьмежаваць свае „высокія" і свае „нізкія" я-сьвядомасьці. Я стаў шматаблічны, як інда-кітайскі Будда. Цяпер я з чыстым сумленьнем выходжу на вуліцы нашага гарадка і згінаюся, каб падняць пластыкавую пляшку з-пад піва. Сарамлівы румянец больш не залівае мае шчокі. Я стаў прафесіяналам, Прафесар. Я далучыўся да вялікага брацтва зьбіральнікаў пустое тары. Як натрэніраванае вока злодзея-кішэньніка выхоплівае з прывакзальнага натоўпу прыдатную для мануальнай аперацыі ахвяру, так і я ўжо прывычным позіркам сканірую прастору ў радыюсе 180° вакол сябе і заўважаю то „шыйку", то „срачку", то нагрэты вясеньнім сонцам „бачок" 350-грамовай бутэлечкі з-пад тутэйшага півасіка. Цяпер нават калі я іду па вуліцы зусім па іншых справах і раптам заўважаю пустую бутэльку, зь мяне выскоквае азартнае *Я* зьбіральніка тары і камандуе: вунь неахайна прылегла жывая „крона", трэба падняць, падняць... Здараецца, што і

падымаю ў нерабочы час. Але рэдка, бо не заўсёды маю пры сабе адпаведны пакет на тару. А іншы раз бываю ну ў вельмі элегічным настроі, чысьценькі, паголены і пад гальштукам, і ў такія рэдкія моманты ня хочацца займацца перанастройкай сваіх абліччаў і сутнасьцяў.

Асабліва *ўраджайнымі* на тару бываюць выхадныя – ночы з пятніцы на суботу і з суботы на нядзелю. Ведаеце, Прафесар, народ і тут і п’е сабе, і гуляе, жывы народ, як і ўсюды ў сьвеце, адно што больш арганізаваны, ды і работу баіцца згубіць, таму п’е-гуляе строга па выхадных.

На свой промысел выходжу я а 4-й ночы, калі, напітыя-нагуляныя, грамадзяне Каралеўства нарэшце пакідаюць піўніцы і выходзяць на вольнае паветра. У гэты момант пачынаецца самае цікавае: ужо дайшоўшы да адпаведнай стадыі ап’яненьня, народ тым ня менш, даганяецца: п’е гарэлку й піва ў пад’ездах, у галерэі Шклянога Дому, на беразе ф’ёрду і ў іншых зацішных месцах. Я ўжо даўна вывучыў усе таемныя начныя сховы падгулялага народу. Іншы раз я там знаходжу цэлыя ўпакоўкі нераспачатага піва, і тады і ў мяне бывае сьвята, калі з першымі промнямі раньняга запалярнага сонца я вяртаюся, нагружаны пустою тарай, у сваю камунальную кватэру на Зямельнай вуліцы.

Кожны раз пасьля збору я старанна вымываю рукі, прымаю душ, пераапранаюся ў хатняе з абавязковай белай кашуляй, і раблю сабе няхітры раньні сьняданак. Прыемна бывае выпіць на адзіноце піўца, разважаючы над рознымі вялікімі і малымі пытаньнямі жыцьця і сьмерці, болю і радасьці, ловячы сябе калі-нікалі на думцы, наколькі ж нечаканымі бываюць *дарогі свабоды,* на якія ты ступаеш.

Як сабе хочаце, Прафесар, але раскажу яшчэ

крыху са свайго штодзённага жыцьця. Напрыклад, пра блышыны рынак нашага гарадка. Знаходзіцца ён на вуліцы з цікавай і блізкай мне назвай „Вялікае Балота”, Працуе праз тыдзень, звычайна ў пятніцу й суботу. Я прыходжу, як правіла, па пятніцах, акурат перад адкрыцьцём. Пазьней няма сэнсу, бо цікавыя носкія і прыдатныя да ўжываньня рэчы разьбяруць як міргнуць вокам (людзі, яны, Прафесар, усюды людзі, нават у аж занадта багатай Нарвегіі).

Злуе мяне на блышыным адна старая (усё лепшае перахапіць стараецца). Чорт яго ведае, шаноўны, ну на якога ражна пенсіянерцы блышыны рынак?! Ёй самой пара зносіць сваю старызну на дабрачынныя распродажы, якія штовосень арганізоўвае мясцовы Чырвоны Крыж. Дык жа не, старая прысабечніца, моладзі фарт перабівае!.. Ну ды нічога, я таксама на блышыным руку набіў, ого. Купляю толькі тое, што вельмі патрэбна, а вынесьці без аплаты ну ніяк нельга. Звычайна гэта вялікія рэчы. Вось намёт аднаго разу прыйшлося купіць – сплю цяпер у ім ужо другое лета, калі выпраўляюся ў горы. Альбо мілыя старэнькія лыжы 60-х гадоў з бамбукавымі палкамі ды скуранымі раменьчыкамі для рук – не дачакаюся сезону, калі можна будзе стаць на іх і па сьляпуча-белым сакавіцкім сьнезе прайсьці кіламетраў трыццаць па нашых загарадных гарах... Яшчэ зручную вялікую сумку на колцах мусіў купіць – чакаю цяпер свайго трыюмфальнага вяртаньня на Радзіму.

Ну вось, а драбязу я бяру так сабе, бясплатна. Не купляць жа, сапраўды, тое, што выкідаюць на *дарогі свабоды* як ужо непатрэбнае гаспадарам. Вось, напрыклад, набраў калекцыю чаравікаў, практычна новыя, няношаныя, розных фасонаў і колераў.

Антыкварныя драбноскі люблю, якія запаляр-

ны народ прывозіць з цёплых і нават гарачых краін: афрыканскія маскі, сувенірны кубак з Маёркі, гішпанская кераміка, грэцкая вазачка... Неяк удалося адшукаць бронзавы сталовы прыбор невядомага паходжаньня. Рамкі бяру выключна драўляныя і металічныя (ведаеце, прафесар, нават блукаючы ў другасным сьвеце блышынага рынку, трэба пільнавацца стылю і ўдасканальваць яго).

Адзеньне і драбязу я ўпакоўваю ў прыбіральні, а потым пакідаю наш лопемаркед з незацікаўленым выразам твару. Займальная, скажу я Вам, гульня. Як сказаў дзесьці Курт Вонегут, *навошта гуляць у выдуманыя гульні, калі на сьвеце так многа сапраўднай гульні.*

А цяпер крыху зацемак з майго Дыярыюшу.

15 кастрычніка пазваніла знаёмая прыбіральшчыца, запрасіла на купаньне. Я думаў, мы ў якую вячэрнюю саўну падскочым, а прывезла – куды б Вы думалі? – на рэчку! Іх было трое – шафёр, яна і сяброўка. Выскачылі – і ў раку. Ім добра было, захмеленым, а я цьвярозы. Ну ды мусіў далучыцца, акунуўся ў кастрычніцкія воды запалярнай ракі. І хто мне цяпер скажа, што нарвежцы халодныя?!

На другі дзень у навінах перадалі, што Нацыянальная бібліятэка Нарвегіі выкінула многа дакументаў 100-гадовай даўнасьці. Як аказалася, пераявлі паперы ў электронна-пластыкавы варыянт і тым самым вызвалілі ў запасьніках шмат месца для новых паступленьняў.

21-га, п’ю чырвонае ўругвайскае віно, пішу і чытаю. У вокны шыбанула першая сьнежная крупка, але, як раіць той жа Вонегут, *не зьвяртай увагі на Цэзара, Цэзар зусім не разумее, што сапраўды робіцца навокал.*

25-га кастрычніка выпаў першы сьнег. Памножыў на бібліятэчным прынтэры здымкі дачкі Ксені – Сястра мая названая даслала іх зь Вільні

па электроннай. Ведаеце, Прафесар, калі ў цябе ёсьць дачка, прыходу якой ты чакаў усё сваё маладое жыцьцё, то можна вандраваць на любых дарогах – нават на тупіковых. Ты свабодны, калі дзесьці, няхай нават ня побач, расьце твая дачка…

5-га лістапада. Ну вось і засудзілі Садама Хусэйна да кары праз павешаньне – шыбеніца, адным словам. Цяпер трэба чакаць выбуху гвалту, бясконцага крывавага тэрору…

3-га сьнежня. Вечар. Першая нядзеля Адвэнту. Чытаю Канфуцыя: *лепш запаліць маленькі агонь, чым праклінаць змрок…*

Сёньня зямлячка Тамара скінула эсэмэску, што яна ўжо выехала да мяне. Разумееце, да мяне Жанчына жыць едзе! Так што мушу разьвітацца з Вамі Прафесар. Пайду рыхтавацца да вялікіх пераменаў.

## 2007

### Жыцьцё з Тамарай; гераіня ўдакладняе Аўтара; лізунчык Магнус; пільнае вока народаўладзьдзя; Гамсун.

Добры дзень, Тамара!

Я тут падумаў, можа нам успомніць наша супольнае, правесьці такую сабе ўспаміна-тэрапію, а раптам і сапраўды стане цяплей і крыўды адпусьцяць душу – і тваю, і маю?..

Памятаеш першы дзень 2007-га? Ты вышывала, я пісаў дзёньнік. У сярэдзіне дня мы ізноў пасварыліся: ты хацела пазваніць сваім на Радзіму, а я казаў, што з аўтамату не атрымаецца, толькі грошы згубім.

3-га студзеня ты схадзіла ў бібліятэку. Пасьля вяртаньня парадкавалася ў лядоўні, а я мыў падлогу.

Вечарам бедавалі, ці пусьціць Расея праз нашу Краіну газ, як гэта рабілася доўгія гады дагэтуль.

7-га было тваё Раство, Багатая Куцьця. На наступны дзень хадзілі да вады і ў царкву, якой аж 750 гадоў і якая, што праўда, сьпярша была касьцёлам, пра што сьведчыць старая драўляная скульптура і абразы. Пратэстанты прыйшлі пазьней, але каталіцкага ўбраньня кранаць ня сталі...

Вечарам таго ж 8-га дня студзеня мы хадзілі з табой ў горад. У краме для швачак-вышывальшчыц я ўкраў табе кравецкі мэтар коштам 25 крон. Па дарозе назад я падняў адну пустую пляшку, а ты другую. Я саромеўся, але ты сказала: „Па-любому!"

10-га студзеня здымалі на відэакамеры адыход парому „Палярнае ззяньне", а 14-га на блышыным рыначку да цябе прыстаў пільны дзядок, патрабаваў, каб паказала, што ў сумцы. Але ты трымалася мужна і дзядок адваліў ні з чым.

16-га ў цябе ізноў пайшлі *mensis*, і гэта азначала, што ты ізноў не змагла зацяжарыць.

20-га студзеня мы былі з табой у гарах. Нямала прайшлі, надыхаліся марозным паветрам. Я быў задаволены маёй жанчынай. На другі дзень ты распавядала пра аднаго нашага крутога землячка – твайго суседа па дачы, у чыйго сабачкі манікюр на лапах. Лішне казаць, што я ад гэткіх тваіх апавяданьняў моцна, гістэрычна злаваўся.

5-га лютага я пайшоў на так званую маўленчую практыку у дзіцячы садок, прычым бясплатную. Пад канец зьмены прыйшлося аднаму малому і срачку падцерці.

А 8-га лютага, памятаеш? – мы былі на блышыным, які арганізавала Армія Выратаваньня. Я тады ўзяў жоўтую скураную куртку (залатога ланцуга да яе толькі і не хапала).

13-га ў Аляксандра Вярцінскага вычытаў: *„Лучше сундук дома, чем пуховая постель на чужбине"*.

У садку я ў той дзень назіраў неверагодную карцінку. У абед за сталом дзеткі найбагатай у сьвеце краіны грызьлі памазаныя маргарынам сухарыкі (нейкія традыцыйныя нарвежскія) і запівалі... вадой! І ў гэты ж самы час выхавацелька выкідвае ў сьметніцу дзьве ўпакоўкі сасісак. Не разумею. Ці яны ад сытасьці падурнелі, ці тут што іншае?

14-га лютага ты правяла тэст на цяжарнасьць, але ізноў нічога. Настрой у мяне быў ніжэй за плінтус. (*На самой справе вынік тэсту быў станоўчы, Генрыхавіч. Лічу, што тут трэба выправіць. Інакш па тэрмінах не супадае нічога. Адкуль тады выкідыш?*)

16-га вадзіў цябе у шпіталь на абсьледваньне. Пашанцавала, спаткалі там летувічанку зь Вільні, Эрыку, так што вы зь ёю абышліся без перакладчыка.

22-га лютага ізноў былі ў бальніцы – табе забалеў жывот і пайшла была месячная кроў, але, казала ты, нейкая сьветлая. Баяліся пазаматачнай цяжарнасьці, правяралі цябе ультрагукам. Тады ж ты прызналася, што ў цябе толькі адзін яечнік... (*І тут памылка: Тамара пісала Аўтару, што перанесла аперацыю па выдаленьні яечніка падчас першай цяжарнасьці*). У нашага доктара Эрыкі трое дзяцей у Вільні, самой сорак гадоў...

26-га ў цябе быў самавольны выкідыш, пайшла кроў з кавалкамі зародку. Гармон плоднасьці і гемаглабін падалі... (*Вядома, што гармон „харыянічны ганадатрапін" – гармон цяжарнасьці, калі цяжарнасьці няма – гармон арганізмам не выпрацоўваецца. Калі пісаць дакладна, трэба напісаць толькі „Гемаглабін падаў". Разумею, што такія дэталі вядомыя адно сьпецыялістам ды чытачкам-жанчынам. Але калі пісаць, дык пісаць дакладна*).

Пры разьвітаньні летувічанка Эрыка, чую, і кажа: „Второго апреля поеду в Вільнюс *парадка-*

*ваца*.” Мы тады доўга з табою гаварылі на тэму жывучасьці нашай роднай мовы.

1-га сакавіка хадзілі ў гандлёвы цэнтар „Горад Поўначы”, заказалі заручальныя пярсьцёнкі, заплаціўшы палову кошту. У той жа дзень прынёс табе з дзіцячага садку рудога ката – каб ня надта сумавала, чакаючы мяне з бясплатнай работы.

6-га сакавіка мяне выгналі з маёй бясплатнай маўленчай практыкі ў садку. Ты, памятаю, павесялела была, што мне ня трэба будзе раніцай пакідаць цябе адну ў цёплай пасьцелі... А выгналі мяне, бо пяцігадовы лізунчык Магнус нагаварыў на мяне бацькам сваім, нібыта я біў яго. Ну а я ж добры дзядзька – пачаў апраўдвацца замест таго каб цьвёрда заявіць: агавор!.. Але як рабіў я ў садку „за дзякуй”, дык і расстаньне было без шкадаваньня. Хоць і прывык, прывык да малых: яны ж не вінаватыя, што дарослыя вучаць іх усялякай лухце.

А 7-га, памятаеш, як сёмага сакавіка хадзілі на мол? Памятаеш, як дзівіліся з аднаго старога тутэйшага гаспадара? Ён падняў быў з яхты невялікі акумулятар кіль на 10, ня больш, але ня стаў яго несьці да машыны, якая стаяла метраў за 100 ад лесьвіцы, а спачатку схадзіў завёў яе, пад’ехаў і толькі тады паставіў свой груз у багажны адсек аўтамабіля.

Памятаеш, як мы адзінагалосна вырашылі, што вось такімі паводзінамі заходнееўрапейцы і адрозьніваюцца ад нас. Бо *наш чалавек* ня стаў бы каніцеліцца туды-сюды, а проста прайшоў бы тыя сто метраў з акумулятарам, здароўе ягонае ад гэтага ну ніяк не пагоршылася б...

Так мы думалі тады і, я спадзяюся, думаем і цяпер.

У дзень майго нараджэньня ты прасавала мне рубашкі і падкарочвала штаны. Дарэчы, табе самой мы шукалі ў гэты дзень штаны па ўсім нашым

невялікім гарадку. Ня так і проста аказалася адшукаць памер 58/60. Але ўсё ж я знайшоў потым і купіў табе адпаведны прыкід на срачку. Цікава, ты дагэтуль іх носіш?

Яшчэ пра мову нашай знаёмай летувічанкі Эрыкі. Памятаеш, як мы прыйшлі да яе на чарговы прыём, а яна і кажа: „Вы тут подождите, пойду *пereниму* дела". Гэта ж яна хацела сказаць „перайму", але тут гэты вялікі і магучы рускі ўблытаўся ёй між зубоў. Як добра, што ты ў мяне так ёмка гаворыш па-нашаму.

А памятаеш, 13-га ў аўторак я прынёс з начной зьмены перцу, а ты заўважыла па надпісах на ўпакоўцы, што чырвоны і зялёны перац – з Гішпаніі, а жоўты – з... Ізраілю. Пасьмяяліся. Ты выбрала жоўты і зрабіла вячэру а 1-й ночы. На другі дзень я прынёс табе з блышынага дэдэрон на вокны і дзьве гліняныя талеркі з геаметрычнымі ўзорамі.

16-га сакавіка ноччу я вучыў цябе езьдзіць на ровары. Шкада, што не было каму зьняць на відэа. Такія атрымаліся б кадры!

29-га па нашым дапатопным TV глядзелі фільм „Vinterland" („Зімовая краіна"). Пра жыцьцё курдаў у Нарвегіі, пра тое, як адзін з іх запрасіў да сябе з Іраку жанчыну, якую ведае толькі па фотаздымках і голасе ў тэлефоне. І вось яна прыязджае, поўная... і ўсё такое.

Кіно аказалася пра нас. І скончыўся сюжэт акурат як наш: яны разьвіталіся.

На Вялікодным тыдні былі ў лютэранскай царкве, слухалі арган. У Чысты чацьвер ноччу была вялікая бура, валіў мокры сьнег. З начной прынёс... кукурузы – памятаеш? Закуплена была ў Кітаі, расфасавана у Трандхейме (каля 800 км ад нашай запалярнай Буды).

У гэтым годзе Вялікдзень быў супольны – каталіцка-праваслаўна-жыдоўскі. Ці не таму і над-

вор’е такое дрэннае ўвесь тыдзень? Як на знакамітыя „жыдоўскія кучкі” (Вялікдзень паводле жыдоўскага календара).

У пятніцу 13-га (!) напісала мне Сястра зь Вільні некалькі словаў пра дачку маю, якой ўжо 7 гадочкаў адбыло. Піша, што дзяўчынка абыякавая да цукеркаў і ўпартая: калі настаўніца пачынае „цiснуць” на ўроку, дык мая маленькая вучаніца ўвогуле замаўкае. Ну дакладна, як я, мой характар!

А 18-га мы з табою глядзелі ну вельмі ж арыгінальную перадачку для нарвежскіх малых, у якой дзетак вучылі адрозьніваць... экскрэменты жывёлаў.

27-га красавіка зямляк адзін пытаўся, ці ня супраць я, калі ён прыедзе да мяне са здымачнай групай – фільм здымаць. Ну вядома ж я ня быў – ня мог быць – супраць!..

Хадзілі вечарам у кіно, паглядзелі забароненую ў нас на Радзіме кінастужку „300 спартанцаў”, у якім распавядаецца пра супрацьстаяньне цара Леанідаса з персідскім войскам пад старажытнымі Тэрмапіламі, пра што вучылі мы трыццаць гадоў таму ў школе.

У кіназалі мы сядзелі ў 5-м радзе на 6-м і 7-м месцах.

15-га мая былі з табою на рыбе. Я тады траску выцягнуў кілі на дзьве. А яшчэ ракаўку – мы яе потым высушылі і слухалі, прыкладаючы да вуха, як яна пяе-шуміць марскім прыбоем і вадаспадамі.

Вечарам жа ты сказала, што ў цябе ізноў пайшлі нейкія нездаровыя матачныя выдзяленьні. І зноў было нам перажываньняў. І зусім мала надзеі, што ты зможаш нарадзіць, жывучы з адным плодным яечнікам.

16-га мая здаў іспыт на права працаваць на партовых электра- і паліўных пагрузчыках. Поштай прыслалі пластыкавае пасьведчаньне – яшчэ адно ў калекцыю нескарыстаных дакументаў.

Ад няма чаго рабіць паглядзелі фільм „Касабланка”, а пасьля я пераклаў з нарвежскай верш „Адзінота”.

А яшчэ пазьней ездзіў у начную і прывёз нам мех індыйскіх гранатаў (2 шт. ва ўпакоўцы, 10 крон цана). Запланавалі з табою паход у горы.

25-га сьмяяліся, чытаючы гумарыста N. Вось як пра мяне:

*„Дальше или ближе –*
*всё одно и то же.*
*Можно и в Париже*
*получить по роже”.*

А вось як пра цябе:

*„Харитонов Нестор –*
*человек-оркестр.*
*А Тамара М. –*
*женщина-гарем”.*

Не крыўдуеш? Не крыўдуй, на мяне ня варта крыўдаваць...

27-га мая была Тройца паводле праваслаўнага календара, і ты расказвала мне, як у гэты дзень на апосталаў сыйшоў Дух сьвяты і яны пайшлі прамаўляць слова божае на ўсіх мовах.

Па тваёй просьбе пайшлі мы тады ў касьцёл, а па дарозе я ўспомніў, што ня ўзяў з сабой ні кроны, каб даць на ахвяру. І, памятаеш, толькі мы гэта абмеркавалі ўслых, як бачым акурат у нас пад нагамі крона ляжыць. Гэта было моцнай падтрымкай тваёй веры і добра прысараміла маю няверу ў хрысьціянства.

Але нячысьцікі ў касьцёле мяне ўсё ж круцілі. Раздражнялі людзі. Я ня бачыў, што яны прыйшлі ў храм: жанчыны, акрамя некалькіх афрыканак,

зь непакрытымі галовамі; адна з неверагодным дэкальтэ нават на кафедру ўзьбілася была і нешта там чытала. Ну і, вядома ж, дзеці, многа дзяцей, грудні́чкоў у кошычках, – кневаюць, пішчаць... Чыста як ў ясьлях ці дзіцячым садзе, а гэта ж храм божы!

А тата адзін – не памятаю, ці гэта пры табе было? – заходзіць у касьцёл, у правай у яго люлька з малым, дык ён левую памачыў у ваду і хрысьціцца. Слухай, і як яна ў яго не аднялася ў той жа момант?

А вечарам, памятаеш, вечарам, пасьля касьцёлу мы глядзелі кінасэрыял пра Нюрнбергскі працэс, у якім Рудольф Гес аддаваў чэсьць (салют гонару) характэрным амерыканскім жэстам: прыкладаньнем пальцаў да непакрытай галавы. Мы яшчэ падумалі, гэта звычайны галівудскі пракол ці тонкі зьдзек рэжысёра? Зрэшты, як бы яно ні было, а выглядала агідна і нерэальна...

3 чэрвеня была нядзеля і мы з табою адпачывалі ад вандроўкі ў горы. Мне здалося, што ты за час паходу вельмі стамілася. Ну прызнайся, ты ж ніколі раней столькі не хадзіла, ды яшчэ па гарах? І потым, твае 120 вагі... А мне што, я свае 68 нашу прысьвістваючы, я з малых гадоў сярод Прыроды, як рыба ў вадзе, як птушка ў паветры... Я скакаў па гарах, рады, што са мною побач любімая жанчына, але ты, ты, мне здаецца, у той самы момант асабліва востра адчувала, што мы з табою ня зможам доўга быць разам... Калі мы вярталіся з вандроўкі, як пелі птушкі! Прывітальна патрасалі хвосьцікамі пліскі, кукавалі зязюлькі... А якая пяшчотная была трава вакол нашага намёту: якія аксамітныя і чыстыя атожылачкі на гонкіх баровых елках! Але ці бачыла ты тады ўсё гэта? Ці чула?..

5-га чэрвеня мы былі ў бібліятэцы і ты, седзячы побач, напісала мне электронны ліст-разьвітаньне. Праз дзень ты перадумала, і мы ізноў паміры-

ліся. Я марыў пра наша агульнае дзіця і прасіў лёс, каб у нас усё атрымалася.

9-га ізноў пацягнуў цябе ў падарожжа – тым разам на выспу Добрая Зямля. Да яе мы дабраліся на марскім водным таксі, потым доўга ішлі дарогай, дзівіліся на маленечкія бульбяныя атожылкі і ўзгадвалі, што ў нас на Радзіме бульба ў чэрвені ўжо пачынае зацьвітаць... А памятаеш, як цябе ў даліне атакавалі кусьлівыя мошкі, і ты прасіла мяне хутчэй спускацца з гары і ратаваць цябе?

13-га чэрвеня зямляк напісаў, што ўжо білеты забраніравалі да Осла на 7-га ліпеня. Я тады не даў веры і меў рацыю: здымачная група дабралася да мяне толькі ў канцы жніўня – з-за перашкодаў і зацягваньняў з еўра-скандынаўскага боку.

На Купальле, калі памятаеш, я езьдзіў адзін на рыбу, а ты заставалася адна ў кватэры. Па тым, як няўдала сасмажыла ты прынесеную мной рыбу, я зразумеў, што мая Тамара ўжо не са мною, ня тут, за Палярным нарвежскім Кругам, а там, у Краіне Залатога Міжзем'я...

26-га ты спакавала сумкі і скардзілася на болі ў правым баку, а 27-га я пасадзіў цябе на самалёт да Осла. Ужо а палове на пятую я прачытаў у тэлефоне тваю электронную запісачку: „Селі ў Хельсінкі, холадна, дождж".

У Менск ты вярнулася 29-га, а я ў гэты час разводзіў у дзёньніку сентыментальныя возгры. Вядома, было дрэнна, бо за паўгоду сумеснага жыцьця я прывык да твайго вялікага цёплага цела, ціхага голасу... Я толькі з адным не пагаджаўся – быць без дзяцей. Аднойчы ў жніўні ты скінула мне на мабілу:

„16:32. У нашым горадзе сьпёка, у канторы адчынены ўсе вокны і дзьверы; вось зараз каля мяне лётае здаравенны, яркі і прыгожы матылішча... Пакуль пісала – вылецеў... Пахне сенам – учора каля канторы траву касілі...

... Толькі вось правая нага баліць, галёнка апухла і чырванее, памерам як далонь, агнём пячэ, так баліць. Мама сказала – рожа.

17:39. Пайшла з работы раней, яшчэ да доктара пасьпею...

19:46. Ну вось, доктар пацьвердзіў: рожа, стафілакокавая інфекцыя. І адкуль гэта ў мяне?

20:00. Усе кажуць, што рожу добра лечаць бабкі-шаптухі. Во ўляпалася, блін! Генрыхавіч, а скіньце мне сэмэску, што Вы мяне любіце!..".

... Так вось міла ты пісала мне днямі А я, я ў гэты час працягваю назапашваць свой неверагодны жывапісна-паэтычны вопыт. Вось, напрыклад, учора, 18-га, зайшоў да суседа-„чэха", а ён мне давай паказваць ролікі Каўказскай вайны... Інгмар Бергман, якога, дарэчы, учора ж пахавалі на адной са шведскіх выспаў, – дык вось, Бергман, што называецца, адпачывае як рэжысёр на фоне гэтых інфернальных ролікаў, у якіх рускія забіваюць каўказцаў, а каўказцы адразаюць галовы рускім...

Пакуль у адным месцы ідзе траўленьне металаў сокамі жывой чалавечай плоці, у нас тут ідзе пратраўка цела духоўнага. Ну вось ну ні ў якіх снах ня сьніў я тое, што ўбачыў акурат сёньня ў адной кніжцы пра гомасексуалізм. Не, нічога такога, ніхто нікога ня рэжа, проста два здымкі, каляровыя, якасныя. На адным указальны палец мужчынскі – брудны, з завусенцамі і даўгаватым няроўным пазногцем. На другім фотаздымку – той жа пальчык, толькі чысты і з абрэзаным пазногцікам... І тлумачэньне аўтара кніжачкі: брудным нельга, а чыстым – можна... Тут застаецца толькі працытаваць нашу зямлячку, пісьменьніцу Надзю Лахвіцкую (Тэфі): *„Чем культурнее страна, тем спокойнее и обеспеченнее жизнь нации, тем круглее и совершеннее форма её дураков"*.

***

Паўтары месяцы, паўтары! – адрабіў у тым дзіцячым садку, як ты памятаеш, мая балючая. Адрабіў бясплатна, і называлася мая работа *маўленчай практыкай у межах праграмы інтэграцыі замежнікаў у нарвежскае грамадства*. А ўрэшце і выгналі, і не шкада...

Але пачакай, і ўспамінаць трэба па-парадку. Дык вось, адміністрацыя да мяне прэтэнзіяў ня мела: я прыходзіў на работу дакладна ў абумоўлены час і гэтак жа дакладна рабочае месца пакідаў. Я часта дапамагаў на кухні, прыглядаў за дзецьмі на двары, раздаваў ім *сухпаёк* падчас абеду, мяняў падгузьнічкі і дзьмухаў на пабітыя ілбы. У мяне нават любімчыкі завяліся: чатырохгадовыя Эдда і Эрык Юхан. Эдда ўмела вельмі міла падскокваць, а Эрык Юхан у абед любіў трушчыць бананы.

І быў сярод тых пацешных дзетак *лізунчык Магнус* – хлапчанё гадоў пяці з паловай, ня шумны і ня ціхі, толькі ўжо з першай маленькай праблемкай – увесь час аблізваўся, ды так заўзята, што даставаў да дзюрачак у носе. І ўяві сабе, вяртаецца гэты Магнусік з двара, дзе малыя штодня гуляюць паўтары-дзьве гадзіны, а ў яго каля роту гэткі сабе Палярны Круг – налізаў на марозе. Вось таму ён і застанецца ў нашай гісторыі лізунчыкам.

Была ў Магнусіка і яшчэ адна праблемка (зрэшты, як і ў многіх малых, чые срачкі расслаблены памперсамі) – ён какаў у штонікі. Аднаго разу наваліў, відаць, нямала, бо страх як сьмярдзела. Праўда, выхавальніцы ня вельмі каб і шукалі прычыну „водару”: падыходзіла 4-я надвечар, і бацькі пачыналі забіраць сваіх галавасьцікаў дадому. А назаўтра выхавацелька Астрыд і кажа: ах, гэта наш Магнус усікаўся. Такі сабе нарвежскі паліткарэктны эўфемізм: калі дзіця ўсралася, то значыць яно ўсікалася.

Быў я аднаго разу сьведкам працэсу таго ўсіканьня. Бяжыць неяк гэты Магнусік і раптам спыняецца, тварык скісае, як ранішні сырадой; бярэ ён пальчыкамі свае штанцы на срачцы і адцягваючы іх, спрабуе дайсьці да прыбіральні. Падыходжу, кажу, што ўсё добра, ня варта плакаць, і дапамагаю маломy. Хлапчук прыціх і нават перастаў калупаць языком у носе. Дальбог, у той момант мне здалося, што нешта такое Лізунчык затаіў супраць мяне.

І вось аднойчы, вяртаючыся з двара, хлапчукі раздухарыліся і пачалі са мной штурханіну. Настрою ў мяне не было, таму спыніў я іх імгненна і рэзка. Тоўсты Эрлін супакоіўся, а вось лізунчык Магнус адбегся і пакрыўджана ўткнуўся ілбом у сьцяну. Цяпер я ведаю, што ў той момант ён думаў, як раскажа бацьку, што нейкі чужынец з дрэннай нарвежскай балюча трэс яго за карак. А вядома, што у Нарвегіі ніхто не мае права ўздымаць руку на дзіця, нават бацькі, – можна трапіць за краты...

На другі дзень аб 11-й выклікалі мяне да дырэктаркі і сказалі, што тата нашага Магнуса вельмі абураны і добра, калі абыдзецца без паліцыі.

Так скончыўся мой моўна-ментальны эксьпірыенс у адным маленькім запалярным калектыве.

***

Камуна сталіцы каралеўства адмовілася разьмяшчаць на сваёй тэрыторыі помнік каралю Улаву Пятаму работы Кнута Стэена. Галоўная прычына адмовы ў тым, што мэру сталіцы мармуровы кароль з паднятай рукой нагадвае дыктатара.

Старэнькі Кнут працаваў над статуяй 6 гадоў, і хоць дзесяць іншых камун хацелі паставіць помнік любімаму каралю на сваіх тэрыторыях, скульптар заявіў, што на знак супраціву ліберальнаму прэ-

сінгу ў культуры хоча пахаваць свайго каменнага героя з адпаведнымі цырымоніямі ў Італіі – там, дзе ён і створаны. Праўда, пасьля аўтар перадумаў, і вось ўжо дзяржаўны тэлеканал паказвае, як, падтрымліваючы з двох бакоў пад рукі, выводзяць скульптара на скалісты бераг нейкага ф'ёрду, дзе будзе стаяць ягоны помнік...

Прайшоў час. Мармуровы кароль Улаў, умураваны ў скальную пароду, сустракае вялікія караблі і рыбацкія шхуны, а былога мэра Осла, які забараніў устаноўку помніка ў сталіцы, з ганьбай адправілі на пенсію – нарвежскія правыя раскапалі, што мэр меў рахунак у замежным банку і не даплачваў у казну Каралеўства падатак з даходаў.

***

У бібліятэцы нашай Буды, дзе мы з табой элегантна *пазычалі* атожылкі розных вазонных расьлін, знайшоў я кнігу Кнута Гамсуна „На зарослых сьцяжынах" 1949 году выданьня. Гэта дзёньнік, хроніка падзеяў ад моманту арышту пісьменьніка за несвоечасовыя сімпатыі да нямецкай культуры, ягонага сядзеньня ў доме для старых і ў псіхбальніцы з 1945 па 1948-ы.

Ёсьць у кнізе і пра наш Нурланд: „Але нават у Нурландзе, у Сальтдальскім павеце, заходзячы ў дом, паслухмяна заціснуўшы падпахай шапку, мы казалі „Мір вашаму дому!" і „Памагай, бог!" тым, хто працаваў, а выходзячы, жадалі заставацца ў міры".

„Што ж гэта такое – прадчуваньне вясны, гэта жывёльнае пачуцьцё, якое кожны год хвалюе душу?" – пытаецца Гамсун, якому ўжо за 80, і адказвае: „Бог яго ведае. Жанчына-місіянер на чужыне, напэўна, назвала б гэта поклічам радзімы, каб надаць адчуваньню рэлігійны і містычны

сэнс. Я, наадварот, па цьвярозым разважаньні даю літаральнае тлумачэньне: гэтае пачуцьцё зьвязана з домам і радзімай. Мы імкнёмся да вытокаў, мы хочам вярнуцца дамоў. У чужых краях прадчуваньня вясны ня чуеш, хіба толькі нешта здрыганецца ўсярэдзіне як знак удзячнасьці да новага для нас месца. Але гэта здрыганецца ня сэрца".

„Ня раз і ня два неба пасылала мне азарэньне, але я вельмі дрэнна адлюстроўваў ягоныя промні".

„Праз многа гадоў я спаліў напісаныя мной вершы ў печы кацельнай аднаго гатэлю ў Будзе".

„Зімой нас часта пужалі, што грыфы зьлятаюцца да старога еўрапейскага дому. Няхай так. Але хіба ніхто ня чуў сёньня рана дзікіх гусей? Надыходзіць вясна".

Так пісаў вялікі нарвежац Гамсун на сконе свайго доўгага і гераічнага жыцьця.

***

Я нарэшце расшыў нашу агульную сямейную коўдру, якую, здаецца, толькі ўчора ты сшывала з двох халасьцяцкіх, і пад якой я хаваўся побач з тваім салідным арганізмам. Толькі сплю па-ранейшаму на сямейным ложку – мой адзінарны ўкралі з кладоўкі...

Бывай і... чакай, мая запалярная жоначка! Я абавязкова вярнуся...

*Эпілог*

Дзень добры! Прыйшоў час парушыць волю аўтара і прызнацца: мяне завуць Вільман. Гэта маё сапраўднае імя. Усе ранейшыя калі і былі агучаныя, дык так, дзеля праформы, бо Аўтар не нада-

ваў ім асаблівага значэньня. Між тым любы аб'ект, жывы ён ці не, рухомы альбо статычны, – павінен быць названы. Без імя даволі прывіднымі выглядаюць факты нашай прысутнасьці ў сьвеце.

Адпаведнае зьместу імя – гэта ўводзіны ў прадмет вывучэньня. Нават тады, калі пачулі мы пра яго ў эпілогу. Так што будзем знаёмыя: Вільман, неадменны факт прысутнасьці, суседства і ў пэўнай ступені нават параднёнасьці з вамі.

Прызнайцеся, чытаючы гэтыя пісьмы, вы ў іх знаходзілі многа свайго, блізкага; пад некаторымі допісамі вы падпісаліся б без ваганьняў, а некаторыя эмоцыі хацелі б нават прысвоіць. Толькі гэта немагчыма. Ніяк.

А тым часам у „Эпілогу" Аўтар просіць мяне яшчэ раз наведаць далёкія Рыбныя Выспы, якія абарыгены называюць Лафатэнамі. Ён хоча ведаць, як там жыве ягоны герой цяпер, праз пяць гадоў пасьля таго, як яму было дадзена імя „Паляўнічы на белую курапатку".

Я падпарадкоўваюся волі Ствральніка імёнаў і віртуальных узаемінаў. Я плыву на выспы, я перасякаю іх з поўдня на поўнач. Я энэргічна кручу педалі, нібы мне 15, а не 50 (вось вам і пра ўзрост мой цяпер вядома); я ўдыхаю на поўныя грудзі густы акіянічны ёдзіста-салевы дух.

Я задаволены сабою і ўдзячны Аўтару, які зрабіў мяне акурат такім, якім я ёсьць.

Адным словам, я ў гуморы. Ды не надоўга. Раптам сонца засьцілаюць хмары, мацнее вецер, пачынаецца дождж. Разам з сонцам прападае і мой настрой. І акурат у гэты момант позірк мой выхоплівае з гушчыні дробналістага запалярнага кустоўя абрысы жоўтага двухпавярховага дому – дому, у якім павінен жыць любімы герой Аўтара – Паляўнічы на белую курапатку. Але дух няжыласьці і заняпаду сноўдае вакол будыніны; мне нават ста-

ла неяк нядобра і вусьцішна, калі я ўбачыў разьбітыя вокны, зь якіх скразьнякі высмыквалі зрыжэлыя ад часу занавескі...

Гэтым разам ніхто ў доме не адгукнуўся на мае воклічы, ня выйшаў насустрач – праз разьбітую шыбу ўваходных дзьвярэй я нэрвова прасунуў руку, адкінуў зашчапку і ўвайшоў у будынак.

Магчыма, я і парушыў які-небудзь закон. Магчыма, што дамы, пакінутыя людзьмі, павінны занепадаць і чаўрэць на адзіноце. Але я ўвайшоў – на свой страх і рызыку. Нейкая сіла далучанасьці да лёсу гэтага дому штурхала мяне з пакою ў пакой, з першага паверху на другі...

На першым была спальня дачкі Паляўнічага, вытрыманая ў колеры артэрыяльнай крыві. Ложак быў гэткі ж ярка-чырвоны, як і шпалеры. На імгненьне здалося, што гэта кавалак сонца застыў пасярод пакою. І толькі сінтэтычныя шторы на ўсходнім вакне колерам сваім нагадвалі даўно нежывую менструальную кроў, якая калісьці пайшла была ў самы разгар любошчаў.

На нутраной сьцяне, акурат над узгалоўем ложка, віселі даччыны граматы за найлепшыя сачыненьні па роднай літаратуры за 8-ы й 9-ы класы сярэдняй школы, 87-ы і 88-ы гады мінулага стагодзьдзя. Экзаменацыйнае сачыненьне за 9-ы клас называлася: „Эйдсвол і Дзень Канстытуцыі 17-га мая".

„Цікава-цікава", – бурчэў я сабе пад нос, разглядаючы граматы, так падобныя да адпаведных дакументаў часоў СССР.

З дзявочай спальні мяне вынесла ў кухню. Над лядоўняй, прыколатыя шпількамі проста да сьцяны, віселі каляровыя здымкі 5-6-гадовай даўніны, на якіх можна было пазнаць залатавалосую з рыжаватымі пералівамі дачку Паляўнічага, ейную малую гадоў шасьці і самога бацьку й дзеда ў асобе высьмяглага выгляду мужчыны гадоў пад 70.

Гледзячы на здымак дачкі Паляўнічага, на ейны неверагодных памераў бюст, залацістыя пасмы па плячах і сьляпуча-белыя сьцёгны, я ліхаманкава ўяўляў, якіх вітальных нашчадкаў мы маглі б зрабіць агульнымі намаганьнямі, каб лёс быў да нас больш літасьцівы і дазволіў нам сустрэцца. Аднак ня лёсіла. Акурат у той год, калі я атрымаў дакумент аб легалізацыі на тэрыторыі Каралеўства, дачка Паляўнічага, адзіная бацькава гадаванка, паехала паступаць у сталічны ветэрынарны інстытут. Што праўда, паступіла. Але ўжо пад канец другога году вучобы дзяўчына-кроў з малаком упэўнена сядзела на гераінавай дозе, за якую аддавала большую палову бацькавай пенсіі. Ужо нарказалежная, яна нараджае дачку – тую самую дзяўчынку, якая выйшла разам зь дзедам, каб паглядзець, хто ж там наведаў быў іхны самотны хутар.

Гэта было 5 гадоў таму.

А цяпер няма нікога ў пустой, загружанай сьмецьцем і экскрэментамі, хаце.

У доме можна было яшчэ жыць і жыць – дрэва добрае, сухое, не відаць, каб гніло ці яго тачыў які грыбок. Дрэва яшчэ трывае, а людзі не змаглі. Слабыя гэта стварэньні – людзі. І прычына гэтаму – розум, здольнасьць сьвядомасьці да прагрэсіўнай самакрытыкі як формы ментальнага рэгрэсу.

Мне было неяк нядобра ад таго, што прыйдзецца засмучаць Аўтара расказам пра канец Дому Паляўнічага. Адно суцешыла: у пакойчыку на другім паверсе я знайшоў на падлозе старыя, яшчэ даваеннага часу, кнігі, а сярод іх і цэлы пачак нататнікаў, аўтарам якіх аказаўся той самы Паляўнічы на белую курапатку – карэнны лафатэнец Людвік Келвік.

З падарожжа на Рыбныя Выспы я вяртаўся пад руку й волю Аўтара, везучы апошняму сапраўд-

ныя, зафіксаваныя на старонках старадаўніх прыватных дыярыюшаў, імя і прозьвішча майго колішняга самотнага візаві і мімалётнага героя гэтага апавяданьня, дачка якога закончыць сваё жыцьцё на 28-м годзе ад перадозу, а ўнучку аддадуць у дзіцячы дом.

Я вяртаўся, перыядычна гневаючыся і на Аўтара, містычная воля якога асуджала мяне на бясконцую адзіноту сярод нецікавых мне раманных персанажаў; і на краіну, якая адным сваім батлеечным выглядам выклікала вострае жаданьне прыйсьці і заваяваць яе.

Падчас апошняй стаянкі, звонку ўгрэты вогнішчам, а зсярэдзіны – сытнай юшкай, я сьніў поліфанічныя сны: лексічныя запасы і семантычныя лакуны нарвежскіх дыялектаў; эратычнае прыдыханьне гутарковай і пупок прынцэсы Марты; донную рыбу квейту ды імклівую пругкацелую макрэль... Сьнілася, што дзесьці недалёка жыве мой нарвежскі двайнік – рыбак, паляўнічы, вандроўнік і гэткі ж самы адзінец. І разам зь ім мы высьніваем і гэты сон, і эпілог...

У канцы кнігі мы выпраўляемся на вайну. Аўтар дае зразумець, што лепш нам пайсьці добраахвотна, не чакаючы мабілізацыі. Тады мы зможам заняць зручныя пазіцыі для атакі, абароны і адступленьня.

„Так ці інакш, усе мы загінем”, – пераконвае Аўтар.

Я не пярэчу. Урэшце рэшт, „*існаваньне ў Нарвегіі не дае рэальнай карціны жыцьця, кажу я сабе. У гэтай краіне пухне ў банку тысяча мільярдаў крон. Лічба гучыць як казачная. Як лічба, узятая са столі; лічба, якая паказвае, што грошай гара. А між тым гэта рэальная лічба. Нарвегія мае ў капшуку тысячу мільярдаў крон нафтавых грошай. Кожны раз, калі з-за канфліктаў у сьвеце*

*сусьветныя цэны ўзьлятаюць, Нарвегія стрыжэ купоны. А саміх нас, нарвежцаў, адзін-два, і ўсё. Як мы можам распарадкоўвацца нафтай на марскіх шэльфах ці энэргіяй горных рэк? І ўвогуле – прадаваць ці купляць што б там ні было? Каго з нас хоць раз, пад настрой, не наведала гэтае пытаньне? Таму што Нарвегія жыве за ваколіцамі рэальнага сьвету. І ўсё больш і больш адасабляецца ад яго. Нейкія ў мяне занадта правільныя думкі, я мяркую. Ну і халера на іх, няхай будуць хоць сабе ідэальныя, калі яны на карысьць.*

*Наш маленькі караван ідзе* з *Нарвегіі ў вялікі сьвет. На ўсход. Мы пачнём паляваць, займацца зьбіральніцтвам, выменьваць патрэбнае нам у іншых людзей. Якіх я, магчыма, палюблю больш за тых, з кім жыў побач у Нарвегіі. Альбо не палюблю зусім. Час пакажа.*

*І гэта крыжовы паход. Мы салдаты і будзем біцца да апошняга воіна.*

*Супраць узорнай правільнасьці. Супраць глупства.*

*Таму што там, далёка-далёка, ідзе вайна”*[21]

---

[21] Разгорнутая цытата з кнігі нарв. пісьменьніка Эрлена Лу „Доплер” (Erlend Loe. „Doppler”, roman. Z.W.Cappelens Forlag a.s., 2004).

# КНІГА ДРУГАЯ

## 2008

**Новы пашпарт;
экскурс у Вікіпедыю; інтэрв'ю для NRK[22];
каментатар Марцін; Adecco; перарабляць чужую работу; драпіны філасофіі на целе тэксту;
стрэльбы на возеры М'ёса;
Махмуд і Фроя; дыяспара.**

**Генрыху, брату ў веры**

... Сьпяшаюся падзяліцца навіной: мне, нарэшце, выдалі другі нарвежскі пашпарт імігранта! Першы, калі памятаеш, спыніў сваё існаваньне ў сьметніцы стакгольмскага аэрапорту ў 2005-м.

Ну, што праўда, і гэты праіснуе нядоўга – праз год трэба будзе атрымліваць новы. Тут так, на дробязі не разьменьваюцца, штампы не ставяць, а калі прыходзіць пара, дык мяняюць увесь дакумент...

Цікава, колькі іх у мяне яшчэ будзе, маіх нарвежскіх імігранцкіх пашпартаў?

[22] *NRK (нарв.)* – аб'яднаньне дзяржаўных радыё- і тэлеканалаў Нарвегіі.

Так ці інакш, цяпер я магу перамяшчацца па Еўропе без праблем. Удакладняю адразу: па заходняй яе частцы, якой яшчэ ў 20-ыя гады 20-га стагоддзя прарочыў заняпад і канчыну Освальд Шпенглер у сваёй вядомай рабоце „Канец Еўропы".

Еўропа... Прастора, дзе паўстаюць гарады-сімвалы і нараджаюцца транскантынентальныя філасофіі і ваяўнічыя ідэі; дзе энергія чалавецтва эякулюе міжнароднымі войнамі і перманентным тэрорам; дзе народы заходзяцца ў аргазмах рэвалюцыяў і на шляху да маральнага ўдасканаленьня рэжуць глоткі суседзям...

І вось у гэтым кантэксьце, у гэтым цывілізацыйным вігваме мы таксама павінны нарэшце распаліць свой агонь. Бо каля чужога вогнішча мы не сагрэемся у чужым полымі мы можам толькі згарэць.

Вучоныя-лінгвісты не бяруць на сябе сьмеласьць з пэўнасьцю заяўляць, адкуль паходзіць імя-назва „Еўропа". Міфолагі, напрыклад, кажуць, што так звалі фінікійскую каралеўну, якую скраў і зьвёз на Крыт бог Зевес.

Этымолагі расшыфроўваюць слова „Еўропа" як „шырокавокая", а лексікограф Гесехій перакладае: „краіна захаду", альбо „цёмная".

Як бы там ні было, а сёньняшняя Еўропа – гэта плавільны кацёл цывілізацыяў і народаў, увесь пакрыты нагарам ад ранейшых пераплавак прамінулых культураў, плямёнаў і рэлігіяў...

Хацеў табе нейкай статыстыкі, нейкіх фактаў наварочаць, але прачнуўся ўва мне раптам строгі дзядзька стыльрэдактар і як адрэзаў: „Ну хопіць, хопіць, тут не газэтныя шпальты, таварыш Вільман, таму публіцыстыка павінна быць абумоўлена задачамі мастацкага тэксту, і ня больш за тое".

Так што, брат, зрабі ласку, даступныя факты пра Еўропу пашукай у віртуальных старонках сам, а я пастараюся заставацца ў межах арыгінальнага.

***

У канцы студзеня маё інфернальнае існаваньне абудзіў тэлефонны званок з Осла. Жаночы голас прасіў аб сустрэчы, каб запісаць размову са мною для FM-радыёканала „P2”, які ўваходзіць у аб’яднаньне дзяржаўных тэле- і радыёканалаў Нарвегіі. Я, вядома, згадзіўся: а як жа, успомнілі, пацікавіліся, як жыве і што думае пра гэта ўсё *салдат нябачнага фронту вайны за сваё!..*

На другі дзень пасьля званка журналістка – сухапарая кабета гадоў пад сорак – ужо сядзела ў маёй камунальнай кватэрцы на камунальнай жа канапе і круціла галавой па баках, дзівячыся на занавешаныя таўстымі шторамі вокны. Я не стаў ёй тлумачыць, што жыву на першым паверсе; што агульная плошча вокнаў маёй кватэры большая за плошчу сьценаў, а суседзі – не талерантныя і законапаслухмяныя нарвежцы, а рознаверныя і рознакаляровыя прыхадні, якія, як і я, любяць зазіраць у чужыя вокны, і мне не хацелася б, седзячы на ўнітазе ў ванным пакоі, напружвацца яшчэ й пад іхнымі зацікаўленымі позіркамі...

Я не стаў ёй тлумачыць, і мы перайшлі да асноўнай тэмы гутаркі – бежанства. Я першы раз за жыцьцё даваў інтэрв’ю на чужой мне мове, маўленчай практыкі, фактычна, ніякай, і адказы атрымліваліся павярхоўнымі і часта дэкларатыўнымі. Але я стараўся як мог, з наіўнасьцю, вартай лепшага прыкладаньня, папярэджваючы тутэйшых, што ўжо хопіць, напрымаліся чужынцаў, ліміт вычарпаны, грамадства больш не пераварвае чужамоўны элемент. І, як вынік перабору, ужо фармуецца паралельны нарвежскаму ісламафільны іміграцкі соцыюм...

Інтэрв’ю прагучала на FM-радыё „P2”, у нейкай малааўдыторнай культурніцкай праграме, і рэзка

мне не спадабалася. Ды і як магло спадабацца адчуваньне, быццам мяне выхвасталі мокрай анучай няўдзячнасьці, пры гэтым надаваўшы эпітэтаў кшталту „расіст”, „фашыст” і да таго падобных.

У якасьці каментатара карэспандэнтка радыё *Janne Kjelleberg* запрасіла нядаўняга выпускніка Осла-ўнівэрсітэту *Марціна* П. Гэты П. быў невысокага росту, з бародкай, характэрнай для персанажаў, якіх простанародзьдзе называе пархатымі, і яшчэ ў 2002-м ці нават раней пераклаў на нарвэжскую некалькі маіх вершаваных рускамоўных опцыяў. Больш за тое, мы з таварышам П. нават асабіста знаёмыя і ціснулі адзін аднаму ручкі, калі не памятаю ў якім годзе па маёй ініцыятыве сустракаліся ў сквэрыку, што насупраць Стортынгу. Тады я наіўна спадзяваўся, што нарвэжскі перакладчык маіх агрэсіўных эмоцыяў дапаможа мне пратачыцца ў ліберальны лівер нарвэжскага грамадства. Але не туды тое, ня выйшла. Нечым я таварышу Марціну быў не спадабаўся. Ну а каментары ягоныя да маіх адказаў паставілі тлустую кропку ў нашым *аднаразовым знаёмстве*.

Чым больш я праяўляю волю, Брат, тым больш я залежу ад цела. Неяк так. Аднак воля праяўляецца не сама па сабе, яна падпарадкоўваецца ясна сфармуляванай мэце: арганізоўваць і разьвіваць *сваё* жыцьцё і максімальна *па-свойму*. Я, брат, наскрозь чалавек ідэі, ідэаліст, я гляджу ў сьвет... не, не праз ружовыя акуляры, але як інструмент у руках Абсалютнай Гармоніі і Парадку. Мяне нэрвуе неабавязковасьць і неўпарадкаванасьць славянскага сьвету, да якога я прыналежу ўсім сваім артэрыяльна-вянозным балансам. І разам з тым мяне ўводзіць у ступар ярасны германа-скандынаўскі орднунг, даведзены да ступені абсурду...

Адным словам, няпроста таму, хто бачыць Залатое Сячэньне Гармоніі як Мэту, да якой толькі і

варта імкнуцца. Што было б для мяне жыцьцё без імкненьня да Ідэалу? Ну хіба што часовым нейрафізіялагічным і фізіка-хімічным працэсам абмену рэчываў. Нецікава.

А тым часам, у якім бы я ні знаходзіўся грамадстве, кожнае з іх патрабуе ад мяне зусім не прыгожых, складзеных у гарманічныя фразы, словаў, а ўменьня хутка ўкручваць шурупы ў гіпсакартонавыя сьцены будучых банкаўскіх кантораў і спрытна шараваць вантузам у італьянскіх унітазах.

Днямі, брат, я аддаў сябе ў паднайм таямнічай арганізацыі Adecco. Шчыра кажучы, калі я падпісваў дамову, я слаба разумеў яе сутнасьць. Дакладней, я разумеў, што мяне наймаюць, каб даваць работу. Але ў чым палягае функцыя Adecco?

Сёньня палез у Інтэрнэт і, нарэцшe, разабраўся: я заклаў сябе, сваю фізічную сілу міжнароднай кодле гандляроў рабсілай. Кажучы культурна, Adecco – міжнароднае таварыства па камплектацыі рабочай сілай. У мінулым тысячагодзьдзі ў савецкай арміі такіх *камплектатараў* называлі *купцамі*.

Adecco ў Нарвегіі – адно з найбуйнейшых аб’яднаньняў такога кшталту. Больш за 100 аддзелаў і кантор па краіне, звыш 8 тысяч супрацоўнікаў. Пакрывае рабсілай часовыя і пастаянныя рабочыя месцы ў нарвежскім прыватным і дзяржаўным сектарах.

Як я ўжо заўважыў, Adecco з’яўляецца лідэрам на рынку рабочай сілы Нарвегіі; гандлёвы баланс – 3 мільярды 500 мільёнаў нарвежскіх кронаў. Паслугамі таварыства карыстаюцца звыш 6000 працадаўцаў, якія плоцяць за адну рабочую галаву ў сярэднім 200 тысячаў крон. Колькі зарабіць сам рабочы – залежыць ад яго мускулатуры і пакладзістасьці.

Я ўсё гэта да чаго распавядаю? Ды проста каб узгадаць, што нішто ў нашым сьвеце не зьнікае –

проста прымае новыя формы. Adecco – сучасны аналаг колішняга рымскага форуму, на якім вольныя рымскія грамадзяне прадавалі сваіх рабоў.

У 2008-м годзе 21-га стагоддзя на такім сучасным форуме прадаўся і я.

Далей заказчыку мяне прадавала ўжо Adecco, а, дакладней, – сярэдняга веку жанчына, тыповая скандынаўка з пластылінавай усьмешкай, якая была непасрэдным маім „куратарам”. Як звычайна, яна званіла мне, калі была замова на выкананьне якой-небудзь некваліфікаванай цяжкай работы: разгрузка-пагрузка тавару на складах і ў крамах, дапаможныя аперацыі на будоўлях...

Вітаю, Сястра!

Бачу, згасае наша перапіска. Што ж, гэта лагічна; так заўсёды – чым далей у жыцьцё, тым менш хочацца ўжываць вербальныя знакі, тым больш хочацца маўчаць...

У канцы красавіка мяне накіравалі ў суседні гарадок Фаўску перарабляць чужую работу – з дошак, якімі высьцелены гарадскі прычал, выкручваць жалезныя шурупы і замяняць на новыя з нержавейкі. Нехта памылкова прыкруціў дошкі звычайнымі, якія ржавеюць. Не ведаю, ці іржа скарачае функцыянальны тэрмін дрэва, ці – і гэта цалкам магчыма! – нехта з гарадскога начальства палічыў, што іржавыя галоўкі будуць псаваць падножны выгляд праменаднай зоны, але факт, што цэлы тыдзень пад дажджом, сьнегам і ветрам мы – я і яшчэ некалькі маладых нарвежскіх работнікаў – спрабавалі выкручваць гэтыя шурупы.

Марны занятак! Горш за тое – дурны! Галоўкі старых шурупаў праз адзін зрываліся, а самі яны заставаліся ў дрэве. Тады побач са старымі мы ўкручвалі новыя, і выглядала гэта яшчэ горш... Урэшце рэшт, нашую пустую работу спынілі, а я вярнуўся ў

сваю запалярную Буду і да адназначна менш неразумнага занятку – пісаньня й і чытаньня.

А праз некалькі дзён з’явіўся ў мяне вось гэты верш; які я назваў фінансавай паэмай:

12 рабочых дзён у красавіку
перараблялі чужую работу
(дурны і няўдзячны занятак) –
на пірсе выкручвалі
праіржавелыя шрубы-шурупы:
ракам альбо на каленях,
да ламаты ў касьцях
у 40-гадовай сярэдзіне,
у паясьніцы-сьпіне.
Адкрыты ўвесь час ветру,
салёнаму ветру з ф’ёрду,
я ўпарта кручу-выкручваю
і ўпарта ў сабе выпешчваю
работніка-пралетара
для будучых цяжкіх бітваў
за хрумсткі еўрарубель
і высокаактанавы NOK[23]...
Дык вось: 12 рабочых дзён у красавіку,
135 NOK за гадзіну адну працы.
7,5 рабочых гадзін у дзень.
135 X 7,5 = 1012,5 NOK у дзень.
1012,5 X 12 дзён = 12150.
12150 NOK: 8 (дзе 8 NOK = 1 еўра) –
гэта будзе 1518,75 еўра.
Але не забыцца, што
**12150 мінус 36% падатку = 7776 NOK,**
**дзе 7776 – мой чысты заробак**
за 90 гадзін работы.

[23] *NOK* – нарвежская крона.

II

Мой гуманітарны прытулак
у каралеўстве нарвежскім
палягае на грунце скальным
і – грашовым эквіваленце
ў памеры 4600 NOK штомесяц
Плюс 3 тысячы дзьве восем дзевяць
NOK – аплата за кватэраваньне,
плюс у сярэднім на 1800 за 2 месяцы
набягае аплаты за электрычнасьць.
Таму падрахуем:
4600 + 3289 + 1800 = 9689.
Як бачна, рабіць няма сэнсу,
і я
*Застаюся паэтам.*

Дарагі Брат!

Я хоць і атрымаў пашпарт, а па-ранейшаму адчуваю сябе невыязным, бо цяпер маю свабоду перамяшчэньня абмяжоўвае недастатковая сума грошаў. Зрэшты, чалавек гэта такі феномен, якому заўсёды мала. Мала, чаго б гэта ня тычылася – фінансаў, славы, любошчаў, зямлі, тэрыторыяў... Мала!

Мала і мне. Але, ты ж ведаеш, я — эканаміст. Я эканомлю кожнае ойрэ[24] і кожную крону. Бацька навучыў. Бацька жыў адным днём. Бацьку прывучыла так жыць бальшавіцкая ўлада і слабае здароўе роду Альхімёнкаў, якія зьміралі на мяжы ад трыццаці да пяцідзесяці, а хто дацягваў да паўвеку – лічыўся старажылам роду...

З году ў год бацька жыў *адным днём*. І рэдка калі гэты дзень абыходзіўся бяз „чарачкі", у якой

[24] *Ойрэ (нарв. øre)* – манета, 1/100 нарвежскай кроны, з-за інфляцыі апошняй ойрэ (*øre*) больш не ўжываецца.

патанаў з галавой дабрабыт нашай сям'і. Гадамі я назіраў, як „чарачка" ператварала *дабро ў гаўно, чыстую сьлязу* чалавечай працы ў жоўтую мачавіну з адценьнем пладова-ягаднага.

І аднойчы я сказаў сабе: не, баста! – мы будзем жыць так, нібы наш дзень – гэта сто гадоў наперад; і таму мы не сьпяшаемся; мы эканомім, зьбіраем, урабляем сябе і свае думкі, прарастаем, пускаем карэньні ў сваю глебу і шумім кронаю ў нашай прасторы; і чым больш мы эканомім, тым гусьцей шуміць нашая верхавіна.

Я эканаміст, Брат, я назьбіраў на білет да земляка ў Фінляндыю і на зваротную дарогу. У сакавіку я наведаў нашага былога вулічнага байца і цяперашняга фінскага імігранта Лявона. Шчыры ён і даволі наіўны дзядзька, і я люблю яго як сваяка, толькі што імя, імя ягонае мяне натапырвае і не дае расслабіцца. „Лявон", – прамаўляю я ў думках, і тут жа мне ўяўляюцца разьбітыя чобаты ў куце й кажух на лаве, ад якога тхне кіслым. Аднак, калі паглядзець у пашпарт „Лявона", то там знойдзеш зусім не яго, а „Леаніда". І гэтае імя выклікае зусім іншыя асацыяцыі: за „леанідам" чамусьці узьнікае „ленін", калючы дрот і лагернае сёрбалава; а ўжо за гэтым усім „дабром" выпукліваецца, як галоўка фаласа з крайняй плоці, нехта „левін" з лупавокай і кручканосай фізіяноміяй местачковага карчмара...

Таму вось хоць ты што рабі, а не люблю я „лявонаў". І гэтага народнага галашэньня, гэтай „Лявоніхі" не пераварваю. Іш ты, чаравікі ён ёй купіў. А за якія такія сродкі? І з кім сапраўды быў той „Лявон"? І як звалі тую „Лявоніху"?

... З нашым фінскім земляком мы тыдні два цярпелі адзін аднаго; па чарзе залазілі на палок ягонай дамашняй фінскай лазенькі, дыскутавалі падчас вячэры: я хваліў сваё, зямляк – замежнае.

Калі ж мы ішлі ў праваслаўную царкву, у якой служыў філіпінец, я паказваў земляку на чорны ад сажы сьнег і цьвяліў яго: „Глядзі, зёма, акурат як у нас у сталіцы! І трэба ж было табе наш чорны крывіцкі мяняць на чорны фінскі?”

Зямляк заўважна нэрваваўся, але яго хутка адпускала, як і мяне, і мы яшчэ доўга блукалі па індустрыяльных ускраінах гарадка Оўлу, услых фантазіруючы, як хутка бяз нас зьмяняецца наша Сталіца: гадуюцца дома ягоныя ўнукі і пакрываецца цяжкім кантынентальным пылам пісьмовы стол у маёй нежылой кватэры.

Да земляка ў Фінляндыю я дабіраюся *дарогаю Баранца*, якая пачынаецца на ўзьбярэжжы паўночнай Атлантыкі і завяршаецца на беразе Баранцавага мора, злучаючы такія розныя сьветы – славяна-рускую Поўнач і Поўнач саама-Скандыі. *Дарогу Баранца* я называю *Шляхам на Поўнач*. На Поўначы нарадзілася цывілізацыя Белай Расы, на Поўначы мы і ўратуемся. Мне адчуваецца так, а пачуцьці, як вядома, не вымагаюць лагічных доказаў. Нашыя пачуцьці ёсьць наша адмысловая, базавая праўда...

Вітаю, дарагі зямляк і сябра партыі Вызваленьня!

У сярэдзіне чэрвеня я наведаў старую добрую Крыстыянію, на вуліцах якой у канцы 19-га стагодзьдзя заходзіўся ад голаду герой рамана Гамсуна „Голад”. 120 гадоў таму яшчэ не было супермаркетаў, за фасадамі якіх стаялі б салідныя металёвыя кантэйнеры для харчовых адкідаў, і загнуцца ад голаду ў сталіцы нарвежскай правінцыі было цалкам рэальна.

У сёньняшняй нарвежскай сталіцы голад не актуальны – актуальная адсутнасьць сяброў, таварышаў ці хоць бы знаёмых. Прынамсі, у мяне іх не было, калі я праз 15 гадзін язды ў транснар-

вежскім экспрэсе ступіў на бетонныя пліты чыгуначнага тэрміналу паўмільённага горада Осла. У заплечніку быў плакат з надпісам „Гады жыцьця бяз пашпарту ў краіне Нансэна”, зь якім я планаваў стаць пад сьцяной Стортынгу. І я сапраўды зрабіў спробу пікетаваньня: прыхінуў плакат да агароджы, адступіўшы, сфатаграфаваў яго і сябе побач. Мая цалкам незаконная акцыя доўжылася некалькі хвілін, потым з дзьвярэй Стортынгу выйшаў ахоўнік і растлумачыў, што да чаго: я проста павінен атрымаць дазвол і потым магу пікетаваць хоць да пасіненьня на сьвежым нарвежскім паветры. Пры гэтым ахоўнік дапамог мне згарнуць плакат, пажадаў добрага дня. Ні табе штрафаў, ні затрыманьняў на 15 сутак...

Пачынаўся цудоўны, ясны-ясны, сьветлы-сьветлы нарвежскі Палярны Дзень сярэдзіны чэрвеня. Я крыху пашкадаваў, што мая першая тутэйшая грамадска-палітычная акцыя так хутка скончылася і рушыў з сваім начыньнем у бок Фрогнар-парку, які часьцей называюць паркам Густава Вігеланда, скульптуры якога ўпрыгожваюць цэнтральную частку парка і добра вядомыя за межамі Нарвегіі. Напрыклад, стэла-стод, „Кола жыцьця”, альбо „Хлопчык, які злуецца”... Вігеланд надзвычай вітальны скульптар, проста геніяльны ў сваёй вітальнасьці; ён адчуваў прыгажосьць і веліч чалавечага цела акурат як гэта адчувалі старажытныя грэкі і рымляны; і якраз грэка-рымскае разуменьне прыгожага ён увасобіў у сваіх каменных і бронзавых творах першай паловы 20 стагодзьдзя.

Калі ты аднойчы наведаеш Каралеўства і яго сталіцу, то, вядома, не абмінеш і Фрогнар-парку. За брамай галоўнага ўваходу пачынаецца цэнтральная прысада. На ёй будзе што паглядзець. У аб’ектыў твайго фатаграфічнага апарату і відэакамеры будуць трапляць бронзавыя і каменныя клубы,

грудзі, плечы Вігеландаўскіх атлетычных жанчын; адзінокія, з дзеткамі альбо ў абдымку з сваімі навечна застылымі ў экстазе мужчынамі яны будуць сустракаць цябе і праводзіць сваімі нерухомымі позіркамі аж да галоўнай кампазіцыі прысады – каменнага вязьма-стоду з увітымі ў яго мастацкай воляй скульптара каменна-валуновымі целамі людскіх фігураў з дзіцячымі і дарослымі тварамі.

Спачатку ты будзеш бачыць толькі нежывы камень і бронзу скульптур; ты будзеш глядзець на ўсе вочы і – дзіўная рэч! – сузіраньне гэтага нежывога суплёту скульптурнай калекцыі пачне абуджаць у тваёй мускульна-пратэінавай масе тое, што называецца жыцьцём і воляй да яго ж, імкненьнем праяўляць яго ў адчуваньнях і дзеяньнях. І тады ў твае аб'ектывы паімкнуць фігуры жывыя: вось мініяцюрнае дзіцятка ўскараскалася на маставы брыж і прыпала да сьцягна бронзавага атлета; белая нарвежская мама з вазочкам для двойні спынілася і пацерабіла пад каленцамі, а ты злавіў гэтае імгненьне ў кадры...

Калі ты, нарэшце, дойдзеш да галоўнай стэлы – *кола жыцьця*, – то глянь направа ад яго. Там, метраў за сто ад рукатворнага скульптурнага капішча, убачыш пагорак, зарослы кустоўем. Гэта скала, ейная кучаравая хларафілавая макаўка, з-пад якой праступае шэры скальны чэрап, месцамі абсеяны белымі гранітнымі крапкамі, слюдзяными пралысінамі і ўкамянелым лішаём эры вікінгаў. На ёй я і начаваў мае тры купальныя начы з сямі сутак купальнага тыдня, якія я прабавіў у сталіцы і ваколіцах.

20-я дні чэрвеня месяца, аксамітная зеляніна, абудлівы пах ліпучых бярозавых лісткоў ў маім старым сінтэтычным намёце... Я прачынаюся і, як белая лярва майскага хрушча, вылузваюся з кокану спальніка – горача.

Дзіўна і добра: я прачнуўся ў самым цэнтры нарвежскай сталіцы, у сваім заплечным доме, выграбся зь яго і пасікаў пад лазовы кусьцік.

Добра. Какаць пакуль ня хочацца. Яшчэ толькі восем раніцы, і я запаўзаю назад у свой домік. У тэрмасе крыху цёплай учарашняй кавы. Асьвяжыўся.

Вярнуў сябе ў кокан спальніка і сьцішыўся. Яшчэ рана. Няма куды й няма чаго сьпяшыць. Калі ўжо жыць, дык жыць смакуючы. Каго-каго? Жыцьцё, вядома. Ня трэба па ім скакаць галопам, ня трэба.

Цішыня. Я прыслухоўваюся да працэсаў у сваім міжножжы. Гэта штораніішняя эрэкцыя. Ведаю: ня пройдзе, пакуль ня ўстану сам. Сёньня яна асабліва дакучлівая, бо ў галаве тоўпяцца роты і арміі каменных Вігеландавых баб і дзевак, якія пагражаюць зашліфаваць мяне ў скалу армадамі сваіх грудзей і клубоў, хай я толькі зраблю няправільную фрыкцыю, прыпаду не да *той купіны* і вып'ю ня з *той крыніцы*...

Ляжу, услухоўваючыся ў птушыны грай. Сьвірчаць, шчабечуць і пераймаюць іншыя галасы і гукі шпакі. Таленавітыя перасьмешнікі гэтыя чарнапёрыя таўстадзюбыя пералётныя сьвятары. Яны вучылі мяне, малога, як любіць сваё і сваіх, а я ганяў ад іх шпакоўні нашу старую памаўзьлівую котку.

Было гэта на нашым паўночна-заходнім крывіцкім хутары Казіміраўка. Было...

**Сястры Ганьне**

*Скайп-ліст за 25 чэрвеня 2008*

Дарагая Сястра! Мой нясьціплы вопыт сьведчыць, што заваяваць чужую зямлю можна зброяй, можна – падступнай ціхай акупацыяй пад засло-

наю ілжывых ідэй і невітальных практык; можна прыйсьці ў іншы кантэкст прыватным чынам, выкарыстоўваючы прававыя лакуны ў міжнародных і мясцовых законах і няпісанае *правіла гульні ў паддаўкі.* Памятаеш, гэта была наша любімая гульня ў шашкі – паддаўкі. Здавалася, ну што тут хітрага, адно падстаўляйся пад бой! Здасі свае фігуркі хутчэй за партнёра – і ты выйграў! Але ж не, аказалася, што й паддацца трэба ўмець. Бо ў твайго канкурэнта такая ж задача: падставіцца самому і не даць такой магчымасьці табе…

Падобная гульня ідзе цяпер на вялізным еўрапейскім полі – *на паддаўкі.* Выглядае на тое, што гейм закончыцца патава.

Я, Сястра, гуляю на гэтым полі звычную для мяне ролю адшчапенца ў камандзе, які здаецца аўтсайдэрам, але ў выніку перамагае. І я заваяваў сваю тэрыторыю і ўкапаў на ёй межавыя слупы перамогі… Аднак, Сястра, вернемся да пачатку. Сказана: заваяваць чужую зямлю можна зброяй, можна хітрымі камбінацыямі і так далей і да таго падобнае, але самае складанае для заваёўніка ўзяць пад кантроль вітальны дух чужой зямлі. На гэтым шчарбілі свае баявыя сякеры заваёўнікі ўсіх часоў ад пачатку гісторыі.

Вось і я, Сястра, сутыкнуўся з чужым духам і спрабую прабіцца праз ягоныя заслоны…

Днямі я быў ў Крыстыяніі, дняваў у Фрогнарпарку бясконцы палярны нарвежскі дзень і піў на брудэршафт з крутабокімі Вігеландаўскімі дзеўкамі – каменнымі, праўда.

Апаўдні я выбіраўся з парку на юрлівую вуліцу Карла Юхана, падглядаў за жаночай публікай у ваколіцах Каралеўскага Шлоту[25], нахабна цыганіў у багатай публікі на піва і цыгарэты.

---

[25] *Шлот (нарв. slott)* – палац, замак, прыгожы даўні будынак.

Калі публічныя месцы, нарэшце, стамілі, я пазваніў аднаму завочна знаёмаму нарвежцу, і праз якой паўгадзіны мы ўжо разьвіртуальваліся зь ім каля вядомага ўсёй Крыстыяніі звонкага бронзавага тыгра на прывакзальнай плошчы.

А яшчэ праз хвілін трыццаць мы каціліся на цягавітым шведскім „стурулсоне" да „ўнутранага ф'ёрду" – возера М'ёса. Малады чалавек – назавём яго Б'ёрнсам – асьцярожна распавядаў мне пра сутнасьць і стан сучаснага нарвежскага патрыятычнага руху. „Ганарыцца асабліва няма чым. Дакладней, так: падставаў для гонару няма ўвогуле. Абсалютна. Нарвежскае грамадства сёньня – гэта Рым дзьве тысячы гадоў таму, акурат перад сваім падзеньнем", – канстатуе Б'ёрнс і змаўкае. Мы заязджаем у двор стандартнага дагледжанага нарвежскага дому, забіраем з сабою двох маладых людзей – дзяўчыну і хлапца, якія маюць добра знаёмы пэтэвэшны выгляд, але не задзірыстыя, хутчэй, наадварот...

У багажнік „стурулсона" Б'ёрнс загружае: механізм для смажаньня сардэлек і шашлыкоў, на якім можна выскварыць і гадавалага парсючка; пластыкавыя крэслы, складны стол і, нарэшце, „ствалы" – два люхтавыя ружжы і пісталет-аўтамат ММ9 Марцінкевіча-Мартынсона, патомнага ліцьвіна і шведскага збройніка...

І вось мы на знакамітым возеры М'ёса, даўжынёю 117 км і глыбінёю да 450 метраў. У 1985 годзе праз возера пракладзены мост даўжынёю 1420 метраў.

М'ёса сустракае ясным надвор'ем, але даволі халоднай тэмпературай як для чэрвеня. Мы пакідаем машыну на пляцоўцы каля чыйгосьці прыватнага саду. Дрэвы яшчэ цьвітуць, і цяжка зразумець, калі ж яны будуць даваць плады. Праходзім уздоўж берага, каб далей ад прыватнай тэрыторыі, і разьмяшчаемся.

Задача групы, у якую мяне запрасілі і за якой назіраю – правесьці абрад прыёму ў арганізацыю „Вігрыд" новых сяброў. Так-так, тых самых *пэтэвэшнікаў*, дзяўчыну і хлапца. Гляджу на іх і шкадую: надта ж непрэзэнтабельны выгляд маюць, асабліва *юнак*... Я пазнаю ў ім сябе – падлетка, зьдзіўленага навакольлем, які адчайна спрабуе заставацца чыстым сваёй яшчэ неўсьвядомленай душой і правільным у паводзінах насуперак вітальным патрабаваньням прыроды...

Мне нават неяк аж сорамна перад гэтымі маладымі людзьмі за тое, што яны, як відаць, так мала атрымліваюць ад пірага нарвежскага дабрабыту. Яны ўсьведамляюць гэтую несправядлівасьць і жадаюць выправіць яе сваім сяброўствам у „Вігрыдзе" – арганізацыі, якая будзе падтрымліваць іх, даваць ім сілу веры ў сябе і ў ідэі, якія яны пачынаюць выношваць і ўзрошчваць у сабе. На ўсё гэта спадзяюцца і дзяўчына, і юнак...

... І вось яны стаяць пад скрыжаванымі мячамі, якія трымаюць асістэнты Б'ёрнса, простапалосая дзяўчына Гуніла і гладкастрыжаны Удвар. Сам кіраўнік абраду пасьвячэньня трымае над мячамі ці не галоўны сімвал дахрысьціянскай Скандыі – молат Тура. Праўда, гэты сімвал чамусьці драўляны. Магчыма, каб не надрываць плечавыя цягліцы, падымаючы?

На прыазёрнай гальцы, ледзь бачныя сярод шэрых глыжоў і пад промнямі сьляпучага чэрвеньскага сонца, гараць сьвечкі ў нізенькіх лёгкаплаўкіх алюмініевых цыліндрыках.

Я незадаволены. Я хачу ўмяшацца і зрабіць заўвагу: што ж гэта за абрад з драўляным малатком ды пры сьвечках сярод белага дня?! Калі ўжо пры мячах ды на возеры М'ёса, дык і молат павінен быць сапраўдны (ну хоць з бляхі звараны), а тым больш агонь. Тут павінны шугаць сапраўдныя вогнішчы, жывое полымя! А то – сьвечачкі...

Але абураюся я моўчкі. Рана мне са сваім статутам лезьці. Ды і не трэба. Няхай арганізоўваюцца і выстойваюць самі, як умеюць. Свой жалезны молат і жывы агонь я павінен узьняць і запаліць дома, на сваёй тэрыторыі. А тут няхай пакуль яны...

Пасьля абраду прыйма ў сябры Арганізацыі, павіншаваўшы маладых людзей з новым сацыяльным статусам, Б'ёрнс і Удвар прыносяць *пістаноўкі* і выстаўляюць мішэні. Распачынаюць стрэльбы новаабраныя сябры „Віґрыду".

Сухі пошчак стрэлаў разносіцца над сіняй посьцілкай возера М'ёса. Вецер закасвае лісткі папяровых мішэняў, і тады дранкулькі ляцяць „у малако", трапляюць у драўляныя целы прыбярэжных бяроз і рабін, а некаторыя, не сустрэўшы на сваім кароткім шляху ніякіх перашкодаў і праляцеўшы максімальна магчымае, саступаюць няўмольнаму закону зямнога прыцяжэньня і падаюць у аксамітную чэрвеньскую траву альбо стукаюцца аб сьвінцова-попельную адвечную скалу суровай Поўначы.

Некалькі больш-менш дакладных стрэлаў зрабіў і я, паказаў прыклад маладым, узгадаў службу ў войску Імперыі і свой любімы самазарадны карабін Сіманава...

... У 1981-м, пасьля пяці месяцаў службы ў вучэбным дывізіёне сьпецвойскаў КДБ СССР, мяне, як і некалькі тысяч іншых землякоў, паслалі ў Афганістан выконваць *інтэрнацыянальны доўг*. Мы, ліцьвіны, былі ці не найлепшымі салдатамі Імперыі і загады камандаваньня выконвалі *без ніякіх*.

У вучэбцы, на першых жа занятках у палявым ціры, ротны заўважыў ува мне здольнасьці да трапнай стральбы. Не ведаю, адкуль гэта ў мяне – трапна страляць. Можа, гэта зьвязана з маніякальным захапленьнем чысьцінёй і парадкам? Ня ведаю.

Але з першых жа дзён службы ў вучэбцы лёс мой быў вызначаны – быць мне стралком. І ня проста так сабе, а трапным стралком – снайперам. Мае фізічныя параметры ідэальна адпавядалі патрабаваньням маёй ваеннай сьпецыяльнасьці — сярэдняя вага, сярэдні рост, абсалютныя зрок і слых. Плюс ужо згаданая цяга да акуратнасьці ў справах, што да парадку і чысьціні.

З вучэбнага дывізіёну я трапіў проста ў самае пекла Афганскай вайны – у Кандагар. І амаль 18 месяцаў, аж да дэмабілізацыі, я правёў *на ямах*. На нашым мясцовым снайперскім жаргоне „ямай" называлася месца лакалізацыі снайпера. Асабіста я заўсёды „працаваў" ці з нейтральнай зоны, ці знаходзіўся ў зоне праціўніка, інакш кажучы, *за лініяй фронту*.

Так што перш, чым стаць мастаком маляўнічых пейзажаў і паэтам жаночых форм, я быў стралком. У свае 19 я ўжо забіваў, ці, як прынята было пісаць у службовых рапартах, *элімініраваў*. І адбывалася гэта з дазволу, па загадзе і ў імя Імперыі, на паўночным захадзе якой жыла мая сям'я, мой род і маё племя...

Пасьля элімінацыі самой Імперыі пра мяне ўспомнілі. Спатрэбіліся мае армейскія веды і вопыт. Накіравалі на курсы падрыўной працы. Скончыў. У 90-х гадах мінулага стагодзьдзя пасьля прамаскоўскага перавароту, займаўся арганізацыяй і баявой падрыхтоўкай парамілітарных нацыянальных аддзелаў. Нашы людзі вучыліся страляць з баявой зброі сапраўднымі баявымі кулямі. Вось чаму я зь вялікай іроніяй гляджу на абрады і стрэльбы маіх новых нарвежскіх знаёмых. І выснова маіх назіраньняў адна: у іх сапраўды няма шанцаў...

Завяршальным этапам нашага дняваньня на М'ёсе быў самы трывіяльны пікнік: мы грызьлі сардэлькі, падагрэтыя на механізме пад назваю

„грыль" і запівалі паршывым нарвежскім півам, седзячы на пластыкавых крэслах наўкол пластыкавага стала.

Такім было маё *нарвежскае Купальле;* мае, калі хочаш, *Купальскія стрэльбы.*

І яшчэ. Старонку-дзьве назад я неяк па-свойску паспачуваў быў маладым дзяўчыне і хлопцу за вельмі ж не па-нарвежску сьціплы выгляд. Відаць, пасьпяшаўся, бо як раз яны з неверагоднай для мяне лёгкасьцю выкінулі недаедзеныя сардэлькі ў сьметніцу каля нейкай камунальнай будыніны. Вось я і думаю: ці варты спачуваньняў-шкадаваньняў сыты? Як ты думаеш, Сястра?

Па дарозе назад у Осла я збольшага маўчаў, вяла адказваючы на выпадковыя пытаньні Б'ёрнса, і жыва ўяўляў, як там, дома, на паўночным захадзе гістарычнай Літвы, мае землякі пачынаюць адзначаць Купальле па-сапраўднаму, па-нашаму: гараць вогнішчы; палаюць Купальскія колы; старыя і малыя скачуць праз ачышчальны агонь; моладзь шукае Папараць-кветку; у густых росах качаюцца захмялелыя палюбоўнікі; варыцца купальскі крупнік; п'ецца і есца; і сьпяваюцца старыя песьні; і бубначы з дударамі паддаюць жару; і скрыпка на пару з акардэонам шляхетна трымаюць у тонусе Купальскае сьвята летняга раўнадзенства...

*Твой брат Вільман*

*Скайп-ліст*
*25.08.2008*

**Брату Іванову**

Чуў, чуў, дарагі Браце, што пакінуў ты апошнюю прыступку сацыяльнай лесьвіцы і ўжо на самым дне. Як доўга ты там прабудзеш – рытарычнае пытаньне. Ты ўжо прыходзіў да мяне біты-

калечаны, і я дапамагаў табе, чытаючы пры гэтым жорсткія натацыі, якія ты, вядома ж, прапускаў між вушэй з уласьцівым табе энтузіязмам. Але тады я быў дома, а цяпер? Хто апякуецца табой цяпер, брат Іваноў?

А пішу я табе вось чаму. Акурат у суботняй абласной газэце „Поўнач” нарваўся на цікавы рэпартаж пра скандынаўскіх рабінзонаў – дзяўчыну і хлапца, якія, як і ты, пакінулі грамадства і ўжо тры месяцы жывуць за горадам, у гарах...

На другі ж дзень, у нядзелю, я прыхапіў з сабой газэту з артыкулам пра добраахвотных выгнаньнікаў, здымачную апаратуру ды пакруціў педалі ў пошуках гэтых маладых *рабінзонаў*.

Але шукаць іх не прыйшлося – яны самі хацелі быць *знойдзенымі*, бо разьмясьцілі сваю стаянку недалёка ад сьцежкі, па якой сноўдаецца-прагульваецца гарадская публіка з нахабнымі нашчадкамі ды рознапароднай дагледжанай псінай.

Тэрыторыю свайго існаваньня мясцовыя рабінзоны назвалі „цыркулем”, абгарадзіўшы яе ў форме кола крывымі лазовымі пруткамі. Пасярэдзіне, само сабой, быў складзены з камянёў агмень.

Я заўважыў „цыркуль” са сьцежкі, спыніўся, прыхінуў ровар да рабінавага куста і праз старую крапіву, папараць ды сьціплае запалярнае пустазельле прайшоў у зону тых, якія пакінулі нас, каб жыць прымітыўна, але па-свойму...

– Прывітаньне! – вітаюся я і дадаю традыцыйнае скандынаўскае пытаньне пра „як яно ўсё ідзе?! („hvordan går det”?). Гэтак жа традыцыйна мне і адказваюць:

– Здароў! Усё ідзе добра.

... І мы пачынаем знаёміцца. *Тая, што пакінула нас*, каб жыць у цыркулі, назвалася Фраяй. Гэта, вядома, ня ейнае сапраўднае імя, а псеўданім. У стараскандынаўскім эпасе Фраяй звалася багіня

любошчаў. Ну што ж, хай будзе так. Якой жанчыне ня хочацца быць багіняй, ды яшчэ любові, цялесных любошчаў!?

Фроя не тутэйшая – са Швецыі. Чаго яе сюда занесла, мы не дапытваемся. Я працягваю ёй газэту з іхнымі фотаздымкамі і бачу, як загараюцца яе вочы: Фроя пакінула нас, але Фроі прыемна, што пра яе і ейнага таварыша напісалі ў газэце.

Пакуль Фроя разглядае сябе на цэлюлёідных лістах, я знаёмлюся з маладым мужчынам гадоў так 30-ці на выгляд. З рыжымі дрэдамі на галаве, барадаты, у нечым ільняна-бавоўняным з блышынага рынку, мужчына адрэкамендоўваецца:

– Махмуд. Мяне завуць Махмуд.

Пасьля майго прыходу пацягнуліся ў цыркуль іншыя госьці з гораду: нейкі з кароткай стрыжкай малады мужчына гадоў 35-ці; даўгалыгі нямыты панк з няўцямнай гаворкай; другі такі самы, але драбнейшы касьцьмі; тая самая рэпарцёрка-стрынгель з нахабна-пранырлівым фэйсам...

Хто як, мы паселі каля агменю. Фроя гатавала вегетарыянскі абед, да якога гасьцям было прапанавана далучыцца. Махмуд перабіраў струны гітары. Побач у брудным рызьзі і markednarodным інструменце валяўся нейкі афра-азіяцкі тамбурын.

„Чаму такое імя – Махмуд?" – пытаюся я ў гітарыста. Ён нешта тлумачыць, але я слаба пятру – я толькі разумею, што ў гэтага бруднавалосага рыжага пост-вікінга ёсьць сімпатыі да ўсходняга азіята-арабскага сьвету.

З далейшага абмену рэплікамі высьвятляецца, што „Махмуд" – банальны анарха-сацыяліст ці штосьці такое, бо ён: за адмену дзяржаваў і межаў, скасаваньне арміяў, канстытуцыяў і патрыятызмаў... Маўляў, вось ё зямля, адна на ўсіх, і гэтага дастаткова.

Я хмыкаю ў адказ, я чую, як з глыбіні, з прор-

вы майго зьвярынага нутра ўздымаецца і з хуткасьцю прыліву крыві ў капіляры майго фаласу пранікае ў клеткі і атамы майго цела адрэналін. І тут жа насустрач яму з гіпаталамуса шугае хваля эндарпіну, якая дэмпінгуе ўжо гатовы адбыцца выбух. У выніку я яшчэ нейкі час бушую ўсярэдзіне, але звонку – спакойны і расслаблены. Мяне перапаўняе незласьлівая іронія, якую я тактоўна скіроўваю на маладых адшчапенцаў, на *тых, якія пакінулі нас*.

На нейкі момант я адключаюся ад калектыўнай вытворчасьці гукаў і змаўкаю, разглядваючы начыньне імправізаванай „кухні" і наяўныя прадукты. Ясна, як гэты божы дзень, што навасьпечаныя нарвежскія рабінзоны, Фроя і Махмуд, як і я, жывуць зь яго вялікасьці Кантэйнера.

Я не магу ўстрымацца і чапляю Махмуда правакацыйнымі пытаньнямі!

– Эй, Махмуд, – кажу я, – калі толькі ўявіць сьвет такім, якім ты бачыш яго ў сваіх фантазіях, то ты першы станеш ягонай ахвярай. Ну вось, напрыклад, з ліквідацыяй іерархіі, грамадскіх флуктуацыяў, зьнікаюць багатыя, а гэта значыць, зьнікае і Кантэйнер, зь якога мы кормімся (так-так, не здзіўляйся, я таксама зь яго жыву!). Зьнікне і блышыны рынак, у якім мы апранаемся і здабываем усе іншыя інструменты для выжываньня.

Махмуд адмоўчваецца, ізноў бярэ гітару, потым адкладае і бярэцца за натуральны скураны бубен, пачынае адбіваць рытм. Я працягваю насядаць, я заганяю гэтага анарха „рыжыя дрэды" ў пастку натуральнай логікі:

– Махмуд, разумееш, з крахам Кантэйнеру пойдзе крахам уся твая філасофія: хутка зіма, доўгая нарвежская зіма, дзе ты будзеш здабываць садавіну-гародніну, вегетарыянец? Ага, вось і я пра тое: табе прыйдзецца брацца за зброю, антымілітарыст,

каб падстрэліць скандынаўскага лася. Табе, сябра амфібіяў, земнаводных і прыматаў, давядзецца навучыцца закідваць невад у мора і прывязваць леску да кручка. Ты кажаш, што вы з Фрояй вегетарыянцы, а я ня веру, я думаю, што ў вашых палявых умовах проста складана захоўваць мясное нават зімою. Адсюль і ваша адмова ад пратэінаў.

Махмуд адмоўчваецца альбо мармыча нешта няўцямнае; валасатыя наркаманічнага выгляду юнакі кураць шмаль[26] не абцяжарваючы свае падчарапныя лакуны грузам філасофскіх канструкцыяў; журналістка пра нешта лапоча з кароткастрыжаным. Над жнівеньскім цыркулем вітае сусьветны дух замірэньня. І я, залучыўшы момант, зьвяртаюся да Фроі.

Як я ўжо напісаў, яна са Швецыі, класічная белабрысая шведка. Зьлёгку хударлявая, сімпатычная і выклікае ў мяне больш, чым замілаваньне. Мой гіпофіз ізноў у рабоце, згушчаюцца хмары амінакіслот, а ў выніку – выбух эндарфіну, і я адчуваю сябе на пад’ёме. Я не шкадую для Фроі кампліментаў і пытаюся, ці ўжо ейнае сэрца занята каханьнем да Махмуда, ці ў ім яшчэ ё вольнае месца?..

Фроя адказвае, што свабодная, што яны з Махмудам толькі сябры, і я тады гляджу на дзяўчыну як на маю патэнцыйную любоўную ахвяру – фантазірую, як запаўзу ў ейны прасторны намёт, – вядома, без адмысловага запрашэньня, і буду гаварыць пра любоў і любошчы; яна пацягнецца па мабільнік і тады я пачну распускаць свае рукі, стрымліваючы ейныя. Супраціў, як вядома, узбуджае ў любоўнае гульні; Фроя, аднак, доўга не праціўіцца, толькі шэпча сваё шведска-нарвежскае *ikke lov! ikke lov!* (незаконна! незаконна!), пакуль я не

---

[26] *Шмаль* – травяны наркотык, марыхуана.

закрываю ейны рот сваім моцным, беспакараным, вострым як лязо небясьпечнай брытвы, пацалункам. Не! Я не закрываю, а ўлепліваю, уплішчваю мой трохкутны рот – верхняя вусна, ніжняя вусна, язык – у ейныя вусны і тут жа высмоктваю іх; потым лаўлю ейны шведскі язычок, – нясьмелы, расслаблены лёгкім воцатам лібералізму язычок; я жвава, прагна ўсмоктваю яго, адчуваючы, як зь дзявочых глыбіняў падцягваецца разам з языком і еча[27] – гэта балюча, і яна мыкае, стогне і трапеча далонямі і пяткамі ад болю. Я валіў яе ў ейныя *лопемаркедныя* лахманы і адбіраю маімі пацалункамі, жорсткімі і вострымі, ейную волю да супраціўленьня. Яна абмякае, але я на варце; я трымаю ейныя рукі і прыціскаю сваім тулавам ногі, каб не ўздумала ўзбрыкнуць. Ад роту я пераходжу да скіціцаў, шыі, перадплеччаў, грудной косткі – гэтую ўсю прастору я накрываю балючымі пацалункамі-падцяжкамі, пасьля якіх застаюцца любоўныя сінякі.

Жанчына, якая выбрала імя паганскай багіні любошчаў, і жыве адна ў лясным намёце, павінна была чакаць такіх энэргічных абдымкаў. Я пакажу ёй, што не толькі роды, але і дародавы працэс можа быць вельмі нават балючым. Балюча-прыемным...

Ад зацалаванага да самых шыйных пазванкоў горла я пераходжу да роўнавялікіх някрэпкіх і нестрункіх, крыху адвіслых грудзей. Яны белыя нават ноччу, у цемры намёту, сьвецяцца як дзьве невялікія поўні на самым схіле неба, перад сьвітаньнем... Я прыпадаю да адной, да другой, і яны незалежна ад волі гаспадыні рэагуюць на мае пажадліва-прагныя смактаньні; рэагуюць станоўча, напружваючыся і цьвярдзеючы. На некалькі хвілін

[27] *Еча* – глотка.

я замiраю, адпускаю на волю сваё дагэтуль напружанае цела, і толькі засяроджана-аўтаматычна, акурат як грудное дзіця, смакчу і смакчу... Здаецца мне, даросламу, што прыпаў я да жыцьцядайнага вымя самой Геры...

Я так расслабіўся, што наструнены пругкі смочак выпстрыкнуў з маіх зубоў і вуснаў, як фасоліна са струка, і я схамянуўся.

І заклікаў сябе да эратычнага парадку і мэтаскіраванасьці.

Каб не даць Фроі ачомацца і аднавіць абарончыя атакі, я пераходжу да перадапошняй фазы палюбоўніцкага наступу – я спаўзаю ніжэй, туды, дзе ўжо даўно мокра і раскрыта, і застаецца толькі сьцягнуць сырыя майтачкі з вузкаватай Фроінай срачкі. І я гэта нарэшце раблю, і цяпер маладая жанчына пада мною без ніводнага ласкутка на белаunion ружовым сваім целе...

Я крыху, нядоўга, цалую яе ў пупок і потым прыпадаю да лабка, зарослага – я адчуваю і ведаю – мяккімі русымі валосікамі. У нос б’е і раздзірае ноздры вострасалодкі водар пратэіну і поліпептыдаў, менструальнае крыві і ануса ва ўмовах мінімальнай гігіены. Хваля за хваляй накочваюцца на мяне глыбінныя пахі вульвы, але я настырна, няўмольна пасоўваюся наперад і ўніз – і вось ён, такі жаданы і цяжкадаступны, вільготны і сьлізкі, як цела ракаўкі, *язычок нізу*. Я знаходжу яго і дражню сваім, дражню і пяшчотна прыкусваю; і як жа па-іншаму нарэшце пачынае рэагаваць на мае дзеяньні Фроя! Яна больш не супраціўляецца – яна цяпер войкае і стогне ад любоўнае асалоды. Я адчуваю, як пад маім языком нараджаецца арганічны землятрус, як тонкая вібрацыя працінае цялесную канстытуцыю Фроі; я чую, як там, у глыбінях пратэінавай субстанцыі, пачынае гатавацца контраверсійны булён любоўнага экста-

зу – і раптам выліваецца слабым струменчыкам празрыстага і ліпкага вагінальнага соку – любоўнага соку, соку жыцьця...

Фроя, нарэшце, *пацякла,* гэта той момант, калі трэба ад кунілінгусу пераходзіць да коітусу. Мой фалас даўно гатовы да ўварваньня, я ўздымаюся над маладой жанчынай, шырэй расхінаю ейныя сьцёгны і ўбіваю ў раскрытую вагіну свой кол. Там, у жыцьцядайных нетрах, запоўненых адмысловым бялкова-вітамінным растворам, я працую і працую, шліфую і разгладжваю, дастаючы да самай маткі, аж пакуль не канчаю, залiваючы сваім семем ейнае ўлоньне...

Раніцу мы сустракаем разам. Над намётам стаіць птушыны грай, шуміць роўны жнівеньскі дождж. Я ляжу і думаю: што ж, бывае і так, што прыходзіш да жанчыны гвалтаўнікам, а застаесься ў яе палюбоўнікам.

***

Восень... Мая любімая, цяжарная дабром і сокамі жыцьця восень. Сапраўдныя паэты любяць восень болей, чым іншыя поры году. Чаму? – загадка. Але гэта так: любяць больш за ўсё восень. Я – сапраўдны, і я яе таксама люблю...

Восень. Мая сёмая восень на чужыне. Сёньня прашапацеў першы град. Тэлеканал NRK перадае навіны: „Лідэрка Партыі прагрэсу Сіва Енсэн заявіла, што ісламізацыя Нарвегіі павінна быць спынена, у краіне павінна дзейнічаць нарвежская Канстытуцыя 1814 году і нарвежскія законы.

На гэтым тыдні міністр юстыцыі Кнут Стурбаргет быў вымушаны прызнаць, што пагарачыўся са сваёй праісламскай прапановай аб дазволе насіць ісламскі варыянт галаўнога ўбору жанчынам-палі-

цэйскім, і адклікаў яе, паколькі такая перспектыва моцна пакрыўдзіла нацыянальныя пачуцьці этнічных нарвежцаў і з'явілася падставай для жорсткіх міжэтнічных сутычак ў сталіцы і прыгарадах. Ёсьць пацярпелыя.

... Толькі што стала вядома: міністр юстыцыі пайшоў у двухтыднёвы адпачынак па стане здароўя.

Енс Эвэнсан, былы міністр гандлю Нарвегіі, судзьдзя міжнароднага суду ў Гаазе і міністр марскога права, быў па нарвежскіх мерках, неардынарны палітык. Гадоў трыццаць таму ён заяўляў: *„Няхай ніхто ня думае, што нейкі народ можа спакойна выжыць у сьвеце, дзе жменька краінаў валодае ўсімі рэсурсамі, а іншыя стаяць з працягнутай рукой. Трэба шукаць рашэньні, якія дазволяць разьмяркоўваць рэсурсы дзеля агульнага дабра. Нам трэба памятаць, што Нарвегія – маленькая краіна! І калі мы не гатовыя дзяліцца, нас тым больш не пакінуць у спакоі. Вось у чым палягае рызыка! Таму неабходна дзяліцца дзеля захаваньня навакольнага асяроддзя і міру паміж народамі”.*

***

Восеньню добра думаецца пра... турму. Восеньню нават ў турме было лягчэй, бо жыла ўва мне надзея: пад Каляды выпусьцяць...

Сеў я раньняй вясной, спадзяваўся на раньнюю восень, а выйшоў у канцы зімы...

Я сядзеў ў нашай усходне-еўрапейскай турме ў той час, калі дзяржавай кіраваў узурпатар пры ганебным папушчальніцтве народных мас. Камеры былі перапоўненыя людзьмі, добрую палову якіх кідаць за краты не было ніякай патрэбы. Месяцамі сядзяць яны да судоў; гадамі – пасьля прысудаў. А ўсё за што? І, галоўнае, чаму? Ёсьць непрыемны,

ой непрыемны адказ на гэтае пытаньне: яны сядзяць ні-за-што. Асабліва калі глядзець на справы нашых вязьняў з вышыняў нарвежскага вопыту.

Аднае суботы ў верасьні на старонках абласной газэты нашай запалярнай кангламерацыі з'явілася аб'ява-запрашэньне наведаць у бліжэйшыя выхадныя гарадскую турму. Інвітацыя была адрасаваная ўсім гараджанам. Гэткі сабе ні больш, ні менш дзень адкрытых дзьвярэй для азнаямленьня з умовамі ўтрыманьня і працоўнымі і творчымі дасягненьнямі зьняволеных.

І гараджане прыйшлі – яны ўвесь дзень ішлі ў турму: пераважна сем'ямі, з малымі дзецьмі і дзецьмі-падлеткамі; фатаграфавалі і войкалі...

Ну, вядома, было і мне цікава пасьля нашых усходне-еўрапейскіх казэматаў адчуць сябе ў турме нарвежскай. А як адчуў, стала крыўдна, крыўдна і шкада тых няшчасных, якія і сёньня гніюць ў перапоўненых турмах усходняга акаёму Еўропы.

Тут, бачыш, унітаз з нержавейкі ў звычайным камерным туалеце, у нас – вядро з накрыўкай, у якое сікаеш і какаеш цягам сутак, а выносіш яго раз на дзень; тут у кожнай камеры тэлевізар, у нас – толькі ў так званых блатных, якім братва падгоніць з волі; тут... Эх, тут яшчэ многа ўсяго, чаго няма ў нас. Але самае галоўнае, што тут ніхто не кваліцца на твой персанальны гонар, бо цябе грамадства пазбаўляе дзеяньняў і перамяшчэньняў, але не чапае тваёй чалавечай годнасьці!

Не, ну вядома, і з нарвежскай турмы ты можаш не вярнуцца; і тут ты можаш не знайсьці агульнай мовы з крымінальнай публікай, але пры гэтым ты не перастанеш верыць у справядлівасьць і законнасьць нарвежскай пенітэнцыярнай сістэмы.

Вось неяк так думаецца...

Дарэчы, у нашай абласной запалярнай турмачцы народ працуе. Галоўны занятак – майстраваньн-

не мэблі. Выходзіць яна з нясьпешчаных зэкаўскіх рук надзейнай і выштукаванай. Каб купіць які кухонны ці спальны гарнітур, вольныя гараджане павінны дачакацца сваёй чаргі! Турма прымае таксама індывідуальныя замовы, што, само сабой, каштуе даражэй. І ўвогуле, мэбля, зробленая тваім зьняволеным суайчыньнікам у турме твайго невялікага гарадка, будзе каштаваць табе значна больш, чым, напрыклад, фабрычны камплект на шурупах, прывезены за тысячы кіламетраў зь якой-небудзь Даніі.

## ПАДАРОЖЖА ДА СВАІХ, КАСТРЫЧНІК-ЛІСТАПАД 2008

**Буда-Осла (Нарвегія); Вільня (Літва); Варшава (Польшча); Прага (Чэхія); Ландсхут-Мюнхен-Рэгенсбург-Нюрнберг-Франкфурт-на-Майне (Германія); Льеж-Гент-Лакерэн-Антвэрпэн-Лювэн (Бельгія); праездам: Фальстэр-Рудбы-Капенгаген (Данія); Мальмё-Хельсінберг-Гётэборг (Швецыя).**

Такім чынам, я здабыў новы пашпарт, падсабраў грошай – час выпраўляцца ў дарогу. І я раблю гэта – ляту і еду на госьці да сваіх, якія раскідаліся па розных гарадах Еўропы ў кірунку *на захад ад Брэсту-Літоўскага.*

У Літву я ляцеў аэрамеханізмам кампаніі *Norwegian*. Лятальны апарат меў скрыдлы, загнутыя на канцах дагары, так што мне было неяк няўтульна, нараджаліся сумневы наконт кампетэнцыі аэраканструктара.

Месца маё згодна зь білетам было каля праходу, але ўдалося пратачыцца да ілюмінатара.

Група нарвежскіх жанчын-клеркаў ляцела ў Вільню на нейкую канферэнцыю – *пабукмовіў*[28] зь імі пра гераічныя часы ВКЛ. І аказалася, што многія зь іх чулі пра *Storfyrstedømmet Litauen* – Вялікае Княства Літву...

Было, было калісьці вялікае, а цяпер малое, распалавіненае і беднае. Але народ не здаецца – па-свойму супрацьстаіць сучаснаму перадзелу тэрыторыяў і капіталаў. Сучасныя грамадзяне Літвы – гэта колішнія нарвежскія вікінгі, толькі экспрапрыяцыйныя набегі робяць ужо на Скандынавію. Нават у нашым запалярным горадку ведаюць не з газэтаў пра дзейнасьць *усходне-еўрапейскіх бандаў*. Вось зусім нядаўна *літоўцы* чыста папрацавалі – ювелірныя крамкі накрылі ў гандлёвым комплексе. Праз дах залезьлі, праз яго ж і пакінулі месца экспрапрыяцыі...

Сучасная Літва – гэта 65 тысяч 200 квадратных кіламетраў тэрыторыі; 3 мільёны 802 тысячы жыхароў у 1992 годзе і 7 тысяч чалавек нацыянальных сіл самаабароны (за той жа перыяд).

Сума нацыянальнага капіталу літоўскай дзяржавы ў 92-м складала 10220 мільёнаў паўночнаамерыканскіх даляраў, альбо – 2710 даляраў на кожнага грамадзяніна. Малавата, трэба сказаць, таму экспрапрыяцыі непазьбежныя. І перш за ўсё ў тых грамадствах, дзе нацыянальны даход на душу насельніцтва большы за даход адной асобна ўзятай літоўскай душы...

Тым часам наш аэраплан заходзіць на пасадку. Надвор'е лётнае, і праз ілюмінатар добра бачна, як насустрач мне набліжаецца наша – мая! – крывіцкая Мекка – Вільня.

---

[28] *Пабукмовіў* – пагаварыў; аўтарскі новатвор ад нарвежскага „bokmål" (букмол) – кніжна-пісьмовая нарвежская мова, распрацаваная на аснове дацкай.

Закінуўшы рэчы ў багажныя камеры захаваньня, што на чыгуначным вакзале, я выходжу ў горад. Ад прыезду да прыезду ён мяняецца, я бачу. Няма ўжо, напрыклад, той кавярні, дзе мы сядзелі ў 1999-м з будучай маткай маёй дачкі. Рэстаўруюцца храмы, аднаўляюцца фасады і тылы Старога горада...

Мінаючы знаёмыя вуліцы, я выходжу да Вострай Брамы, да якое пехатой хадзілі нашыя людзі і, вядома, мая бабуля Гунэфа. Калі яна распавядала пра свае выправы ў Вільню, быў я малы і думаў ня столькі пра невядомы і вялізны горад, колькі пра тое, якая ў мяне мужная і моцная бабуля, якая хадзіла пехатой у невядомую і, галоўнае, далёкую Вільню, і ў якую я таксама абавязкова схаджу, калі вырасту...

І вось я тут, на Вострабрамскай, стаю і фільмую той самы брук, па якім хадзіла басанож бабуля Гунэфа.

Здымаю, значыць, каментары раблю па-нашаму. І тут падбягае хлапчанё, – прыгожы такі, у джынсавым касьцюмчыку, – і да мяне: „Ці маш, пан, злотувкі?” Ну, разгаварыліся мы зь ім. Ён мне пра сябе, я яму то па-польску, то па-нашаму талкую...

Восем гадоў хлапчуку, як і маёй дачушцы, якая жыве з мамай у спальным віленскім раёне Грыгішкі. Малы тым часам кумекае, што да чаго з гэтым дзядзькам, кемлівы малы, сваю лінію гне: „А мо пан хоча на могілкі Роса прайсьціся, дык я дарогу пакажу?”

Праводзіў ён мяне за Браму, атрымаў свае некалькі літаў за бяседу, а я сабе падумаў: хто ж яго ведае, яшчэ гадоў дзесяць – і ён можа стаць маім зяцем...

У Вільні я бачыў вялікія – татавы – вочы маёй дачушкі. Я пагаварыў з ёй па тэлефоне, і яна рас-

казала мне як даўняму знаёмаму, што любіць пісьмо і матэматыку ў школе, а літоўскую мову ня любіць...

Потым мы спаткаліся на прыпынку, я хацеў дзяўчынцы нешта падараваць, але маці не дазволіла. Я нават забыўся сфатаграфаваць дзіця, каб мець здымак...

І ўсё ж я бачыў цікаўныя вочы маёй дачкі, і мне здалося, што ў іх была любоў.

15-га кастрычніка я ад'язджаў у Варшаву цягніком „Вільня – Шаштокай". На вакзале падруліў да мяне малады чалавек, на выгляд вакзальны доўгажыхар – і, натуральна, пачаў канькаць грошай *на хлеб і малако*. За тыдзень часу віленскіх гасьцяваньняў пабіралы пачалі мяне няслаба раздражняць, але маладзёна я чамусьці так адразу не адшыў. „Ты, кажу, можаш зарабіць сабе на ежу, калі сваю легенду раскажаш мне ў відэакамеру...".

Прызнаюся, не пабаяўся хлапец стаць героем майго фільму. Але ж і накінуць папрасіў – *за акцёрскую работу*.

Дарога зь Вільні на Варшаву. Еду цягніком. У Шаштокаі (які так і хочацца назваць па-нашаму, Шасткамі) – перасадка на *поцёнг польскі*. Ні памежнікі, ні мытнікі літоўскія так і не паказаліся. Праз нейкі час з'явіліся польскія памежнікі, праверылі пашпарты, але пячатак ці там штампаў якіх у пашпарт не паставілі.

Еду далей. Насупраць мяне – два рускамоўныя з Казахстану, едуць у Германію па аўтамабілі. Адзін зь іх – з нашым акцэнтам. У працэсе бла-бла-бла высьняецца, што я не памыліўся: носьбіт акцэнту – сапраўды наш, ліцьвін-крывіч.

Каля мяне справа – малады чалавек, які, адчуваю, непрыхавана ўслухоўваецца ў размову нас трох. У нейкі момант ён не вытрымлівае і падключаецца да нашага трыялогу – яго зацікавілі мае

рэплікі па-нашаму. Аказваецца, юнак з Беластоку і хадзіў у нашамоўную школу. Юнак, праўда, нашай не любіў, хоць і быў нашым і праваслаўным. Пачуўшы прызнаньні польскага нашага, узьвірыла ўва мне хваля агрэсіўнага, як у маладосьці, гумару, і давай я жартаваць нешта пра *одзыскане Белосточчызны* ды *Віленшчызны* і адбудову *ВКЛ*...

З такімі во геапалітычнымі жартамі мы і даехалі да чыгуначнага тэрмінала Варшава Ўсходняя.

Рэспубліка Польшча ў цяперашніх межах займае 312 тысяч 683 квадракіламетры, на якіх жыве 38 мільёнаў 429 тысяч чалавек, альбо 122,9 галавы на квадракэмэ. Сумарная лічба нацыянальнага даходу – 70 мільярдаў 640 мільёнаў даляраў, альбо 1 тысяча 830 на паляка.

У польскай сталіцы сустрэлі мяне сябры нашай дыяспары і Нацыянальнага кангрэсу, – дыскрэтнай арганізацыі сяброў Літвы.

Пасьля 45-тысячнай нарвежскай Буды Варшава здалася мне завялікай, занадта шумнай, і гэткай жа ўсё яшчэ савецкай, як і афіцыйна-падакупацыйны Мінск.

У фае Тэхнічнага музею, напрыклад, зайшоў, археалагічныя экспанаты разглядаю. Нават каменьчык „тыгровае вока” за 5 злотых *купіў*. Наведнікаў мала, нікому не перашкаджаю; прысеў, каб эсэмэскі адпісаць... І тут падыходзіць музейны вахцёрык – класічнага, універсальнага тыпажу наглядчык – і пачынае пра тое, што *тут не вольно седзець* і ўсё такое. Схапіў я тады відэакамеру, навёў на тыпуса і кажу *повтаж цо мувіў*. Ня стаў ён паўтараць, замоўк, сабачча кроў.

У Польшчы цэлае Балтыйскае мора нашых. Многа маладых людзей, юнакоў і юначак, паступаюць у польскія вну; іншыя працуюць. Як, напрыклад, Мікола Пільштын-Русецкі, які дома, у сваім заходнім рэгіёне, спрабаваў разгарнуць аў-

табізнэс, але, кажа, не далі як патрыёту і апаненту дзейнага палітычнага рэжыму (бо рызыкнуў быў папрацаваць на аднаго апазіцыйнага кандыдата ў прэзідэнты).

Яшчэ адзін зямляк, брат Войніч па мянушцы „Тэстамэнт”, альбо, як завуць яго сябры, „Тэст”, прыехаў быў па мяне на машыне, дзьверы якой адчыняліся толькі справа, з пасажырскага боку. У салоне сядзела яго новая маладая жонка і праметэіў нашчадак мужчынскага полу немаўленчага перыяду – сынуля. Тэстамэнт ахвотна дзяліўся навінамі з жыцьця гуманітарна-выкладчыцкага асяродку і распавядаў пра спробы свае пачаць новае жыцьцё ў Варшаве. Жыве ён у прыгарадзе, робіць рамонт кватэркі, якую абстаўляе паціху ўжыванай быттэхнікай, якой перапоўнены польскі другасны рынак.

Тэстамэнт называе сябе чалавекам Адраджэньня, якое, калі верыць гісторыкам, мела месца ў Сярэднявеччы. Напэўна, чалавек мае падставы так пра сябе думаць. У любым выпадку ёсьць у ім нейкая гістарычная жывасьць, разбаўленая мадэрновай атрыбутыкай. Сумна было бачыць яго ў якасьці ўцекача *ад родных ніў*, але разам з тым я радаваўся ягонаму жыцьцёваму актывізму.

Тэстамэнт рызыкоўна вазіў мяне па Варшаве ў сваім аднадзьверным драбанце і дзяліўся вопытам спакушэньня маладых студэнтак: мы ўспаміналі з ім добрым словам прафесара айчыннай філасофіі і колішняга выхаванца СБМ паэта Лойку, кпілі зь недалёкіх землякоў і шумелі акіянам нянавісьці да персанажаў акупацыйнага рэжыму...

19-га я ад’язджаў у Прагу. Цягніком нумар 203, вагон 348, у 6 гадзін 48 хвілін раніцы. Перад гэтым зайшоў у вакзальную прыбіральню, а ў ёй проста ў дзьвярах насупраць пісуару сядзіць кабета маіх гадоў, плату за ўваход зьбірае. Тут я неяк

сур’ёзна засумняваўся наконт членства Польшчы ў Еўрасаюзе. Можа, Еўраазіяцкі пасаваў бы больш? Стаю і сумняваюся, і, як у народзе кажуць, ні ўздыхнуць, ні пёрнуць, і струменьчык як у старога дзядка – дама ўсё ж побач...

Чэхія, незалежная цэнтральна-еўрапейская рэспубліка пасьля мірнага разводу са Славакіяй у 1993-м. Усяго 78 тысяч 864 кіламетры тэрыторыі на 10 мільёнаў 299 тысяч чалавек, альбо 130 чэшскіх грамадзян на адзін квадракіламетр. Густавата і цеснавата. А між тым нашага брата і ў Чэхіі хапае, асабліва ў Празе.

Вось я і прыехаў да іх. Прага мне ўжо знаёмая – быў у ёй і раней, якраз вясной 2002-га. Тады я таксама выступаў з вершамі і палітычнымі прамовамі перад новай нашай дыяспарай у старой добрай Празе. Гэтым разам таксама выступаў, але ўжо і як сябра бежанецкай супольнасьці.

Ня ўсіх нашых удалося ўбачыць: некаторыя ў глыбокім падпольлі хаваюцца ад крэдытораў; аднаму крывіччуку зусім не пашанцавала – знайшлі пачвартаванага.

Іншым шанцуе болей: „Гарбыль” прадае малюнкі на Карлавым мосьце круглы год; „Шыла” гандлюе на рынку рознай драбязой (у гэтым сезоне – дзіцячыя цацкі). З „Гарбылём” мы калісьці займаліся палявой падрыхтоўкай нашых баявых груп. „Шыла” – з маладзейшых, прадстаўнік першага пакаленьня палітычных вязьняў, якое пайшло па этапах неўзабаве пасьля майго выхаду ў 1997-м...

Лішне казаць, што чэшскі „эль” і „бехераўку” смакавалі мы штодня. Наганялі ў сябе радасьці і выганялі сум. На антрэсолях у Пузіка начаваў усяго ноч. Унук мінскага прафесара нейкіх там рэдказямельных навук, ён як курыў траўку, так і курыць; як піў „чарлік” і гарэлку, так і п’е. Не, ну вядома, ужо ня ў тых колішніх менскіх аб’ёмах, але ўсё ж.

Пузіка таксама можна назваць чалавекам Адраджэньня, толькі сучаснага. Здаецца мне, што гэта адраджэньне перад усеагульным канцом.

Пузік зарэгістраваў у адпаведных чэшскіх органах свой перасанальны орган масавай інфармацыі – Пашпарт Незалежнай Рэспублікі. Мяне запрашае да ўдзелу. Кажу, а ганарары? Маўчыць Пузік наконт ганарараў. Люблю яго, хоць ён поўная мне супрацьлегласьць. Што зробіш, закон фізікі.

У Шылы я таксама начаваў. Ягоная маладая жоначка Марыя так падобная ў аб'ёмах да маёй Тамары, што я быў перапоўніўся грэшнымі флюідамі. Да таго ж аказалася, што Марыя – акадэмічная сяброўка маёй Танечкі, – той Танечкі, якую я цэлы год мучыў сваімі ўздыханьнямі і абдымкамі, замест таго, каб узяць і зрабіць яе жанчынай – *без ніякіх!*

Марыя забрала з сабой у Прагу свае дзявочыя дыярыюшы, сярод якіх я знайшоў і вершы Танечкі, ейныя аўтографы. Я чытаў іх і – прызнаюся – кляў сябе да немарасьці: як, як я мог прамяняць каханьне маёй Семірамiды і ціхае сямейнае жыцьцё зь ёю ў „сталінскім" доме за кінатэатрам „Зьмена" на віхуры сьвету і нагорны нарвежскі пыл?! Чаго мне яшчэ не хапала ў гэтым жыцьці, калі ў мяне ў руках трапятаў такі анёлак – Таня-нявіньніца, унучка былога каменданта Караляўца і студэнтка першага курсу паўночна-заходняга аддзяленьня філфака Нацыянальнага ўніверсітэту? Памятаеш, кажу я сабе, лежачы на канапе ў пражскай кватэры майго земляка Шылы, – памятаеш, як гулялі вы з Таняй у скверы каля штаб-кватэры ваенміністра, і ты давёў яе да таго, што яна скочыла на цябе, разьвінуўшы ножкі, і ейная вузкая чорная спаднічка трэснула па шве. Вось тады вы і паехалі да цябе на вуліцу Сурганава, дом 45, корпус 3, паверх 8, нумар казённага пакою невядомы з прычыны беспарадкаў пераход-

нага перыяду. І там, у пакоі 6 на 6 метраў квадратных, ты дазволіў ёй распрануцца. Яна не магла інакш. Яна доўга чакала гэтага моманту-імгненьня, калі яна аддасьць сябе каханаму, старэйшаму за яе на 20 гадоў мужчыну...

Сука ты, Вільман, ты памятаеш, як ляжала яна, голенькая, непакрытая нават прасьцірадлам, і чакала цябе. А ты? Што ты там мычэў і мямліў у той самы момант? Ты ня мог? Не хацеў?.. Гэты грэх, Вільман, будзе мучыць цябе ўсё тваё астатняе, разбэрсанае і неспакойнае жыцьцё. Ты тады ня быў Вільманам? А, і праўда, ты быў Славамірчыкам, сентыментальным паэтам, які гуляў у парамілітарныя гульні, а начамі гуляўся з уласным фаласам.

Ведаеш, Вільман, згвалціць жанчыну – гэта грэх, што казаць. Але не ўзяць дзяўчыну-нявіньніцу, калі яна таго чакае і хоча – гэта грэх яшчэ большы. Гэта ўсё роўна, што плюнуць у твар самой Прыродзе, Жыцьцю!.. Гэта вельмі рэдкі грэх, Вільман, і ты яго зрабіў.

Гасьцяваньне ў Шылы вельмі разбалансавала мяне, і тады я паехаў да земляка майго Каліты, які ўжо пасьпеў стаць грамадзянінам Чэхіі, разьвесьціся з жонкай і пакінуць ёй сына і двух дачок – разам з кватэрай і ўсім нажытым у эміграцыі. Цяпер Каліта, як і я, вольны вандроўнік плюс яшчэ і мастак, і спрабуе абараніць кандыдацкую. Якіх такіх навук, дальбог, не памятаю. Ды гэта і неістотна. Важна другое. Мы адзіночкі. Мы працуем кім заўгодна і дзе заўгодна толькі дзеля аднаго: ён – каб маляваць, я – каб маляваць і пісаць жывапісныя тэксты.

Мы сустракаемся з Калітом каля нейкага будынку, два бязбожнікі каталіцкага веравызнаньня, і сунемся да яго ў бібліятэку, у якой ён працуе на пасадзе дробнага паслугача. Тут ён мае бако-

вачку, дзе ляжаць ягоныя жывапісныя малюнкі, якія аўтар з непрыхаваным ажыўленьнем на твары дэманструе мне.

– Файна, файна! – кажу я. – Ты добра малюеш. Сальвадор Далі ўзяў бы цябе вучнем сваім, бо ўмееш маляваць галаву каня.

– Ты і праўда лічыш, што я добра малюю? – недаверліва перапытвае жывапісец.

– Праўда-праўда, дарагі зямляк. Ты – мастак...

Далей мы гаворым пра жывапіс, пераскокваем на літаратуру ды зноў вяртаемся да мастацтва перадачы вобразаў фарбамі. Ну і да Шагала дайшла чарга. Тут я разгарачыўся.

– Зьвярні ўвагу, зямляк, – кажу я, – гісторыя з Шагалам – прыклад таго, як жыды выцягваюць сваіх і з нікчэмнасьцяў робяць персанажаў сусьветнага маштабу...

– Ну не кажы... – слаба парыруе Каліта, – гэтыя шагалавы баба зь дзедам над горадам...

– Шагалавы шэдэўры кожны можа намаляваць, кожны адукаваны чалавек. Далі нельга паўтарыць, а Шагала можна. Вось і пытаньне: чаму апошні робіцца вядомым і мазьня ягоная прадаецца на аўкцыёнах за вялікія грошы? А я табе скажу „чаму" – таму што ён *свой, свой для сваіх аднапляменьнікаў*. Чаму ж *мы* не можам быць сваімі для сваіх? Чаму ты, каб выжыць, павінен падрабляць у жыдоўскай бібліятэцы ў Празе, а я – дзесьці ў запалярнай Нарвегіі?.. І ўвогуле, Каліта, я хачу, каб Драздовічавы „Пагоні" прадаваліся ў мінскіх салонах за сямізначныя сумы ў стабільнай валюце. Тады з'явіцца надзея, што і нашыя работы землякі пачнуць набываць...

– Добра-добра, спадар Вільман, – закругляе наш дыялог Каліта, – трэба перакусіць. Ты еў калінебудзь кашэрнае?

... І мы ідзём у сталоўку. На раздачы побач з

чыстымі падносамі ляжыць стосік жыдоўскіх галаўных убораў цёмна-сіняга колеру. Гэта кіпы, я бяру адну і прыкрываю ёй свой антысеміцкі чэрап. Бадай, першы раз у жыцьці я парушаю правіла, якому мяне вучылі мая баба зь дзедам ды бацька з маткай: перад ядой, нябожчыкам і ў храме шапку з галавы далоў! У гэтай сталоўцы перад ядой я прыкрываю сваю русавалосую макаўку. Я парушаю закон маёй веры. Каліта ўхмыляецца: „Вось бачыш, добра мець знаёмага ў Празе – пакаштуеш кашэрнага".

І я сапраўды сьпярша асьцярожна каштую, потым, не здраджваючы свайму правілу адносіцца да ежы з павагай ледзь не містычнай, з'ядаю ўсё да крошкі: посны суп з невядомымі інгрыдыентамі, посную чачавічную кашу з невядомым катлетным мясам і выпіваю посны кампот.

Пакуль я далучаўся да кашэрнай культуры спажываньня, Каліта нарэшце растлумачыў, што мы абедаем у сталоўцы Пражскага жыдоўскага ліцэю, у якім, само сабой, вучацца дзеткі пражскіх жыдоў.

З Чэхіі я накіраваўся ў Германію – тую самую, якую я ўжо праязджаў у 2002-м.

У цягніку „Прага – Мюнхен" мы дзялілі купэ на пару з Андрэяй-славачкай. Я даў ёй у рукі мой „Турэмны дыярыюш", які пастаянна важу з сабою, так з гэтымі турэмнымі ўспамінамі і сфатаграфаваў яе. Славачка-спадарожніца ехала да Мюнхену – Мюніху – Міхува, я выйшаў ў нямецкім Ландсхуце. Углядаючыся ў вечкі каналізацыйных люкаў, упрыгожаныя свастычным арнаментам, я ледзь не разьмінуўся з Мурашом, які сустракаў мяне і потым апекаваўся мною ўсе дні гасьцяваньня майго ў Нямеччыне.

І так, Бундэсрэпублік Дойчланд – Федэратыўная Рэспубліка Нямеччына (Германія) знаходзіц-

ца ў паўночнай частцы Цэнтральнай Еўропы і займае 356 тысяч 733 квадраткіламетры тэрыторыі, на якой спрабуць ужыцца 80 мільёнаў 293 тысячы жыхароў, альбо 225 чалавек на квадраткіламетр у 1992 годзе.

Яшчэ раз: 225 на кіламетр квадратны! Гэта добрая вёска. Прыкладна двароў 50. І кожнаму двару патрэбна як мінімум сотак 30 ворнай зямлі... Страшна цесна. Пры тым, што нямецкія патрабаваньні да жыцьця моцна розьняцца ад, скажам, кітайскіх. Немец не задаволіцца жменькай рысу, немцу патрэбны сьвіны кумпяк. А каб выгадаваць кумпячок – трэба многа-многа кармавога жыта. А, значыць, і тэрыторыі, на якой яго можна будзе вырасьціць. Так што *нямецкае пытаньне* нікуды ня зьнікла і застаецца адкрытым.

Немец стаў культурным, таму што павярнуцца не было як. Цесната зрабіла нямецкую культуру, пашыхтавала нямецкі народ у маршавыя калоны і павяла на пошукі лебенсраўму. Выхады да Паўночнага і Балтыйскага мораў не вырашалі нямецкага пытаньня. Немец ішоў да нас, на ўсходні акаём Еўропы. Але на ўсходзе – Польшча, а за Польшчаю мы – Літва-Крывія, і многа сытай зямлі...

Калі немец ідзе на Ўсход, я яго разумею — яму цесна, ягоныя сьвіньні патрабуюць фуражу. З культурным немцам я магу ўступіць у перамовы, заняцца тавараабменам... Мне іншае цяжка зразумець: чаму ў наш паўночна-заходні еўрапейскі Край, у нашую Гардарыку лезе Масква? Яна ж мае ўсё, што трэба для дабраякаснага аўтаномнага існаваньня і ўсё роўна лезе сюды, дзе заўсёды была, ёсьць і будзе Літва-Крывіччына!..

Пакуль мы тэпаем з вакзала да месца лакалізацыі Мураша, нехта з нас знаходзіць геніяльны ў сваёй прастаце адказ: Масква ідзе на захад не таму, што ёй цесна – *яна хоча пажыць у Еўропе.*

У нямецкай муніцыпальнай кватэры горада Ландсхута мяне чакае ўся Мурашова сям'я: жонка раскошных формаў і паважнага веку, і два прыёмныя сыны-падлеткі. Здароўкаемся. Абдымаемся з гаспадарамі. Сыны, пра якіх я ўжо ведаю, пакуль не паказваюцца. І толькі пасьля бацькавага воклічу з'яўляюцца на хвіліну, вітаюцца, вытрымліваюць паўзу прыстойнасьці ды зноў зьнікаюць за дзьвярмі свайго пакою.

Пакуль гаспадыня накрывае на стол, мы з Мурашом гаворым па-нашаму і пра наша. Спачатку ўспамінаем, як было дома... Увогуле, больш гаворыць і ўспамінае старэйшы – Мураш: як стваралі НАФ (Нацыянальны Фронт Вызваленьня); як інфільтравалі арганізацыю правакатарамі варожыя сьпецслужбы; як маладзёжнае крыло радыкальных пафігістаў адкалолася і ўтварыла ТСТ – баявую групу „Тэрор супраць тыранаў"... Разагрэўшыся ўспамінамі і белым алкаголем, Мураш скідвае з сябе лёгкі швэдар, здымае рубашку і застаецца ў кашулі-безрукаўцы. На ягонай правай руцэ, крыху ніжэй ад плечавога суставу, у сьвятле стаяковай лямпы таямніча-прызыўна загараецца каляровая „Пагоня" і Нацыянальны сьцяг.

– А так мы прыходзілі ў НАФ, – кажа Мураш, падстаўляючы пад сьвятло лямпы аголеную руку з наколкай. – Перш чым стаць сябрамі Арганізацыі, мы, былыя армейскія, марфлотаўцы, афіцэры сьпецвойскаў, давалі клятву на вернасьць Бацькаўшчыне і рабілі вось такія татуіроўкі. Мы кляліся не забыць не „мать родную", а цэлую краіну Літву зь яе дзесяцьцю мільёнамі жыхароў і тэрыторыяй у 210 тысяч квадратных кэмэ!

Сівагруды Мураш у запале ўспамінаў скідвае з сябе і майку, і тады над левай грудзінай старога ліцьвіна я бачу яшчэ адно татуіраванае крэда – „Айчына альбо сьмерць!" Уражаны, я шумна вох-

каю, памыкаюся нешта сказаць, але ў гэты момант адчыняюцца дзьверы, і гаспадыня ставіць на стол гарачае – нямецкую бульбу з нямецкай сьвінінай.

Нарэшце стол накрыты, усе хатнія памылі рукі і селі на свае месцы. Мураш выпростваецца на сваім спартанскім антыкварнага веку крэсьле, уздымае стограмовую крышталёвую чарку ад гарадзенскае гуты „Нёман", і рэзка, як стрэл, прамаўляе:

– За Літву!

– За Літву! – паўтараю я разам з гаспадыняй бліскавічны тост і куляю ў сябе празрыстую саракаградусную вадкасьць.

На другі дзень мы едзем з Мурашом ў сталіцу Баварыі Мюнхен, дзе сустракаем нашага трэцяга з дачкой-падлеткам – Закрэвіча. Тром дарослым мужчынам з партызанскага краю ёсьць пра што пагаварыць у самым, што называецца, сэрцы Нямеччыны і яе культурна-палітычнага жыцьця; урэшце рэшт, гэта сэрца і мозг нямецкага нацыянал-сацыялізму 20 стагодзьдзя.

Мы вандруем па цэнтры аднаго з самых нацыяналістычных гарадоў Еўропы. Мы топчам той самы брук, па якім маршыравалі члены Рабочай партыі Антона Дрэксьлера, а потым нацыянал-сацыялісты Адольфа Гітлера. Заходзім у неверагодных памераў півярны бар, у якім адначасова паглынаюць піва і закуску чалавек дзьвесьце мюнхенцаў. Немкі-сервітрысы ў баварскіх строях з белымі накрухмаленымі каронкамі на русавалосых галоўках, як і дзевяноста гадоў таму, жвава і з імпэтам прафесіяналак разносяць літровыя кухлі зь півам і порцыі сьвініны розных відаў і памераў. На двары кастрычнік месяц, і над сталіцай Баварыі лунае дух *Актобар-фэсту* – штогадовага фестывалю выпіваньня дэкалітраў піва і паяданьня тонаў сьвініны з бульбай і мучным.

Калі верыць кёльнерцы Гуніле, мы п'ём піва ў тым самым будынку, у якім калісьці знаходзілася самая вядомая нямецкая піўніца – „Бюргербройкельлер". Гэта ў ёй нараджаўся аратарскі геній нямецкага правадыра, гучалі тосты за здароўе і перамогу нямецкай нацыі і пачыналася бліскавічная гісторыя ўздыму, трыюмфу і падзеньня германскага нацыянал-сацыялізму...

Мы знайшлі свабодны стол і заселі, узяўшы адразу па два кухлі на брата. Наша гамана ўлілася ў агульны, з наплывамі, выбухамі і адкатамі, гул дзесяткаў і сотняў чалавечых глотак.

– Бачыце, – кажу я да нашых хлапцоў, – амаль сто гадоў таму, пасьля першай сусьветнай, немчыкі ў гэтым кабачку былі пераважна худыя, галодныя і, як вынік, злыя. А пасьля другой сусьветнай, глядзіце, яны, нарэшце, рассыцелі, раздабрэлі, і сваю цягу да маршыраваньня топяць у піўным акіяне *актобар-фэстаў*.

– Не, я ўсё ж паважаю немцаў, – расьпеўна вымаўляе Закрэвіч, і пяшчотна прыхінае да сябе дачку, якая каштуе нейкія мюнхенскія саладзені і зь цікавасьцю прыслухоўваецца да размовы дзядзькоў.

– А я, можна сказаць, нават люблю! – сячэ сваю ліцьвінскую праўду-матку Мураш. – Вялікая нацыя, моцны народ, ёш тваю раз! І гэтаму моцнаму народу нашы дзяды наставілі ў карак. Калі на тое пайшло, дык цяпер наша чарга прыходзіць да іх і браць сваё – хоць бы і так, як робім гэта мы з вамі...

У гэты момант наша тройца інтуітыўна хапаецца за кухлі, мы чокаемся імі і ў адзін голас рыкаем: „Літва убер алес! Патрыя о муэртэ!"

На нейкі момант за суседнімі сталамі сьціхае, і тады я ў эмацыйным запале гукаю да суседзяў: эй, майн лібе фольк, алес гут, kom und drink... І расплываюся ва ўсьмешцы.

Адчуўшы, што далей нам нецікава сядзець у „Бюргербройкельлеры”, мы ўзьняліся і пайшлі зноў перамяшчацца па Мюнхене. Дамовіліся, што будзем блукаць, пакуль Закрэвічава дзіця ня стоміцца.

Выблукалі на плошчу Рэвалюцыі, на якой патапталіся на мемарыяльнай пліце па загінулых падчас піўнога путчу паліцыянтах Веймарскай рэспублікі. Цікава, што на пліце выбітыя толькі імёны і прозьвішчы мюнхенскіх паліцыянтаў. А загінулыя путчысты нібы і не былі нямецкімі грамадзянамі, іх памятаць як бы й ня варта. Эх жа, якая ты выбарачная, людская памяць...

Навязаўшы неабходныя кантакты ў баварскім сэрцы Германіі, перадаўшы распараджэньні нашага Цэнтру супраціўленьня і атрымаўшы неабходную інфармацыю з *вуснаў у вусны,* я выправіўся ў Бельгію.

Бельгія. Цэнтравая краіна для нашай ліцьвінакрывіцкай дыяспары ў Заходняй Еўропе і для Еўрапейскага Саюза. Каралеўства. Незалежная дзяржава з 1831 году. Усяго 30 тысяч 519 квадратных кіламетраў з насельніцтвам у 10 мільёнаў 21 тысячу чалавек. Прыкладна 328 персонаў на адзін квадратны кіламетр. Цесна, страшна цесна, думаю я, успамінаючы нашыя паўночна-заходнія крывіцкія прасторы, раку Сэрвач і Будслаўскую пушчу...

На тэрыторыю бельгійскага каралеўства мяне ўвозіць мюнхенскі цягнік. Мінаем Ардэны (яны застаюцца зьлева, праязджаем Л’еж і Намюр з аднайменнымі правінцыйнымі сталіцамі, паварочваем направа і прамінаем правінцыю Брабант і яе сталіцу Брусэль (тут я ўспамінаю сваю дзіцячую пару і маладога бацьку, які прыносіць куплены ў мястэчку экзатычны прадукт чарнільна-гарчычнага колеру – брусэльскую капусту).

У Антвэрпэне сустракаюць мяне свае – вялікая група землякоў, пераважна моладзь, сябры аргані-

зацыі „Белыя Брыгады”, пра якую ўжо з трывогай шэпчуцца ў кулуарах еўрасаюзаўскіх схаднякоў...

Адзін з брыгадыстаў паказвае мне нутро ліберал-капіталістычнага Антвэрпэну – мы ідзём у квартал „чырвоных ліхтароў”. Зямляк па мянушцы „Макар – жалезная галава” настаўляе: „Не ўздумай фільмаваць у чырвоным квартале. Тут гэтага ня любяць”. Я хаваю відэакамеру ў футарал і маральна рыхтуюся адбіваць атакі нахабных прастытутак.

Аднак мяне чакае лёгкае расчараваньне. На вуліцы „чырвоных ліхтароў” у бельгійскім Антвэрпэне зусім ня так, як у савецкім фільме „Брыльянтавая рука”: прастытуткі не стаяць пад дзьвярмі сваіх апартаментаў, не хапаюць мужчынаў за рукавы ды іншыя часткі аддзеньняў і целаў, не загаворваюць да мужчынскага полу, не фліртуюць зь ім і тым больш – не лаюцца. Антвэрпэнскія „начныя матылькі” стаяць за вітрынным шклом сваіх „паблік хаўз”, стаяць зусім як мёртвыя манекены на суседніх вуліцах. І толькі калі той ці іншы „матылёк” раптам варухнецца, пераносячы цяжар свайго цела з адной нагі на другую, толькі тады і можна здагадацца, што фігуркі гэтыя – жывыя.

Я ішоў і ўзіраўся ў твары жанчын. На некаторых я бачыў нешта чалавечае, нейкія натуральныя агеньчыкі. Адна ці дзьве страпянуліся былі і сышлі з вітрыны. Напэўна, іх запатрабавалі кліенты, але мне чамусьці падумалася, што яны пазналі, адчулі ўва мне свайго, усходніка, і ім стала крыху сорамна, яны пакінулі месца працы, каб не браць платы са свайго.

Так мне хацелася думаць. Так я і думаў, ідучы туды і назад па вуліцы „чырвоных ліхтароў” партовага бельгійскага Антвэрпэну.

Пасьля кварталу блядошчаў Макар павёў мяне ў квартал жыдоўскі, які знаходзіцца ў самым, ба-

дай, людным месцы гораду – на тэрыторыі чыгуначнага тэрміналу.

Мушу сказаць, што такога разгулу пэйсатых монстраў я ня бачыў нават у Нью-Ёрскім Брайтане. Хасіды ў чорным былі паўсюль; на вуліцы яны сноўдалі туды й сюды, зьліваліся ў пары, тройкі і групы, як ртутныя шарыкі; стаялі за прылаўкамі ювелірных крамаў, якія цягнуліся адна за адной па абодва бакі тэрмінальнага вулічнага пралёту.

Жоўтага металу і жыдоўскага цела было так многа, што рабілася блага і пачынала нудзіць. Я ўспомніў быў крымскіх з чорным адлівам цвыркуноў, якія атакавалі нашу роту абслугі на авіябазе пад Сімферопалем. Цыкады прыходзілі ноччу, калі рота спала ў казарме. Абцякаючы тонкім чорным ручайком тумбачку дзяжурнага, цвыркуны прабіраліся ў капцёрку, паўзьлі ў туалетны пакой, падымаліся па трубах аж да зьліўных бачкоў і запаўзалі ў ракавіны ўмывальнікаў. Дзяжурны зьмятаў цвыркуноў на шуфлік і выносіў іх пад разгалістае шаўковае дрэва – шаўковіцу.

Матросы любілі іх за мілае цвыркатаньне, нейкую неверагодную дружалюбнасьць і... гігіенічнасьць. Гэтыя насякомыя, як і павукі, пчолы, чмялі і мурашы, не выклікалі агіды.

Цвыркуны былі чыстымі стварэньнямі, і таму я ня стаў параўноўваць іх з хасідамі, бо апошнія для нас з Макарам былі такія далёкія, што параўнаць іх можна было хіба толькі з іншапланетнымі монстрамі галівудскіх фантастаў.

Мы, вядома, ні золата, ні срэбра ў жыдоў не купілі, але атрымалі лішні раз урок няроўнасьці ў богавай дзяльбе, яскравы прыклад падзелу працы і капіталу. Дальбог, жыд Карл Маркс як ніхто ведаў пра гэты распадзел, пішучы свой „Капітал”.

Пасьля падарожжа ў залатаносныя нетры Антвэрпэнскага тэрміналу, наглядзеўшыся на чорныя

капелюшы, пэйсы і сурдуты хасідаў, мы вечарам добра накачаліся рознакаляровым бельгійскім алкаголем, разважаючы, як той старажытны філосаф, над праблемай пошуку грунтоўнай апоры, упіраючыся ў якую, можна перавярнуць сьвет, а ў нашым выпадку – перавярнуць уладу з чужой на сваю.

Як ні дзіўна, ды раніцай наступнага дня і *бамбардзір* Макар – жалезная галава, і астатнія былі ў поўным парадку. У мяне крыху пазвоньвалі ў галаве званочкі, але да паўдня і яны заціхлі.

Пасьля абеду ў былога мінскага таксіста пана Раманюка картэж брыгадыстаў павёз мяне на экскурсію ў Лювэн. Гэты невялікі бельгійскі гарадок па заканчэньні Другой Вялікай вайны даваў у сьценах свайго каталіцкага ўнiверсітэту прытулак сотням і тысячам ліцьвінаў-уцекачоў, многія зь якіх сталі пасьпяховымі людзьмі ў краінах гэтай самай Заходняй Еўропы, у ЗША і Лацінскай Амерыцы.

Сёньня Лювэнскі каталіцкі ўніверсітэт зачынены. Мы блукаем па тэрыторыі, на якой калісьці віравала паваеннае студэнцкае жыцьцё, а ў паветры гучала ў тым ліку і крывіцкая мова...

Кастрычнік – ён і ў Бельгіі кастрычнік: шархаціць пад нагамі апалае лісьце салідных ліпаў і клёнаў, у паветры правісае дух паміраньня і здаецца, што вось-вось паваліцца масіўная мураваная сьцяна, якая аддзяляе памерлы ўніверсітэцкі гарадок ад астатняга – жывога – сьвету.

Вяртаючыся з Лювэна, заехалі да самага маладога з групы „Белыя Брыгады” – да Мірона Лісоўскага, які жыве на бельгійскі *сацыял* ў даволі цеснай камунальнай кватэры. Капітал для сябе і Арганізацыі зарабляе перагонам аўтамабіляў бліжэй да ўсходніх рубяжоў Еўропы...

У брыгадыстаў салідныя планы, але пра іх памаўчу – скажу толькі, што кожны зь іх носіць на левай грудзіне вельмі сур’ёзнае тату – абяцаньне

„Айчына альбо сьмерць!” Мне здаецца, гэта Мурашова навука, ад яго набраліся – пазначаць сябе знакамі свайго. І калі захочацца каму раптам сьцерці гэты надпіс, дык толькі нажыва, зь мясам і атрымаецца. І будзе вельмі балюча...

Гасьцявыя дні праляцелі хутка...

– ... Ну не, спадар-таварыш Вільман, так нельга, – нечакана ўмешваецца ў гісторыятворны працэс Аўтар.

– Вы прапусьцілі некалькі важных момантаў у вашых апавяданьнях. Напрыклад, пра тое, што ў Чэхіі ня ўсім чэхам жывецца гламурненька ва ўмовах капіталізму, вялікае беспрацоўе сярод іх, а Чэшская рэспубліка, вырабіўшыся з-пад улады СССР, цяпер пад моцным уплывам Злучаных Штатаў, а ў Маравію ізноў прыходзяць немцы – што праўда, не са зброяй – з капіталам, і выкупляюць землі ды заняпалыя фабрычкі, ды нерухомасьць.

Расказваючы пра Мюнхен, вы таксама наблыталі: „піўны путч” адбыўся на плошчы Адэон, якая і сёньня так называецца. А знаёмячы нас з Мурашовай сям’ёй, вы забыліся ўдакладніць, што і яна жыве з нямецкай базавай сацыяльнай выплаты, і толькі прыёмныя сыны Мураша прыносяць ў іх камунальную кватэру сякі-такі левы даход ад збору на кантэйнеры і продажу падпольным купцам лому каляровых металаў...

– Так-так, пане Аўтар, – адгукаецца наш Вільман, – вашая праўда, істотныя заўвагі. Ведаеце, часта плынь апавяданьня праносіцца міма вельмі важных для гісторыі дэталяў. Іншы раз я думаю, што якраз у дэталях і хаваецца сутнасьць жыцьця, яго, калі хочаце, таямніца. Вось, напрыклад, вы чаму такі ўпёрта-настырны?..

– Пра мяне пакуль гаварыць ня будзем, – парыруе Аўтар, – лічыце, што мяне ўвогуле няма – ёсьць толькі вы. І гэта вы павінны быць усім і

магчы ўсё... Вы ж апавядальнік! Вы фактычна з’яўляецеся стваральнікам; вы, Вільман, творца і гэтага тэксту, і ягоных персанажаў, і таго кантэксту, у якім вашыя персанажы функцыянуюць. Урэшце рэшт, каб ня вы, не было б і мяне, бо я толькі дух, Вільман, я з’яўляюся там, дзе праяўляецца воля – воля да жыцьця, да дзеяньня і стварэньня. Так што наперад, працуйце! Усё, што вы зробіце – будзе зроблена. Небыцьцё паўтараецца небыцьцём, і толькі зробленае набывае формы і застаецца. Давайце вашым героям ідэю! Стаўце перад імі вартыя мэты і адпаведныя задачы! У вашых гісторыях, Вільман, павінны бушаваць жарсьці, а вы, бачу, пачалі зьбівацца на сухую рыторыку і нейкія недарэчныя лічбы. Да д’ябла арыфметыку з матэматыкай, гэтыя штучна створаныя чалавекам абстракцыі! Сьвет – палярны, Вільман, дваічны, і ўсяго толькі. Гэтым ён і цікавы. Ты альбо жывы, альбо нежывы; альбо ты ёсьць, альбо цябе няма! Вось такія прыкладна ідэі павінны гучаць у вашых гісторыях, калега. Альбо ты ёсьць, альбо – няма; альбо ты, альбо цябе...

... Я прачнуўся сярод ночы і некалькі хвілін варажыў, што са мной і дзе знаходзіцца мая арганічная субстанцыя. Аказалася – нічога экстраардынарнага: апошнюю ноч перад вяртаньнем у Нарвегію я начую ў брыгадыста Міхала, апантанага верніка-хрысьціяніна, які жыве з жонкай і двума амаль дарослымі сынамі. Міхал – моцны каржак, адпусьціў бараду, трымае пад кантролем ужываньне алкаголю і ня курыць. Дома ён не даваў спакою акупацыйным уладам, не дае расслабіцца і ўладам бельгійскім – патрабуе зарэгістраваць праваслаўны прыход, дамогся памяшканьня для правядзеньня нядзельных службаў...

... Перад ад’ездам ня сьпіцца, і я думаю пра сваіх, пра землякоў, якіх нямала ўжо расьцеру-

шылася па тэрытрыях на захад ад Брэсту-Літоўскага. Думаю і пра Гальку-гомельскую, адзінокую саракагадовую кабету, якая атрымала гуманітарны прытулак ў бельгійскім Лакерэне, прадала ўсю сваю маёмасьць там, на Радзіме, і забрала з сабой старую маці і дачку. Дачка ўжо дарослая, 20 гадоў, займаецца на курсах французскай мовы і дзесьці падрабляе. Працуе і Галька – былы інжынер гомельскіх цепласетак прыбірае прыватныя канторкі ў правінцыйным бельгійскім гарадку.

Па „наводцы" нашага сувязнога ў Нямеччыне, Мураша, я быў ласкава сустрэты Галінаю і двое сутак начаваў і сталаваўся ў яе, і выслухоўваў гісторыі ейнае вайны з рэжымам унутранай акупацыі. Урэшце аднаго разу жанчына не вытрымала, моцна пакрыўдзілася і пакінула Радзіму... Далей я ня буду пра яе пісаць, ня буду рабіць ніякіх заключных маралітэ – няхай гэта зробяць самі чытачы і слухачы маіх гісторыяў.

Да шостай раніцы, калі трэба было ўставаць, я так толкам і не заснуў: вярзьліся перанаселеныя бельгійскія прасторы (падумаць толькі, на 30 тысяч квадратных кэмэ дзесяць мільёнаў жыхароў – 328 чалавека-галоў на квадрат-кэмэ!); паўставалі на ўвесь свой бетонна-ядравы рост восем бельгійскіх атамных станцыяў, якія даюць столькі энергіі, што ліхтары гараць круглыя суткі па ўсёй Бельгіі; Ватэрлоо, якое я бачыў толькі з акна аўтамабіля брыгадыстаў, цяпер само насоўвалася на мяне, а я спрабаваў крычаць, што я не Напалеон, а Вільман, Вільман, але голас захрасаў дзесьці глыбока ў горле, і я толькі цяжка стагнаў... аж пакуль не ачомаўся ад кашмарнай начной бессані.

Аўтобус кампаніі „Еўракар" рэйсам „Антвэрпэн-Осла" адыходзіў роўна ў 7.30. Хвілін за 20 да адпраўленьня землякі Міхал і Макар-жалезная галава прывезьлі мяне на прыпынак, перадалі торбу з

едзівам і пажадалі добрай дарогі. „Жыве!” – былі іх апошнія словы. „Жыве вечна!” – ціха, але ўпэўнена выгукнуў я ў адказ і падняўся ў салон аўтобуса.

## 2009

**„Fretex” і дзядзька Рызьнік; тутэйшыя персанажы рабочага калектыву; масонская ложа „Паўночнае ззяньне”; наш зямляк Рыбак; ружовая сьмерць у Вільні; экскурсія на могілкі Роса; у гасьцях у Станіслава; нарвежская рабінзанада; яшчэ адно вяртаньне; мімалётны эксцэс з мінулым; філасофія паралельнага; ідэальная вулька; назад у сацыяльны „рай”.**

Дзень добры майму брату ў веры! Гэтым разам я пачну свае гісторыі з апавяданьня пра нарвежскі „Fretex”, крывіцкага дзядзьку Рызьніка і філасофію дабрачыннасьці.

Дык вось, „Fretex”. Што такое „Fretex” у перакладзе літаральным, я не рызыкну рабіць нейкіх здагадак, каб не аказацца ў ролі дылетанта, бо, як табе добра вядома, не люблю павярхоўнасьці. Перакладзем „Fretex” як Фрэтэкс і пойдзем далей.

Такім чынам, Фрэтэкс – гэта сетка даволі вялікіх па плошчы крамаў, якія гандлююць старымі, ужыванымі, адбракаванымі і проста антыкварнай якасьці рэчамі. Налічваецца каля сарака Фрэтэкс-крамаў па ўсёй Нарвегіі. З іх ліку першая была адкрытая ў Осла ў 1905-м і называлася „Элеватар”.

Рэкламыя брашуркі Фрэтэксу паведамляюць, што першасная задача арганізацыі – клопат пра людзей і дапамога людзям.

„Фрэтэкс перш за ўсё для людзей”, „Мы даём

народу падставы верыць у будучыню!" – чытаю я рэкламныя слоганы прадавальнікаў ужыванага і разумею, што дзесьці я такія самаўпэўненыя заявы чуў. Дзе я іх чуў? І калі? Ці не падобныя абяцаньні-лозунгі давала колішняя кампартыя СССР? Ці не тое ж самае практычна штодня вякае закапёршчык рэжыму ўнутранай акупацыі ў нашай Літваніі-Крывіччыне?..

„Фрэтэкс" мог паўстаць толькі ў стабільна сытым грамадстве. Гэта не блышыныя рынкі нашага Ўсходняга Акаёму Еўропы, на якія народ нясе свае рэчы, каб іх прадаць хоць бы за бесцань і альбо прапіць выручаныя грошы, альбо – набыць за іх ежу сабе й дзецям.

У нарвежскі Фрэтэкс сыты нарвежскі публікум нясе і здае сваё барахло проста за так, бясплатна, і, як запэўнівае яго айчынная грамадская думка, далікатна кіраваная ліберальнымі медыямі, з пачуцьця гуманнасьці, клопату пра тых, каго ён, нарвежскі прадуманы фольк, бачыць толькі ў тэлевізары і ў інтэрнэце. Адрозна ад іншых крамаў па продажы ўжываных рэчаў, Фрэтэкс – стабільная сістэма, якая працуе поруч і разам з „Арміяй Выратаваньня". Штогод Фрэтэкс прадае больш за 11 тысячаў тон тканага матэрыялу (перш за ўсё адзеньне) і тысячы тон матэрыялаў з драўніны (мэбля). Акрамя таго, Фрэтэкс мае фабрычкі па перапрацоўцы макулатуры, шые коўдры і матрацы, якія „Армія Выратаваньня" дасылае ў рэгіёны гуманітарных і прыродных ці тэхнагенных катастрофаў.

На першы погляд, брат, можа здацца, што ў аснове дзейнасьці Фрэтэксу ляжыць грунтоўная гуманітарная ідэя, так званы клопат пра шараговага бюргера, члена свайго альбо *іншага* грамадства, увогуле, *клопат пра чалавека*. Аднак на самой справе ўсё не так ружова: гарантыяй існаваньня „Фрэтэксу" з'яўляецца рэальны неўтаймоўны

капіталізм, апафеозам дзейнасьці якога ё расьцягнуты ў часе крызіс вытворчасьці. Бо што можа прымусіць бюргера ***старой*** Еўропы штогод несьці і бясплатна здаваць у Фрэтэкс добрыя рэчы? Адказ: толькі гарантаваныя капіталістычнымі адносінамі грашовыя паступленьні ў бюджэт бюргера, якія ён проста мусіць патраціць на набыцьцё новых рэчаў з тымі ж самымі функцыямі, якія адрозьніваюцца ад так званых старых хіба толькі новымі лэйбламі і мадэлямі.

Распавядаючы пра Фрэтэкс, не магу не згадаць пра дзядзьку Рызьніка, які на сваім коніку дабіраўся аж да нашага хутара Казіміраўка, зьбіраючы па вёсках *рызьзё* – тое, што некалі было адзеньнем, пасьцельнай бялізнай, посьцілкамі і пакрываламі, і стала абсалютна непрыдатным для ўжываньня.

Ты ведаеш, у нас ніхто не выкідваў (ды і цяпер не выкідвае) адзеньне альбо, напрыклад, дзіцячыя цацкі – лішняе аддавалі радні ці ў крайнім выпадку – суседзям. Рызьніку даставаліся такія лахманы, такія атопкі і атымахі, што сёньня і ўявіць сабе цяжка. Сабранае рызьнікам адпраўлялася на перапрацоўку, і ці даставалася што добрае з рызьзя дзядзьку Рызьніку, – я ня ведаю.

Дарэчы, ледзь не забыўся: каб заахвоціць правінцыю аддаваць зборшчыкам хатнія абноскі, савецкая дзяржава ўзамен за здадзеныя кілі рызьзя выдавала кухоннае, ці не, хутчэй, пячное, начыньне: чыгунныя гаршчкі ды патэльні-накрыўкі да тых самых чыгуноў. Так што маім бабулі ды матцы было што варочаць ў вялікай варыстай печы.

Дарагая Сястра!

Заканчваецца мая рабочая практыка ў абласной друкарні запалярнага нарвежскага горадка Буды, а я пакуль ні слова пра тых, з кім працую (а

працую я ў аддзеле гатовай цэлюлёзнай прадукцыі). Ну дык во, шэф мой – нарвежац яшчэ той – італьянец Сальваторэ Фурнары. Майго росту, маёй вагі, праўда, крыху старэйшы – 56 гадкоў яму. Ну і валосікі – мае сівыя на галаве пышна завіваюцца, а ў шэфа – рэдзенькія і прыліпаюць да плешачкі.

Таварышы ў аддзеле празвалі яго Сэмам. У гэтым слове гук „С" вымавіць удаецца. А вось у выпадку з маім імянцом у іх „Ш" выскоквае. Чыста як дзеці шапялявяць, як я ў маленстве...

Шэф – ня быў бы ён італьянец! – самы камунікабельны ў нашым калектыве. Процілегласьць яму – нурландзец Арнхільд, які працуе на станку каляровага друку. Выгляд ён мае прыбітага пыльным мехам, які перад тым наладавалі скальнай пародай. На гэтым Арнхільдзе я канцэнтрую ці не ўсю маю антыпатыю да сучаснага ліберальнага соцыюму, якую можна сфармуляваць наступнай фразай: наколькі ж вы эмацыйна тупыя!

Побач з Арнхільдам працуе Тур. Сёньня ён прыйшоў на зьмену з новай прычасьсю на галаве: з русявага стаў пергідрольна-абрыкосавым. Як і пераважная бальшыня тутэйшых, Тур усе дзесяць месяцаў сваёй аднастайнай працы марыць пра адпачынак у цёплых краях, а менавіта – пра Санта-Фэ...

Чэл... Не, гэта не скарот ад слова „чалавек" – гэта нарвежскае імя, прычым, калі быць максімальна блізкім да арыгіналу, дык трэба вымаўляць так: Чэль.

Пасьля шэфа гэта, бадай, самы камунікабельны тутэйшы, часта жартуе... Днямі мы зь ім пагаварылі пра паляваньне. Кажа, заўсёды на курапатку хадзіў, але апошнім часам яе ўсё цяжэй здабываць – амаль што выбілі. Затое з кантыненту на Поўнач упарта прабіваецца лось, якога дзяды ў нарвежскім запалярным рэгіёне бачылі рэдка. Ця-

пер жа квота на адстрэл лася павялічваецца, пры тым, што многа іх гіне пад коламі аўтамабіляў і цягнікоў.

З Чэлам працуе малады чэл, якога без перабольшаньня можна назваць Вялікім Нямым нашага рабкалектыву. Ён катастрафічна тоўсты ў свае да трыццаці, заўсёды ў баваўняных штанах-кальсонах, з якіх выплывае ружовы трыбух з пупком; носіць MP3-слухаўкі. За два месяцы практыкі я пачуў ад яго толькі адно слова: хай! І то толькі калі мы сутыкнуліся нос у нос на вузкім праходзе і я р*ы*кнуў сваім тэнар-барытонам яму ў адказ пабукмолаўску: гут даг!

Жанчыны нашага калектыву маюць біблейскія імёны. Адна зь іх – Ева, перастарка гадоў сарака сямі. Крыху гаворыць, але магла б і больш – усё ж кабета. Каву на перапынках ня п'е – прыносіць з сабой нарвежскую ваду ў бутэльках. З'ядае вераб'іную порцыю буцера і запівае гэтай вадзіцай. Ня курыць. Калі няма работы – заходзіць у нэт і варожыць там на картах. Мяне так і пад'южвае нячысты шапнуць ёй: позна, Ева, позна...

Марыя, як і я, курсантка. У яе ўсе шанцы атрымаць у друкарні работу. Ёй 21, стройная і даволі сімпатычная. Нешта ў яе з нагамі не ў парадку – днямі зрабілі аперацыю на правай костачцы. Неяк разгаварыў быў яе, асьцярожна робячы апытаньне на прадмет выяўленьня IQ. Толькі дзякуючы маім пытаньням-наводкам узгадала Гамсуна як аднаго зь вялікіх нарвежцаў. Тое ж з Грыгам і Мункам (рэпрадукцыі апошняга вісяць у калідоры нашага аддзелу). Як пішуць інэт-грамацеі, *я фшоке*.

Ледзь не забыўся ўзгадаць свайго напарніка. Б'ёрнар яго завуць. Б'ёрнар у нас – аператар канвееру па расфасоўцы канвертаў. І ўвогуле ён на многія рукі майстар. Можа, таму, што мае ўсяго 22 і яшчэ поўны амбіцыяў стаць прафесійным друка-

ром? Я заўважыў у ім малады рэгіянальны патрыятызм. Гаворыць на Буда-дыялекце і падкрэсьлена не разумее майго букмолу, хоць і вымушаны з вымогаў рабочага працэсу. За дзень Б'ёрн выкурвае 10 цыгарэтаў. Пачак на 2 дні. За 20 рабочых дзён хлапчына аддае табачнай магнатэрыі 100 еўра ў пераліку. Кажа, буду кідаць. А то ж!

Увогуле, нядрэнны ён хлапец, Б'ёрнар з Мёркведу. Толькі вось ружовасьць ягоных малочных шчок мяне бянтэжыць. Звычайна такія „ружы" гараць на шчоках сухотнікаў і хворых на цукрыцу. Здаровыя згараюць па-іншаму.

Кажуць, скандынавы такія смурн*ы*я, сур'ёзныя... Нічога падобнага! Вось інструкцыя на рабочым месцы друкара: „У правілах карыстаньня навейшую інфармацыю передавай найменш зразумелым спосабам". Адразу ўзгадваецца савецкі плакат з дзеясловам загаднага ладу: „Не болтай!"

### Таварышу Каардынатару, на правах дыпламатычнай дэпешы (перадаю з аказіяй)

Не без намаганьняў, аднак дамогся свайго і стаў Братам масонскай ложы „Паўночнае Ззяньне" („Midnatsol"). У нашым 45-тысячным запалярным нарвежскім гарадку *Bodø* нас, вольных муляроў, 567 чалавек – больш чым у Баргене, Ставангеры і Трандхейме разам. Плюс да таго да ложы „Паўночнае Ззяньне" далучаюцца ложа „Сальтэн" і дзьве ложы Юхана. Значыць, усіх разам нас 712 чалавек. Пры адным працэнце ад агульнай лічбы насельніцтва Нарвегіі сталіца Нурланду Буда набірае каля чатырох працэнтаў ад агульнай колькасьці нарвежскіх масонаў. Усяго *ў краіне паўночнага шляху* дзейнічае каля 19 тысяч Братоў Ордэну. Герб нарвежскага брацтва вольных муляроў увёў шведска-нарвежскі кароль Аскар II 24 чэрве-

ня 1891 году. На гербе тры словы: Veritas – Caritas – Fiducia (Праўда – Любоў – Давер).

Я стаў Братам Ордэну паводле сьпецыяльнага закону („Særlov”) для ложы № 123 „Stella Nova”, які быў заснаваны 21.09.1991 у г. Bodø, прыняты на сходзе ложы 27.02.2003 і адобраны (прызнаны) у Осла 19.09.2003. Грамата прыёму ў Брацтва Ордэну падпісана:

Вялікі Майстра – Харальд Туен;

Вялікі Сакратар Мартэн Буян.

*З павагай, Брат Вільман*

Дабрыдзень, Пляменьнік!

У нас тут па ўсіх прыкметах нараджаецца новая еўрапейская поп-зорка. Але ўсё па-парадку.

16.02 глядзеў адным вокам нарвежскі тэлеканал NRK-1, паўтор нейкай праграмы з уделам юнака, які нагадаў мне лялечных хлопчыкаў поп-групы „Ласкавы май” канца 80-х мінулага стагоддзя. І раптам у цітрах чытаю: Aleksandr Rybak. „Во, – думаю, – дык гэта ж наш!”

З сюжэту я зразумеў пакуль толькі тое, што Аляксандр Рыбак, нарвежац крывіцкага паходжаньня, – новая зорка нарвежскіх поп-медыяў, іграе на скрыпцы, сьпявае і здымаецца ў нарвежскім фільме „Цыганы”, які павінен выйсьці на экраны ў жніўні сёлета.

Нагадаю, што ў нарвежскага Рыбака ёсць поўны цёзка – крывіцкі празаік Алесь Рыбак, з сынам якога мы ў верасьні 2002-га паромам „Кора-Лайн” прыплылі ў Осла…

20.02.2009 нарвежцы выбіралі фіналіста „Еўрабачаньня”. Ім стаў 22-гадовы Саша Рыбак, які працаваў з музыкантамі групы „A-ha”, прымаў удзел у тутэйшых конкурсах праграмы „Ідал” (Idol), а ў 2004-м узнагароджаны прэстыжнай прэміяй. Больш за 700 тысяч нарвежцаў, якія сачылі за

адборачным конкурсам „Grand Melody Prix”, аддалі свае галасы за Аляксандра Рыбака – *нашага* Сашу.

Кароткая біяграфія Рыбака-малодшага пачалася ў 1986-м, калі ён нарадзіўся ў адной крывіцкай радзільні. У гэтым жа годзе здарылася атамная катастрофа на Чарнобыльскай АЭС у сьціплым украінскім гарадку Прыпяць, і радыёактыўнымі ападкамі накрыла добрую частку паўднёвай Крывіі.

У 1990 годзе дзейнічала малавядомая шырокай крывіцкай публіцы праграма прыёму бежанцаў, якія пацярпелі ад названай аварыі і мусілі пакідаць заражаныя раёны. Дакладней, праграма была ўвогуле сакрэтнай і ставіла на мэце дапамогу людзям жыдоўскага паходжаньня. Бацькі Сашы-юніёра з'арыентаваліся правільна, падалі дакументы ў нарвежскі Дэпартамент па справах замежнікаў як Фішэры, і хутка атрымалі від на жыхарства...

Прайшло 20 гадоў, і Аляксандр Рыбак-малодшы на нашых вачах робіцца новай еўрапейскай поп-зоркай. Мы зь ім яшчэ сустрэнемся пазьней, а сёньня пакінем юнака ў спакоі: няхай працуе.

Ідзе-разгараецца вясна. Каторая ўжо па ліку адзінокая мая вясна.

Але я не падаю духам, не. Гэтай вясной я запланаваў маё вяртаньне ў Крывію; у віртуальнай прасторы лайдакі ды лайдачкі дыскутуюць гэтае пытаньне, а я пакуль кідаю пробны кругляк-шар – я прылятаю 21 красавіка ў Вільню...

Прыляцеў я шчасьліва, прызямліўся ў цёплай плюс-дваццаціградуснай Вільні і цягну за сабой свае нарвежскія валізкі да месца часовай лакалізацыі.

Як заўсёды, у Вільні многа эмоцыяў і сустрэчаў. Вось учора, напрыклад, разгаварыў свайго летувіскага калегу – паэта Бенядзікта, які падпі-

саў мне сваю сьвежую кніжачку мадэрнісцкіх вершаў, а я яму, я яму пажадаў натхненьня.

Потым сустрэча з маладым функцыянерам адной юрыдычнай канторы. Шчырая крывіцкая душа, ён раптам згадвае, што чэхі па наводцы Брусэля запрашаюць узурпатара ў Прагу, а гэта знак, што хутка ўсіх нас могуць прыкрыць у дыяспары, прапанаваўшы перанесьці сваю дзейнасьць назад у Метраполію... Выйшла на кантакт са мною моладзь Менску-Літоўскага. І гэта цешыць.

А яшчэ я апантана фатаграфую вось гэтых шпакоў-перасьмешнікаў у парку за плошчай Гедыміна. Божа, як жа ён завіхаецца каля яе! Як настаўбурвае пёркі і пры гэтым не забываецца дзюбаць чарвячкоў-казюрак. А самачка-шпачыха ну акурат як гжэчная паненка, як не дбае, так спакойна сабе дзюб ды дзюб, гонар маючы...

Як жа ў гэтай птушынай п*а*ры ўсё па-людску! Чаго не скажаш пра многіх з нас, а пра мяне дык найперш.

Здараюцца дні, калі перажываеш такі энергетычны пад'ём, што *самому страшна,* бо гатовы паласнуць сябе па венах левай, сьціскаючы тронкі скальпеля сваёй правай. Проста так паласнуць, быццам ты падлетак у стане гарманальнай перабудовы...

Нешта такое ў сабе я адчуваў 21-га красавіка, калі самалёт нарвежскіх авіялініяў „Norwegian" прызямліўся ў аэрапорце Вільні.

Цяпер я ў гэтым горадзе сам па сабе: сам сябе запрашаю, сам прыходжу на розныя зборкі і пастаноўкі. Я цяпер нечаканы ў горадзе, у якім жыве безбацькоўна мая дзевяцігадовая дачка, пра якую я столькі марыў, падыхаючы ў турме падчас сухой галадоўкі. І як толькі я падумаю пра яе маці, перад вачыма паўстае іншая – ненавідная мне і нахабная фізіяномія ўзурпатара, які спрабуе адабраць

у мяне нават мару – мару пра ідэальнае месца майго паміраньня – котлішча маіх продкаў, выган майго дзяцінства і адзінокую выспу ў адзінокім маім жыцьці – маю Крывію...

24-га сустрэў на чыгуначным тэрмінале маю віртуальную знаёмую, зямлячку Алю з нашай мытні. Яна ніколі не была ў Вільні і цяпер глядзіць на ўсё тут вялікімі вачыма, хоць ёй ужо 43. Яна дзівіцца, што аўтамабілі саступаюць дарогу пешаходам, а ў крамах можна таргавацца, як і на рынках... Мы падымаемся на вежу Гедыміна, і пакуль яна аглядае панараму Вільні, я расказваю ёй *кароткі курс гісторыі ВКЛ*.

26-га мы хадзілі зь ёй у *зарачанскую рэспубліку*, фоткаліся каля бронзакрылага анёла і Трох крыжоў.

Пакуль швэндаліся – зьвечарэла, і мы спусьціліся да ракі Нярыс, па берагах якой гулялі віленчукі ды госьці сталіцы. Праўда, лепш бы мы ў той вечар пайшлі ў якую півярню, бо каля ракі нас чакала зусім не рамантычная, а, хутчэй, крымінальная прыгода – на нашых вачах у красавіцкіх водах старажытнай ракі і на яе берагах адбывалася драматычная пастаноўка з удзелам галоўнага персанажу – Сьмерці...

Спачатку я заўважыў, што на нашым беразе, недалёка ад нас з Аляй, людзі пачынаюць кучкавацца ў дзьве-тры зацікаўленыя нечым групы, якія выпраменьвалі з сябе... трывогу. Я адчуў гэта адразу, сам завібрыраваў неспакоем і, абдымаючы сваю спадарожніцу, перадаў яго ёй. Рабілася зразумела, што цудоўны красавіцкі дзень закончыцца няўдала.

Купкі людзей зьліваліся ў натоўп, які рос і насоўваўся на бераг. Мы з Аляй паглядзелі на даволі імклівую плынь ракі. Метраў за дзьвесьце ці крыху болей штосьці плыло, плыло да нас, да берагу.

Гэта не магло быць ні бервяно, ні нафтавая пляма, а нешта такое, што можа заінтрыгаваць людзей, згарусьціць іх у кучы і трывожна зарымець у іх расслабленых вячэрнім праменадам арганізмах.

Прайшло пяць, дзесяць, пятнаццаць хвілін, пакуль тое, што плыло, не набыло, нарэшце, колер – ён быў ружовы. Дзесьці ў маім целе ёкнула інтуіцыя і ўдушлівай хваляй падкацілася да горла, ад нервовага напружаньня заблажыла як перад стратай прытомнасьці. З гэтага моманту я ўжо ведаў, што плыве тапелец. І тапелец гэты — жанчына ў ружовым.

Я крыху ачомаўся ад здранцьвеньня і ўспомніў пра відэакамеру на грудзях; дастаў яе з чахла, уключыў і стаў лавіць аб'ектывам рухомую пляму. Пляма набліжалася да берагу, то хаваючыся пад вадой, трапляючы ў віры, то выпуквалася над плыньню трывожным сьмяротным гарбом. Нарэшце ў кагосьці ў руках з'явіўся бусак, пачалі ім чапляць тое нешта, што плыло ў вадзе.

Мне дрэнна было відаць, відэашукальнік таксама распазнаваў аб'ект слаба, адно што колер быў бачны на агульным, болей шэрым, чым зялёным, красавіцкім фоне.

Пакуль мы з Аляй вырашалі, падыходзіць нам да людзкога натоўпу ці не, ён раптам пачаў расьцякацца ў розныя бакі і зьнікаць. Гэта азначала толькі, што ружовую пляму дасталі з вады, дасьледвалі і разгледзілі з усіх бакоў і цяпер пакідалі яе на самоце. Да рэшты заінтрыгаваныя, мы з Аляй падняліся на нейкі бетонны куб з металічнай агароджай і паглядзелі ўніз. Там, тварам у зямлю, ляжаў набраклы вадою тапелец: тоўстыя, яшчэ зімовыя, боты, рудыя штаны, ружовая сінтэтычная куртка і капа чорных валасоў – жанчына.

Я быў заварожаны ёю – Сьмерцю ў ружовым; я фатаграфаваў яе зьверху, з бетоннага куба, і

зблізку, стоячы каля самага краю вады. І пакуль я рабіў здымкі, у галаве маёй разьвіваліся і расьлі фантастычныя малюнкі і фантомы дасьмяротнага існаваньня гэтае жанчыны, якая цяпер увасабляла самую Сьмерць...

30 гадоў назад, у бязводным сухім афганскім Кандагары, я сам быў маладой дваццацігадовай сьмерцю і адбіраў жыцьці ў гэткіх жа маладых іншапляменьнікаў – мужчын. А тут жанчына. Прыкра. Я моцна адбымаю маю спадарожніцу Алю, – жывую, гарачую і ўсхваляваную, і мы ідзём у былыя Віленскія Дамкі, дзе ў пачатку мінулага стагоддзя адраджалася крывіцкая газэта „Наша Ніва", а ў 99-м я даваў жыцьцё маёй дачушцы. Цяпер жа, 26-га 04.2009-га, нейкая культурная публіка рабіла тут калектыўнае паяданьне бутэрбродаў і піцьцё алкаголю пасьля паказу нейкіх фільмаў; гаварылі не па-нашаму і зноў пілі. На прыступках будынку стаяў адзінокі слоік з марынаванымі агуркамі.

Правандраваўшы праз чужое сьвята мы, яшчэ ў воблаку сьмяротных флюідаў, пайшлі на *Зялёны Мост*, дзе фоткалі сябе на фоне бліскучага вячэрняга сонца і савецкіх скульптурных груп.

На наступны дзень мы хадзілі ў Базылянскія Муры глядзець вуніяцкі касьцёл, вязьніцу філаматаў, памятныя шыльды Гарэцкаму ды Арсеневай. Відаць, пачуўшы наша крывіцкае гаварэньне падыйшоў і стаў расказваць нам пра братоў Луцкевічаў незнаёмы дзядок у касьцюме і пры гальштуку. Калі я ўбачыў ягоны твар, у мяне зноў ёкнула: незнаёмец быў выліты Генрых Станіслававіч, мой бацька...

Дзядуля распавёў нам і пра Міцкевіча, і пра Дамейку і Лелявеля, і пра Берасьцейскую вунію, і шматсільныя прэсы, якія стаялі ў храме ўніятаў за савецкім часам і з-за работы якіх трэснуў купал

Божага дому... Дзядуля расказваў нам пра гісторыю Базылянскіх Муроў як стары польскі патрыёт, крыўдуючы на сёньняшнія летувіскія ўлады, а я чуў у ягонай рускай мове наш старакрывіцкі, я сказаў бы нават, вялікакрыўскі плюсквамперфект і дзівіўся свайму-нашаму...

Не паляніўся дзядуля завесьці нас і на могілкі Роса – каб паказаць крывіцкія магілы.

А вось імя свайго не назваў. Праўда, мы сфатаграфаваліся разам дзеля нашай агульнай памяці.

Ужо калі ён нас пакідаў, мая спадарожніца Аля спахапілася і параіла даць дзеду крыху грошаў за цікавую экскурсію. Дзядуля грошы прыняў, але, заўваж, мой дарагі зямляк, ён ні словам пра іх не нагадаў сам. Што ж, як чалавек шляхетны, ён спадзяваўся, што мы і самі ведаем – за работу трэба плаціць.

29-га красавіка здымаў людзей Вільні і крыху турыстаў. Калі мне трэці раз трапіліся на вочы дзяўчаты ў нацыянальных строях, я невядома чаму падумаў быў, што Вільня, якую калісьці называлі літоўскім Ерусалімам, сьвяткуе дзень Ізраілю. І так я з гэтай думкай хадзіў, пакуль не атрымаў адказ. Сьпярша спытаўся ў маладога ўдзельніка вялікай гурмы народу, якая сьпявала і танцавала каля Катэдры. Адказ юнака на маё пытаньне быў такім: *„Ну вот удумалі,* так і паём, і танцуем...” Пачутае мяне не задаволіла, але слова „удумалі” нагадала лішні раз пра адметную моўную сітуацыю Віленскага краю. А таксама ўспомніў я бабулю Гунэфу, якая акурат гэтак жа і адгукалася на мае хлапечыя ініцыятывы: „Ну што ты там, унучак, сабе ўдумаў?”

Тым часам арганізаваныя групы маладых людзей у нацыянальных касьцюмах рушылі ў бок вуліцы Пілесу, на якой мастакі-рамесьнікі прадаюць свае тандэнтныя палотны.

Калона ішла прыгожа, з танцамі і сьпевамі на радасьць турыстам. На падыходзе да Ратушы я, як сапраўдны рэпарцёр, нахабна вычапіў з групы танцораў ужо іншага юнака і спытаў: а ці не сьвяткуе Вільня які-небудзь жыдоўскі дзень сёньня? „Не-не”, – адмахнуўся маладзён, шчыра ўсьміхаючыся, ды патлумачыў, што гэта яны з нагоды сусьветнага дня танцу.

Вечарам у 13-м нумары Дому правоў чалавека я ад ўсёй душы любіў Алю, супрацоўніцу нашай мытні і маму дачкі Югасі, якая паступіла на першы курс Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэту. Аля была так падобная да маёй колішняй любкі, правізаркі Валянціны Васільеўны, што я працаваў, як мне здавалася, з падвоенай энергіяй. Праўда, сякая-такая розьніца прысутнічала: Валя была на 9 гадоў старэйшая, Аля – на 5 маладзейшая; Валя была чорненькая, Аля – русявая. Валю я так і не пацалаваў ў ейны прыпухлы трохкутнічак, затое цяпер я прагна прыпадаў да Алінага ўлоньня, спадзеючыся абудзіць у ёй жаданьне ізноў, пакуль дазваляюць гады, стаць маткаю, мамай нашага агульнага дзіцяці.

На другі дзень я праводзіў маю мытніцу на зваротны цягнік да сталіцы. Аля абяцала мне, што пазвоніць адразу, як толькі ў яе пачнецца затрымка, а я – што пасьля яе званка спыню свае вандроўкі, эксьперыменты і ўвогуле службу ў паралельным ейнаму ведамстве.

29-га, усё яшчэ Вільня. Паабяцаў земляку Станіславу, што завітаю на ягоны латвійскі хутарок.

Вечарам, пацягваючы „царкоўнае віно” кагор, чытаў кнігу Сяргея Пясецкага „Каханак Вялікай Мядзьведзіцы” у перакладзе братоў Янушкевічаў. Гэты прыгодніцкі раман добра асьвяжыў, – як і фільм рэжысёра Андрэя Кудзіненкі „Акупацыя:

містэрыі". Тэма кнігі: жыцьцё кантрабандыста на савецка-польскім памежжы ў 20-х гадах 20 стагодзьдзя. Займальны і блізкі мне сюжэт. У 90-х гадах усё таго ж 20-га гісторыя з кантрабандай аднавілася; многія сталі на ногі, дзякуючы кантрабандзе. Як, напрыклад, мой таварыш з Міхалішак, які траляваў пад замову ў віленскія рэстарацыі нашыя кантарэль, гарэлку і бульбу. Прычым на ровары! Ужо тады з выручкі сваёй пачаў будаваць дом у мястэчку. Праўда, і пасядзець за кратамі прыйшлося, але нямнога, некалькі месяцаў, неяк шчасьліва адрабіўся.

Вось і я адправіў з перамытнікамі зь „Белых брыгад" свае рэчы ды *падрыўную літаратуру* ў нашу сталіцу. Потым даў камусьці інтэрв'ю, спаткаўся з маёй віленскай Сястрою. Цяпер сяджу пры кампутары ў Доме правоў ды прыслухоўваюся да мовы двух маладзёнаў за сьпіною. Паварочваюся і загаворваю да іх. Аказваецца, яны з Баргену, не то студэнты, не то „кансультанты" нашых палітычных, не то проста банальныя скандынаўскія шпегі. Абменьваемся дзяжурнымі фразамі, запрашаю іх у запалярную нарвежсую Буду. На тым узаеміны і завяршаюцца. На маім твары надоўга застывае іранічная маска.

Заключны этап маёй вандроўкі па асяродках крывіцкай дыяспары ў заходняй і цэнтральнай Еўропе і ў прыбалтыйскім рэгіёне. Праехаў маршрутам Вільня – Клайпеда – Руцава – Лібава – Рыга – Вільня. У Клайпедзе з літоўскага аўтобуса я перасеў у старэнькую землякову машынку, на якой мы з горам папалам даехалі да латвійскай Руцавы, у якой ён і жыве, мой зямляк з Буды – Будслаўя – Будслава, мястэчка на паўночным захадзе Крыўі-Літвы.

Што ж мы бачылі, пакуль ехалі? Бачылі роз-

нае: і што цешыла, і што засмучала, дражніла на злое. Ужо амаль дваццаць гадоў, як не стала СССР, а незалежная Латвія, калі глядзець на яе з вакна магістральнага транспарту, так і не акрыяла, не паднялася на ногі. Новыя вышкі мабільнай сувязі і гіганцкія рэкламныя шчыты на таўшчэзных слупах агульнай карціны заняпаду не мяняюць. На адзін добраўпарадкаваны хутар-сядзібу пасьпяховага гаспадара прыпадае 5–7 заняпалых альбо ўвогуле пакінутых сядзібаў. Неяк ня верыцца, што заняпалі яны самахоць. Навязьліва мроіцца, што яны, гэтыя латвійскія хутаркі, трапілі пад абстрэл, перажылі напад невядомых партызанаў, і цяпер дагніваюць уздоўж магістраляў, маўкліва дакараючы нашчадкаў колішняга тэўтонскага ордэну.

На тэрыторыю, якую пакідаюць людзі, вяртаюцца зьвяры і расьліны. Прырода залечвае раны. Цяпер вясна, ужо вярнуліся з выраю журавы і гусі, важна выхаджваюць уздоўж дарог, яшчэ разам, вялікай агульнай сям’ёй, але хутка яны разаб’юцца на пары, пачнуць віць гнёзды і класьці яйкі...

Зямляк мой Стась расказвае, што пасьля школы скончыў мараходнае вучылішча і плаваў штурманам на караблях; выгадаваў сына й дачку, разышоўся з жонкай і завёў новую. Зь ёй і прыкупіў хатку ў Руцаве.

Якраз на майскія прыехалі да яго нашы крывіцкія актывісты зь Лібавы – на мяне зірнуць ды сваім падзяліцца. Надвор’е адпавядала, і гаспадар з гаспадыняй арганізавалі вячэру на вольным майскім паветры. Мы, як тыя журавы, жыва клекаталі за сталом пра сваё эмігранцкае жыцьцё, пра планы вяртаньня на Радзіму, пра будучыню сваю і сваіх нашчадкаў. Аднекуль з хлевушка Стась прынёс іржавую нямецкую каску і паклаў яе ў жоўтыя дзьмухаўцы. Настрой наш яшчэ болей палепшаў; мы налягалі на закуску, разьлівалі нашу крывіц-

кую, фатаграфаваліся на фоне дзіравага шалому былой вайны і, як сапраўдныя нашчадкі нашых дзядоў-пераможцаў, чыталі над шаломам пераможанага ворага нашы пераможныя вершы:

Галоўная перамога – жыць пераможна!
Мы не жадаем нікому злога,
існуйце сабе там сытна-заможна...
Яшчэ больш іншаземцаў!
Больш правоў чалавека!
І кожнаму дэмакратычную ін'екцыю,
каб хапіла да сканчэньня іх кароткага веку.
Таварышы бюргеры,
вышэй сьцяг капіталізацыі!
Глабалізм – сучасная форма камунізму!
Адзінае выйсьце з крызісу – клізма,
а пасьля, выбачайце, стадыя вандалізацыі...

Калі госьці раз'ехаліся, мы перайшлі ў веранду, і, дапіваючы рэшту алкаголю, яшчэ доўга кулдыкалі: пра дзяцей, бацькоў і дзядоў-прадзедаў; пра заходнікаў і ўсходнікаў; пра надзею, пра веру ў сваё і пра любоў да свайго...

На другі дзень паехалі на мора праветрыць свае пахмельныя галовы. Балтыйскае здалося нейкім свойскім, нешта пад'ялдыкнула мяне пакаштаваць ваду на смак – яна аказалася амаль што прэснай, пры нагодзе можна было піць. Праўда, недалёка ад месца, дзе я праводзіў свае палявыя досьледы, у мора ўпадала невялікая рэчка, на берагах якой загаралі маладыя дзяўчаты, бегаў, заняты сваім, пародзісты сабака і дама сярэдніх гадоў вудзіла рыбу.

Па абедзе на земляковай прыватнай тэрыторыі дзесьці ў латвійскай Руцаве я пасадзіў некалькі хвойных дрэўцаў. Спадзяюся, прыжывуцца, учэпяцца за прыбалтыйскі грунт і будуць набірацца

зямельных сокаў і мацнець – нават калі гаспадар гэтага латвійскага хутарка вернецца, нарэшце, у сваю крывіцкую Буду.

Праляцеў зялёны сонечны май. Я вярнуўся з вандроўкі па прыбалтыйскіх Летуве і Латвіі. Пакуль чысьціў пёркі і пісаў справаздачы, надыйшло сьляпучае запалярнае лета. Сьляпучае, бо, калі няма дажджу, то сонца качаецца па небе круглыя суткі і залівае сваім сьвятлом самыя патаемныя куточкі на нашай скалістай зямлі. Сонца многа, але ня горача: побач полюс холаду і магутна ўздыхае і гульліва пакалахывае сваімі грудзьмі неабдымная Атлантыка.

Перад самым Купальлем заляцела ў наш запалярны куток новапаўсталая поп-зорка крывіцкага паходжаньня – Алесь Рыбак, пра якога ўжо распавядаў крыху. Да Буды хлапец не даехаў – спыніўся ў суседнім мястэчку, 60 км ад нас. Я, нядоўга думаючы, сеў на ровар і выправіўся ў дарогу – на земляка зірнуць, руку пацісьнуць. За 36 гадзін праехаў 12 нарвежскіх міль, альбо 120 км. Земляка ўбачыў, канцэрт ягоны паслухаў і руку яму пацісьнуў. Спалучыў прыемнае з карысным, з чым сябе і віншую.

Пасьля вядомай асобы вырашыў наведаць невядомых – маіх леташніх знаёмых Фрою і Махмуда.

Быў файны летні дзень, канец чэрвеня, і названыя двое грэліся на сонцы, прылёгшы на ўтаптаны дол. Фроя гулялася з мабільнікам, ейны сусед па намёце абдзіраў лазовы дубец. Я прывітаўся, сказаў нешта пра надвор'е, як гэта звычайна робяць нарвежцы, і прысеў пад маладой скрывелай бярозкай.

Махмуд спытаўся, як там, на кантыненце, хто дзе з кім ваюе і як на гэта рэагуе Прырода. Я нагадаў, што, як і даўней, так і цяпер, бог ня роўна дзеліць, і гэта і ёсьць пастаянная прычына перадзе-

лаў, канфліктаў і войнаў. Белы чалавек, кажу я, ужо не бачыць краёў у акіяне кансумерызму, і Скандынавія ў пагоні за бескантрольным дабрабытам – першая скрыпка і завадатар. У новай вялікай міжкантынентальнай вайне еўрапейская Поўнач будзе здратаваная першай. Можна разгледзіць і больш мяккі варыянт: рускія разаб'юць ангельчанаў на моры, зоймуць, нарэшце, Фінляндыю і паўночную Нарвегію ўлучна з Трандхеймам, які зробяць сталіцай Паўночнага Пратэктарату. Швецыю і рэшту Нарвегіі акупуе Балта-Чарнаморская кааліцыя, засяляючы гэтыя тэрыторыі сваімі каланістамі-добраахвотнікамі. Нямеччына будзе падзеленая паміж Польшчай, Украінай і Вялікалітвой...

Паразважаўшы трохі на геапалітычныя тэмы, вярнуліся да надзённых праблемаў. Я ўжо распавёў, што Махмуд і Фроя – вегетарыянцы, да таго ж ня п'юць алкаголю і ня кураць табакі.

Махмуд меланхалічна паказваў на куст шчаўя, заўважаючы, што салату яны робяць не толькі з ізраільскага перцу і польскіх яблыкаў, але і з натуральнага падножнага корму. Праўда, як будзе па-нарвежску „шчаўе", не ведае. Проста, кажа, *кіслая трава*...

А вось чаго не ведаў я, вырасшы на хутары паміж Будай і Крывічамі, дык таго, што з лазы не толькі лапці дзерці можна, але і салату з лазовага лісьця рабіць. Каштуючы сьвежы лазовы лісьцік з маладога куста, я разьвітваўся з нарвежскімі рабінзонамі, разважаючы: калі чалавецтва не прытармозіць у сваіх цывілізацыйна-тэхналагічных парываньнях, то грызьці нашым нашчадкам лазовае лыка, як тым бабрам. Без выняткаў.

Лета сярэдзіна, ліпень. Скандынавы, як пералётныя птушкі, лятуць, плывуць і едуць на Поўдзень. Яны прагнуць гарачага – сонца, пяску і вады.

Я прагну дому і свайго. Я думаю, што ўсё маг-

чымае ў гэтай краіне ўжо зроблена і пара вярнуцца. І я вяртаюся. Вяртаюся праз Польшчу, дзе сустракаю сваю даўнюю каханку-палюбоўніцу, якая зусім і не зьмянілася і гуляе са мной у маладую, паказвае, што адвыкла ад мяне.

Палюбка мая – настаўніца рускай мовы, прывезла выхаванцаў сваіх у Польшчу на адпачынак, і цяпер мы ўсе разам вяртаемся на Радзіму, праходзім памежны кантроль у горадзе сьвятога Губерта.

Другі месяц дома. З былой каханкай не атрымалася – не атрымліваецца ў мяне з настаўніцамі, з жанчынамі гуманітарнай сферы. Відаць, трэба перайсьці ў сферу дакладных практык, з гандляркамі трэба пачаць. Так і зраблю. Гандляркі будуць любіць, будуць удзячныя і паслухмяныя... Аднак пра справы палюбоўныя раскажу я ў іншым тэксьце, у іншыя часы. Цяпер жа пра сур'ёзнае.

Другі месяц дома, знаёмыя ўсё яшчэ распытваюць, як мне сталіца і што зьмянілася. Здаецца, людзі чакаюць кампліментаў краіне і гораду, у якіх жывуць. Я і кажу: добрая краіна і добры горад, а вось жыць у іх нельга без таго, каб не напаўняцца глухой нянавісьцю да акаляючага гуманітарнага кантэксту, бо зьмяняецца ён ня ў лепшы, а ў горшы бок; якасьць чалавечага матэрыялу дэградуе, людзі губляюць апошнія рэшткі гонару і годнасьці...

Дома... Танныя хіба што гарэлка ды цыгарэты. Маршрутныя целавозы таксама, таму вадзіцелю пляваць на камфорт пасажыраў: у салоне на ўсю моц равуць рускамоўныя FM-станцыі. Я некалькі разоў спрабаваў заклікаць шафёра да парадку. Ноль увагі: аддае назад грошы і прапануе выйсьці. Сацыялізм з нечалавечым тварам у дзе-

яньні. Атмасфера ў прыгарадных маршрутных таксі яшчэ больш дэмакратычная: вадзіцелі кураць за рулём, дым у салон, похер на ўсіх і на ўсё. Гэта дзеці твае, Радзіма.

Дарагі зямляк! Паважаны Міхал!

Што тут казаць, было прыемна раптам атрымаць ваш зварот, перапоўнены філасофскімі пытаньнямі накшталт: як жыць нефальшыва?

А хто яго ведае, як? Я ня ведаю. Я жыву як жыву, жыцьцём апавядальніка і павярхоўнага авантурыста. Дзякуй Лёсу, у нас ёсьць куды лепшыя прыклады таго, як жыць нармальна і адначасова не губляючы свайго крывіцкага гонару.

Але сапраўды, як гэта – жыць нефальшыва? Думаю, даволі проста. Іншая рэч, нефальшывіць будзе дорага каштаваць. Нават *за*дорага. Мы заўсёды, пастаянна знаходзімся перад выбарам: ці дорага і нефальшыва, ці неяк інакш, каб таньней. Вось, напрыклад: сын аднаго вядомага чалавека, даўняга змагара з нацыянальным прыгнётам, ня хоча ісьці ў войска. Пад прэтэкстам таго, што дзейны палітычны рэжым тым самым хоча адлучыць яго ад нацыянальнага супраціву. Што ж, хутчэй за ўсё, так яно і ёсьць, але мне здаецца, што нефальшывай і, больш за тое, – пераможнай была б наступная лінія паводзінаў: пайсьці ў ваенкамат і заявіць ім, што, нягледзячы на мае палітычныя погляды, на тое, што я апанент дзючага ў краіне акупацыйнага рэжыму, я хачу ў войска, хачу набыць вайсковую сьпецыяльнасьць, паказваючы ўласным прыкладам, як служаць сапраўдныя патрыёты Крывіі. У такой сітуацыі хлапца, можа нават і не прызвалі б.

Разважаючы пра нешта, малады чалавек, важна дамовіцца пра тэрміны, як робяць вучоныя. У палітыцы гэта не менш істотна – разбірацца ў

тэрміналогіі. Інакш вас заблытаюць, загавораць і абвешаюць ярлыкамі. Вось, напрыклад, калі я кажу „краіна Крывія–Літва”, я маю на ўвазе, перш за ўсё пэўны соцыюм, які жыве на адпаведнай тэрыторыі з адведзеным геапалітычным ландшафтам і мае адпаведную гісторыю. А вось дзейны на тэрыторыі сучаснай Крывіі палітычны рэжым я называю рэжымам унутранай акупацыі, альбо, калі коратка, – самаакупацыі.

Што ж рабіць у такіх умовах? Я думаю, што дзеля тактычных мэтаў варта адступіць, каб убачыць перспектыву. Адступіць, перагрупавацца і будаваць крок за крокам сваё паралельнае грамадства, умацоўваючы яго структуры як ідэйна, так і матэрыяльна.

Паралельнае грамадства павінна мець, акрамя ўсяго іншага, свае сурагатныя банкі ці, інакш, касы ўзаемадапамогі, а таксама сваю міліцыю, парамілітарныя атрады,

Гаворачы пра паралельнае, я ня маю на ўвазе, што мы не павінны прыступнічаць у афіцыйным, падрэжымным грамадстве. Мы ёсьць у ім хаця б таму, што плацім падаходны падатак і атрымліваем пенсіі. Наадварот, калі ёсьць магчымасьць займаць у ім пэўныя месцы, мы павінны гэта рабіць – пранікаць у структуры рэжыму, каб у час „Х” у наш крывіцкі кантэкст не прыйшоў іншы, яшчэ больш крыважэрны зьвер з варожай нам інсталяцыяй.

Пра справы на захад ад Брэсту-Літоўскага. Культура прыгнятальнікаў робіцца ўсё больш мабільнай, яна ўжо не такая брутальная і прымітыўная, якой была ўсяго гадоў трыццаць таму. Эліты дабіваюцца панства markup рознымі метадамі і спрабуюць давесьці, што кіруюць намі разумныя, тонка арганізаваныя індывіды, заклапочаныя лёсам цывілізацыі. Асабліва выразна гэта бачна на прыкладзе

Скандынавіі, дзе сыравінная капіталізацыя грамадстваў Ісландыі, Нарвегіі, Швецыі выдаецца за посьпех так званай скандынаўскай сацыял-дэмакратычнай мадэлі.

Сёньня ў будаўнічым сектары чатырохмільённай Нарвегіі адных палякаў працуе 200 тысяч (легалаў і нелегалаў разам). Нават рэкламныя ролікі на нарвежскім ТВ выходзяць па-польску, у якіх польскіх работнікаў заклікаюць не працаваць на галодны страўнік (інакш кажучы, не эканоміць і купляць, купляць, купляць). Аднак палякаў не 4, а 40 мільёнаў, плюс пад 40 мільёнаў этнічных рускіх на паўночным усходзе еўракантыненту, столькі ж украінцаў, 10 мільёнаў нас. Вось пра каго варта падумаць заходняй Еўропе, калі яна яшчэ здольная думаць пра сваю будучыню... А пакуль тое, мы будзем разбураць культурную гегемонію паноўнага ліберал-дэмакратычнага дыскурсу. Мы яшчэ слабаватыя, але ўпарта вучымся хадзіць і гаварыць самі.

Пасьля разрыву з маёй даўняй наддзьвінскай палюбкай было трывожна, але нядоўга – я паляцеў да маёй Алі, з якою ў красавіцкай Вільні мы назіралі ружовую Сьмерць. У пэўным сэнсе мы з Аляй калегі: я назіраю ўвогуле, а яна канкрэтна – на мытні. Ну не, яна не на самой мяжы сядзіць, а ў галоўнай сталічнай канторы ў чыне ці то маёра, ці якога падпалкоўніка.

Дык вось, Алька даволі ўпэўнена рызыкавала зьвязаць са мною свае наступныя гады жыцьця, але я папярэдзіў, што мне патрэбны дзеці, мае зь ёю дзеці, інакш я буду неспакойны і тым самым не гарантую спакою ёй. Відавочна, гэта Альку моцна насьцярожыла. Больш за тое, Алька ўвогуле была занятая іншым – яна будавала аднапакаёўку дзесьці за ст. метро „Пушкінская” і маракавала, як будзе

аддаваць крэдыт. Але ў той вечар, у Вільні, пасьля нечаканай сустрэчы з Сьмерцячкай, у 13-м пакоі Дому правоў чалавека мы не будавалі планаў, – мы любіліся.

Алька была выдатнай 43-гадовай жанчынай у сінтэтычных чорнах адзежках, і толькі майтачкі і станік былі баваўняныя. Няспрацаванае, даволі пругкае ейнае цела яшчэ магло вынасіць і нарадзіць. Думаючы як раз пра такі вось Альчын патэнцыял, я і шаптаў ёй любоўныя словы, распранаў і песьціў.

На адным ложку было зацесна, таму мы падсунулі другі, саставілі іх, але гэта не памагло — перашкаджалі бакавыя сьценкі ложкаў. Урэшце палюбоўная жарсьць дала гэтаму рады, займаючы не гарызантальны, а вертыкальны вектар.

Алька, зараза, прыехала да мяне з сваёй пастрыжанай – і дзе толькі навучылася!? – вулькай. Але не зусім каб яна там голая была, а як раз настолькі, каб не шукаць доўга тое, да чаго прагнуў прыляпіцца мой грэшны язык. Роўнапастрыжаны русы трохкутнічак утвараў натуральную карону, якая сваім вяршычком, здавалася, разразае, распалавіньвае лёгка-смуглае Альчына цела. Вульва маёр-палкоўніка мытнай службы Алі Міронаўны Гарадоцкай была настолькі гарманічна дапасавана да ніжняй часткі фігуры, што заслугоўвала найменьня ідэальнай. Палавыя губкі не западалі ўсярэдзіну, як рот западае ў старой бяззубай бабы; і, наадварот, не адвісалі на вуліцу, як разьбітыя дзьверы ў кароўніку. Адным словам, вулька ў Алькі была ідэальнай формы, і губкі палавыя былі ідэальнага памеру, і сама дзірачка была ні малая, і ні вялікая, а як пад мяне...

І я схіліў сваю пасівелую галаву перад Альчыным нізам; я асьцярожна паклаў ейныя роўныя белыя сьцёгны сабе на плечы і прагна прыпаў да

ўлоньня. І забруіла мая Аля, пацякла выратавальным Гальфстрымам, наталяючы мяне, дашчэнту высьмяглага ў запалярных нарвежскіх прасторах, сваім любоўным сокам.

Што казаць, Аля была прыгожай жанчынай, стройнай і нават па-свойму цярплівай, але і зь ёю ў мяне не атрымалася – яна думала пра кватэру, у якой будзе дажываць, а я марыў пра тую, зь якой пачну жыць і гадаваць сваіх дзетак.

Урэшце рэшт, я ізноў узлаваўся на кантэкст і махнуў назад на Поўнач. Гэтым разам – незадоўга да Калядаў. Кватэрка мая камунальная чакала мяне у тым жа самым стане, у якім я пакідаў яе. Адно што камунальнікі ўключылі электрычныя батарэі падагрэву, каб у пакоях было суха і не гніло.

## 2010

### Еўропа як тэрыторыя катастрофы; рускі чалавек Саша; рапарт; „Чорт на полі бою”; адвечнае вяртаньне на Поўнач; дыктатар парадку; спроба Рэвалюцыіі.

Група еўрапейскіх вучоных пад эгідай Еўракамісіі правяла дасьледваньне праблемаў занятасьці насельніцтва ў Заходняй Еўропе і прыйшла да высновы, што гадоў праз 20 катастрафічны недахоп рабочай сілы прымусіць краіны Еўрасаюзу ўвезці каля 30 мільёнаў чалавек з краінаў так званага трэцяга сьвету.

Гэта цікава. Пры тым, што цяпер у Францыі і Германіі, напрыклад, даволі высокае беспрацоўе і ў бліжэйшы час недахоп рабочых рук ім не пагражае. Але няхай, уявім сабе, што здарылася нешта падобнае. Тады чаму рабочыя рукі трэба ўвозіць

іменна з трэцяга сьвету? На еўрапейскім кантыненце ёсьць многа кваліфікаванай рабочай сілы ў Расеі, Польшчы, Украіне, у Балгарыі і Румыніі, нарэшце, у нашай старой добрай матцы Літве – мільёны людзей. Але – не. Еўрапейская камісія ня хоча, каб яны, усходнія еўрапейцы, прыйшлі ў Заходнюю Еўропу. Еўракамісары жадаюць, каб гэта былі этнічна іншыя людзі.

Бачыць бог, я дастаткова цярпімы чалавек; я сам яшчэ ўчора быў палітычным эмігрантам і добра ведаю, чаго гэта каштуе – быць ім; але я не магу заставацца цярпімым да велізарнай праблемы, якая ствараецца штучна нашымі кіраўнікамі ў вярхах еўрапейскага кантыненту; праблемы, якая ў недалёкай будучыні зробіцца разбуральнай. Закон роўнаадваротнасьці, як і любы іншы натуральны закон – няўмольны: чым болей імігрантаў прыбывае ў Еўропу, тым меншая ступень іх адаптацыі і інтэграцыі.

Дык чаму ўлады краін-прыёмнікаў робяць гэта? А таму, што так на дадзены момант выгадна. Па-першае, улады атрымліваюць прывязаны да іх электарат, людзей, якія проста асуджаныя галасаваць за рабочыя ці сацыял-дэмакратычныя партыі як адзіныя, якія разьмяркоўваюць і пераразьмяркоўваюць грамадскія сродкі і дапамогу, адрасаваныя імігрантам. Па-другое, мы ўсе будзем адчуваць віну за свой непамерны дабрабыт. Гэта так міла: любы, хто заікнецца наконт праблемы, неадкладна зробіцца недатыкальным, адшчапенцам, антыгуманістам. І так зручна для таго, каб прымяняць рэпрэсіўныя захады і затыкаць рот любым апанентам. Па-трэцяе, паколькі так званы сусьветны ўрад усё ж ствараецца ці амаль створаны, то лагічна меркаваць, што канчатковай мэтай такога ўраду з’яўляецца фармаваньне адной-адзінай усясьветнай дзяржавы.

Мы такія халодныя, такія эгаістычныя людзі,

кажуць нам рупары праваабарончых дэмакратычных таварыстваў, мы зусім не думаем пра праблемы трэцяга сьвету. Калі ж прывесьці трэці сьвет у Еўропу, мы, маўляў, пачнём сімпатызаваць яму больш. Мы пачнём гаварыць, як гавораць у Амерыцы пра Мексіку: давайце дапаможам мексіканцам жыць лепш у самой Мексіцы замест таго, каб яны прыходзілі сюды. Гэта – яшчэ адзін доўгатэрміновы праект, потым з'явяцца іншыя. Але вынік, вынік будзе катастрафічны. Еўропа ўжо перапоўненая імігрантамі. У адной толькі Нарвегіі на тры з паловай мільёны этнічных нарвежцаў прыпадае 1 (адзін) мільён прыбышоў. Адзін мільён за апошнія 45 гадоў! Гэта пераважна мусульмане з Афрыкі ды Азіі. Іх амаль немагчыма абсарбіраваць. Яны жывуць сваімі закрытымі для нарвежцаў сямейнымі анклавамі і моляцца свайму богу. Так што праблема нарастае, прымае характар пагрозы і непазьбежна вядзе да росту ўзаемнай нянавісьці.

Што будзе адбываецца далей? Ну, хітрым еўрапейцам стварыць Гулаг кшталту савецкага для незадаволеных інтэграцыяй, думаю, ня ўдасца. І наўрад ці яны гэта плануюць. Для Гулагу неабходна мець Сібір, якой у Еўропе няма. Але, паводле маіх назіраньняў, нас, незадаволеных дыктатурай глабалізму і кансумерацыі, могуць адправіць на псіхалагічную апрацоўку. Амаль так, як гэта было за савецкім часам у СССР: адмаўляеш ідэю сусьветнага камунізму – у дурдом, да псіхаў. Не, вядома, хітрыя еўрапейчыкі ня будуць закрываць нас у псіхушкі, не – яны запросяць нас на калектыўны курс псіхалагічнай апрацоўкі, на якім як мінімум навучаць рабіць спрэс і кожнаму усьмешку шчасьлівага ідыёта на вашым яшчэ пакуль не зусім еўрапейскага выгляду твары.

Але не, перш чым навучымся ўсьміхацца, як яны, спробы пабудаваць чарговую супердзяржаву на еўра-

пейскім кантыненце будуць пахаваныя пад руінамі новай, гэтым разам этнічна-расавай, вайны.

Май – 2010. Дзень Канстытуцыі Нарвегіі вырашыў адзначыць паездкай у сталіцу. Вандроўка атрымалася даволі праблемная. Сеўшы вечарам 15 мая на цягнік „Буда – Трандхейм” змаглі даехаць толькі да Палярнага кругу – на вышыні прыкладна шасьцісот метраў над узроўнем мора чыгуначнае палатно размыла плынямі расталага сьнегу й камянёў. Наш цягнік мусіў даць задні ход і так задам наперад чухаў кіламетраў з дваццаць да станцыі Рокланд. Там мы пераселі ў заказныя аўтобусы. Толькі ад’ехалі пару кіламетраў – аварыя: сутыкнуліся фура і легкавік, развозяць трупы.

Урэшце пераадолелі 700 кэмэ да Трандхейму, зь якога раніцай 16-га – таксама на аўтобусах – выправіліся ў накірунку Осла. Чым бліжэй да сталіцы, тым больш вясны і ажыўленьня. З кожным пераадоленым кіламетрам на ўсход усё больш лісточкаў заўважаеш на дрэвах. На палях працуюць трактары – аруць і сеюць. І гусі, многа гусей – прыляцелі адгняздзіцца.

Пакуль даедзеш да нарвежскай сталіцы, убачыш і адчуеш усе поры году і розны тэмпературны рэжым: зьмерзьнеш. змокнеш, высахнеш і нават угрэешся. Вось і я, пакуль прыехаў – угрэўся. І накіраваўся ў Вігеланд-парк ставіць намёт на тым самым месцы, дзе я начаваў некалькі сутак летам 2008-га.

Дзень Канстытуцыі 17 мая адзначала ці не палавіна Осла, месца было мала, народ шастаў па газонах, а паліцэйскіх я бачыў толькі ў аркестры падчас сьвяточнага шэсьця. Пад канец сьвяточнага ажыятажу над вуліцай імя шведска-нарвежскага караля Карла-Юхана праляцелі чатыры цывільнага выгляду самалёцікі. Пасьля гэтага публіка

пачала сьцякаць з галоўнай вуліцы ў прыватныя кватэры, гатэлі, сталічныя рэстараны і кавярні.

Гэтым разам у парку спаў усяго двое сутак, прачынаючыся пад шпачыны пошчак, лапатаньне ясельнай малышні і шоргат гравію пад красоўкамі фізкультурнікаў. Апошнюю ноч начаваў у рускага таварыша з эстонскай Нарвы, які, нарэшце, знайшоў сваё шчасьце – работу ў Осла на рыбнай фабрыцы.

Пра майго знаёмага рускага раскажу крыху болей. Пазнаёміліся мы зь ім у віртуале – на сайце знаёмстваў аднаго рускамоўнага партала. Саша Патраболаў, рускі індывід крытычнага ўзросту родам з Нарвы, шукаў кантактаў з рускамоўнымі ў Нарвегіі, каб зь іх дапамогай знайсьці ў дабрабытнай краіне колішніх вікінгаў работу. Я заходзіў на сайт, каб хоць крыху зьмікшыраваць маё нарвежскае сядзеньне на сацыяле.

Дык вось, напісаў мне рускі чалавек Саша, а я і адказаў. А чаму і не адказаць, калі відаць, як гэта чалавеку важна. А па-шчырасьці, дык у рускім гэтым Аляксандры-Нарваўскім пазнаў я сябе саракагадовага, які летам 2002-га быў у такой жа роспачнай сітуацыі, ліхаманкава калмаціў чупрыну і шукаў адказ на пытаньне, як і дзе зарабіць стартавы капітал.

Саша пытаўся, ці ёсьць у Нарвегіі работа, я адказваў, што так, ёсьць, але вось дастаць яе нялёгка, так што можна лічыць, што работы як бы і няма; як бы яна тэарэтычна ёсьць, але па факце, паколькі работа тут высокааплатная ў параўнаньні з Эстоніяй, то на яе палюе многа мужычкоў, як тыя індзейцы за скальпамі ў амерыканскіх прэрыях. У адказ на мае заўвагі рускі з Нарвы кляўсябажыўся, што яму толькі б да Нарвегіі дабрацца, а ўжо ён знойдзе, як зарабіць. Што ж, пішу яму, давай прыязджай да мяне ў запалярны край, пуш-

чу пажыць, пакуль работу будзеш шукаць. Што ведаю – раскажу-пакажу, чаго ня ведаю – не скажу, сам адшукаеш і зразумееш...

Папраўдзе кажучы, я слаба верыў, што незнаёмы мне Саша рызыкне вось так узяць ды прыехаць у няблізкую Нарвегію да яму незнаёмага мяне.

Але Саша рызыкнуў, прыехаў, і я мусіў пусьціць яго пажыць.

І вось два тыдні ў крывіцкага нацыяналіста ў Нарвегіі жыве рускі чалавек Аляксандр, які, як і падказвала мне інтуіцыя, аказаўся адэкватным мужчынам сярэдняга веку. Я расказваў яму ўсё, што ведаў пра пісаныя і няпісаныя законы і правілы нарвежскага соцыюму; паказаў яму кантору, у якой можна бясплатна карыстацца інтэрнэтам, а таксама нашы цэнтравыя прадуктовыя кантэйнеры, зь якіх мы бралі прадукты, і Саша рабіў нам вячэру. Мы схадзілі разы два на блышыны рынак, і Саша няхіла затарыўся шмоткамі і нават прыхапіў новую тэфлонавую патэльню – рабіць нам прысмакі. Паказаў я яму і ўтульныя месцы, дзе заўсёды можна набраць сухіх сьвежых акуркаў. Мы звычайна аддавалі перавагу бычкам ад самакрутак, у якіх была сапраўдная нарвежская табака. Зацірхарыўшыся ў кватэры, мы трыбушылі салідныя нарвежскія недапалкі, набівалі гэтай пранікаціненай пацярухай маю люльку і пыхкалі ёю па чарзе.

Рускі чалавек Саша так і не знайшоў работу ў запалярнай нарвежскай Будзе; праз два тыдні сумеснага жыцьця ягоная прысутнасьць пачала ціснуць на мяне, я занэрваваўся і ўрэшце даў зразумець Аляксандру, што яму пара выбірацца з гасьцей.

Але Саша не хацеў вяртацца ў Эстонію з пустым і вылазіны свае прытармажваў. Тады я прапанаваў яму пажыць у нагорным паляўнічым доміку, на што ён згадзіўся. Я даў яму свой запасны

ровар, каб майму новаму знаёмаму было на чым дабірацца да гораду і назад.

Праз тыдзень ці крыху болей я праводзіў рускага чалавека Сашу на цягнік да Осла.

Нейкі час мы не падтрымлівалі нашых інтэрнэт-кантактаў, але я адсочваў ягоную анкету на рускамоўным сайце знаёмстваў і ведаў, што ён прыступнічае ў віртуальнай прасторы. І тут зусім нечакана ўзьнікае на гарызонце жаночага роду персанаж „Марыя", якая знаходзіць маю анкету на рускамоўным сайце і прапануе пазнаёміцца, прызнаючыся, што яна – нарвежка з Осла. Цікава, думаю сабе, што гэта магло б азначаць. Дагэтуль я ведаў адваротнае, а іменна, што за нарвежскімі індывідамі, прыкладаючы неверагодныя намаганьні, палююць жанчыны Ўсходняй Еўропы, Балтыі, Расеі, а таксама трысьнягова-рысавай зоны. А тут... нарвежка палюе на чужамоўнага, не на *свайго!?*.

У мяне штосьці такое ёкнула ў грудзях, і я хуценька пачаў адказваць нарвежскай „Марыі", заклікаючы на дапамогу ўсё сваё мастакоўскае красамоўства і дастаючы з душэўных кладовак даўно някратаныя пачуцьці дабра і міласьці. Праўда, ці то дух тыя пачуцьці мелі нядобры, ці то Марыя давярала больш уласнай інтуіцыі, чымсьці маім віртуальным прамовам, але ў нас не пайшло, не складваліся нешта ўзаеміны паміж намі нават у электронным варыянце.

Праз некалькі дзён усё на тым жа сайце знаёмстваў я знайшоў задаволены покліч рускага чалавека Сашы: *„Уважаемый NN! Я уже в Осло. Нашел работу на фишфабрике. В Нарве делать нечего, подумываю, не продать ли квартиру. На фабрике работать тяжело, но несколько лет продержусь, пока здоровье позволяет. Кстати, на этом же сайте познакомился с норвежкой, зовут*

*Марией. У нее большая квартнра в центре Осло, улица Вальдемара Трана. Так что я теперь у нее живу... Будешь в Осло – заходи. Саша".*

Такая вось гісторыя здарылася са мной і рускім Сашам з Нарвы. У нечым павучальная. Ну ды што ж, як бы тое ні было, на скрайняк я цяпер маю ў Осла „базу".

Рускі чалавек Саша – добры мужык, ён толькі работу шукаў, а тут адразу „три в одном" – і работа, і жанчына, і жыльлё. Саша не прызнаецца, кажа, сумуе па сваіх рускіх кабетах, але я ведаю, што і ён ведае: такі фарт бывае толькі адзін раз у жыцьці. Цікава будзе паназіраць, ці дасьць рады рускі чалавек Саша ў сталіцы нарвежскага каралеўства.

**Каардынатару Каралеўства Нарвегія**
**Рэгіён аператыўнай распрацоўкі „Нурланд"**

*2010, чэрвень*

*Рапарт*

„За справаздачны перыяд у рэгіёне аператыўнай распрацоўкі істотных зьменаў не адбылося. Працягваецца планавая замена рэактыўных зьнішчальнікаў нарвежскіх каралеўскіх ваенна-паветраных сілаў на апошнюю мадэль „F-35", закупленую ў Пентагона. Усяго нарвежская дзяржава набыла 35 лятальных апаратаў. Цана адной машыны – 125 мільёнаў нарвежскіх крон.

Паўночна-амерыканскі канцэрн „Зэта" не вытрываў канкурэнцыі з кітайскімі вытворцамі і закрывае ў Нарвегіі свае фабрыкі па вытворчасьці сонечных батарэй.

Па выніках выбараў у камунальныя (муніцыпальныя) і абласныя органы заканадаўчай і выканаўчай улады аператыўны аддзел правёў 18 нашых супрацоўнікаў у структуры кіраваньня.

Усе 33 вадасховішчы пітной вады ў рэгіёне „Нурланд” пастаўлены на пастаянны электронна-спадарожнікавы кантроль.

На поўдні рэгіёну „Нурланд” у квадраце 22/30 „Хельгеланд – Мо і Рана” праведзена эксьпэрыментальная імітацыя землятрусу сілаю тры і пяць (3,5) балаў па шкале Рыхтэра. Разбурэньняў і стратаў жывой сілы верагоднага праціўніка не зафіксавана. Геадэзічная служба зарэгістравала зрухі мацерыковых пліт на адлегласьці 800–1000 метраў ад берагавой паласы.

Пасьпяхова праведзена выемка інфармацыі ў фінансава-крэдытнай сістэме банкаў „Nordland” і „DNB-Nord”. Выніковыя кібер-атакі зроблены і на іншыя фінансава-эканамічныя сегменты нарвежскага рынку, пра што будзе паведамлена ў асобнай фінансавай справаздачы.

У гэтым месяцы ў Нарвегіі знаходзіўся зь візітам прэзідэнт нашай суседкі на Ўсходзе. Падпісалі пагадненьні па мяжы ў Баранцавым моры. Залагодзілі дамовы пра эканамічнае супрацоўніцтва ў раёне газавага месцанараджэньня Штокман. Абодва бакі, здаецца, задаволеныя, аднак пагадненьням папярэднічаў шматгадовы прэсінг з боку Расеі: расейскія рыбалоўныя сейнеры заходзілі ў нарвежскія воды і нахабна цягалі траску й селядца, і нават бралі ў закладнікі работнікаў нарвежскай берагавой аховы. У 2007-м аднавіўся рух расейскай марской і паветранай армады ў непасрэднай блізіні ад нарвежскай водна-паветранай тэрытарыяльнай зоны. Цяпер Масква ўгаварыла Крыстыянію.

У сьвятле гэтых фактаў чакаць, што Нарвегія, нарэшце, зацікавіцца Вялікай Літвой як самай усходняй краінай Балтыйскага рэгіёну, не выпадае – Маскве не спадабаецца”.

***

Хто ведае, можа, я ізноў вярнуўся ў Нарвегію толькі для таго, каб выпадкова знайсьці ў мясцовай бібліятэцы выдадзеную ў 2009-м годзе кнігу нарвежца Пера Андэрша Тудала „Чорт на полі бою", у якой расказваецца пра нашу Вялікалітоўскую Крывію.

Ня ўсё мне спадабалася ў гэтым выданьні, многія эсэі аўтара павярхоўныя і паўтараюць банальныя міфы пра нас як народ і краіну, але адзін пасаж нарвежца Пера варты таго, каб улучыць яго ў мае апавяданьні пра Нарвегію.

„Адчуваць сябе ў Крывіі як дома не складана. Я не выдзяляюся. Людзі спыняюць мяне і пытаюцца дарогі. Я – чалавек Поўначы, нурман, і я бачу, што гэта мой уласны народ. Мы збудаваныя з малака, бульбы і мяса. Вось чаму нашыя целы такія цяжкія, вось чаму мы белыя як малако і бульбяныя атожылкі. Мы цягнуліся сьледам за сонцам, бо нам патрэбна было ўсё сьвятло, якое мы толькі маглі атрымаць.

Тут, на Поўначы, мы ступаем цяжка. Сьпіны нашы жорсткія, як з прамерзлай зямлі, якая ніколі не адтайвае. Мы не вітаем па-над зямлёй. Для нас ісьці – сур'ёзная і адказная работа. Мы ведаем, што жыцьцё – гэта доўгі шлях да пахаваньня. Мы ведаем, адкуль ідзём і куды павінны. Мы – земляное племя. Мы не хістаемся, як афрыканцы, мы не танцуем, як лацінаамерыканцы і ня круцім задніцамі, як азіяты. Косьці нашыя зроблены з іншага матэрыялу, з цяжкіх элементаў. Мы сяляне, і мы крочым як сяляне. Кожны наш крок – гэта спроба жэрдкай намацаць глебу. Не набліжайцеся да нас заблізка".

Як бы там ні было, але я вярнуўся, я прачытаў у нарвежца пра нас, крыівчоў, як народ Поўначы,

і гэта мяне цешыць і натхняе; і гэта як раз тое, да чаго я і вяду ў сваіх апавяданьнях – пра рух па лініі „паўночны захад – поўнач”.

Я вярнуўся толькі каб вярнуцца. Пакуль ня ўсё яшчэ зроблена, таму я ў дарозе, ці, як кажуць піяршчыкі, два ў адным.

Сутнасьць майго вяртаньня на Поўнач у тым палягае, каб можна было вярнуцца на Ўсход, у нашу агульную Гардарыку, вечны Рым хутароўсядзіб. Я зразумела выкладаю, ці хто не разумее? А то Аўтар можа наехаць на мяне за высакапарны стыль...

Жыць вяртаньнем – гэта мой перманенты стан апошніх дзесяці гадоў; мая пастаянная пераменная і маё вітальнае крэда.

А пакуль я сяджу за маім запалярным рабочым сталом, на якім акуратна раскладзены стосы чыстых лістоў фармату А-4 і стаіць гліняная ваза з самапіскамі зьлева, а бронзавы ібіс і нарвежскі драўляны сьцяжок справа. Пасярэдзіне – белы ліст, які я вось зараз жа запаўняю чорнымі літаркамі вербальных знакаў – акурат як сажалка на хутары Казіміраўка аднойчы раньнім летам запаўняецца чорнымі хвастатымі галавасьцікамі.

Я фанатычны акуратыст, можна сказаць, проста дыктатар парадку, за што Аўтар таксама часта мяне дакарае, бо іншы раз я захапляюся больш гэтым самым парадкам, чым работай, больш формай, чым зьместам. З другога боку, мая работа – гэта творчасьць, у якой форма вельмі часта і з'яўляецца зьместам.

Дык вось так: я падтрымліваю ўпарадкаванасьць; я ведаю сваё месца ў прыродзе і люблю, калі свой парадкавы нумар ведаюць і астатнія. Усе жывыя арганізмы ведаюць сваю тэрыторыю і толькі чалавек вымыкае за межы. Чалавецтва – надзвычай нахабны сацыяльны арганізм, самаўпэўнены і

септычна небясьпечны. Пры гэтым масавы аб'ём названага арганізма набліжаецца да лічбы сем з дзевяцьцю нулямі. Без усталяваньня парадку гэтыя нулі проста раздушаць нас...

Так я разважаю, калі не пішу і не малюю. А іншы раз я, бывае, ваюю з... мушкамі. Ну так, у кватэры перфекцыяніста жывуць мікраскапічныя насякомыя. Я так думаю, гэта з-за павышанай вільгаці. Прычым, адзін від мушак жыве на лінолюме, які насьцелены проста на цэмент. Хутчэй нават не мушкі, а блошкі – малюпасенькія такія, чорненькія. Не, ну яны не ходзяць табунамі – я ўсё ж падтрымліваю чысьціню і парадак – але неі не ды і бачу, як перамяшчаецца міліярдная доля граму жывой вагі, і тады ўва мне лішні раз абуджаецца павага да экасістэмы і жывога ў ёй. Імгненна падабрэўшы, я проста зьдзімаю брунетку з поля майго зроку.

Затое з іншым відам насякомых – брунатнарыжымі, альбо, паміж намі кажучы, колеру чалавечых экскрэментаў мушкамі я вяду пастаянную пазіцыйную вайну. Гэтыя лятальныя аб'екты экалагічнай мікрасістэмы плануюць на маю тэрыторыю і тым самым парушаюць маю псіхічную раўнавагу і распарадак дня, Яны асабліва любяць садзіцца на садавіну-гародніну, якую я не пасьпяваю схаваць у халадзільнік, на шклянкі і кубкі, з якіх я п'ю. Прытым, паразіты, менавіта на тыя месцы пітнога посуду, да якіх дакранаюцца мае вусны. Таму ўсё сваё кухоннае начыньне прыходзіцца хаваць у шафкі.

Вы можаце падумаць, што гэтых мушак у мяне тут цэлы рой. Не. Над маім перакусачным – для перакускі – столікам іх лётае тры-чатыры, не больш. Калі ж я, нарэшце, угнявіўшыся, пачаў ліквідоўваць нахабных стварэньняў, ужываючы белую баваўняную атымаху, яны, гэтыя малюпа-

сенькія паскуды, мне здалося, адчулі небясьпеку, зразумелі, што на іх палююць, і сталі садзіцца ў цяжкадаступных месцах – альбо на такія, па якіх мне праблематычна лупцаваць хай сабе і анучай – на электрычныя драты пачалі прызямляцца мае няпрошаныя суседзі, на антэнны шнур, на экраны тэлекамунікатара і датакома. Я, вядома, дастаю іх і тут, але вымушаны прызнаць за імі пэўную ступень інтэлекту.

Буду шчыры да апошняга: маімі найбольш вернымі і пастаяннымі суседзямі і сужыцелямі былі і застаюцца насякомыя. Я пачынаў жыць з вошамі і блыхамі, якія раскошна пачуваліся ў пасьцельнай і нацельнай бялізьне, а таксама у нашых галовах, у якіх доўгімі зімовымі вечарамі мы, дзеці, і наша дарагая маці, шукалі адно аднаму гнідаў; летам і восеньню ў хаце заўсёды віўся рой самых розных мух, што давала права на падсяленьне і павучкам. Залятаіі ў расчыненыя вокны і бзынькалі аб шыбы чмялі, пчолкі, хрушчы і восвы. Асаблівай радасьцю і добрым знакам было для ўсіх, калі ў хату залятаў матылёк альбо страказа. Век іхны быў нядоўгі, як і нашая радасьць, але вось памяць пра іх жыве. У свой пралетарска-дашлюбны перыяд нядоўгі час прысуседзіліся былі да мяне лабковыя вошкі – любоўны *падарунак* камвольшчыцы Волькі Раманчыкавай.

Калі распадалася імперыя так і не збудаванага камунізму, я быў шчасьлівым студэнтам гуманітарнага факультэту і аднойчы летам, падчас экзаменаў, перажыў сапраўднае нашэсьце клапоў у інтэрнацкім пакойчыку.

Але самымі мілымі і бяскрыўднымі для мяне застаюцца хатнія чорныя мурашы і чырвоныя сараканожкі, якія час ад часу заводзіліся ў душавым закутку майго казённага пакойчыку ў інтэрнаце на вуліцы Сурганава...

**Радзе Старэйшынаў**
**Часоваму ўраду пераходнага перыяду**
**Нацыянальнаму Трыбуналу**

У жніўні 2010 году я трэці раз за перыяд з 2002-га вярнуўся быў на Радзіму, каб, не зважаючы ні на якія ўмовы і абставіны, жыць і працаваць дома.

19 сьнежня я прыехаў у цэнтр горада, каб, як меркавалася, разам з іншымі жыхарамі і гасьцямі сталіцы ўзяць удзел у мерапрыемстве з нагоды заключнага дня выбараў прэзідэнта Рэспублікі.

На мой погляд, на Кастрычніцкай плошчы, альбо, як называюць яе некаторыя маладыя людзі, плошчы Каліноўскага, знаходзілася вечарам 19-га некалькі тысяч гараджан; магчыма, некалькі дзесяткаў тысяч – я ня ўмею падлічваць людскія кангламерацыі на плошчах і вуліцах, таму дакладна сказаць не магу. Ядро народнага сходу знаходзілася перад уваходам у Дом Прафсаюзаў. Людзі ўвесь час падыходзілі, у 20:00 ужо не хапала месца, каб стаяць на невялікім, свабодным ад лёду, участку плошчы паміж прасьпектам і катком(нагадаю, што Кастрычніцкі пляц незадоўга да 19-га сьнежня быў заліты вадою пад каток). Людзей станавілася ўсё болей, некаторыя выходзілі на лёд, на якім, бліжэй да ўжо згаданага прафсаюзнага дому, ляжала гара харчовай солі, якую дасьціпны народ прыносіў, каб рассыпаць яе па лёдзе катка, калі на ім прыйдзецца доўга стаяць. Прынесеная соль, праўда, так і не была рассыпаная: неўзабаве пасьля 8 гадзінаў вечара, калі, паводле выбарчага закону, закрываліся ўчасткі для галасаваньня, народ з перыметра плошчы стаў выцякаць на галоўны прасьпект сталіцы. Відавочна, што нехта з прысутных на сходзе падаў ідэю ісьці да Дому ўраду, у якім – ня ведаю, ці так гэта было – працавала цэнтральная выбар-

чая камісія – галоўны апарат падліку галасоў за ўзурпатара, кіраваны самім жа ўзурпатарам.

У гэты ж прыкладна час, калі народ пачаў выходзіць на праспект і рухацца ўверх да ўрадавага кварталу, з'явілася навіна, што па дарозе да плошчы група невядомых напала на аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты, моцна зьбіла яго і вывезла невядома куды. Такая інфармацыя яшчэ болей узрушыла людзей, аднак шэсьце і надалей праходзіла ў пацыфісцкім рэжыме: ніхто не парываўся біць вітрыны крамаў, пераварочваць міліцэйскія машыны ці нападаць на дармаедаў са службы палітычнага вышуку, якіх у той вечар было поўна сярод мірных выбаршчыкаў.

Калі галава шэсьця параўнялася з кнігарняй „Цэнтральная", хвост яшчэ сьцякаў з плошчы Каліноўскага-Кастрычніцкай. Увесь час, пакуль народ упэўнена рухаўся па цэнтравой сталічнай вуліцы, чамусьці не было відаць міліцыянтаў патрульна-паставой службы. За парадкам на праспекце для прыліку сачылі патрульныя дарожнай інсьпекцыі.

На падыходзе да саліднага жоўтага будынку камітэта дзяржбясьпекі, які прыступкамі свайго галоўнага ўваходу высаджваецца на праспект, шэсьце ажывілася, засьвістала, загуло гнеўна-пагардліва; некалькі маладых людзей палезьлі на асьвятляльныя мачты, паскідалі сьцягі акупацыйнага рэжыму і паўстаўлялі дрэўкі з бліскавічнымі палотнішчамі штандартаў Вялікай Літвы, на што натоўп адгукнуўся шматразовым узьнёслым воклічам „Жыве Літва!"

Калі плынь шэсьця зацякла на былую плошчу імя канфідэнта кайзераўскай Германіі Ульянава-Леніна, ці не самую вялікую ўва ўсёй Еўропе, народная маса візуальна неяк паменшылася, пачала нібы ўсмоктвацца ў плошчу. Было відаць, як то

тут, то там купкі людзей аддзяляюцца ад асноўнай масы і аддаляюцца, зьнікаюць у прасторы. У гэты ж самы час група кандыдатаў у прэзідэнты і драбнейшыя рангам палітычныя актывісты групаваліся каля помніка лідэру *пралетарыяў усіх краін* і заклікалі людзей падыходзіць бліжэй да дому ўраду, каб ліквідаваць разрыў між імі, групай палітыкаў каля каменнага правадыра, і масамі людзей на нядаўна абноўленай, мадэрнізаванай і адначасова скалечанай пухірамі нейкіх шкляных шароў плошчай.

Я быў недалёка ад помніка, з групай маладых людзей, маіх, скажам так, удзячных слухачоў, гледачоў і чытачоў разам. Я частаваў землякоў чаем з тэрмасу, настрой у людзей, як мне здавалася, быў прыўзьняты тым фактам, што яны змаглі прайсьці па прасьпекце і дарогу ім ні разу не заступіла міліцыя.

Аднак нядоўга працягвалася эйфарыя – раптам натоўп закрычаў і хіснуўся назад ад помніка ў бок прасьпекту. Аказалася, што міліцыя і сьпецназ, нарэшце, паказаліся на народныя вочы – сталі выстройвацца ў шарэнгі перад уваходам у дзяржбудынак пасьля таго, як кандыдаты папярэдзілі, што зьбіраюцца ўвайсьці ў памяшканьньне *дзеля перамоваў*. У гэты ж самы момант нехта зь міліцэйскіх начальнікаў скамандаваў адцясьніць народ ад левага крыла дома ўраду, паслаўшы для выкананьня загаду два-тры ўзводы юнакоў у форме супраць ня менш як тысячы моцных і добра ўзрушаных, гатовых да сутыкненьня цывільных мужчынаў і маладых людзей. Я аказаўся сярод іх, але быў не гатовы да бойкі, калі ланцуг ахоўнікаў рэжыму пайшоў у наступ, калоцячы дубінкамі па шчытах. Пакуль піў чай з народам, забыўся падрыхтаваць сябе да горшага і схаваць у заплечнік свае фотаапарат і відэакамеру. Таму, калі я апы-

нуўся вочы ў вочы з маладым „касманаўтам”, які замахваўся на мяне гумавай палкай, у мяне не было часу на агрэсію і нянавісьць – я памятаў толькі пра тое, што на маіх грудзях боўтаецца гадавая пенсія маіх бацькоў, што калі мне раскалоцяць апаратуру, ейную страту ніхто мне ў дарагой і любімай Радзіме не кампенсуе. І я выставіў уперад сагнутыя ў лакяцх рукі, прыкрываючы мой любімы „Nicon”, а мая гладкастрыжаная галава ў нарвежскай шапачцы прыняла на сябе тры ці чатыры ўдары дубінкай, адзін з якіх расьсек скуру за левым вухам, і цёплая кроў неяк пяшчотна пацякала за каўнер.

Пасьля першай няўдалай атакі на народ, які сваім сынкам у форме добра даў пад бакі і ў маладыя тварыкі, міліцэйскія начальнікі кінулі ў бой новыя сілы. Даволі хутка тэрыторыя непасрэдна перад урадавым будынкам была ачышчана ад людзей, пасьля якіх на вытаптаным сьнезе заставаліся ляжаць парасоны, дрэўкі і бліскавічныя палотнішчы нацыянальных сьцягоў, жаночыя і мужчынскія элементы адзеньня і абутку, скрываўленыя насоўкі, папяровыя сурвэткі і шалікі...

Я ўзгарусьціўся на кафедру помніка і разам са знаёмым калекам на мыліцах назіраў, як дзіка, з нялюдскай нянавісьцю, грамадзяне ў форме малоцяць цапамі-дубінкамі і цягнуць у сьпецмашыны грамадзян у цывільным. Адчайна біўся аб муры будынкаў вусьцішны жаночы крык, кулямётнымі чэргамі трашчэў рускі *шчёка-чёкающій* мат-перамат камандзіраў сьпецназаўскіх рот, адгырквалiся басы і барытоны мужыкоў, якія адбіваліся ад міліцэйскіх дубінак, ратуючы сваіх знаёмых і незнаёмых, многія зь якіх падалі і не ўставалі.

На маіх вачах зьбілі апошняга з кандыдатаў у прэзідэнты, які заставаўся каля помніка, і разам з жонкай пацягнулі і кінулі у душавозку.

Я прапусьціў момант, калі асабліва адчайныя нашы людзі, даведзеныя да роспачы адной толькі думкай, што ва ўладзе і надалей будзе заставацца ўзурпатар, кінуліся ламаць домаўрадавыя дзьверы і вокны. Цяжка сказаць, дзе я сам быў у гэты кароткі прамежак часу, калі ўспыхнуў і хутка пагас, заліты морам варожых шчытоў і дубінак, імгненны, як сьнежаньская бліскавіца, адчайны людскі бунт. Здаецца, я на нейкі час вярнуўся быў у натоўп перад помнікам. Аднак, калі пачалася мянтоўская франтальна-флангавая атака, я быў каля помніка. Я павінен быў там быць, бо спадзяваўся фатаграфаваць падзеі. Ды дзе там! Прыцэлы-настройкі маёй здымачнай апаратуры аказаліся зьбітыя; я ўвогуле думаў тады, што ёй канец, і толькі ўдаваў на бывалага рэпарцёра, які з халоднай галавой і жалезнымі нэрвамі робіць сваю работу. У пэўным сэнсе я такім і быў; нейкая абярэжная аўра вітала каля мяне і засьцерагала ад міліцэйскага нападу. А, можа, усё было прасьцей, і абараняў мяне заламінараваны кавалак паперы са словам „press", які я падняў зь зямлі і прыстроіў сабе на лацкан курткі – так, на ўсякі выпадак?

Калі перад домам ураду і на самай вялікай эўрапейскай плошчы ўсё было скончана, мы з кульгавым пакінулі помнік актыватару расейскай бальшавіцкай рэвалюцыі Ўльянаву-Леніну і накіраваліся ў бок Паштамту. Каля гатэлю „Мінск" журналісцкі намёт з апаратурай. CNN і BBC вялі рэпартажы, *чёкалі маскоўска-піцерскія* рэпарцёрчыкі. Насупраць галоўнага ўваходу ў Чырвоны касьцёл купа людзей, пераважна жанчыны, нешта сьпявалі, але нядоўга, – касманаўты разагналі і іх.

Потым пачалі *зачышчаць* палявы карпункт, каля якога я твар у твар сутыкнуўся са шведскім паслом. Тады мы перамясьціліся на прыступкі гатэлю „Мінск", у якім многія замежныя рэпарцёры

і жылі. На прыступках перад уваходам прастаялі хвілін дваццаць, ня больш. Усе, хто меў у руках апаратуру, здымалі, як на супрацьлеглым баку прасьпекта, насупраць Галоўпаштамту, „касманаўты” ў чорным выхоплівалі пешаходаў, якія выходзілі з пераходу, і закідвалі іх у душавозкі.

Нарэшце дайшла чарга і да рэпарцёраў, да ўсіх, хто стаяў перад дзьвярыма гатэлю. Узвод сьпецназаўцаў стаў перпендыкулярна да гатэльнай сьцяны і пачаў рух акурат на нас. Цісканіна і лаянка. Журналісты, што натуральна, ламануліся ў дзьверы, зламалі іх. У цісканіну трапіў і пасол Швецыі. Я стаяў збоку, захоўваючы, наколькі было можна і магчыма, спакой, таму змог заўважыць, што ў праёме паміж вонкавымі і нутранымі дзьвярыма таўкліся два ці тры персанажы, якія відавочна правакавалі цісканіну, перашкаджаючы людзям увайсьці ў гатэль.

Урэшце рэшт, усе zаваліліся ў фае, а мянты выставілі на ўваходзе ахову. Выпадковыя людзі, студэнты ды ўсе, хто не здымаў нумары, мусілі сядзець у гатэльным бары да другой гадзіны начы, калі ментаўская ахова, нарэшце, нацешылася стаяньнем на варце цывільнага аб’екту і зьнікла з вачэй.

Рознае перадумалася мне, пакуль ёрзаў задніцай па канапе. Другія, дзесятыя і сотыя „я” маёй неўтаймаванай натуры накручвалі ў маёй галаве самыя брутальныя варыянты рэваншу і помсты за толькі што ўбачанае і перажытае. Фантазіі мае бушавалі як Атлантычны акіян каля берагоў паўночнай Нарвегіі.

„Успомні Савецкую армію, баец, – нашэптваў мне адзін з маіх alter ego. – Успомні афганскія „ямы” і твой снайперскі карабін з прыцэльнай трубой, зь якога ты паклаў ніц столькі „духаў”.

„Гэта было даўно і няпраўда. Я служыў Савец-

каму Саюзу, як і тысячы маіх землякоў. І служыў добра, і страляў трапна... Можа, таму і выжыў...” – агрызаўся я і гнаў шаптуна з падкоркі. А шаптун не здаваўся, шаптун маляваў ува мне прывідныя схемы помсты...

„Уяві сабе, твая „яма” – на даху педінстытуту. З табою побач так добра знаёмы табе снайперскі ствол. Ад педагагічнага да дома ўраду – метраў трыста, ня больш. Аптымальная адлегласьць, стопрацэнтная візуальнасьць... Ты мог бы накіраваць хаду сёньняшніх падзей зусім у іншы бок. Элімінацыя пяці-шасьці аб’ектаў камандзірскага саставу – і ў стане праціўніка паніка. У гэты момант...”. – Паслухай, фантазёр, я развучыўся страляць трыццаць гадоў назад, калі вярнуўся з чужой вайны і пайшоў на нашы Камароўскія клады. На магіле майго аднакласьніка Ромкі Вайцяховіча я пакляўся ніколі больш ня браць у рукі зброі. Гучыць пафасна, але так было. Неўзабаве па вяртаньні я пачаў пісаць, бо слова, мой ты неадчэпны, куды больш небясьпечнае чым куля. Слова нараджае ідэю, многа розных ідэй і вобразаў, і самых неверагодных явішчаў... Слова, як сьперма, асеменяе ўлоньні людскіх душ. Так што расслабся і зьнікні, шаптун. Я зараджаю мае ствалы словам...”.

На другі дзень пасьля няўдалай „Каляднай рэвалюцыі-2010”, 20-га сьнежня, лёс быў да мяне менш прыхільны і апаўдні на той жа самай плошчы, найбольшай у Еўропе, я быў схоплены мілітантамі акупацыйнага рэжыму і кінуты на 15 сутак у штрафіз. Там і сустрэў прыход новага дзьве тысячы адзінаццатага году, васьмідзесяты год з дня нараджэньня майго бацькі Генрыха, і разгубленых, злых альбо ціхіх рознага веку грамадзянаў Рэспублікі.

## 2011-ы

**Новы падданы нарвежскага Каралеўства; гісторыя з пашпартам; контраверсійнае заданьне ў Осла; аперацыя „Двайнік”; крыху пафасу пра „мульці-кульці”; красавіцкая атака ў менскім метро; спадарожніца Нюра; юбілейная вандроўка ў Паморскую Русь.**

Усе пятнаццаць дзён адсядкі мяне не пакідала пачуцьцё вінаватасьці перад маімі зусім юнымі сукамернікамі. Ганьба і сорам з'ядалі мяне, пакуль я сёрбаў разам з юнакамі сваю штодзённую *палажняковую* баланду. „Гэта маё пакаленьне ўпусьціла ў дом нацыянальную бяду! Гэта мы не разгледзілі за варотамі ў свой двор трупажэра, які на імгненьне абярнуўся ўва ўборы лісьлівага мукасея народных жаданьняў! Гэта мы захапляліся *зьнебаўпалай* свабодай і лапаталі пустыя словы ў той час, калі трэба было ладаваць зброю і раўняць баявыя шыхты! Гэта мы вінныя нашым дзецям іх краіну-бранастку, замест якой яны вымушаныя жыць у краіне *з рэжымам унутранай акупацыі*...

Так думаю я пра сябе. Так думаюць ува мне мае шматаблічныя *alter ego*. А ўслых? Што я гавару гэтым бязвусым хлапцам услых? Ім патрэбна вера – і я нагадваю ім, што нашая вера, нашая мэта – свабодная Літва-Беларусь на ўсходнім акаёме Еўропы. Маладым людзям як $H_2O$ патрэбна надзея – і я чытаю не маім сынам надзейныя, як клінковая сталь, вершы. Дзеці Вялікай Літвы-Беларусі прагнуць любові – і я расказваю ім гісторыі пра любоў і каханьне, прыгожыя гісторыі пра велічнае і прыгожае ў сьмярдзючай пракуранай камеры Жодзінскага турэмнга ізалятару часоў унутранай акупацыі.

## Брату ў веры

Дваццаць пятага красавіка 2011-га з самай раніцы ў мяне быў добры настрой. Звычайна ранкам я бачу навакольны сьвет сама мала ў шэрых колерах, адчуваючы, як зь мяне, як з жанчыны падчас месячных кроў, ліецца пякельны сок сарказму й песімізму.

Хто яго ведае, чаму гэта раніцай у маіх вачах так часта бывае так шэра!? Тым больш цікава, што дваццаць пятага ў мяне ў вачніцах раптам прасьвятлела, сьвет навокал хацелася беспадстаўна любіць і ад такой беспрычыннай радасьці я насьпеўваў нейкія блюзавыя мелодыі аж да паўдня. Праўда, я ўжо няслаба пажыў і маю няслабы вопыт, – таму я ўжо ведаў, што беспрычынная радасьць – гэта папярэдніца трывогі нейкай, драмы, а то й бяды. Заўсёды, калі робіцца занадта весела, інтуіцыя сігналізуе: асьцярожна! будзь пільны! Вось і дваццаць пятага інтуіцыя папярэдзіла, але я быў недастаткова пільны, проста злачынна бясьпечны...

Дваццаць пятага красавіка я пахадзіў тудысюды з прычны дробных бытавых справаў, пашвэндаўся па Курасоўшчынскім рынку, а потым, вяртаючыся да сваёй панэлькі тысяча дзевяцьсот сямідзесятага году пабудовы, прысеў на лаўку каля пад’езду і нарэшце зразумеў прычыну маёй беспадстаўнай радасьці: за некалькі дзён да дваццаць пятага са мною зьвязаўся мой славянскі брат у Нарвегіі серб Радвой і павіншаваў з новым грамадзянскім статусам – я стаў падданым нарвежскага каралеўскага дому. Каржакаваты і зьлёгку рыжы сербскі шавініст Радвой Гаўрыловіч радасна паведамляў у скайпе, што мяне ў нашым запалярным гарадку Буда чакае пасьведчаньне грамадзяніна Нарвегіі, адбітае на гербавай паперы колеру сепіі і самы сапраўдны барвовы нар-

вежскі пашпарт – у аддзеле паліцыі на вуліцы Лютэранскай.

Вось чаму дваццаць пятага красавіка, седзячы на лаве перад сваім чацьвёртым пад'ездам, я курыў айчынную цыгарэту маркі „Фэст" і адчуваў сябе неверагодна ўсьцешаным. Дакурыўшы, я пстрыкнуў „бычок" у сьметніцу і ўвайшоў у дом, пакінуўшы на лаве партманэ, у якім ляжаў сіні айчынны пашпарт і сямсот паўночна-амерыканскіх даляраў.

Перанастройка эмоцыяў з пазітыўных на негатыўныя пачалася гадзіны праз дзьве, калі я заўважыў зьнікненьне дакументу і грошай. Да незапланаванага ад'езду ў Нарвегію заставалася роўна сем дзён.

І я разгарнуў энэргічную дзейнасьць, каб як найхутчэй атрымаць новы пашпарт.

Дзеля самазаспакаеньня наведаў міліцэйскі апорны пункт і напісаў заяву пра страту дакумента, а таксама расклеіў аб'явы ў суседніх пад'ездах на тую ж самую тэму.

А яшчэ праз некалькі дзён у пашпартным стале *Савецкага* райаддзелу ўнутраных спраў я атрымаў новы Рэспубліканскі пашпарт цёмна-сіняга колеру за нумарам МР 2890342, але ён аказаўся пусты. У пашпарце не было штампу месца рэгістрацыі, ён зьнік. Як пазьней выявілася, хтосьці ініцыяваў завочны судовы працэс, на якім мяне і пазбавілі гэтай самай рэгістрацыі, якая яшчэ зусім нядаўна называлася прапіскай. Так пасьля дваццаці васьмі гадоў жыцьця ў статусе жыхара сталіцы я перастаў ім быць. Мяне выкрэсьлілі з рэестру правамоцных. Я цяпер няўлічаны, бескантрольны. Я, можна сказаць, проста грамадзянін сьвету цяпер, брат.

У Осла я прыляцеў самалётам з Петраграду, з аэрапорту Пулкава. Сталіца Каралеўства грэлася пад высокім чэрвеньскім сонцам. І я грэўся разам зь ёю, наведваючы ўжо знаёмыя кварталы і новыя

раёны горада. Было многа адказных справаў і дзелавых сустрэч. Памятаю, у раёне ўрадавага комплексу, масіўнага і змрочнага нават у ясны чэрвеньскі дзень, я доўга здымаў маладую жанчыну з неверагодна прыгожымі нагамі, на якіх у промнях сонца залаціўся недэпіліраваны рудыментарны валасяньковы пух, і я, выконваючы сваё контраверсійнае заданьне ў нарвежскай сталіцы, проста абавязаны быў захаваць перамяшчэньне гэтых ножак для будучай пісанай гісторыі *барацьбы кантэнтаў*. Проста захаваць рух ножак белай жанчыны ў промнях сонечнага сьвятла, у якой па ўнутраным баку левага сьцягна тачыўся струменьчык такой непажаданай гэтым гарачым летнім днём менструальнай крыві.

Дарагі Брат!

Прачытай гэтую дэпешу ўважліва. Перачытай, калі трэба, і засяродзь асаблівую ўвагу на зробленых мною акцэнтах. Думаю, гэта будзе мой апошні графічны пасаж у абумоўленым намі рэжыме кантактаў. З увагі на выключную далікатнасьць справы пасьля прачытаньня ўсё неабходнае зрабі паводле *генеральнай інструкцыі*.

У рэгіёне аператыўнай распрацоўкі „Nordland” поліэтнічны эксьперымент перайшоў у стадыю лакальных элімінацыяў. Ментальны распад соцыюму і яго перафарматызацыя адбываюцца з катастрафічным паскарэньнем. У сувязі з гэтым на пасяджэньні чальцоў ложы „Паўночнае Ззяньне” („Midnattsol”) прынята рашэньне 22 ліпеня 2011 году ў сталіцы Нарвегіі горадзе Осла правесьці папераджальную акцыю з ужываньнем лятальнай зброі бліжняга бою...

Каб бесьперашкодна ўзарваць урадавы комплекс у паўмільённым полісе, а потым перамясьціцца на адлегласьць 30 км, альбо тры нарвежскія

мілі, і на невялікай высьпе Ўтойя са штурмавой аўтаматычнай ручніцы расстраляць 77 чалавек, патрэбна было мець ня толькі калегіяльнае рашэньне Ложы, але і ясны тактыка-стратэгічны план. І тым, і другім я быў забясьпечаны. Акцыя адбылася, і мне ўдалося бесьперашкодна пакінуць месца араганізаванага *здарэньня*.Як і чакалася, нарвежская паліцыя зьявілася не раней чым праз 27 хвілін 38 секунд разьліковага часу, і гэтага хапіла, каб сустрэцца з маім двайнікам „Турам", сябрам нарвежскага аддзелу панеўрапейскай арганізацыі „Белыя брыгады", які згодна з дэталёва распрацаваным планам павінен быў здацца паліцыі і ў далейшым пайсьці на адсядку паводле максімальнай шкалы ў 23 гады. Пры гэтым Ложа забясьпечвала двайніка і яго сям'ю фінансава і юрыдычна, а „Белыя брыгады" бралі на сябе функцыі кантролю за аперацыямі, зьвязанымі са *справай двайніка*, і гарантавалі бясьпеку ягоным сваякам і членам сям'і...

Як на фактычным выканаўцы акцыі, на мне ляжыць адказнасьць і за маральна-ідэалагічнае абгрунтаваньне гэтай, як ілжыва здавалася некаторым, немагчымай у сучаснай Нарвегіі *катастрофе*.

А між тым, няма нічога немагчымага ў нашым сьвеце, перанасычаным як намі, людзьмі, гэтак і нашымі, пераважна фальшывымі, ідэямі, прынцыпамі і міфамі, якія ў бальшыні сваёй супярэчаць неадменным законам прыроды.

Калі ласка, Брат, забясьпеч ніжэйпададзенаму тэксту *зялёнае сьвятло* на ўсіх тэхнічна даступных інфармацыйных рэсурсах. Без выняткаў і ўдакладненьняў.

„... такім чынам, адбылося тое, што адбылося, хаця мільёны еўрапейцаў, расслабленыя мякішам французскай булкі і чырвоным мясам нарвежскага ласося, яшчэ ўчора нават ў самых сваіх страш-

ных снах не маглі прысьніць таго, што здарылася ў дабрабытнай Нарвегіі. Адбылася акцыя помсты, і ў сувязі з гэтым я зьвяртаюся да ўсіх зацікаўленых, а таксама і тых, хто зацікавіцца ня сёньня, дык ужо заўтра. Я зьвяртаюся як прадстаўнік Нарвежскага, Панеўрапейскага і Вялікаліцьвінскага Руху Супраціву. Я прамаўляю ад імя значнай часткі нарвежскага і еўрапейскага грамадстваў, якія не жадаюць застацца бясправўнымі карэннымі этнасамі на сваіх жа адвечных этнічных тэрыторыях.

Еўрапейскія, і перш за ўсё лакальныя нарвежскія сродкі масавай інфармацыі цьвердзілі і надалей цьвердзяць, што прычыны, з-за якіх стала магчымым неверагодная для сучаснай Нарвегіі маштабная тэрарыстычная акцыя, палягаюць у маёй асобе. Шматкроць пісалі ўжо, што мае дзеяньні былі абсалютнай выпадковасьцю, што я — варты жалю злосны няўдачнік, які ня мае ніякіх мэтаў, ніякай годнасьці і якому нельга верыць. Таксама неаднаразова наракалі, што я манюка, амаральны тыпус і апантаны, якога трэба ізаляваць ад грамадства, зрэшты, як і іншых нацыяналістаў і кансерватараў у Нарвегіі. Яны спрабавалі даказаць, што я доўгі час ня меў работы, што ў мяне комплексы, і што я ўвогуле ні з кім не кантактаваў, што я жорсткі й шалёны чалавек, які такім страшным учынкам імкнуўся прыўлашчыць увагу да сваёй персоны. СМІ і пракуратура запэўнівалі, што я нарцысіст і антысацыяльны псіхапат, пакутую ад розных фобіяў, якія і давялі мяне да такога кроку. Больш за тое, мяне дакаралі за нібыта мае інцэстуальныя сувязі з уласнай маткаю; вінавацілі ў педэрастыі і педафіліі, у тым, што я таксама некрафіл, фашыст, нацыст, сіяніст і анархіст адначасова.

Прызнаюся, я ня зьдзіўлены гэтымі характарыстыкамі. Аднак істотным ёсьць іншае: а ці ўсе

разумеюць прычыну таго, што журналісты, пракуроры, культурная эліта, рэдактары газэт і часопісаў працягваюць нагаворваць на мяне горы неверагоднай лухты і адкрытай правакатыўнай ілжы. Адказ даволі просты: я – той, хто рэалізаваў аптымальны план баявой аперацыі. Яны ўсе мяне высьмейваюць і абгаворваюць таму, што баяцца, баяцца ваяўнічых нацыяналістаў, якія могуць нанесьці непапраўную шкоду іхнай уласнай ідэалогіі „культурнага марксізму” і мульты-культуралізму. І яны будуць рабіць усё магчымае, каб не дапусьціць перамогі еўрапейскіх этнічных нацыяналізмаў.

Яны дэманізуюць мяне і Вас, маіх рэвалюцыйна настроеных братоў і сёстраў, мы іхны найгоршы ў сьвеце жах. Я, аднак, спадзяюся, Брат, што нацыяналісты і „культур-кансэрватары” не дазволяць сябе падмануць і паддацца на прыманку гэтай ілжывай прапаганды.

Тое, што сёньня ў Заходняй Еўропе і ў Скандынавіі называюць дэмакратыяй, ня што іншае, як ліберальна-марксісцкая дыктатура. Мультыкультуралізм стаў новай ідэалогіяй „культурнага марксізму”, калі вам гэты тэрмін хоць пра нешта гаворыць.

Пасьля Другой Вялікай вайны ў Еўропе ўсталяваўся такі баланс сілаў, які і прывёў нас да сёньняшняй сітуацыі: ліберальная буржуазія сканцэнтравалася на кантролі за эканомікай, а марксісты ўзялі верх над адукацыяй і культурай.

Марксісцкая рэформа апошняй, фемінізм, зьнішчэньне царквы, сэксуальная рэвалюцыя... У выніку ўсяго гэтага ўлада ў Еўропе перайшла ў рукі левых, адбылося падзеньне й перагляд маральных нормаў і вартасьцяў, быў зададзены зусім іншы вектар сацыяльна-палітычнага разьвіцьця краінаў Еўропы...

У Нарвегіі, напрыклад, была ўсталявана сапраўдная сацыялістычная сістэма, пры якой правы

на ўсё маюць адно ахвяры: ахвяры гвалту, палітычных рэжымаў. І чым большай ахвярай вы зьяўляецеся, тым большай сатысфакцыі вы можаце чакаць ад дзяржавы.

Мы, мае сябры й аднадумцы, мусім задаць два істотныя пытаньні, што да сітуацыі ў цяперашняй Нарвегіі. Мы адрасуем іх нарвежскім палітыкам, журналістам, вучоным і грамадскім дзеячам.

Пытаньне першае: ці лічыце вы недэмакратычным, што нарвежскі народ ніколі ня меў магчымасьці правесьці рэферэндум пра пераўтварэньне краіны ў поліэтнічную і полікультурную дзяржаву? Хіба не дэмакратычна зьвяртацца да ўласных грамадзянаў па параду?

І другое пытаньне: ці дэмакратычна гэта – ніколі не пытацца ў грамадзянаў уласнай краіны, ці гатовыя яны вітаць у сябе дома афрыканскіх і азіяцкіх бежанцаў і больш за тое, пераўтвараць уласных грамадзянаў у меншыню ў сваім уласным Каралеўстве?

Апытаньні, праведзеныя кампаніяй Frank Arebrot паказваюць, што 60–70% галасоў атрымлівае кіроўная ў Нарвегіі так званая рабочая партыя. Хіба гэта дзіўна? Хіба ё нечаканым тое, што толькі адзін з ста журналістаў выступае супраць „левых”? Гэта значыць, што астатнія 99 персанажаў ад журналістыкі будуць без найменшай долі сумневу абзываць нязгодных з палітыкай дзейнага рэжыму фашыстамі-расістамі. Чаму ж так? Ды таму, адказваю, што амаль усе выкладчыкі на факультэце журналістыкі сталічнага ўніверсітэту спавядаюць марксісцкія погляды. Вось чаму, як мне здаецца, ува ўсіх еўраСМІ павінны, дзейнічаць пэўныя квоты, каб у прэсе захоўваўся так званы *баланс прыстойнасьці* паміж „левымі” і „правымі” поглядамі на штодзённасьць.

Зірнем на суседку Нарвегіі Брытанію. Сацыя-

лагічныя апытаньні ў гэтай краіне паказваюць, што 69% грамадзян бачаць праблему ў эміграцыі, яны незадаволеныя палітыкай мультыкультуралізму ды паўзучай ісламізацыі краіны. Супраць гэтай *мульці-культі*-палітыкі выступаюць і каля 30% кантынентальных еўрапейцаў, звычайных грамадзянаў, не арганізаваных у нейкія канкрэтныя палітычныя партыі.

Няма ніякіх падставаў думаць, што ў Нарвегіі дэмакратыя, таму што ўсе нашы дзяржінстытуты, школы, універсітэты перанасычаныя мультыкультуралізмам і „культурным марксізмам". Усё больш кансерватараў і нацыяналістаў усьведамляюць, што дэмакратычная барацьба больш ня мае сэнсу. Яе немагчыма выйграць, калі няма *рэальнай* свабоды слова. Усьведамленьне гэтага прыйдзе ў найбліжэйшыя дзесяцігодзьдзі, і тады, магчыма, і адбудзецца Еўрапейская рэвалюцыя.

Тое, што цяпер адбываецца ў Еўропе – гэта сапраўдная тыранія і несправядлівасьць, якія прывялі да таго, што я і мае таварышы, згубілі веру ў дэмакратыю і перайшлі ў стан *ваяўнічых нацыяналістаў*. Мы ўпэўненыя, што калі нам удасца спыніць мультыкультурны эксьперымент у Еўропе, то мы ўратуем сотні тысячаў, а можа і мільёны жыцьцяў грамадзян еўрапейскіх краінаў. У нас няма часу, каб сядзець і чакаць зьмены сітуацыі. Мы ня можам чакаць дваццаць, трыццаць, сорак гадоў, пакуль этнічныя нарвежцы апынуцца ў меншыні. І таму няварта вінаваціць нас ў жорсткасьці. Калі ё зло, дык гэта хутчэй за ўсё сацыял-дэмакраты, якія штодня, штогадзіны займаюцца сістэмнай дэканструкцыяй еўрапейскай культуры і еўрапейскага этнасу.

Практыка паказвае, што сацыял-дэмакраты вырашылі поўнасьцю зьмяніць нашае Каралеўства і Заходнюю Еўропу, зрабіць іх шматнацыяналь-

нымі і полікультурнымі грамадствамі, не пытаючыся згоды ў сваіх народаў шляхам правядзеньня рэферэндумаў. І такая палітыка без выняткаў можа і прывядзе да вельмі *непрыемных хваляваньняў* і крыві. адзінае, што мусіла б зьдзівіць Нарвегію і Еўропу, дык гэта тое, што акцыя 22/7/2011 не адбылася значна раней. Справа ідзе да „балканізацыі" як усёй Заходняй Еўропы, так і Скандынавіі.

Джон Сьцюарт Міль аднойчы заўважыў: „Чалавек можа нашкодзіць іншым ня толькі сваімі дзеяньнямі, але таксама і сваім бязьдзеяньнем. І ў абодвух выпадках ён нясе за гэта адказнасьць".

Калі зазірнуць у апошні даклад Статыстычнай Управы Нарвегіі, то мы ўбачым, што імігранты стануць большасьцю ў нашым Каралеўстве ўжо ў 2040-м годзе. Наш кароль праз дваццаць дзевяць гадоў стане каралём імігрантаў!

На самай справе дадзеныя гэтага дакладу не зусім праўдзівыя. Пры яго падрыхтоўцы па-за дасьледаваньнем засталіся групы азіятаў, афрыканцаў і грамадзянаў іншых краін Паўночнай Еўропы, а таксама трэцяе пакаленьне імігрантаў, нелегальных імігрантаў, дзяцей з сем'яў, у якіх адзін з бацькоў народжаны ў Азіі, Афрыцы альбо на Блізкім Усходзе. Думаю, гэтая справаздача была замоўлена мульткультуралістамі, а канчатковая мэта дакладу – схаваць той факт, што карэнныя нарвежцы стануць у сваёй сталіцы Осла этнічнай меншасьцю ўжо праз пяць гадоў!

Лідэр нарвежскіх кансерватараў 80-х гадоў 20-га стагодзьдзя Б'ёрн Бенкаў адзначаў: „Этнічна аднароднае грамадства – гарманічнае. А калі яно культурна і этнічна разасоблена, то зьнікае пачуцьцё даверу паміж грамадзянамі, і ў канчатковым выпадку прыводзіць да канфрантацыі". Якраз гэта цяпер і адбываецца ў нас на вачах. Нібы мароз і вада ў скалах, мультыкультуралізм у народ-

ным нарвежскім целе ўжо зрабіў непераадольныя расколіны.

Самы галоўны набытак нашага народу – свабода і незалежнасьць – заўсёды і наўпрост былі зьвязаныя з адзінствам нашай нарвежскай этнічнай групы. Гэтае адзінства адыграла вырашальную ролю і ў 1905 годзе, калі нарвежцы выйшлі з уніі са Швецыяй і нават рыхтаваліся да вайны за сваю самастойнасьць. Гэтае нацыянальнае, народнае адзінства ляжыць у самым сэрцы нашай культуры і ў той жа самы час, як аказваецца, яно самае крохкае і далікатнае.

За апошнія шэсьцьдзесят гадоў так званыя *левыя*, палітыкі-*марксісты* разабралі па цаглінках тое, што ствараласяя сотнямі гадоў, беражліва захоўвалася і ўзрошчвалася: культура, ідэнтычнасьць, наша рэлігія, свабода, незалежнасьць...

Да таго ж Нарвегію накрывае хваля дэмаграфічнага выбуху, у выніку якога лідэрамі нараджальнасьці робяцца мусульмане. Калі так пойдзе і далей, дык нас, этнічных нарвежцаў, чакае лёс ліванскіх хрысьцьціянаў. Нагадаю, што у 1911-м годзе хрысьціян ў Ліване было 80 % – пераважная бальшыня. Аднак цягам стагоддзя сітуацыя зьмянілася і цяпер там дамінуюць мусульмане, а хрысьціян засталося адсілы працэнтаў 25, ды і тыя зазнаюць пастаянны перасьлед з боку цяперашняй бальшыні ў Ліване. Без сумневу, такі ж лёс чакае і Нарвегію, калі толькі ня зьменіцца іміграцыйная палітыка нашых уладаў.

Ісламізацыя Еўропы – гэта праблема, якая ўжо паўстала і сама па сабе ня зьнікне – яе трэба вырашаць. Ісламізацыя – гэта тая цана, якую Еўропа рызыкуе заплаціць за так званую *дэмакратызацыю* Азіі, Афрыкі і Блізкага Ўсходу; за так званую танную рабсілу...

Томас Хіланд Эрыксан, прафесар універсітэта

нарвежскай сталіцы Осла, аднойчы заявіў: „У нас у Нарвегіі бальшыня – белыя, і мы іх разьбярэм так пільна, што яны ніколі больш ня будуць бальшынёю”.

Што ён па-сутнасьці сказаў? А сказаў ён тое, што *іхная* галоўная задача палягае ў тым, каб разабраць на часткі нарвежскі этнас, каб грунтоўна і да рэшты рэштаў дэканструяваць яго. Гэта якраз тыя планы, якія мультыкультуралісты прагнуць ўвасобіць, спадзеючыся, што ніякага супраціву яны не сустрэнуць. Думаю, гэта ня так.

Еўрапейскія мультыкультуралісты настолькі ганарыстыя і пыхлівыя, што не жадаюць ніякага дыялогу з намі, *ваяўнічымі нацыяналістамі*, хоць гэта магло б папярэдзіць многія сутыкненьні. Левым і марксістам не патрэбна сумоўе, яны выбіраюць цэнзуру, насьмешкі і перасьлед іншадумцаў, але тым самым яны спараджаюць яшчэ большую радыкалізацыю з нашага боку.

Наш урад, нягледзячы на тое, што мультыкультуралізм як форма інтэграцыі, не працуе, працягваюць напаўняць нашу краіну імігрантамі з Азіі ды Афрыкі і адмаўляюцца ад палітыкі этна-нацыянальнага пратэкцыянізму. У такой сітуацыі мы, ваяўнічыя нацыяналісты, робімся першымі кроплямі таго нацыянальнага шторму, які набліжаецца да берагоў як нашай Нарвегіі, так і ўсёй Заходняй Еўропы. Кантынентальная грамадзянская вайна ня будзе нечаканасьцю, бо ўжо цяпер адбываецца палярызацыя грамадства і эскалацыя напружанасьці; усё часьцей сутыкаюцца паміж сабою патрыёты і пасьлядоўнікі ісламу. Мультыкультурныя рэжымы вымушаныя будуць змагацца з намі. І тады, на жаль, кроў пацячэ па гарадах Еўропы...

Прагноз на бліжэйшыя гады такі: мультыкультуралізм як самазьнішчальная ідэалогія церпіць крах. Як толькі карэнныя еўрапейцы робяцца мен-

шасьцю ў сваіх уласных краінах, улада аўтаматычна слабне, паколькі больш ня можа падтрымліваць эканамічна тую сацыяльную палітыку, якую сама ж і праводзіла. У выніку Еўропу чакая катастрафічны паводле сваіх выдаткаў эканамічны крызіс.

Вось чаму, пакуль яшчэ ня позна, еўрапейскія ліберальна-марксісцкія эліты павінны спыніць тую палітыку, якая разбурае і нашу краіну, і Еўропу.

Нам не патрэбны шэнгенскія правілы і квоты на прыём бежанцаў з краінаў Афрыкі і Азіі. Мы не жадаем, каб нашая краіна выкарыстоўвалася як сьметніца, зь якой лібераламарксісты атрымліваюць свае фантастычныя прыбыткі. Мы жадаем заставацца нарвежцамі, хрысьціянскай нацыяй нарвежцаў, членамі сям'і Паўночных народаў і вялікай еўрапейскай сям'і. І для таго каб забясьпечыць гэтыя вымогі на практыцы, мы згодна з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека і міжнародным правам будзем абараняцца, змагацца і перамагаць! Акцыя 22.07.11 зьяўляецца прэвентыўным ударам для абароны карэнных народаў Нарвегіі і нарвежскай культуры.

***

... Забраныя ў 2010-м, мы выйшлі з Жодзінскага турэмнга ізалятару пад Раство 2011-га паводле праваслаўнага календара. З палёгкаю, з агідаю, з пракляцьцямі на адрас рэжыму ўнутранай акупацыі мы выходзілі. Маральна прыгнечаныя, з разбэрсанымі думкамі... А тут яшчэ па турэмным радыё страшная навіна: едучы зь Вільні ў Менск, трапіла ў аварыю крывіцкая сям'я з *нашых, сваіх*: муж ацалеў, жонка – насьмерць. Бадай, ці ня ўсе ў камеры падумалі, што на той чортавай маскоўскай шашы аварыя магла быць і справакаваная.

Сотні мянчукоў, адсядзеўшы свае „суткі" за ўдзел у няспраўджанай „Каляднай Рэвалюцыі-2010", выходзілі з завашывелых і запрусачаных камераў турэмнай сістэмы рэжыму ўнутранай акупацыі. Але заставаліся за кратамі тыя некалькі дзесяткаў чалавек, якім пагражалі вялікія тэрміны. Многія зь іх былі моцна зьбітыя і пакалечаныя пры так званых *задержаниях*. На прыватных кухнях, у цэхавых курыльнях і ў сацыяльных электронных камунікатарах кіпеў нянавісьцю і выпарваўся страхам новастары еўрапейскі Менск пад уладаю арыднскага намесьніка.

З пачаткам вясны 2011 пачаліся судовыя працэсы над былымі кандыдатамі ў прэзідэнты, якія паддаліся на правакацыю так званых прэзідэнцкіх выбараў і ў выніку былі кінутыя за краты.

У красавіку, каб замацаваць і разьвіць у мянчуках пачуцьці роспачы і страху, і надоўга заламаць у нас волю да супраціву, ардынскімі гаспадарамі менскага намесьніка быў інсьпіраваны тэракт на цэнтральнай станцыі метро. Каля пятнаццаці чалавек загінулі, столькі ж былі параненыя, многія сталі калекамі – такою крывавай была цана *братаваньня* з ардынскім суседам на ўсходзе. Арганізаваным крывавым тэрактам у сталічнай беларускай падземцы *масква* паказвала нам, пад чыім кантролем знаходзяцца прэзідэнцкія выбары ў Беларусі.

У 2011-м Аўтар нарэшце апрылюдніў першую частку свайго раману „Цана Еўропы...", а я наведаў сваю малую радзіму – паморскую Русь, Архангельшчыну, Анежскі раён, станцыю Унежму, дзе працавалі вольнанаёмнымі і зьлюбіліся мае бацькі.

Да сучаснай Расеі я дабіраўся з Нарвегіі, прычым самалётам да Кіркінэсу ляцеў праз Осла. У Кіркінэсе пасьпеў на прыватны аўтобусік да Мур-

мanску, з вокнаў якога за нарвежска-расейскай мяжой я назіраў метафізічнае завяршэньне Еўрапейскага кантыненту і пачатак ардынскіх тэрыторыяў.

Зрэшты, маю дарогу да Мурманска, касуючы адмоўныя эмоцыі ад сузіраньня расейскага запалярнага пейзажу, упрыгожвала маладая белацелая мурманчанка Нюра Перханен, зь якой я пазнаёміўся яшчэ ў Кіркінэсе. Што казаць, мурманчаначка была сімпатычная, чорнавалосая і чымсьці нагадавала мне самачку марскога коціка, а імя Нюра перагуквалася са словам нерпа.

З Нюрай мы крыху пахадзілі па вячэрнім Мурмане, шукаючы мне які-небудзь начлег, але так нічога і не знайшлі, а ісьці ў гатэль я катэгарычна не хацеў. Да сябе дзяўчына не запрашала, хоць мы і пасьпелі крыху зьнюхацца. На разьвітаньне я падарыў ёй нарвежскі сувенір з блышынага рынку, а яна мне – працяглы пацалунак кудысьці ў сківіцу, які я перахапіў вуснамі. „Марскі коцік” Нюра пахла, як пахнуць усе маладыя жанчыны без парфумы – сьвежаскошанай мурожнай травой, хвояй, малачаем, сырадэляй, запараным зернем Купальскага крупніку, бярозавым дзёгцем, сьвежым дубовым шпонам, вагінальным лубрыкатам і крышачку – урынальнай пратокай...

На наступны дзень я ўзяў білет на мурманскі цягнік да станцыі Унежма.

Быў канец чэрвеня, і малая радзіма сустрэла хмарамі, дажджом і звычайным паўночным халадком. Я зайшоў у будынак станцыі, паглядзеў расклад руху цягнікоў і выправіўся шукаць, у каго б спыніцца.

Унежма не зьдзівіла і асабліва не ўсхвалявала – якраз такой я яе і бачыў у маіх снах і фантазіях усе мае 50 гадоў жыцьця.

Даволі хутка я знайшоў сваю гаспадыню; мы

дамовіліся пра цану начлегу й сталаваньня, і я выйшаў у раскіданае пасярод паморскага лесу мястэчка.

Я пытаўся ў рэдкіх мінакоў, ці застаўся хто жывы з 60-х, каб, можа, успомнілі маіх бацькоў, бабу-павітуху, якая прымала ў мамы роды... Нікога не засталося: павыязджалі – хто яшчэ тады, маладымі, як мае бацькі са мною; нехта дажыў старасьці і пераехаў да дзяцей; астатнія памерлі тут, на месцы, і ляжаць на прыдарожных могілках...

Неверагодна, але як я ні чакаў прыходу ў маё нутро нейкага таямнічага, адмысловага для гэтага месца душэўнага зруху і трапятаньня, – яны не прыходзілі. Іста мая заставалася незварушнай, як той ледніковы паўночна-заходні валун на беларускім хутары Казіміраўка.

Не было эмоцыяў. Не было і вершаў. А тут жа я, як той казаў, у сьвет гэты вылузнуўся, ды яшчэ ў двайной кашулі! Тут жа кіпела ня толькі лесапавальная работа, але й любоўныя жарсьці, жывым вынікам якіх я і стаў!

Але не, цішыня ў грудзях, сэрца маё трывушчае роўна б’ецца, і адрэналін не выходзіць падпашным потам. Толькі шуміць над Унежмай лёгкі роўны дождж і камары, ігнаруючы $H_2O$, шукаюць напіцца крыві...

На наступны дзень...

На наступны дзень я прадоўжыў свае палявыя дасьледваньні малой радзімы: была субота, і людзі арганізавалі ў мястэчку невялікі кірмашык, на якім прадавалі самаробную драбязу і ядомае.

Я зайшоў у прыватную крамку ды набыў мясцовага хлеба, кавалак сала ды бутэльку нейкай мясцовай жа гарэлкі. Зрэшты, сала было таксама тамтэйшае, чаму я нават крыху зьдзівіўся. Зь іншага боку, няма чаго дзівіцца, бо пераважная бальшыня жыхароў Унежмы – нашчадкі ацалелых

лагернікаў па 58-м і вольнанаёмных лесапавальшчыкаў шасьцідзесятых – крывічы ды ўкраінцы па крыві і месцанараджэньні. Вось іхныя ўнукі і дадаюць да мясцовай традыцыі самагонаварэньня яшчэ й традыцыю саланарыхтоўкі.

Так я кумекаў, ідучы з куплёным падпахаю да блізкага, пры самай чыгунцы, тарфянога азярца, якія ў нас, на паўночным захадзе Крывіі, называюць балотцамі.

На Унежмаўскім азярцы, на беражку я знайшоў паваленую на бок драўляную кабельную катушку, якая служыла сталом, ды некалькі калодаў замест крэслаў. Да вады была пракладзена невялікая грэбля, зь якой можна было даваць нырца ў цёмную глыбокую ваду.

Але перш чым асьвяжыцца *ў водах Ярдану* я адкаркаваў, наліў і выпіў – за сябе і за тры свае радзімы: паморскую Русь, Нарвегію і беларускую – Літву-Крывію-Беларусь.

Падпіўшы – задумаўся: а станцыя Унежма Анежскага раёну Архангельскай вобласьці Расеі – гэта яшчэ Еўропа ці ўжо нешта іншае? Успомніў школьны курс геаграфіі, у якім расказвалася пра еўрапейскую мяжу па ўральскім горным хрыбце. Урэшце, спыніўся на тым, што і малая мая радзіма, і вялікая мая Літва-Крывія-Беларусь, і новапабытая Нарвегія – гэта ўсё Еўропа. Адно, што цэны і клімат у іх розныя...

На трэці дзень гасьцяваньня лёс паслаў мне сустрэчу з нашчадкамі вольнанаёмнікаў 60-х.

Два хлапчукі васьмі і дзесяці гадоў шноркаліся па лесапільні. З хлапчукамі сабачка. І тут – нечакана я з нейкай вялізнай чорнай трубой на грудзях.

Хлапчукі кругамі сталі падграбаць да чужака з дзіўным начыньнем.

І вось мы ўжо знаёмімся, гаворым і разгавор-

ваемся; і я ўжо ведаю, што ў старэйшага – прыгожага белабрысага унежмаўца Мікалая, мама – крывічанка. *Але яны ніколі не былі ў Беларусі, а ў Мінску у іх ёсьць сваякі, і мамка зьбіраецца паехаць да іх. І яго возьме!*

– *А Мінск – бальшой горад?* – пытаецца старэйшы, Мікола.

– *Бальшой*, – адказваю. – Такой *бальшой*, што аж вялікі...

Я гавару па-беларуску, дзе-нідзе пераходзячы на беларуска-расейскую тарсянку, і гэта ні на грамульку не бянтэжыць хлапчукоў. Проста ў іхным жыцьці здарыўся невялікі цуд: з краіны, адкуль калісьці прывандравалі іхныя дзяды й бабулі, прыехаў дзядзька беларус, які даўным даўно тут і сам нарадзіўся...

– А в Беларусі есть метро? – асьмялеўшы, пытаецца меншы, Сьцёпка.

– Ё, – кажу, – вось у тым самым Мінску і ё...

Сьцёпка й Мікола вядуць мяне на мясцовыя могілкі. Пад нагамі блытаецца сабачаня, і меншы крычыць на яго:

– *Пашол ты,* зараза!

На могілках спачываюць беларускія і ўкраінскія душы, і крыху тутэйшых, паморскіх. Гэта відаць па прозьвішчах на помніках: Бардыкі, Цяльпукі, Бардзілоўскія, Савёнкі, Сільніцкія... Пахаваньні тут рабіліся з канца 20-х гадоў 20-га стагодзьдзя, – бязладна, уроскідку, уздоўж і ўпоперак. Хтосьці пахаваны нагамі на ўсход, нехта – нагамі на захад. Ёсьць і тыя, каго хавалі ў накірунку з поўначы на поўдзень...

Тры дні й тры начы праляцелі як адно імгненьне. Мая маленькая радзіма так і ня выструніла зь мяне ні радка; усе гэтыя дні я заставаўся неверагодна спакойным і з асаблівым цынізмам вёў допыты самога сябе: за якія такія заслугі ты адора-

ны талентам гладкапісу? Я ня ведаў, што адказаць, і таму маўчаў І тады мой сьледчы згарнуў допыт.

– Глядзі сам, – сказаў ён, – табе жыць.

***

Унежму я пакідаў гэтак жа спакойна і без асаблівага хваляваньня, як і ўваходзіў у яе пад спорным чэрвеньскім дажджом.

– Бывай, мая маленькая лясная радзіма! Бывайце, Сьцёпка й Мікола! Дай вам бог як найхутчэй наведаць вялікую Радзіму, – маю і вашых дзядоў-бабуль, і вялікі горад Менск, у якім *ёсьць чыстае і прыгожае метро!*.. Хаця не, ня так: у якім *было чыстае і прыгожае метро*, пакуль яго ў красавіку сёлета не ўзарвалі маскоўскія ардынцы. Прыязджайце не на госьці – прыязджайце разам з мамай назусім. Вы ж фактычна напалову нашы, а можа і цалкам, я ж ня ведаю вашых татаў. Так што церабіце вашых мамаў за падалы, няхай вяртаюцца разам з вамі на сваю гістарычную радзіму. У вас, хлапчукі, яшчэ ёсьць шанец стаць людзьмі...

У Беламорску я выйшаў з дызеля, бо на другі дзень мусіў сесьці на мурманскі цягнік да Менску. У мяне ў запасе былі амаль суткі часу, і я пайшоў пехатою да таго самага Беламорска-Балтыйскага каналу, усхваленага пралетарскім пісьменьнікам Максам Горкім, і мільён разоў праклятага тысячамі зэкаў, якія рылі гэты канал і якіх саміх, зьнясіленых, зарывалі ў яго берагі.

Паабапал дарогі дзе-нідзе стаялі *з крытычным ухілам* слупы лініі электраперадачы; на дарожным палатне там-сям выбоіны і прамывы.

А вось і сам уток і выток, пачатак і канец Каналу, які стаў горкім, ганебным сімвалам сталіні-

зму 30-х гадоў 20-га ст. Шлагбаўмы, сеткі, шлюзы... У Белым моры плёхаюцца, нацягваючы і адпускаючы швартовыя канаты, старыя і новыя рыбацкія шхуны й прагулачныя яхты. Адзін такі карабель, увесь у белым, двумачтовы, стаіць на стапелях, гатовы да спуску ў воды Белага мора.

Я пераходжу Канал, дастаю фотакамеру і здымаю. Цяпер гэтае месца даступнае і для турыстаў, хаця наўрад ці яны тут бываюць хоць бы выхаднымі днямі. Але аб'явы сьпецыяльна для турыстаў я заўважаю.

Я даўгавата, хвілін 15–20 кручуся каля шлюза, і гэта вымушае выйсьці з сваёй будкі ахоўніка. Я не ўнікаю сустрэчы зь ім, здароўкаюся і ўступаю ў размову, ловячы сябе на думцы, што як жа гэта здорава быць свабодным, адчуваць за сьпіною магутную падтрымку сацыяльна адказнага за мяне нарвежскага Каралеўства, а ў сабе самым – прававмоцную чалавечую годнасьць, якая расчышчае перада мною поле для ўваходжаньня ў кантакт як з сяброўскім асяродзьдзем, так і з агрэсіўна-варожым.

Паміж мною і тутэйшым паморцам-ахоўнікам адбываецца вялы дыялог:

– Снимаете? Турист?..

– Да, немного...

– Тут снимать-то особо нечего...

– Вообще-то да... Но всё-же...

– Сами откуда?..

– *Не поверите, но я – отсюда* (ахоўнік натапырваецца, твар стражэе)... *Точнее, есть такая станция Унежма в Онежском раёне. Без малого пятьдесят лет назад я там родился.*

– *Да? Интересно... Ну ладно, на шлюзе только долго не маячте, начальство не любит...*

– *Хорошо, конечно... Начальство – это понятно, лучше его не раздражать...*

І я пайшоў ўздоўж каналу, хаваючы ў мяккі чорны чахол свой фотаапарат.

Я павольна пераступаў нагамі па беразе каналу, уяўляў тых няшчасных арыштантаў, якія галаруч яго будавалі няпоўныя два гады, з 1931-га па 1933-ы; і ахоўнікаў у цёплых кажухах, і лагерных дахадзягаў у прамерзлых дзіравых ватніках... За прамінулыя восемдзесят гадоў нічога, бадай, у расейскіх людзях не зьмянілася, яны і далей жывуць у каставым грамадстве, дзе галоўнае – гэта начальства, потым – ягоная ахова, і ўжо наастатак – усе астатнія.

Дзякуй богу, я не належу ні да адной з гэтых групаў. Я толькі праездам. Заўтра сяду на цягнік да Менску-*Беларускага* і пакіну гэты расейскі кавалак еўракантыненту – хутчэй за ўсё назаўжды.

## 2012

### Юбілейны 2012-ы; тая, зь якой яму жыць; пяцьдзесят восьмых сакавікоў; палявыя зборы ў Заходняй Украіне; Кірылаўка на Азове.

Прыход 2012-га я нарэшцце сустракаў дома, у рэальным кантэксьце сваёй надзвычай рэальнай усходнееўрапейскай краіны – у Беларусі-Крывіі. 8 папярэдніх новых гадоў мне прыходзілася адзначаць за межамі Радзімы, на паўночным акрэсе нашага Еўразійскага кантыненту, у Нарвегіі.

Мінулы 2011-ы я таксама сустракаў у Беларусі, але ня дома, а ў сьмярдзючай турэмнай камеры Жодзінскага ізалятория, сярод сваіх суграмадзянаў пераважна маладзейшага веку, пра што мы зь Вільманам ужо распавялі ў папярэднім разьдзеле.

Гэтым разам *прыход начы ўсясьветнай папойкі* мы адзначалі з прататыпам аднаго з герояў гэтай кнігі Андрэем. Сьціпла і без феерверкаў, у адным

з заходніх мікрараёнаў сталіцы ўсходне-еўрапейскай краіны, двое мужчынаў нетаропка ўжывалі алкаголь, закусваючы прымітыўнай арганікай, і гаварылі і гаварылі.

Перад надыходам дванаццатай гадзіны ночы з намі на скайп-сувязь выйшаў трэці з нас – пражскі самотны сядзелец Адам. Так мы і сустрэлі 2012-ы – суровым мужчынскім трохкутнікам, падымаючы келіхі за перамогу. Зрэшты, мы за яе п'ём ужо гадоў трыццаць – з таго часу, як сталі надзейнымі даньнікамі Беларушчыны.

І вось 2012 прыйшоў, адбыўся, стаў фактам; у гэтым годзе мне споўніцца 50; юбілейная дата і юбілейны год, і гэта напэўна ж істотна для таго, хто гэтыя *пяць нуль* перажыве, і я, ужо добра падпіты, запрашаю Андрэя абавязкова быць – прыйсьці, прыехаць, прыпаўзьці на ДН, бо я так чакаў яго ўсе гэтыя доўгія гады ў выгнаньні...

***

Пад канец студзеня Вільман, здаецца, знайшоў сваю жанчыну – і гэтым разам таксама ў віртуальнай прасторы глабальнай інтэрнэт-павуціны.

Я гнаў яго вон з так і не абжытай ім кватэры ў вялікі горад, да людзей, у *вір жыцьця пад ўнутранай акупацыяй,* а ён з дня ў дзень працягваў тупа сядзець у інтэрнэце, да якога прывык яшчэ ў эміграцыі.

„– Вільман, – нашэптваў я, – жыцьцё там, на вуліцы; тое самае жыцьцё, ад якога ты быў адлучаны столькі гадоў!..”.

„– О не, – адшэптваўся Вільман, – гэта, вядома, жыцьцё, згодны, але гэта *ня тое жыцьцё*, якога хачу я. А хачу я не фальшывай, а сапраўднай вітальнасьці – жыцьця годнага, па-свойму, павод-

ле сваіх натуральных законаў, а не навязаных спадцішка альбо гвалтам! Не хачу ў фальш чыстых вуліц!..”.

Так і сядзеў мой Вільман у сваім віртуальным космасе, пакуль з туманнасьцяў тутэйшага ландшафту не паказалася наканаваная яму ўдавіца з пасынкам...

І тады ён выйшаў у горад.

***

13 студзеня 2012-га году ў нашамоўным сектары інтэрнэт-знаёмстваў я знайшоў анкету, у якой нейк асабліва па-мойму было напісана: „Адэлаіда, 38 гадоў. Удава. Сыну 7. Маме 67. Уласны дом і 15 сотак зямлі ў цэнтры Пухавічаў. 7 хвілінаў пехатою ад чыгуначнай станцыі”.

Я глыбока задумаўся. У галаве ліхаманкава замітусіліся мэнэджары й каміваяжоры збыткоўнага тавару.

„– Адэлаіда... Гэта ж Адэля? Ці не? – пытаўся я невядома ў каго.

– А якая табе розьніца? Бяры! – нашэптвалі рыштанты няпэўнага веку.

– Табе колькі гадоў? Паўвеу?! О! Дык што ж ты выкабельваесься! Хочаш скончыць свой век у нарвежскім доме для перастаркаў?! Маеш неадольнае жаданьне акачурыцца, папярхнуўшыся за вячэрай камбікормавым нарвежскім ласосем?..

– Ды не, вядома! Але дайце разабрацца. Я прачытаў тысячы падобных да гэтай анкет, але ніколі не сустракаў, *такога* імя. Гэта ж трэба – Адэлаіда! Адэлайда, значыць? Адэльфіна! Дэлайда, калі на тое пайшло!.. Няўжо нарэшце?! На гэтым спыніцца? Напісаць ёй?..”

Глыбокай ноччу, прагартаўшы яшчэ некалькі

дзесяткаў жаночых анкет, запоўненых сьвятой манаю ў імя *свайго адзінага, упэўненага ў сабе і з гумарам мужчыны*, я вярнуўся да старонкі Адэлаіды. У ейнай анкеце ў графе „Каго Вы хочаце знайсьці?” стаяла адзінокае да балючага звону ў вушах слова: „Мужчыну”.

9 лютага 2012-га на станцыі Пухавічы Беларускай чыгункі мы з Адэлаідай разьвіртуальніліся.

„– Я – той самы Вільман... – прыглушана, з прыхрыпам, вымавіў я, працягваючы руку.

– А я – тая самая Адэлаіда. А па-просту, панашаму – Адэля.

– Ну вядома, я так і падумаў: Адэля!”

І мы пайшлі садзіцца ў электрычку, на хаду вырашаючы, што нам рабіць у трыццаць дзевяты дзень ейнага нараджэньня.

Лакальны электрацягнік пакінуў нас на паўстанку „Мар’інагорскі Тэхнічны Музэй”. Было марозна, сьляпіла вочы белым сьвежым сьнегам, і мы непрыкметна перайшлі на „ты”, ідучы ад прыпынку ў бок культурнай установы.

„– Не, я ўсё магу зразумець, але чаму ты зімою ў красоўках?! Ды яшчэ ў горных? – выгукнула Адэля з-пад вялікай блакітнай елкі, каля якой яна пазіравала перад аб’ектывам маёй фотакамеры.

– Адэаліда, што Вы маеце супраць маіх красовак? Па-першае, я нашу іх на ваўняныя шкарпэткі, па-другое, у іх зручна, лёгка і цёпла; і па-трэцяе, гэта стокавыя фірмовыя красоўкі і ў фірмовай жа краме яны каштуюць як найменей тысячу крон! Ты ведаеш, Дэлайда, колькі гэта ў еўраталерах? Гэта 120 еўраталераў! Трэцяя частка твайго месячнага заробку!..”

Тут я загарэўся тэмай, увайшоў у свой штодзённы рабочы вобраз і, дурэючы на сьвежым паветры і ў чыстым сьнезе, пазнаёміў Адэлаіду зь маім *стокавым* бізнэсам.

... А вечарам, за сьвяточным сталом з нагоды свайго 39-га дня нараджэньня, Адэля, блытаючыся ў беларускіх і расейскіх словах, знаёміла мяне з сваёю сям'ёй: сынам Мікалаем сямі гадоў, мамай Любоў Іванаўнай шасьцідзесяці сямі, сынам загінулай старэйшай сястры Ігарам дзесяці гадкоў, і з лавушчай паўсьцістай коткай Люсяй...

Ужо праз год я пастаўлю на пятнаццаці сотках бабы Любы яшчэ адзін дом – свой, прымацкі, уклаўшы ў яго ўвесь мой нарвежскі капітал.

8 сакавіка мне споўнялася 50 гадоў веку, і я вырашыў адзначыць гэтую падзею калектыўным паяданьнем арганікі й выпіваньнем рознаградуснага алкаголю.

Мая новая Муза, мая Адэлаіда-Дэлайда-Адэля аказалася адмысловай кухмістрыняй і нарабіла едзіва на дваццаць пяць жыватоў. У гэтай кухоннай сітуацыі я дапамог ёй толькі тым хіба, што пад яе мудрым кіраўніцтвам закупіў у гіпермаркеце неабходныя прадукты.

Пяцьдзесят пражытых гадоў – гэта, ведаеце, ня тое, што Еўропа, гэта, бадай, увесь зямны клудмень з каростай чалавецтва на кантынентальных залысінах, настолькі гэта важная для мяне, Вільмана, падзея...

Былі на сьвяце і герой маіх брутальных гісторыяў Андрэй па мянушцы Латыш, і самы сапраўдны псіх і жывапісец Фідэль, а з Гародні прыехаў да мяне на ДН сам Божыдар, які, што тут хаваць, ужо гадоў дваццаць як па мне ўздыхае...

Дык во, пілі, елі сьпявалі й гаварылі з-над вечара да поўначы – разам, за адным сталом – *нашым ліцьвінскім еўрапейскім сталом*, як і марылася мне доўгія гады ў запалярнай Нарвегіі.

Прачнуўся я сярод ночы ў вялікім мяккім крэсьле і аж здрыгануўся: на сьвяточным стале не было ні яды, ні пітва, толькі пасярэдзіне стаяў недаедзены торт і недапітая бутэлька чырвонага віна з дву-

ма крышталёвымі бакаламі. Побач на канапе абачнулася Адэлаіда й хітра ўсьміхалася: пакуль я кімарыў у крэсьле, натомлены гасьцямі, Адэля прыбрала са стала. Прычым татальна. Гэткая аператыўнасьць мне не спадабалася; я хранічны педант, але прыбіраць са стала, калі яшчэ ня ўсе госьці дабраліся дамоў, а некаторыя вернуцца ўжо сёньня пахмяляцца й дагаворваць не дагаворанае... Не, стол пасьля гасьцей, не павінен прыбірацца як мінімум суткі. І калі госьці былі жаданымі, ён яшчэ нейкі час будзе трымаць над сабою аўру застольнай сустрэчы; будуць гучаць галасы і воклічы людзей, звон посуду, гукі пераліваньня водкасьцяў, прычмокваньні, пакашліваньні і нейкія падазроныя варушэньні акурат паміж краем стала й кніжнай шафай...

Тым ня менш, стол быў прыбраны, а я захацеў а трэцяй начы чагосьці мацнейшага, чымся віно, і пацягнуўся на кухню маёй аднапакаёўкі. Тут, у баковачцы, мяне чакала яшчэ адна неспадзяванка: проста на падлозе спаў мой даўні-прадаўні таварыш, супортар і крытык Вярціла. Аказалася, я яго праганяў зьвечара, і нават быў прагнаў, выпхнуўшы за дзьверы, але як толькі я сам зьвіўся ў мяккім крэсьле, Вярціла вярнуўся, і добрая душа Адэля яго ўпусьціла.

Я, для прыліку, прырэўнаваў яе да свайго старэйшага двайніка, разбудзіў яго кухталём пад мяккае месца, і мы разам прыселі да стала, бо *нам было пра што ўспомніць і пахмяліцца*. Не хапала толькі Іванова, таго самага Іванова, зь якім я павінен быў сустрэцца надвячоркам 20-га сьнежня 2010-га ў Доме Пошты, а замест гэтага быў брутальна схоплены акупантамі *на самай вялікай плошчы Еўропы* і 15 сутак адбыў у камеры *адной з самых антыгуманных еўрапейскіх турэмных сістэмаў*.

***

У канцы красавіка дванаццатага году зьявілася нагода ізноў наведаць заходні рэгіён Усходняй Еўропы – Львоўшчыну. Умацоўвалі старыя і наладжвалі новыя сувязі з украінскімі патрыётамі. Правяралі ваенную падрыхтоўку нашых легіянераў, наведалі вучэбныя стрэльбы, на якіх ліцьвіны паказалі выдатныя вынікі...

Некаторыя ўкраінцы пытаюцца: „Навошта Вам параміліtарныя сілы?" „Звычайна, – адказваю, – на тое, на што і Вам, украінцам...".

Увогуле, у плане нацыянальнага росту за Украіну можна асабліва не перажываць, бо побач з дажываньнем украінца савецкага, расьце ўкраінец нацыянальны, украінскі. І нават нашага беларуса вучыць асновам нацыяналізму, патрыятызму і ўзброенай барацьбы.

У канцы ліпеня я павёз сваю новастворaную сям'ю адпачываць на Азоўскае мора.

Спыніліся мы – я, Адэля і пасынак Мікола – у прыморскім пасёлку Кірылаўка, у дамках, якія здае пастаяльцам беларускі прадпрымальнік. І сапраўды, на нашай курортнай вулічцы час ад часу чуваць быў ліцьвінскі акцэнт і нават асобныя крывіцкія словы.

У першы ж дзень адпачынку я пайшоў па прыморскай авенідзе Кірылаўкі ў пошуках менавіта ўкраінскага духу ў курортным быцьці пасёлка. У чым можа хавацца гэты самы Дух, калі ня ў мове абарыгенаў і ў іхных сувенірах?

Тэарэтычна – так, але ня ў нашым выпадку, не ў абсалютна расейскамоўнай Кірылаўцы. Хачу купіць які-небудзь адмыслова ўкраінскі сувенір, але – няма. Пытаюся ў адной прадавачкі, у іншай, чаму няма ўкраінскіх сувеніраў. У адказ нешта мармычуць няўцямнае, пакуль адна зь іх не зда-

гадваецца нарэшце перавесьці стрэлкі на кітайцаў, маўляў, усе сувеніры робяцца ў Кітаі, і да іх украінская яшчэ не дайшла... ”Ну-ну, затое руская дайшла, як жа...”, – стрымана пярэчу я, нічога не купляю, і на разьвітаньне пад’южваю прадавачку яшчэ раз: „А я так хацеў прывезьці ў Беларусь якіх-небудзь украінскіх чорцікаў, якога-небудзь Вія з асяледцам на галаве... Бо вініпухаў па-расейску ў нас і дома хапае. Куды ні павярніся ў беларускім Менску – то растоўскія казачкі, то саратаўскія матрошкі... Ужо вочы ад іх сьлязяцца...”. Гэтым разам прадавачка ўвогуле не адказвае, адмоўчваецца, і я іду далей па авенідзе.

Прыпляжная вуліца расьцягнулася на некалькі кіламетраў. Па адзін бок – пляж і мора, па другі – дамы й дамкі рознай камфортнасьці для адпачывальнікаў з розным матэрыяльным дастаткам.

У канцы ліпеня 2012-га ўвесь пляж курортнай Кірылаўкі завалены целамі рускамоўных пузагрэйнікаў. Рэдка калі, як тая выпадковая мушка ў запалярнай Нарвегіі, заляціць у маё настаўбуранае вуха рэха дзесьці прамоўленага па-ўкраінску слова альбо цэлай фразы. І потым ізноў назойлівае *чигириканье, чёканье и московско-питерское ОАканье*.

Каб вельмі ўжо зьдзівіла мяне панаваньне рускай мовы на ўкраінскім марскім курорце, то не, не скажу. Я да мовы *масквы* прывычны – я ж зь Беларусі. Уразіла іншае: дзесьці паміж „Чортавым колам” (колам агляду) і надзіманым гумова-водным трамплінам я ўбачыў на высачэзнай штанзе ўкраінскі жоўта-блакітны сьцяг у атачэньні чырвонага сьцяга былога СССР з аднаго боку і расейскага трыкалёру з другога; і абодва гэтыя сьцягі на гэткіх жа высокіх штангах-сьцяганошах. Гэтыя тры палотнішчы я зразумеў як камплімент тром галоўным групам адпачывальшчыкаў: улас-

на ўкраінцам; сучасным жыхарам РСФСР; і тым *савецкім*, – людзям, народжаным пры СССР, якія настальгуюць па зьніклай савецкай імпэрыі і жывуць фактычна па-за сёньняшнім рэальным часам, бо многія зь іх не проста настальгуюць, а прагнуць вяртаньня той самай імпэрыі, не даканца, відаць, усьведамляючы, што вярнуцца яна можа толькі паўтарыўшы свой крывавы шлях, які яна прайшла ў сваім першым існаваньні з 1917-га па 1953-ці гады 20 стагодзьдзя.

Пры ўсім пры тым маскоўска-піцерскі арфаэпічны фон Азоўскага ўзьбярэжжа ў раёне Кірылаўкі заставаўся толькі фонам. Сама публіка была прыязнай адно да аднаго; нідзе за два тыдні адпачынку я ня ўбачыў нейкіх канфліктных сітуацыяў ці боек. Зрэшты, як і ніводнага ўкраінскага міліцыянера – як мінімум, у штатнай форме.

Я настолькі засумаваў бяз нашых усходне-эўрапейскіх ахоўнікаў спакою і парадку, што аднаго дня апрануў *свастычную* вышыванку, зробленую і падораную мне Валькай Якімовічыхай, і рушыў у цэнтар Кірылаўкі на пошукі тутэйшага вырыянту апарняка[29].

У курортным мястэчку мне нарэшце пашанцавала: на будынку райвыканкаму я заўважыў шыльдачку райадзелу міліцыі. Побач таўкліся маладзёны ў цывільным. У аднаго з юнакоў з-пад белай безрукаўкі навыпуск паказалася карычневая рукаятка пісталета Макарава ўсё таго ж *незабыўнага перыяду СССР*. Пісталет дулам уніз сядзеў у гэткай жа старарэжымнай пацёртай часам рыжай кабуры. Я нахабна фатаграфаваў персанажаў, будынак адміністрацыі і шыльды на ім. Неверагодна, але ніхто не кідаўся да мяне з яўным намерам адабраць фотаапарат, ніхто не патрабаваў сьцерці кад-

---

[29] *Апарняк* – аддзел міліцыі.

ры. На мяне ўвогуле ніхто не зьвяртаў увагі. „Ні хрэна ж сабе! – вылаяўся я ў думках. – Зусім як у Нарвегіі! Ці гэта статус курортнага пасёлку ў новых эканамічных умовах робіць зь людзьмі і ў людзях такія перамены? Альбо – гэта менавіта так, а не інакш, бо тут Украïна, а не Беларусь?..”

Я ўжо зьбіраўся зачахліць свой „Nikon”, як у дзьвярах паказаўся малады міліцыянт у форме, заўважыў мяне і крыкнуў з парогу, запрашаючы зайсьці ўсярэдзіну і паздымаць у будынку. „Ну ўсё, давыпендрываўся, турыст, – мільгнула ў маёй галовачцы ў той момант, калі я падыходзіў да мястачковага апарняка бліжэй. Аднак і гэтым разам ніхто не зьбіраўся выстаўляць мне ніякіх прэтэнзіяў і рахункаў, а міліцыянт, агарнуўшы зацікаўленым позіркам маё верхняе ўбраньне, канстатаваў як факт:

„– А, так Вы со Львова! Ну, проходите, проходите...”.

„– Ды не, малады чалавек, я якраз ня львоўскі – я зь Беларусі, зь Менску,” – заўважыў я сваім гучным голасам, праходзячы ў цемнаваты калідор аддзяленьня міліцыі.

„– Интересно, – адгукнуўся міліцыянер, – а вышиванка всё же львовская, да и говорите Вы вроде как по-нашему...”.

Я прайшоўся па калідоры ўкраінскага апарняка, але ўжо зь першага беглага агляду было ясна, што тут мне дакладна няма чаго здымаць, і я схаваў фоцік у чахол і выйшаў з будынку. Ахвота назіраць людзей у форме прайшла, і цяпер я ізноў хацеў да людзей у цывільным.

## 2013

**Ад барнай стойкі да менскай кальцавой; апошні палёт сябра; сурагатная любоў у чырвоным купэ; свой дом на чужой зямлі; хутарок Цагельня; газ пайшоў; украінскі Майдан.**

... акурат на *праваслаўнае Раство*, ці, як кажуць, яшчэ на *стары Новы Год*, ня помню якога дня дакладна, папёрся я нейкага ражна ў цэнтар нашай, сьмех сказаць, *еўрапейскай* сталіцы. Што я ў тым цэнтры пільнага рабіў, таксама не ўзгадаю. А вось з моманту, калі я зайшоў у забягалаўку-бар універсаму „Цэнтральны", мая слабенькая памяць пачынае ажываць.

Ёсьць на першым паверсе гэтага ўнiверсаму кавярня са столікамі, і ёсьць бар з адной доўгай стойкай і „стаячымі" месцамі пры ёй. Стойка зручная, пад вялікімі вокнамі, праз якія п'ючы піва ці што мацнейшае з-пад крыса, можна назіраць за рухам пешаходаў па шырокім тратуары і аўто па гэткім жа шырокім прасьпекце. Іншым разам, ужо добра прыняўшы, раптам бачыш, як публіка за стойкай прыціхае і пачынае дружна ўглядацца ў вокны: гэта значыць, што *мільтоны*[30] перакрылі прасьпект, каб па ім да сваёй рэзідэнцыі, ці наадварот, зь яе маглі бесьперашкодна правезьці цела пракуратара нашай еўрапейскай Юдэі...

Так было і тым надвячоркам, калі я, парабіўшы свае нікчэмныя справы, заруліў у „Цэнтральны", у гэты самы бар, ці, я к я кажу, Тэлевізар, у якім штодня ідзе адна-адзіная на ўсю Юдэю жывая і праўдзівая трансьляцыя з кавалка прасьпекту Незалежнасьці ад станцыі метро „Кастрычніцкая" да „ГУМу": народ тоўкся ўздоўж стойкі, піў алкаголь,

[30] *Мільтоны* – міліцыянеры.

каву-сокі, тачыў саладзені альбо таранку ці чыпсы пад піва. Узяў кухаль і я, знайшоў вольнае месца й прыляпіўся да яго, як лясны клоп да каўняра вопраткі.

Але нядоўга я піў на самоце. *Тэлевізар* – бадай, адзіная ў сталіцы *дэмакратычная* пляцоўка, дзе можна за кухлем піўнога алкаголю галосна абмяркоўваць утрапёныя экзэрсісы нашага пракуратара без неабходнасьці прасіць дазволу на правядзеньне сходкі. У *тэлевізары* сходзяцца і мітынгуюць практычна ўсе сацыяльныя страты: панкі і рокеры, класікі бардаўскай песьні і салісты опернай сцэны; багамазы-пэцкалі, якія называюць сябе жывапісцамі, і сапраўдныя майстры палітры; графаманы і акулы журналісцкага пяра; аглядальнікі радыё „Лібертыя" і падпольныя рэпарцёры тэлеканалу „Белштат"...

Вось я і кажу: нядоўга мне прыйшлося жлукціць піва аднаму. Праз хвіліну, зазіраючы мне пільна ў твар, нехта з прыдыханьнем, але даволі гучна канстатаваў:

„– Спадар Вільман! Дазвольце з Вамі пазнаёміцца...".

Я быў у добрым настроі і адказаў згодай. Персанаж на знак падзякі і знаёмства прапанаваў ужыць больш моцны трунак. Ужылі, хай будзе чалавеку прыемна. Тым часам падцягваліся да нашай двойкі новыя персанажы, акторы і статысты. Падруліў знаёмы аглядальнік спартыўнай газэты „Прэсбуль" – чокнуліся зь ім. Праз хвіліну нарысаваўся шафёр з выдавецтва, у якім я надрукаваў зборнік сваіх скандынаўскіх рымаў, – пачаставаліся. Далей – болей. Кожны хацеў даступіцца да цела, пачаставаць, чокнуцца. Я расплываўся пад сьвятлом вялікіх *сталінскіх* люстраў „Цэнтральнага"; „Бульбаш", „Сваяк" і „Белавежская" напалам з піўным хмелем закручвалі ў галаве бяз-

донныя віры свабоды; сістэма самакантролю легла пад напорам славы, і лыткастыя жнейкі з наліўнымі сакавітымі бюстамі пачалі аддзяляцца ад насьценных барэльефаў апошняй сталінскай пяцігодкі, прагнучы далучыцца да нашай кампаніі...

Ачуняў я ў камеры-прыёмніку аддяленьня міліцыі Ленінскага раёну сталіцы, якое месьціцца на скрыжаваньні вуліцаў Леніна й Маркса, у доме, у якім, як на сьмех, знаходзіцца яшчэ й музэй-кватэра нейкага беларускага савецкага пісьменьніка.

Заўважыўшы, што я дайшоў да памяці, ажывіліся дзяжурныя міліцыянеры.

„Ну Вы даёте, Вильман Станиславович,— зь нейкай ранішняй мілатой у голасе заўважыў адзін зь іх, аддаючы мне мой мабільнік. – На Минской кольцевой... в два часа ночи, в сугробе... Хорошо, прохожий парень нам позвонил. А то ведь и замёрзнуть могли...”.

Ужо едучы ў электрычцы да Пухавічаў, я падлічваў страты: уквэцаная ў аўтамабільны экзос дыхтоўная нарвежская куртка; мінус сума ў бел. рублях; мінус сума ў еўравалюце; мінус кніжкі з буккросінгу; мінус дамова з „Белкнігай” на продаж майго зборніка паэзіі „Рым”; мінус – мой пісьменьніцкі білет, мой творчы пашпарт! Трэці за апошнія дзесяць гадоў! Стыд і сорам! Засьмяюць мяне ў нашым пісьменьніцкім таварыстве...

На вакзале ў Пухавічах мяне сустракала мая любая жанчына:

– Дзякуй богу, што жывы! – сказала яна, і мы ўсмак, па-маладому абняліся і расцалаваліся. Што ні кажы, а так прыемна вяртацца дадому з узбочча Менскай кальцавой.

... А праз некалькі дзён мне пазванілі, каб сказаць, што загінуў Божыдар – упаў зь дзевятага паверху Гарадзенскага шматпавярховага дому. Як? Чаму? Што ён рабіў у тым доме? Ці былі сьведкі? –

невядома. Проста ня стала больш нашага таварыша, еўрапейца *ад бога*, паэта ліцьвінскай багемы і эстэта-адзінца... Пачуць пра сьмерць сябра, зь якім усяго дзесяць месяцаў таму адзначаў свае пяцьдзесят гадоў жыцьця, было асабліва прыкра. І таму яшчэ прыкра, што ўсяго некалькі дзён назад хтосьці з нашых мог пазваніць Божыдару і выбачальна паведаміць: на адхоне Менскай кальцавой знайшлі Вільмана, памёр ад абмаражэньня.

Прыкра. Прыкра адчуваць на сабе, як гуляецца з намі Лёс, гэты ні бог, ні Д'ябал, а Выпадак. Гэтым разам ён даў уратавацца мне, Вільману, і забраў майго сімпатыка Божыдара. Забраў, праўды тое, прыгожа, у палёце, як і варта, відаць, адыходзіць Паэтам.

Хаця мне могуць сказаць: фу, нараджэньне і сьмерць глыбока неэстэтычныя зьявы! На што я безапеляцыйна запярэчу: нараджэньне і сьмерць знаходзяцца па-за нашымі катэгорыямі прыгожага, дабра, зла... Нараджэньне і сьмерць – гэта праявы Жыцьця, якое ўва ўсім і скрозь самыя галоўныя праявы. Жыцьцю важна быць, праяўляцца і праяўляць сябе...

Божыдар любіў мяне, як жанчыны любяць сваіх брутальных, зьлёгку нахабных і валявых мужчынаў. Яго ўзбуджаў і заводзіў мой радыкалізм, напор, крэпкае слова, сказанае прозай, вершам ці ў форме загаду... Божыдар быў нонканфармістам сярод сабе падобных і мадэрністам у літаратуры. Ён быў жывым ўвасабленьнем Багемы, якая пасвойму, па-багемнаму, але таксама змагаецца за месца пад сонцам.

Божыдыру патрэбны быў моцны мужчына побач, а я ўсё жыцьцё шукаў моцную, энэргічную і адначасова паслухмяную аднадумніцу. Калі нашыя дарогі перасякаліся, такім мужчынам для яго рабіўся я. Ён зваў мяне памяншальна-ласкальным

„Вілі", альбо „Вілёк". Раней, калі людзі яшчэ практыкавалі папяровую перапіску, ён заўсёды пачынаў так: „Дарагі Вілі!..".

З Гародні ў Менск, на сьвяткаваньне майго юбілею, Божыдар прыехаў не адзін, а прывёз з сабою нейкага надта ўжо маладога чалавека, які мне за сталом адразу не спадабаўся. Я моўчкі рэўнаваў Божыдара да ягонага спадарожніка і стараўся ні словам, ні чаркай з гэтым апошнім не перасякацца...

Магчыма, што ўжо тады Божыдар вазіў з сабою Сьмерць, якая толькі і чакала зручнага моманту, каб штурхнуць Паэта за перпендыкуляр балкону.

У 2013-м я працягваў займацца эмпірыякрытыцызмам еўрапейскага субкантыненту ў яго нерасейскім абсягу.

У канцы красавіка наведаў Польшчу, новага ўдзельніка Еўрапейскага Саюзу. Пакуль у Брэсьце-Літоўскім нашаму цягніку мянялі калёсныя пары, я, чакаючы памежнага шмону, разважаў, што, відаць, мела б сэнс параўнаць сучасныя польскія прэферэнцыі з тымі, якія Варшава мела падчас існаваньня Варшаўскай дамовы і ў межах так званай Рады Эканамічнай Узаемадапамогі. У часы існаваньня СССР для нас, савецкіх грама дзянаў, Усходняя Еўропа пачыналася ад польскага берагу ракі Буг, і мы яшчэ мелі тэарэтычную магчымасьць трапіць на той бераг. „Но зачэм?" – тэатральна ўсклікалі кіраўнічыя члены кампартыі. А з цэнтральнага органу КДБ СССР выпаўзалі ў масы такія патрыятычныя і быццам бы прыдуманыя самім народам выслоўі, кшталту: „Курыца ня птіца, ПНР (ГДР) не заграніца". У той жа самы час нашы юнакі хацелі служыць менавіта ў часьцях Заходняй групы савецкіх войскаў, бо, заслужыўшы звальненьне ў горад над Бугам, Одэрам ці Влтавай, можна было спадзявацца на флірт з сімпа-

тычнай замежніцай – вядома, калі ты хоць трошкі быў знаёмы з ангельскай, нямецкай, чэшскай, ці хоць бы з польскай. А калі ты яшчэ меў і гандлёвую жылку, умеў рызыкаваць і не баяцца ўласнага цэню, то можна было наладзіць і ўдалыя фарцовыя сувязі. І па вяртаньні са службы ў якой-небудзь ГСВГ ты ўжо ведаў з кім, як, дзе і за колькі *прыняць, прадаць*, альбо ў крайнім нядобрым выпадку *скінуць* тавар...

Але я адхіліўся ад тэмы. Цягніку ўжо прыставілі новыя заходнееўрапейскія колцы, і мы рухаемся. Асабіста я еду да канцовай, ці, паводле колішніх нарматываў беларускай савецкай граматыкі, *канечнай* станцыі „Варшава Цэнтральная". Не прайшло і дзесяці гадоў, як мяне запрасілі на польскі тэлеканал „Белштат", які транслюе свой відэасігнал на беларускую мэтавую аўдыторыю.

Зрэшты, мы прыехалі. У канцы красавіка ў Варшаве пыльна, холадна і *курча бляда*. Артыкуляцыйны апарат імкнецца пераключыць неабходныя тумблеры і замяніць праграмныя коды, язык у роце пачынае паказушна пшэкаць і, нібы ў прадчуваньні доўгачаканых любошчаў, накочваецца хваля інтэнсіўнага сьлінааддзяленьня.

У еўрапейскай Варшаве я доўга чакаў сваіх еўраземлякоў, каб трапіць у кватэру, дзе мусіў начаваць пакуль будзе ісьці запіс тэлеперадач. Я ж і кажу, раніца была брутальна, брыдка невясеньняя, было холадна аж да злосьці, а на мне цалкам летні піжонскі прыкід: на адамавым яблыку папяльцовага колеру мятлік у белую крапку, белая з высіньню кашуля, прыталены пінжак паводле моды 60-х 20-га стагодзьдзя, а я таўкуся на вуліцы ўзад уперад і мерзну. Нарэшце прыехаў адказны чалавечык і выдаў мне ключы. У кватэры, як аказалася, жылі яшчэ два-тры мужычкі з усходняга берагу Буга. Персанажы ведалі пра мяне,

я пра іх наадварот, але просьба падпісаць набытую ў цябе кніжку заўсёды схіляе да канструктыўных узаемінаў.

Трохі ачомаўшыся з дарогі, пасьнедаўшы і перазнаёміўшыся з суседзямі па кватэры, я выскачыў на вуліцу, каб прашарыцца па навакольных крамах. У буціку патрыманага адзеньня „сэканд хэнд" абудзіў у сабе інстынкт вопытнага клептамана і сёе-тое прыхапіў, але астатняе шкадуючы гаспадыню рызьніцы, сумленна купіў за еўрагрошы. У нейкай таннай забягалаўцы з азіяцкай арганікай мне ахвотна падказалі адрасок крамы, у якой прадаюць зброю. У магазінчыку, якіх нельга сабе ўявіць у сёньняшняй, кіраванай пракуратарам, Беларусі, я доўга разглядаў розныя нелетальныя ствалы, намерыўшыся купіць які-небудзь пнеўматычны пісталецік, каб і самому нацешыцца, і хлапцам маім, пасынкам дарагім, было з чым пагуляць і на чым павучыцца. Выбіраў я, можа, з паўгадзіны, малады палячок цярпліва мне ўсё, што трэба, паказваў і расказваў. Нарэшце, ён здаўся – нырнуў кудысьці ў глыбіні крамы і праз хвіліну прынёс і ўручыў мне пнеўматычную копію пісталета Макарава.

„– Вось гэты пана дакладна павінен задаволіць, – не губляючы аптымізму ў голасе вымавіў паляк-прадавец".

„– Ужо задаволіў, – адказаў я, дастаючы з заплечніка партманэ з грашыма…".

На другі дзень я браў удзел у запісе тэлеперадачы пра беларускую літаратуру ў падпольлі, у сітуацыі, калі закрываюцца апошнія беларускія школы, калі ўласна беларуская жыцьцё ў Беларусі стала жыцьцём *пад унутранай акупацыяй*. У канцы запісу я дастаў з-за пояса свой securely новы набыты ствол і спакойна паклаў яго на стол. „У нас не засталося выбару" – быў мой апошні сказ.

За два дні, пражытыя ў Варшаве, надвор'е так і не зьмянілася: было па-ранейшаму холадна, ветрана і пыльна. Настрой – ніякі. Начны цягнік „Варшава – Менск" адыходзіў позна ўвечары. На вакзал я прыехаў за гадзіну да адпраўленьня саставу і хадзіў туды-сюды па тэрмінале, спрабуючы, зачапіцца думкай за які-небудзь вобраз ці ідэю, што бліскалі ў галаве, як першыя летнія маланкі. Потым зьявілася яна, мой пратэжэ і мадэратар, і сказала, што таксама вырашыла вярнуцца. Як ні дзіўна, білет ёй удалося ўзяць менавіта ў *мой* вагон і больш за тое – у *маё* купэ. Цягнік прыйшоў са спазьненьнем на некалькі хвілін. Мы падхапілі свае сумкі і падняліся ў патрэбны вагон.

Тут было цёпла і зацішна. Калідор быў засьцелены чырвоным ходнікам, на вокнах – густа-чырвоныя занавескі з эмблемаю „БЧ". Калі ж нехта з нас адсунуў убок купэйныя дзьверы, мая спадарожніца ўсклікнула:

„– О, дык гэта ж купэ-будуар колеру бардо!".

Нейкі час я маўчу, я перакрыў свой артыкуляцыйны апарат і займаюся ўладкаваньнем спальнага месца. Тым самым займаецца і мая суседка. Я стаўлю на стол нейкую закуску і віно з вельмі драпежнай назваю „бычыная кроў". Я спрабую прагаворваць гэтае слова – кроў – у множным ліку, але атрымліваецца нешта малаўжывальнае і зусім неапетытнае: *крывіі* нашых салдат, пралітыя за незалежнасьць; вораг наш захліпнецца *крывямі* нашых кагорт; з *крывёў* (*крывіяў, крывяў*) ліцьвінскіх прарасьце свабода і зь ёй паўстане Крывіі закон... Цікава чаму ўва ўсіх мне вядомых мовах слова кроў такое *адзінокае*, заўсёды, стаіць у адзіночным ліку: кроў, кровь, krew, blod?.. Чаму ўвогуле у маёй галаве на ноч гледзячы закрывавіла гэтае слова? Таму што нашае купэ і ўвесь наш вагон аформлены пераважна ў чырвонае?

Жанчыне, якая едзе ў адным са мною вагонным адсеку, дамінанта чырвонага колеру нагадвае французскае віно гатунку „бардо”, а мне, мне – менструальную кроў. І радкі таленавітага бязьдзетніка, празаіка і паэта Караткевіча зь ягонае паэмы „Рагнарадзі”: „і толькі аднойчы мужчына пральe жыцьцядайную кроў…”.

Прайшло хвілін дваццаць, а можа й больш. Цягнік роўна й нягучна імчыць па вузкай *еўрапейскай* каляі. Суседка насупраць нарэшце ўмасьцілася. Я таксама разабраўся з рэчамі і пасьцеляй, прысеў на вечка купэйнага куфра і нечакана злавіў запытальны позірк маёй спадарожніцы. Яе вочы ўзіраліся ў мяне так красамоўна, што я тут жа адчуў, як загарэліся чырваньню мае смуглявыя шчокі. Мне, цыніку, на якім няма дзе кляймо паставіць, стала сорамна. Ну сапраўды, як жа так, насупраць мяне такая раскошная дваццаціпяцігадовая жанчына, а я заняты нейкім *крывавым* назоўнікам адзіночнага ліку!

Тут я і пачаў думаць пра яе. Я пачырванеў, але не насупіўся, а ўсьміхнуўся ў адказ на ейны такі ўмольны позірк (у гэты самы момант Аўтар нагадаў мне, што я яшчэ ня даў імя сваёй суседцы і прапанаваў назваць яе Валюняй – акурат так звалі маю суседку па хутары).

„– Добра, – агрызнуўся я на Аўтара, – хай будзе Валюня. Я столькі штонікаў абсікаў, пакуль вяртаўся зь ёй напару з Камароўскай пачатковай школкі! Яна ж была старэйшая аж на два гады, хадзіла ўжо ў трэці, і мне было сорамна пры ёй адлучацца ў кусьцікі ці пад драўляны масток над рэчкай Альшанкай. Няхай будзе ёй памяць…”.

Вось так нечакана 29 красавіка 2013-га году ў купэ нумар пяць шостага вагону начнога цягніка „Варшава-Менск” адбылася рэінкарнацыя Валюні Сіняўскай, якая цяпер сядзела насупраць мяне і

наразала чырванабокія памідоры да бутэрбродаў. Рукі ў Валюні былі прыгожыя, ад мамы, і нож у гэтых руках выглядаў як сімвал Эрасу, эратычны кімвал... Зрэшты, усё тым вечарам у нашым бардовым купэ было насычана й перанасычана Эрасам: і пяцідзесяцігадовы я, Вільман, які зьбіраўся па вяртаньні супакоіцца нарэшце і на сотках удавы Адэлі Капшук пабудаваць свой *нарвежскаліцьвінскі* дом; і дваццаціпяцігадовая і да гэтай пары незамужняя Валюня пры сваім росьце 179 і вазе плюс-мінус восемдзесят; і пнеўматычная брунатная копія пісталета Макарава; і сапраўдны *паляўнічы* нож, зроблены з стальнога клапану аўтамабільнага рухавіка; і ерусалімскія памідоры на польскім хлебе з рыжскімі шпротамі; і чырвоныя занавескі на вакне; і гэткага ж чырвонага колеру элементы абшыўкі нашага купэ; і віно „бычыная кроў”... Усё дыхала Эрасам, а гэта значыць жыцьцём, і толькі праклятыя чалавечыя ўмоўнасьці, сінюшныя „маралі” і так званыя „цьвярозыя розумы” перашкаджалі двум індывідам заняцца тым, для чаго яны і былі пакліканыя ў гэты сьвет.

Але не, мы гулялі за сталом у нейкія абсурдныя з гледзішча нашых інстынктаў гульні, якія нельга было ні выйграць, ні прайграць; мы плялі адно аднаму пра нейкі сьвяшчэнны абавязак захоўваць наш сродак камунікацыі; чаўплі пра апазіцыю „свой-чужы”; з кожнай новай шклянкай віна прамаўлялі стары тост „за любоў!” і ніяк не маглі перайсьці да гэтай самай любові. Нарэшце ўспомнілі пра „брудэршафт” і ярылавічна сашчапілі рукі, пры гэтым жанчына сваім вялікім, крутым, як на палотнах Сальвадора Далі, яйкападобным каленам упёрлася ў мае тэстыкулы, а я правым лакцявым суставам адчуў ейны левы яблычык даўно гатовых да кармленьня грудзей. Мне здалося, што віно са шклянак мы цадзілі скрозь зубы бясконца доўга: у

маёй пахвіне ўжо проста агнём гарэла жаночае калена, а ейны левы смочак настаўбурыўся і нахабна ружавеў праз тонкую белую тканіну баваўнянай футболкі...

Усё! Хопіць! *Мы на́суха выпілі з чайных шклянак „бычыную кроў” брудэршафту*. Мы асьцярожна разьвялі ў бакі нашы рукі, маланкі нашых позіркаў скрыжаваліся, і мы ўсьміхнуліся адно аднаму. Валюня выруліла сваё пякучае калена з маіх ног і адкунулася да сьценкі купэ. Шукаючы зручнейшай пазіцыі, я падхапіў ейныя цяжкія як гаўбічныя снарады, лыткі, закінуў іх на гарызанталь спальнага месца і прашаптаў:

„– Пасунься, любачка! Дай мне прыткнуцца з краю...”.

Фраза прагучала як радок з забытага верша, расслабіла жанчыну, і яна пацягнулася да маіх вуснаў...

Цалаваліся мы доўга і смачна. Цяпер я сваім богам дадзеным начыньнем упіраўся ў каласальнае Валюньчына сьцягно, пяшчотна, але даволі энэргічна масіраваў ейныя грудзі і вуснамі гектапітона ўсмоктваўся ў ейны сыты рот. Празь нейкі час мне ўдалося прашчаміць сваё худое каленца да жаночае прамежнасьці: там было сыра, як ў нашых ліцьвінскіх балотах. „Ці не пара?” – падумаў я сабе, і палез туды рукою. Але яна дазволіла пагладзіць толькі зьверху, праз свае чорныя фланэлевыя піжамныя штаны. Калі ж я паспрабаваў адцягнуць гумку на поясе, жанчына неяк спрытна і воміргам выкацілася з-пад мяне, а я ад яе рухаў ледзь не зваліўся на падлогу.

Праз хвіліну мы ізноў усьміхаліся адно аднаму, дапівалі другі пакет „бычынай крыві” і сядзелі цяпер на маёй палавіне спальнага месца.

Ужо пасьля ўсіх праверак, на мяжы, добра змораныя, мы прываліліся кожны на сваю пасьцелю і задрамалі. Але не надоўга. У Брэсьце-Літоўскім

пачалася замена колавых параў. Пад нашым вагонам загрукаталі механізмы, і мы мусілі ажывіцца разам зь імі. Я ўстаў і перасеў да Валюні. Без макіяжу яна выглядала яшчэ больш прывабліва і па-свойску, па-сямейнаму блізкая і амаль мая. Без дазволу я больш ня лез у ейнае *паміж ног*, сьціпла абдымаў за талію. якая была таўсьцейшая за маю разы ў два, і цалаваў яе за вушкам. Мая правая даланя гуляла з жаночай левай. Мы счаплялі і расчаплялі нашыя пальцы, вывучалі нашыя лініі жыцьця й сьмерці, мала што разумеючы ў гэтае хірамантыі, і ўрэшце так заняліся сваімі рукамі, што ў нас ізноў запякло, набрыняла і ўзмакрэла. У нейкі момант, калі я быў заняты цалаваньнем Валюньчынай шчытападобнай у раёне шыйнай артэрыі, яна завалодала маёй правай і ўзяла ў свой прыгожы рот мой указальны палец.

Спачатку я не надаў гэтаму ўвагі, ці мала што: жанчыны любяць, бывае, дзе-небудзь пакусаць, што-небудзь пасмактаць, каго-небудзь падрапаць... І я далей займаўся сваім – цалаваў і цалаваў маладое плячо дваццаціпяцігадовай. Аднак Валюніны маніпуляцыі з маім пальцам урэшце рэшт натапырылі мяне: жанчына зусім не зьбіралася яго кусаць ці драпаць, яна заглытвала мой указальны аж да трэцяга суставу, увесь! Гэта быў самы сапраўдны мінет пальца. Такое са мной было ўпершыню, і гэтае „упершыню" мне падабалася. Але заставалася і пачуцьцё няёмкасьці, разгубленасьці. Я ліхаманкава думаў, што мне рабіць? Тупа чакаць, пакуль жанчыне абрыдне? Ці пакуль у яе на языку ня ўскочыць мазоль? А можа гэта ясны сігнал, што я павінен дастаць і даць ёй мой пахвінны „палец" – пеніс? Ды не, я ўжо суткі як не прымаў душ, не, не магу... Ды што ж гэта такое!? Пеніс зусім зваліўся з ножкі, бедны, усю ноч яму то ўстань, то ляж... Замучыўся... Але энэргія, якая

пакінула маю *цэнтравую жылу*, я чую уліваецца ў мой указальны! Ён выпрастаўся, як спараліжаваны! Ён *„устаў”* ад вільготных Валюніных фрыкцыяў, увесь мокры і разьмяклы, як у тапельца...

„– Валюня, Валюня, – шапчу я нейкім сіпатым, як не маім, голасам, – пачакай, Валя, хопіць, дай я расцалую цябе *т а м*!”. Аднак жанчына занятая сваім, і мяне такая сітуацыя пачынае злаваць. Я не хачу гэтай хоць і прыемнай, і ўдвох, але ўсё ж мастурбацыі! Ад яе не народзяцца дзеці!..

„– Хопіць! – злым прыглушаным голасам кідаю я ў твар Валюні свой вербальны гнеў. – Хопіць зь мяне гэтай сурагатнай любові! Я ўсё жыцьцё на сурагатах! Хачу, *па-нармальнаму*, як людзі, у такім і ніякім іншым парадку: мой пеніс – твая вульва – разам робім – разам канчаем – ты нараджаеш – разам гадуем...”.

Я нарэшце вызваліў свой насьлінены палец з Валюнінага роту. Жанчына заставалася ў самым сапраўдным любоўным трансе, і я памкнуўся быў, каб зьняць зь яе гэтыя чортавы піжамныя штаны на тугой гумцы і зрабіць нармальную мужчынскую работу... Але тут у дзьверы купэ-бардо пастукалі і механічны голас правадніцы БЧ праквяркаў без перапынку паміж словамі: „Подэжжаемследушшаяконечная!”.

***

У 2013-м, не зважаючы на апошнія дзьве лічбы ў парадкавым нумары году, Вільман пастанавіў пабудаваць свой дом. І не было б у гэтым рашэньні абсалютна нічога экстраардынарнага, калі б ён пачаў з афармленьня дазволу на будоўлю. Ніхто й нідзе цяпер не будуецца без дазволу. Але наш Вільман дазвол мусіў браць не ў сваёй роднай ула-

ды, выбранай ім на выбарах, а ў варожай яму *ўлады ўнутранай акупацыі*. Такога ён сабе дазволіць ня мог. Вільман прызнаўся, што арганізоўвае ўласнае жыцьцё так, каб *не прасіць ў ворага, не працаваць на ворага і не плаціць ворагу*. Вось таму ён і прыйшоў да ўдавы з двума малымі сынамі, сказаўшы: стаміўся я гойсаць па сьвеце, хачу асесьці; вось мой прымацкі пасаг: замест тваёй згарэлай пуні стаўлю сьветлы дом на пяць вакон з бібліятэкай і кнігамі, якіх ты ня любіш чытаць. Удава аказалася *сваім* чалавекам, прыняла яго і дала „дабро" на будоўлю. Без ніякіх умоваў. Зямля, праўда, заставалася за цешчай ягонай, Карэньчыхай, а на ўдаву, да якой ён прыстаў, былі запісаны толькі дзеці. Ды і не расьпісаўшыся яны былі ні ў загсе акупацыйнага рэжыму, ні перад богам у храме, так што Вільман, пабудаваўшы дом за якога паўгоду, ніякіх юрыдычных правоў на яго ня меў. Ён жыў у ім выключна з ласкі сваёй цешчы Любоў Іванаўны.

Вільман нарадзіўся і выкачаўся ў дарослага на паўночным захадзе Крывіччыны, на хутары Казіміраўка. У тыя далёкія дабраслаўныя часы ўвесь ліцьвінскі Край быў абсаджаны хутарамі, самавольнымі й самастаялымі, і бадай, толькі жывучы на хутары, у сядзібе, на сваіх дзесяцінах і валоках, і можна было выгадавацца і стаць Вільманам...

Хутар для Вільмана быў цэнтрам ня толькі ўсяго Крывіцкага краю, але і ўсёй бурлівай Еўропы *ад мора да мора*. Хутар быў альфай і амегай, Юдэяй і Палестынай для Вільмана, ягонымі Рымам, Атэнамі, Ерушалаімам і Меккаю разам узятымі. Гэта потым ён прачытае ў Паэта пра *Вільню-крывіцкую Мекку*, пачуе пра літоўскі Ерузалем, да якога напрасткі ад Хутара ня было і ста кэмэ[31]. Але тады,

[31] *Кэмэ* – кіламетраў.

у самым пачатку, цяпер і назаўжды Хутар для Вільмана быў і ё цэнтрам сьветабудовы, яго філасофія жыцьця, ягоны сьветапогляд...

Вось чаму паставіўшы свой дом на цешчынай зямлі, Вільман прыкупіў яшчэ і старэнькую хатку на пятнаццаці сотках са студняй і копанкай, у якой у красавіку 2013-га дружна крактал і жабкі, а ў заняпалым садзе зьбіралася квітнець старая яблыня так любімага Вільманам гатунку „мундэра".

Новы хутарок Вільмана быў фактычна першаю хатай у вёсцы з назваю Цагельня. Калісьці на месцы хаткі і сапраўды стаяў заводзік, на якім тутэйшыя ляпілі сваю тутэйшую цэглу. З той цэглы будавалі касьцёлы й цэркаўкі, млыны і гаспадарскія адрыны, шляхецкія сядзібныя дамы і местачковыя сінагогі... Вільмана грэе думка, што ён яшчэ знойдзе час і здароўе, і разбудуе на сваёй Цагельні нешта такое, што будзе нагадваць яму яго пакінутую Казіміраўку.

Паміж намі кажучы, старая хатка на пятнаццаці сотках з паштовым адрасам „Цагельня-1" – гэта ўсё, чым паводле закону валодае Вільман.

У канцы лістапада 2013-га году ў Вільманаў *дом на чужой зямлі* пусьцілі газ – той самы кляты расейскі газ, цана за які вымяраецца не ў рублях і не ў далярах, а ў імклівым самазьнішчэньні таго народу, сярод якога Вільман перыядычна спрабуе жыць. Формула цаны на газ у пастаўшчыка простая: чым менш Беларусі-Літвы-Крывіі, тым больш газу... Ну але зь Вільманам такі нумар ня пройдзе, не прадасьць ён сваю Юдэю за танны газ. І ні за які іншы. Бо проста Вільман іншым быць ня можа. Ён уверх расьце, а не па гарызанталі сьцелецца. Таму і дом у Вільмана свой, і газ... прыродны.

Пакуль наш герой даводзіў да ладу кухню-кацельню, зачаканьваў газавыя турбы ў сьцяне й

падпісваў кантракты на абслугоўваньне й страхаваньне газавай сістэмы, у Кіеве пачалося *стаяньне Майдану*. Па ўсім відаць, гэтым разам Украіну чакаюць эпахальныя зьмены. Многія з нашых паехалі ў Кіеў, каб прыход Новага году сустрэць на рэвалюцыйным кіеўскім Майдане. Вільману было не да таго — ён перажываў сваю ўласную рэвалюцыю пачуцьцяў як чалавек, які сам і за свае пабудаваў дом, у якім цяпер яму трэба жыць.

## 2014

### Канец брыгадзіра;
### Майдан – рэвалюцыя – вайна.

Трэцяга студзеня, акурат апоўдні, я зайшоў у будынак раённага аддзяленьня „Ашчадбанку", каб заняць чаргу да акенца, за якім рабілі аперацыі з валютай. Як заўсёды, перад шклянымі дзьвярыма ў пакойчык тоўпілася чалавек шэсьць-сем. Падгрэбся і я, гучна вымавіўшы традыцыйнае:

„– Хто апошні?"

„– Я, спадар Вільман, гэта я", – пачуўся мне быццам бы знаёмы, але нейкі зусім слабы голас, і тады я зірнуў на крайняга ў чарзе. Гэта быў Савайтан, мой першы брыгадзір першай будаўнічай брыгады, якая пачала будоўлю майго дому. Убачыўшы яго, я ледзь ня крыкнуў „што з табой?", але заткнуў сябе ў апошні момант. Перада мною ледзь стаяў на нагах спалатнелы і страшна худы чалавек. Але ён ня быў п'яны – ён быў слабы і з цяжкасьцю перабіраў у руках знаёмы мне мабільны тэлефон. Класічныя фразы, якімі абменьваюцца людзі пры выпадковых сустрэчах, былі ў гэты момант недарэчныя і прагучалі б дзіка і зьдзеклівa. Мы, што праўда, абмяняліся нейкімі пустымі рэп-

лікамі, а праз якую хвіліну мой суразмоўца адступіў да сьцяны, абапёрся аб яе сьпіной, але і гэта не дапамагло: ногі не трымалі, і Савайтан абсунуўся па сьцяне на прысядкі. Тоўстая джынсавая тканіна каструбавата адтапырвалася на худых Савайтанавых каленях. Было відаць, як пад швэдрам цяжка ходзяць усохлыя грудзі...

Мне было так непамысна назіраць катастрофу чалавечага цела, што я адгрэбся ўбок і пачаў тупа гартаць фінансавы бюлетэнь з каляровымі карцінкамі, на якіх ружовашчокія дзеткі і іхныя гладкатварыя таты й мамы рэкламавалі рублёвы ўклад „Пенсионный".

Савайтану было трыццаць шэсьць ці каля таго. Я прытрымаў дзьверы, пакуль ён заходзіў у кабінку, і адчыніў іх, калі ён выходзіў.

„– Ну, давай, брат, убачымся!.." – прамямліў я, заходзячы на яго месца.

„– Давай..." – ціха шапнуў ён і пакрочыў на выхад седатыўным крокам наркамана.

Брыгадзір Савайтан памёр шостага студзеня 2014-га, акурат на Посную Куцьцю Раства паводле праваслаўнага календара. Восьмага студзеня яго пахавалі. Дзевятага я пачуў пра гэта ад сваёй Адэлі, і мы зь ёю заехалі да яго на могілкі. Стоячы каля сьвежай магілы з чаркай гарэлкі ў руках, я маланкава гартаў у галаве дні і тыдні 2013-га, калі Савайтан будаваў мне дом. Гэта была для яго ў тым годзе галоўная і апошняя ў жыцьці сур'ёзная замова.

Яго быргаду складалі трое: ён сам, ягоны шафёр і прафесійны муляр Санёк, і п'янтосік Андрэйка, які, як і ўсе п'яніцы, калі быў цьвярозы, то працаваў шчыра і адказна. Аднак ільвіную долю работы выконваў сам брыгадзір: клаў кладку, накрываў металадахоўкай страху... *Даруй, брат, але з даўжынёю лістоў ты крыху не падразьлічыў.*

*Той бок страхі, які глядзіць на наш двор, выйшаў закароткі, сантыметраў трыццаць, а то і ўсе пяцьдзесят можна было б надпусьціць. Ну але нічога, іншая бырагада, якая працавала пасьля цябе, зрабіла ўсё як трэба, і надтачыла дах вадасьцёкавай трубой...*

Савайтан быў строгі брыгадзір і калі заўважаў, што ягоны памочнік Андрэйка ўжо дзесьці глынуў кварту моцнага піва, у канцы дня ён адмінусоўваў ад Андрэйкавага заробку штрафныя за п'янку на рабочым месцы. Тады Андрэйка ішоў да мяне скардзіцца на свайго непасрэднага начальніка, але і з гэтага нічога добрага для яго не выходзіла: я падтрымліваў майго брыгадзіра і чытаў аматару піўца лекцыю пра шкоду п'янства.

А між тым Савайтан і сам, бывала, прыходзіў на рабочы аб'ект у нейкім не зусім адэкватным стане, і мы з Адэляй пачалі думаць, што ці не ўжывае наш будаўнік якія наркотыкі.

Цяпер жа, праліваючы разьвітальныя кроплі гарэлкі над ягонай магілай, мы ўжо дакладна ведаем: ужываў, і цяжкія – гераін. Будоўля нашага з Адэляй дому была ягонай акорднай работай. Ён добра працаваў і добра зарабіў. Хто ж ведаў, што зарабляў ён у мяне на сваю апошнюю дозу?..

А тым часам у Кіеве...

А тым часам у Кіеве, у нашай мілай, паўднёвай суседкі Ўкраіне разгортвалася драма еўрапейскага маштабу: пад ціскам Майдану абваліўся палітычны рэжым дзейнага прэзідэнта, у супрацьстаяньні зь якім загінулі сотні ўкраінцаў і грамадзяне некаторых рэспублік былога СССР.

Адным зь першых ад расстрэльнай кулі загінуў наш зямляк, гамяльчанін, беларус Жызьнявецкі. У канцы лютага мы з групай беларускіх патрыётаў наведалі Кіеў, самае сэрца сталіцы ўсіх рускіх га-

радоў. Над Майданам вісеў густы дух рэвалюцыйнага супраціву і курэў дымок над спаленымі дамамі...

Тут жа, у Кіеве, мы пачулі, што расейскія ваенныя-беспагоньнікі, г. зн. без апазнавальных знакаў на ваеннай форме, захопліваюць будынкі ўкраінскай адміністрацыі ў Крыме. Украінскія ваенныя і міліцыя не аказалі належнага супраціву за выключэньнем адзінак, хто зразумеў сітуацыю і ня здрэйфіў.

Мы прыехалі ў Кіеў рэвалюцыйны, а пакідалі ўкраінскую сталіцу ў момант самы драматычны для любога народу: на ўсходзе Ўкраіны пачыналася вайна, поўдзень ужо быў забраны, праз цэнтар Кіева на ўсход ішлі старэнькія, яшчэ савецкія, баявыя машыны пяхоты і танкеткі; некаторыя вуліцы перакрылі ваеннымі аўтамабілямі, вырабленымі на менскім аўтазаводзе. Па зьнешнім выглядзе пазнавалася, што іх толькі што раскансерванцілі. Усю дарогу да ўкраінска-беларускай мяжы мы адчувалі сябе як на здымках новага серыялу пра другую сусьветную вайну, толькі гэтым разам трэба было пускаць пад адхон цягнікі са зброяй, якія ішлі на ўкраінскі Данбас з усходу.

## 2015

**Пісьмо Іванову на той сьвет; рэйс „DY 350”; сьмерць у гарах Ронвіка; бесхацімец на сцэне Шклянога Дому; крыху пра бога, Прыроду і Лёс; Бантэй-малдовін; кароткая любоў з полькай-прыбіральшчыцай; брат румун; яшчэ адно пісьмо на той сьвет; чалавек-банкамат; Іланлі Шклянога Дому; „фабрыка анёлаў”; улюбіцца ў Марту Тэклю; партугальскі пралетарыят; пустая тара; мой таварыш Ян Ульсэн; прадчуваньне вайны.**

Дарагі брат Іваноў!

Думка пра Васпана так глыбака сядзіць ува мне, што я мушу напісаць і адправіць гэты ліст-апавяданьне – я думаю, апошні ліст – у тую невядомасьць, у якой заблукаў і зьнік ты.

Апошні раз мы сустрэліся з табою ў лютым 2011-га: я толькі нядаўна выйшаў з Жодзінскага турэмнага ізалятару і распавядаў, як замест таго, каб спаткаць цябе на Галоўпошце, быў брутальна захоплены бандытамі ў масках і кінуты ў вязьніцу – спачатку ў Менску, потым у Жодзіне.

Ты бажыўся мне, што ўсё, хочаш кінуць сваё бадзяжніцтва, што здароўе ўжо ня тое, каб куралесіць; што фактычна асьлеп на адно вока, ды й другое слаба бачыць; і што таксама хочаш трапіць у Скандынавію; і як гэта зрабіць, ты пытаўся ў мяне рады. Ты памятаеш, як і што я Васпану тлумачыў? Я тлумачыў, што перш чым выйсьці за межы свайго будзённага, *падвальнага* і бадзяжніцкага вопыту ў іншасьвет, ты мусіш разьвітацца з сваімі адвечнымі звычкамі: піць сьпіртавыя растворы і бясконца пратручваць тытунёвым дымам свае няшчасныя лёгкія. Няма сэнсу, казаў я, пер-

цíся на чужыну, каб прапасьці там бяз сьледу й знаку ад тых самых шкодных звычак, ад якіх ты можаш акачурыцца і дома, але хоць пад роднымі крывіцкімі дубамі. Альбо на храмавых прыступках падчас жабраваньня, што гучыць ня так паэтычна ды бліжэй да праўды.

Ты казаў, што хочаш у Швэцыю, і я тлумачыў, як найлягчэй туды трапіць, але зноў і зноў вяртаў цябе да тваіх бедаў, арганізаваных нікім іншым як табой самім. Ты ізноў бажыўся, ставіў крыж на мінулым жыцьці й памылках, даставаў з кішэняў пустыя бутэлячкі з-пад настойкі баярышніку і выкідваў іх у маю сьметніцу на кухні, потым зь нейкай нутраной кішэні даставаў замусоленыя акуркі былых безфільтровых цыгарэт гродзенскай тытунёвай фабрыкі, адзін зь іх цягнуў у рот, а я крыкам крычаў: выкідвай усё! І даваў табе цэлую цыгарэту з свайго пачка, і наліваў табе ў крышталёвы келіх сто грамаў чыстай белай, і бязьлітасна падсумоўваў: спыніся, калі ня хочаш, каб гэтая сустрэча аказалася апошняй!..

Ты спыніўся. Цябе няма. Я ня чую пра цябе ўжо чатыры гады. Мне нічога больш не застаецца, як думаць, што ты ўжо *там*, а ня *тут*, з намі. Але дзе і як ты завяршыў свой зямны шлях, мой дружа Іваноў? Добра, калі твой кадавер як неапазнаны і незапатрабаваны з моргу, спалілі ў крэматорыі Паўночных могілак нашага мегаполісу. Хаця я ня ведаю напэўна, ці траціць акупацыйны рэжым энэргію на спальваньне неапазнаных трупаў. Магчыма, вас проста зарываюць у танных трунах пад простымі пранумараванымі крыжамі і вы там гніяце і распадаецеся на атамы, неаплаканыя, няўспомненыя нікім ні з блізкіх, ні з далёкіх... А можа душа твая яшчэ не супакоілася, бо парэшткі твае дасюль валяюцца дзе-небудзь на ўскраіне сталіцы альбо ў адным з тысячаў гарадскіх падзямельляў?

Дзе б ты ня быў – цябе няма. А мне ж яшчэ жыць? Але жыць без цябе стала цяжэй: цяпер мне патрабуецца больш энергіі, больш сілы волі, больш арганізаванасьці і больш... нянавісьці, якая гатуецца, булькоча і паруе глыбока ў маёй натуры, бо я – Вільман... І разам з тым я думаю, ці ня большым Вільманам быў ты, які слухаў толькі свае жарсьці, падпарадкоўваўся ім і задавальняў іх як толькі мог.

Ня стала цябе – і я паменшаў, паменшала мая самаўпэўненасьць, мая ганарлівасьць. А зь іншага боку, я згрупаваўся, падрыхтаваў плечавыя цяглiцы, бо чым больш вас, мае сябры, адыходзіць, тым больш цяжар кладзецца на мае плечы, і несьці трэба за ўсіх, хто адыйшоў...

Напэўна ты ўжо спаткаў *т а м* нашага Дышлю – ён пайшоў летась, змарыўшыся за рабочым сталом. Радня паведаміла нам толькі на дзевяты дзень, так што ніхто з нас ня быў на пахаваньні, ня кінуў тры жмені жоўтага пясочку на труну, не паклаў жоўтыя кветкі на сьвежую магілу ў Нястанавічах... Я таксама яшчэ не знайшоў часу наведаць тыя могілкі, дзе яго пахавалі. Ты, як я ведаю, пакінуў сваёй Балёнісе дачку (хаця іншыя кажуць, што легенда). А вось Дышля, Дышля пакінуў па сабе толькі памяць. А гэта такая нетрывалая субстанцыя... Я ведаю, нешта і ў ім было *ня так*, хоць ён і з нашых, зь вільманаў: жыў адзін і даваў сабе рады адзін. Як і я, быў жанаты, але жанімства не пайшло на лад, не зьявіліся дзеці, і прафесарава дачка зь ім разьвялася. Так ён і застаўся самотным. Піў неяк цяжка, часта прыходзіў да мяне з ужо пачатай бутэлькай гарэлкі, і пакуль я рыхтаваў закуску, ён ужо адтапырваўся, рабіўся неадэкватным і плёў абы што, неспажыўнае плеціва з асобных слоў і фразаў. Аднак калі ён бываў цьвярозы, асабліва – памя-

таеш? – у нашы маладыя гады, наш нязьменны кумпан і сябра мог прыгожа і доўга распавядаць пра даўнія часы старой Літвы, якая яшчэ таілася ў нашых паўночна-заходніх абшарах, на гаспадарскіх сядзібах і хутарах. Дышля быў унікальным персанажам на сучаснай сцэне, які нажыва дэманстраваў сабою прадстаўніка старой ліцьвінабеларускай шляхты. Хутар ягонага дзеда Пятра, на якім вырас Дышля, суседзіўся з хутарам майго дзеда Стася, на якім вырас я. Землі нашых дзядоў разьдзяляла Лібава-Роменская чыгунка, і малымі мы не пазналіся. Праз многа гадоў, ужо дарослых, нас зьвёў наш Менск-Літоўскі, і я ўпершыню пачуў пра дзяржаву першай еўрапейскай канстуцыі Вялікае княства Літоўскае на ўсходніх абшарах еўрапейскага субкантыненту.

Ітак, Леанідавіч, я працягваю пісаць пра цябе і нашы агульныя і разам з тым такія розныя еўрапейскія шляхі-дарогі. Зрэшты, пачакай, як я ведаю, ты так і ня выбраўся ніразачку з нашай Юдэі; ты не дабраўся нават да Варшавы, гэтай польскай масквы ў нейкім сэнсе; і ты так і не прыехаў на каву да нашага віленскага Ерушлаіму; да Маці Боскай Вострабрамскай ты не дайшоў хоць бы то босы, як, бывала, хадзілі нашыя прабабкі... Твая Еўропа абмяжоўвалася нашай Юдэяй, сапраўдныя назвы якой ты адкрываў мне як неацэнныя скарбы: Крывія, Крывіччына, Літва, Вялікае княства Літоўскае... А яшчэ раней, у самым пачатку была Гардарыка – дзяржава, краіна сядзібаў, гаспадарстваў. Так называлі нашыя землі старажытныя скандынавы, казаў ты. Нашай апошняю назвай стала Беларусь, пад ёю нарадзіўся наш беларускі патрыятызм і поруч зь ім – нацыяналізм і дагэтуль непаўсталай Нацыі.

Ты, Леанідавіч, мусіў быць выкладчыкам – ды ты ім і быў. Ды дзе! – у Полацкім унівэрсітэце! На

сваёй роднай Крывіччыне! Ня ведаю, якую дакладна тэму ты вёў, але пэўна ж не супрамат.

Пакуль ты вывучваў мяне, як шчанюка, любові да свайго і вернасьці свайму, я назіраў за табою і вывучаў тваю мадэль паводзінаў. Я бачыў, што ты, старэйшы за мяне паводле савецкай эСэСэСэРаўскай метрыкі ўсяго на адзін год, паводле маіх унутраных адчуваньняў быў старэйшы гадоў на дзесяць. Але ў чым выяўлялася гэтая старэйшасьць? Ня ведаю напэўна, не магу сфармуляваць дэфініцыю. Магу толькі дэкляраваць сваю здагадку, заснаваную на ўсё тых жа адчуваньнях: ты быў старэйшы ня годам нараджэньня, а капшуком назапашаных ведаў, інфармацыйным банкам, які зьмяшчаўся ў тваёй галаве з падсьлепаватымі шэра-блакітнымі вачыма і русявым вехцем тонкіх валасоў на макаўцы.

Ты быў ведуном, вешчуном і ваўкалакам часоў Усяслава Чарадзея. Зацягваючыся савецкай цыгарэтай маркі „Орбита” і смачна выпускаючы клубы дыму адначасова з свайго *рымскага* з невялікай гарбінкаю носу, і з роту, аточанага тонкімі вуснамі, ты аж перацінаўся маланкамі дрыжыкаў, распавядаючы пра даўна-прадаўніх яцьвягаў і крывічоў-паганцаў. „Адкуль ён усё ведае ў свае дваццаць тры?” – пытаўся я ў невядома каго ў свае дваццаць два.

Ты, шаноўны Сяргей Леанідавіч, накачаўся ведамі, як іншыя наркотыкамі, яшчэ да адпраўкі ў савецкую армію. І хоць ты ад нараджэньня насіў акуляры, гэта значыць, быў падсьлепаваты, меў дрэнны зрок, але гэтая калечнасьць не засьцерагла цябе ад ваенслужбы, і прызыўная камісія адправіла Васпана на два гады ў будаўнічы батальён кудысьці ні то пад Тамбоў, ні то пад Растоў. І вось гэта апошняя – служба ў будбаце СА ды яшчэ ў самым-самым расейскім геаграфічным падчарэўі –

зрабіла сваю чорную справу ў тваім асабістым жыцьці. Маладога чалавека родам з-пад Полацка, беларуса з класічным рускім прозьвішчам „Іваноў", савецкая армія прывучыла за два гады службы *пить горькую* ўсё сваё астатняе жыцьцё. Гэтая праклятая расейска-савецкая навука, гэта безаглядная, усёпаглынальная любоў да алкаголю перамаглі ў табе ўсе іншыя любові і жарсьці. Ты перастаў быць ваўкалакам, вільманам. Ты згубіў сваю ўнікальную здольнасьць пераўвасабляцца на лекцыях па гісторыі Полацкага княства. Усё часьцей з тваім прыходам на заняткі студэнты адчувалі не атмасферныя induced ператокі над імперыяй ВКЛ, ня водар княскіх салонаў і ня хлебны дух местачковых млыноў, а цяжкі атамарны высевак у паветра ўнівэрсітэцкай аўдыторыі ўчора ўжытага таннага алкаголю...

У 2011-м табе спаўнялася 50. Я ня ведаю, ці датрываў ты гэты сьвет да дня свайго юбілею. Я ня ведаю, дзе зрабіў ты свой апошні ўздых. Я ня ведаю, дзе знайшлі супакаеньне парэшткі твайго слабага, бязвольнага, нікудышнага цела. Я толькі ведаю, што твая навука жыве ўва мне, і я спадзяюся перадаць яе далей, па эстафеце...

Леанідавіч, ты не паверыш, але я цяпер часта мінаю нашу Асееўку, едучы электрычкай на Асіпавічы, і, ясны пень, калі я толькі ня сплю, стомлены прыгодамі свайго жыцьця, я ўзгадваю цябе. Тут, у Асееўцы, калісьці ў самым пачатку тысячагодзьдзя, мы пакідалі электрычку, пераходзілі чыгунку і крочылі на тваю „базу", дзе ты служыў вартаўніком пасьля таго, як згубіў пасаду выкладчыка. Ты ахоўваў тэрыторыю былой савецкай вайсковай часткі, якую пасьля распаду выкупіў руплівы, ці, лепш сказаць, рукасты грамадзянін сьвежаўтворанай РБ. Рукасты плаціў 300 тысяч постсавецкіх рублёў, і гэтай сумы табе хапала на вы-

піўку й закуску. Я прыязджаў са сваім, і мы частаваліся. Паміж тостамі, пасьля чарговай шклянкі *бырла* альбо гарэлкі, я, наколькі хапала мне таленту метафарыста, маляваў табе змрочнае палатно тваёй блізкай будучыні. На што ты, як і дзесяць, і дваццаць гадоў назад, бурболіў скорагаворкай: „добра-добра, Вільман, добра-добра".

15.01.2015-га я, гнаны неўтаймоўнай воляй Аўтара, ізноў выправіўся ў дарогу ўжо добра знаёмым маршрутам „Менск – Вільня – Осла – Буда".

Да Вільні ўпершыню скорым дызель-цягнікам з прыпынкамі ў Маладэчыне і Гудагаі. У Маладэчыне зайшлі *нашыя* памежнікі. Прыйшлося пахвалявацца, хоць па шчырасьці, перажываць трэба было Аўтару. Памежнік доўга круціў і гартаў мой сіні пашпарт тутэйшай, апанаванай акупантамі, Юдэі, не даганяючы, як я зьбіраюся ўехаць у Літву бяз хоць бы адной шэнген-візы. Неяк адгаварыўся, памежнік адліп, і вось я ўжо ў нашым ліцьвінскім Ерушлаіме-Ерусаліме. Распагодзілася. Сонца паказалася з-за хмараў нібы сьпецыяльна, каб і ўсьцешыць, і ў той жа самы час засмуціць: на сьвятле асабліва змрочна і нават неяк безнадзейна выглядалі асобныя гарадскія лакуны, запушчаныя, як цяжкая хвароба, што патрабуе неадкладнага ўмяшаньня.

У аэрапорце, чакаючы вылету, спрабаваў зьесьці жончыны мясныя пончыкі з дамашняй салятай. Пасьля трэцяга адчуў сябе сытым, а выкідаць жончыну працу ну ніяк не хацелася; я чалавек хоць і дзікага нораву, але да ежы павагу маю. Ну, я ж расказваў, Нарвегія навучыла...

Раптам мае роздумы над жыцьцём сытых і галодных перапыніў голас маладога чалавека, які на сякой-такой рускай мове прасіў колькі літаў на хлеб. Я аж пукнуў ад нечаканасьці і заёрзаў сракай на новай пад еўрастыль аэравакзальнай лаве:

вось дык супадзеньне! Ня хочаш, а паверыш у нейкую звышнюю сілу, якая так геніяльна разьвязвае твае праблемы й пытаньні...

... І я з вялікім адхланьнем у душы, перапрашаючыся, што не грашыма, аддаў юнаку мой дарожны пакет з недаедзенымі беларускімі мяснымі пончыкамі.

Самалёт уздымаўся ў залітае сонцам сіняе-сіняе надвіленскае неба, а праз гадзіну, заходзячы на пасадку над нарвежскім аэрапортам Гардэмуэн, увайшоў у паласу шторму: над узьлётна-пасадачнай зонай валіў цяжкі мокры сьнег і бесьперастанку працавалі сьнегаачышчальныя машыны. Некаторыя пасажыры ў салоне пачалі хрысьціцца. І сто пудоў, што гэта былі не пратэстанты нарвежцы, а каталікі палякі і клайпедскія жмудзіны.

Да пасадкі ў лятальны апарат, які мусіў перанесьці мяне ў запалярны гарадок Буду, заставалася часу дзьве гадзіны і, як і наказваў Аўтар, я ўмасьціўся ў крэсьле і назіраў за публікай. Назіраючы, я смакаваў свае ўспаміны пра 2002-гі, пра тое, як трынаццаць гадоў назад мы з сябрам блукалі па гэтым самым тэрмінале і ніяк не маглі зь яго выграбсьціся, і гэта пры тым, што ў школьным гуртку спартыўнага арыентаваньня ў часы імперыі мы займалі першыя месцы на рэспубліканскіх спаборніцтвах.

Тым часам вольныя крэслы вакол мяне пачалі займаць грамадзяне Польшчы, якіх выдавала, як і расейцаў, сьпецыфічная мова, у якой праз слова былі чуваць *курва, курча, курда, пердолёны в дупэ* і да таго падобныя назоўнікі з прыметнікамі. Зрэшты, не, я ў сваёй заўвазе пра расейцаў не справядлівы і нагаворваю на іх, бо ў мове кожнага народу ёсьць свая лаянка і адпаведныя грубыя, непрыгожыя слоўцы: амерыканскі *фак'ю* ведаюць, напэўна, і грэнладскія інуіты; нарвежцы, як *простыя*, так і *няпростыя*, маюць заўсёды пад рукою такія

звароты, як *фаен та дэй!* (хай цябе чорт забярэ!), *чёс май і рава* (пацалуй мяне ў сраку); адпаведнікі расейскіх (рускіх) словаў з трох і пяці літар гучаць па-нарвежску як *кук* і *фітта*.

Відаць, толькі мы, колішнія ліцьвіны і цяперашнія беларусы, не разьвілі полавазалежнай грубай лаянкі, а пазычаем яе наўпрост у сваіх суседзяў як на ўсходзе, так і на захадзе. Такая ў нас атрымліваецца *высокая еўракультура*: неабавязкова самім генерыраваць вербальныя нечыстоты, калі пры патрэбе іх можна пазычыць у суседзяў.

Але вернемся да нашых палякаў. Яны ўжо занялі ўсе вольныя крэслы, акрамя аднаго, на якім стаіць мой заплечнік. Іх чалавек дзесяць – не лічыў, але каля таго. Падыходзіць яшчэ адзін, на выгляд самы малады, топчацца з заплечнікам каля старэйшых, але ніхто зь іх, ні ён сам ня просяць мяне зьняць торбу, каб чалавек мог прысесьці. „Надзіва выхаваныя браты-славяне, – думаю сабе, – проста гатовыя нарвежцы. А маглі б і папрасіць". Маё неабгрунтаванае чалавекалюбства перамагае, і я, здымаючы заплечнік, казыраю сваёй польскай у бок юнака: „Прошэ сядаць...". Юнак моўчкі прысаджваецца і працягвае ўзаеміны са сваёй групай. Зрэшты, абмен рэплікамі наконт падзеяў у Фэйсбуку называць „узаемінамі" можна хіба зь вялікай нацяжкай. Мяне пачынае абцяжарваць суседства грамадзянаў ЕС польскай нацыянальнасьці, я падбіраю свае сумкі і адвальваю кудысьці ў іншыя шарэнгі вакзальных крэслаў.

За вялізнымі вокнамі тэрміналу шалее сьнегавы шторм. Ужо павінны былі б аб'явіць пасадку, але з увагі на дрэннае надвор'е прыём пасажыраў на борт DY350 затрымліваецца. Я ўважліва сачу за электронным табло. Узіраюся ў твары, аблізваю позіркам фігуры азіятаў, афрыканцаў, асабліва постаці жаночага полу з вывадкамі нашчадкаў у

вазочках і на сваіх уласных, якія пішчаць, кверкаюць і патрабуюць ад матак з нецярпеньнем і нахабствам, характэрным для нарвежскай сямейна-бытавой дэмакратыі.

Вылет затрымліваецца на цэлую гадзіну, потым на дзьве. На дварэ па-ранейшаму лютуе непагадзь. Цяжкі мокры сьнег завальвае белай масай узьлётныя дарожкі і корпусы лятальных апаратаў. Урэшце рэшт, са спазьненьнем амаль на тры гадзіны, абвяшчаюць пасадку. Пералётная публіка спакойна, без мітусьні, праходзіць у пасадачны праваднік. Я адным зь першых трапляю ў салон і на ангельскае *гуд івнінг!* сьцюардэсы з гонарам адказваю па-нарвежску: *гу квельд*[32]!

Пакуль я ўмошчваюся на сваім месцы каля ілюмінатара на левым борце, па дыяганалі ад мяне і таксама каля аэраваконца пачынаецца нейкае варушэньне з удзелам лысага пасажыра; калі ён паварочвае галаву ў профіль, можна разгледзець, што яна ня проста лысая, а яшчэ і абабітая, як той яблык-ападак у старым, закінутым гаспадарамі, садзе. Над левай скроньню парэз;расьсечана, але нямоцна, правае брыво; на лбе невялікі гузак. Такое адчуваньне, што пасажыр сам сябе крышку, ашчаджаючы сілы, адмяцеліў.

Важданіна вакол лысага дзядзькі нарастае. Зьяўляецца, нейкая драбнацелая кабетка, якая спрабуе апекавацца лысым, але збоку ні халеры нельга зразумець, чаго хоча пасажыр альбо ягоныя суседзі. Адным словам, пасадка адбываецца ў экстрэмальных умовах як звонку салона, так і ўсярэдзіне. Нарэшце па дыяганалі да мяне далятаюць гукі польскай: „Но то цо? Цо вы хцэце?[33]...". Неадэкват-

---

[32] *Гу квельд* – добры вечар.

[33] *Но то цо? Цо вы хцэце?* – „Ну дык і што? Чаго вы хочаце?"

ны лысы аказваецца палякам паводле мовы, якой ён азваўся. Але хто й чаго ўсё ж ад яго хоча? Падазраю, што звышдэмакратычны нарвежскі сусед паскардзіўся на лысага персаналу нашага паветранага карабля. Борт DY350 застаецца на зямлі. Узьлёт затрымліваецца ўжо тры гадзіны як. Палова пасажыраў яшчэ не зайшла ў салон. Напружаньне нарастае, але тыя, што паселі на свае месцы, альбо абураюцца моўчкі як сапраўдныя скандынавы, альбо працягваюць ямчэй усаджвацца ў свае законныя, загадзя замоўленыя праз інтэрнэт, месцы.

Пасадка перапынілася. Зьяўляюцца медыкі ў аранжавых камбезах, суседзі лысага вызваляюць свае крэслы, каб даць доступ да праблемнага цела. Аднак і медперсанал не дае рады. І тут зьяўляюцца паліцэйскія – апошні акорд дэмакратычнай працэдуры – і не без прымяненьня сілавых маніпуляцыяў выцягваюць няшчаснага, з пабітым чэрапам, пасажыра, з салону, папярэдне накінуўшы яму на рукі бліскучыя нержавейкавыя кайданы.

Мы, вядома, людзі прыстойныя і ніколі не прызнаемся, але ўсе нашы ўздыхнулі з палёгкаю, калі паліцэйскія забралі ад нас гэтага тыпуса.

Рэшта пасажыраў зайшла нарэшце ў салон і рассаджваецца. Капітан карабля перапрашае за доўгую затрымку, даводзіць да ведама пра тэмпературу за бортам і атмасферныя ўмовы меркаванага палёту да запалярнага горада Bodø, які ляжыць на 71-м градусе Палярнай шырыні.

Пакуль бортправадніцы намігі паказваюць нам, што і як трэба рабіць пры аварыйнай пасадцы, за шклом ілюмінатара тэхнічныя службы тэрміналу змываюць з фюзеляжа самалёта наліплы сьнег.

„Цікава, а хто ж будзе змываць гэты сьнег у палёце?” – стаўлю я перад сабою сакраментальна-рытарычнае пытаньне, тым часам як наш лятак вырульвае на ўзьлётную паласу. Сьнег не спыня-

ецца, валіць і валіцца зарадамі, як валяцца снарады на передавую падчас артпадрыхтоўкі з варожага боку. Перад пачаткам разгону сьпецмашына яшчэ раз абмывае нашу дзюралюмініевую пракладку з крылцамі. „Быццам цела нябожчыка перад тым, як апрануць і пакласьці ў труну”, – працінае мяне шалёнае параўнаньне, і борт DY 350 пачынае рухацца па ўзьлётнай. У момант, калі шасі адрываюцца ад зямлі і самалёт натужліва, як сталая жанчына падчас зацяжнога аргазму, ідзе на ўзьлёт я, гледзячы ў ілюмінатар і ўнутрана сьцяўшыся, пытаюся ў самога сябе: „Вільман, д’ябал цябе рэж! Якога ражна ты вечна прэсься ў гэтую запалярную, цёмную Поўнач, якая ня ведае буяньня вясны, а восень там канчаецца ў пачатку верасьня!?. Глядзі, Вільман, далётаесься, што аднойчы твае парэшткі будуць зьбіраць на цяжкадаступных скальных выступах Салёнай даліны”.

З такімі невясёлымі думкамі я цэлую гадзіну вісеў у небе над Нарвегіяй, у салоне борту DY 350, пакуль ён не прызямліўся ў аэрапорце гэтай самай запалярнай Буды і ня выплюнуў мяне з свайго чэрава а 10-й гадзіне вечара, спазьніўшыся з прылётам на цэлыя чатыры.

Я выйшаў з тэрміналу, маючы за сьпіною пляцак, у руцэ невялікую сумку з фотаапаратурай, кніжкамі і пачатым рукапісам 2-й кнігі раману „Цана Еўропы...”.

У запалярнай Будзе падмарожвала, шторм з мокрым сьнегам спыніўся дзесьці ў гарах, але заўсёдны для гэтага гораду сухі атлантычны вецер стараўся дзьмуць табе ў твар, у якім бы кірунку ты ня йшоў.

Я асабіста ішоў на вуліцу Земляробчую, дом нумар 5, дзе ў мяне чатыры гады назад была вялізная кватэра на першым паверсе трохпавярховага бараку, у якой я шэсьць гадоў жыў сам-адзін.

Я, вядома, не спадзяваўся, што кватэра будзе чакаць свайго вандроўнага кватаранта так доўга. І сапраўды, хоць вокны калісьці *майго* нарвежскага прытулку былі, як і пры мне, наглуха завешаны цяжкімі шторамі, праз шчыліны паміж тканінай і сьценамі прасьвечвала сьвятло, што азначала толькі адно – там жыве іншы гаспадар, магчыма з афрыканскага кантыненту, з разьбітай амерыкосамі Лівіі, а можа з імі ж зьнішчанага Іраку, альбо з Сірыі... Адным словам, жыльля ў Нарвегіі я больш ня меў. Я праверыў сваю паштовую скрынку, знайшоў там пук старой рэкламы, чужыя пісьмы, і паклаў усю гэтую цэлюлёзу назад у сховішча. Ужо нікуды больш не сьпяшаючыся, стомлены надзвычай нэрвовым пералётам, я патэпаў у знаёмы мне *начны дом* – нарвежскі варыянт прытулку для бяздомных, у якім я меў права перанавацаць толькі адну ноч.

Я націснуў кнопку электразванка, і знаёмая мне яшчэ зь 2005-га году работніца *Чырвонага Крыжа*, выслухаўшы маю кароткую гісторыю пра тое, як я чарговы раз стаў бесхацімцам, упусьціла мяне ў апартаменты беспрытульных душ.

На другі дзень пачалося маё пятнаццацідзённае вандраваньне па гарадскіх вакзалах у пошуках, дзе пераначаваць. Не, вядома, я мог залезьці ў касу Аўтара, замовіць нумар у якім гатэлі і жыць сабе *без ніякіх*. Але ў такім разе я, як Вільман, атрымаў бы ня той вынік і ня той вопыт, якія патрэбны былі мне для завяршэньне сваіх пошукаў *цаны Еўропы*. Я мусіў апусьціцца як мага ніжэй на нарвежскае дно, намацаць сходы, якія вялі ў бездань нарвежскага дабрабыту...

І так, пакінуўшы на другі дзень знаёмую начлежку, я выйшаў у знаёмы да драбніц запалярны нарвежскі гарадок і, ганарыста выпраставшы сьпіну і разьвінуўшы плечы, пайшоў па засьнежаных

вуліцах. Я ішоў і ўзгадваў, колькі ж я падняў пустых дзюралевых бляшанак, пластыкавых і шкляных бутэлек з-пад розных відаў паршывага нарвежскага піва, кока- і пепсі-колы, розных гатункаў салодкай і натуральнай вады. Вось *тут* і *тут*, напрыклад, я набіраў акуркаў, каб потым, дома, распатрашыць іх, выбраць табаку і, накупіўшы сьпецыяльнай, як некалі ў нас у СССР казалі, *папіроснай*, паперы, накруціць асабліва моцных самакрутак. Хапала выкурыць адну такую цыгарэтку, каб спагнаць ахвоту да табачнага дыму як мінімум на суткі. Пасьля такога курэньня вечарам, ранічкай прыходзілася з паўгадзіны адхарквацца над умывальнікам...

Вось так я іду і ўспамінаю, і не пазнаю некаторых месцаў у горадзе. Вось тут, на скрыжаваньні вуліцаў Каралевіцкай і Партовай, была гарадская бібліятэка. Цяпер памяшканьне, бачу, пустуе. А вось насупраць мясцовага аддзяленьня нарвежскага Ашчадбанку стаіць пусты будынак, у якім тры гады назад разьмяшчалася наша абласная запалярная газэта, у якой і пра мяне час ад часу пісалі, і я часам друкаваў свае *гісторыі Вільмана*... А вось і цэнтравое месца нашага гарадка – Шкляны Дом (Glasshuset), так званы гандлёвы пасаж, кавалак вуліцы Вялікай, узяты пад шкло ад атмасферных ападкаў і ветру. Тут, калі што, я і буду кантавацца, пакуль не знайду больш прыстойнага прытулку.

А пакуль што, Леанідавіч, я іду ў новую вялікую бібліятэку, якую здалі ў эксплуатацыю незадоўга да майго прыезду, заходжу, здароўкаюся са знаёмымі бібліятэкаркамі і чытаю тутэйшыя газэты... Праз некалькі дзён я знаходжу ў нашай нурландскай паведамленьне, што ў адной паляўнічай хатцы, заўсёды адкрытай для вандроўнікаў у гарах нутранога Ронвіку, знайшлі цела невядомага

мужчыны гадоў 60-ці і паліцыя просіць адгукнуцца тых, хто можа пра яго штосьці ведаць. Для ўскрыцьця і правядзеньня іншых неабходных працэдур нябожчыка адправілі ў Трумсё, дзе ёсьць адпаведныя сьпецыялісты і абсталяваньне. Праз пару дзён паліцыя рэгіёну Сальтэн, шукаючы хоць якіянебудзь зьвесткі пра знойдзены труп, апрылюдніла здымкі красовак, заплечніка і шаліка, знойдзеныя *на* ім і *пры* ім. І, ведаеш, Леанідавіч, як толькі я даведаўся пра зьніклага, у галаве маёй дурной ізноў узьнік твой вобраз, твой апошні здымак, які я зрабіў на тваёй „базе", у былой салдацкай казарме за беларускай вёскай Асееўка Асіпавіцкага раёну. Я падумаў: а раптам гэта ты? Чаго толькі не здараецца ў сьвеце! А ты ж хацеў сюды, у Скандынавію, фантазіраваў пра Швецыю... Вось я і падумаў: а раптам удалося?..

І я папёрся ў паліцыю. Прыходжу, гавару: так і так, можа я ведаю, пакажыце здымак твару нябожчыка... Не без бюрактарычнай цягамоціны, як і ў нас, але ў выніку здымак знайшлі і паказалі. Не, ня ты, запалярны труп аказаўся дагледжаным, у новым спартыўным адзеньні (тут жа абноскі ніхто ня носіць, ледзь што адразу ў Fretex здаюць). Адно й было, што псуе ўсе трупы мужчынскага полу, гэта прарослая ўжо па сьмерці гаспадара шчэць на яго падбародку.

Так што ня ты, Леанідавіч, ня ты. А шкада. Бо пасьля паходу ў паліцыю, ноччу, мне прысьнілася, што я апазнаў цябе ў тым кадаверы на здымку, і цяпер мушу займацца адпраўкай тваіх парэшткаў на радзіму. Але Нарвегія ня мае з нашай ваяўнічай Юдэяй ніякіх дыпламатычных кантактаў, яе самалёты да нас ня лётаюць, і везьці цябе трэба альбо праз Маскву (праз якую я катэгарычна не жадаю), альбо праз Варшаву (якая не прымае), альбо праз Стакгольм (у якім бюракраты нашага

пасольства выядуць мне ўсе мазгі), альбо праз Кіеў. Я выбіраю апошні, і ўкраінцы мне сапраўды шчыра дапамагаюць – за апошні год яны няблага навучыліся перамяшчаць груз 200...

Вось такі быў сон, такія спадзяваньні. Але ты па-ранейшаму ляжыш невядома дзе, і па-ранейшаму не выходзіш у мяне з галавы, заняў у ёй дзесьці там утульны куточак і прытаіўся, прыціх. Ты ведаеш: пакуль цябе нехта помніць – ты жывы, ты прысутны.

Пятнаццаць сутак, як я ўжо пісаў, пятнаццаць начэй я адбыў у тваёй скуры, Іваноў. Я кантаваўся паміж параходнай станцыяй і аўтавакзалам, дзе аднойчы ахоўнік-араб спрабаваў не пусьціць мяне ў туалет; паміж аэравакзалам і чыгуначнай пачакальняй, якія на ноч зачыняюцца, і тады я мусіў ісьці ў Шкляны Дом, даставаў спальнік, паралонавы дыванок, клаў пад галаву заплечнік і ўкладаўся спаць паміж выключаным на ноч эскалатарам і сьцяной ювелірнай крамы. Першы раз падыйшлі былі паліцэйскія, але, праверыўшы пашпарт, больш не чапалі – зімою грамадзяніна Нарвегіі нельга выгнаць на вуліцу, нават кватаранта, які не заплаціў за паддашак.

Аднойчы, успомніўшы прыгоды галоўнага героя раману „Голад", я схадзіў быў у наш паліцэйскі ўчастак і папытаўся начлегу. Паліцэйскія доўга шукалі свабодную камеру, але была ж якраз ноч з суботы на нядзелю, усе цэнтравыя мажоры ў загуле, і таму свабоднага нумару не знайшлося. Ізноў кантаваўся ў гандлёвым пасажы; маё *месца высядкі* было паміж банкаматам і лесьвіцай у падземны гараж. Тут ніхто мяне не ганяў, і мінакі заўсёды пры грошах. Я клаў на каменны выступ запасную шапку нутром дагары і кідаў ў яе пару дзіравых нарвежскіх манет. Побач ставіў самаробны плакацік з надпісам на Буда-дыялекце: памажэце бесхацімцу-скрыбенту, падайце на яду й пітво!..

У суботу каля мяне асабліва весела. Вось, напрыклад, з 17-га на 18-га студзеня на вуліцы была моцная завіруха, мароз, – праўда, невялікі, градусаў 7, але ж які вецер! А ў нашым Шкляным Доме мора народу, цягаюцца з кабака ў кабак, гэта ў іх такі *спорт* — у кожным кабачку пасядзець, нагуляць апетыт півам, а потым завяршыць фэст, купіўшы ў забягалаўцы „Кароль бюргераў" кавалак сырога цеста з начынкай, падобнай да курынага памёту, і жэрці гэтае нешта за абедзьве шчакі... Ну, хто наеўся, падыйдуць, бывае, пагаварыць. Пасьля нагрузкі на страўнік хочацца загрузіць работай мазгі...

Вось ад кампаніі адкалолася жанчынка гадоў 30–35. Пакуль яе сяброўка здымае грошы з карткі, маладуха загаворвае да мяне, расказвае, што з Му і Раны прыкаціла на выхадныя ў сваю паўночную сталіцу. А тут такое дзіва: пісьменьнік пабіраецца!.. І аддае мне свае земляныя гарэхі ў пушцы, частуе жвачнай табакай-снусам і яшчэ 50 крон зьверху зялёнай купюрай. Ужо пасьля таго, як жанчынка адваліла, я ўспомніў сваю ранейшую практыку й пашкадаваў, што не прапанаваў ёй кунілінгус. За такую паслугу магла б і пяцітысячную адшкадаваць...

Падкацілі пекная дзяўчо з хлапцом, угледзілі мой зварот пра дапамогу, і гаваркая пачала ўгаворваць свайго сябра забраць мяне нанач. Але юнак не паддаўся на ўгаворы, неяк выкруціўся. Можа спужаўся, што наступнай просьбай дзяўчыны можа быць прапанова зрабіць сэкс утрох?..

У перапынках паміж размовамі з сваімі фундатарамі я чытаў прозу нашага Латыша, якую ён пачаў пісаць яшчэ калі ўсе мы былі шчасьлівымі маладымі студэнтамі. Ну, ты ведаеш, у Латыша быў асаблівы – філасофска-псіхалагічны – стыль пісьма. І стыль гэты не зьмяніўся, дзякуй богу. Тым Латыш і адметны...

І вось чытаю я Латышовы навароты, напісаныя яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, трыццаць гадоў назад, а паўз мяне з рознай інтэнсіўнасьцю і вертыкальнай устойлівасьцю перамяшчаюцца тутэйшыя запалярныя індывіды, час ад часу адрываючы мяне ад майго інтэктуальнага занятку. Тады я раблю закладку паміж старонкамі „Кнігі зданяў" і ўступаю ў абмен рэплікамі. Чаму, напрыклад, не паслухаць добра выпітага юнака 20-ці гадоў, у якога за перавышэньне хуткасьці адабралі сэртыфікат кіроўцы і выпісалі штраф, але плаціць яму няма з чаго, бо адабраньне правоў стала прычынай скасаваньня кантракту з працадаўцам. Замкнёнае кола. Тады юнак вырашыў рэзаць вены. Але не зусім каб па-сапраўднаму, па-даросламу, а нібы гуляючы, нібы ён яшчэ малы і хоча папужаць дарослых, каб тыя вярнулі яму яго любімую цацку. Таму перш чым рэзацца, малады чалавек звоніць у паліцыю і папярэджвае. Нарад паліцыі прыязджае хутка, выбіваюць дзьверы, адбіраюць нож, складаюць пратакол і... адпраўляюць у псіхіятрычную лячэбніцу, што ў мікрараёне Ніжні Ронвік нашай запалярнай сталіцы. *Бяспраўны* малады чалавек кідае мне дваццацікронавую манету з выявай караля Харальда „Вялікагаловага". Я ўдзячна ківаю ў адказ.

*Італьянскі* самаліец падыходзіць з „малым" гамбургерам і бутэлькай колы – для мяне. Ён сам ужо наеўся, яму цяпер трэба пагаварыць. Дакладней, паскардзіцца. На нядрэннай як для афрыканца нарвежскай ён *гоніць* на Нарвегію. „Ну што гэта за краіна, што за свабода, калі прастытуцыя як від дзейнасьці забароненая і караецца!" – скардзіцца мне *нарвежац самалійскага паходжаньня*, якому дзесяць гадоў таму назад пашчасьціла дабрацца на перапоўненай уцекачамі іржавай шаландзе з берагоў Афрыкі да італьянскай выспы Лампедуза, пажыць у Італіі і стаць *крыху італьянцам*, а потым

дапяць і да Нарвегіі. Ну што ж, у Італіі з прастытуткамі праблем няма, якіх хочаш, такіх і выбірай, на розны густ і колер, але з грашыма туга. А ў Нарвегіі наадварот, дзяржава імігрантам добра плаціць і падтрымлівае ва ўсім іншым, а з даступным целам проста бяда! Хоць ты ідзі і сапраўды згвалці якую!

Я з'ядаю прапанаваны *самалійска-італьянскім нарвежцам* гамбургер і выпіваю ягоную кока-колу. Я добра перакусіў і ўжо весялей гляджу на сьвет, з разуменьнем сітуацыі падтакваючы суразмоўніку.

На сцэне нашага Шклянага Дому зьяўляецца тым часам яшчэ адзін персанаж, я сказаў бы, нават персанажык — такая маленечкая і вяліканосая, і таксама нейкага афрыкана-італьянскага выгляду, прынамсі мне так адчуваецца. І – о мой божа! – яна практычна голая, у яе на целе нейкая летняя блюзка, такая ж спаднічка, панчошкі, і белы летні плашчык; гэта божае стварэньне хлюпае носам, але плашчык трымае на руцэ, на сябе не апранае; я вырашаю, што *дзіця* нядаўна зьявілася ў нашым суровым краі і спрабуе сябе загартоўваць, як умее. Я ізноў адкладаю ўбок кніжку, калі гэта маленькая жанчына прабягае паўз мяне на зваротным шляху. Я іду ёй наперарэз, спыняю, спрабую разгаварыць, кажу, апраніся, ты ж акалееш, у атмасферы мінус 10° па Цэльсіі. Але малая вяліканосая ня слухае і *гайдаецца на сваёй хвалі*. Я плююся ў душы, адвальваю і працягваю назіраць, час ад часу ўздымаючы галаву над старонкамі „Кнігі зданьняў".

20 студзеня быў аўторак, пяць дзён бяз даху над галавой, вобразна кажучы. Дах, вядома, быў, але вакзальны. Альбо вось як гэты шкляны дах нашага *Glasshuset*'у, праз які яснай бязвоблачнай ноччу можна бачыць зоры ці захапляцца паўночным ззяньнем.

Бачыш, дружа Іваноў, і цябе, і мяне ў нашы беспрытульныя прыгоды кінула не чыясьці злая воля, не стыхія прыродных катаклізмаў, а нашы ўласныя валявыя рашэньні. Нас цяжка назваць няшчаснымі, бо свой лёс мы выбіралі самі. Хіба ня так?...

Лёс... Таямнічая гэта штука – лёс. Нешта паміж богам і Прыродай. А, можа, і па-над імі? Можа Лёс – такі ж самы вандроўнік і бесхацімец, як і мы, толькі ў планетарна-галактычным маштабе, а людцы – ягоныя ахвяры, якіх ён паводле свайго настрою альбо скідае са свайго шляху, альбо забірае з сабой?..

Дык вось 20-га... 20-га днём я вывучаў перыметр і зьмесьціва вялізнай новай бібліятэкі пад прэтэнцыёзнаю назвай „Шторм". Знайшоў стэлаж з літаратураю на замежных мовах. Стаю каля палічкі з кніжкамі па-руску, гартаю некаторыя перакладныя выданьні, аж тут зьяўляецца на плоскасьці дубовага паркету жанчынка невялікіх аб'ёмаў і майго веку прыблізна і пытаецца ў мяне, ці разумею па-руску. У выніку разгаварыліся: малдаванка Алеся, жыве з малодшым братам Аляксеем у паддашку, які той здымае ў запушчанага выгляду нарвежскай бабыліхі. Прыходзіць брат, знаёмімся, я крыху распавядаю пра тое, хто я, што я і дзе. І тут ён запрашае да сябе: памыцца пасьля спаньня на вакзальных лаўках, паесьці гарачага ды паспаць у цёплай сухой пасьцелі – зіма ўсё ж, ды яшчэ запалярная.

Пасьля гарачага душу й добрай вячэры мы гаварылі да познага. Трыццацігадовы *малдовін Аляксей Бантэй* невысокі, майго росту й целаскладу, з вачыма ў глыбокіх вачніцах і так падобны да румунскга Дракулы, распавядаў мне пра свае прыгоды. Ён – шафёр, кіроўца вялікагруза. Ажаніўся, жонка нарадзіла сына, і працаваць у Малдове за

бесцань больш не захацеў – паехаў у Італію, уладкаваўся па сьпецыяльнасьці і адрабіў там некалькі гадоў. Чаму не заставаўся ў Італіі і паехаў у Нарвегію? – гэтае пытаньне я неяк прапусьціў і не задаў. У Нарвегіі Аляксей прыехаў летам 2014-га, паўгода бадзяўся без жытла, пакуль было цёпла – спаў у закінутых дачах, а ўратавала тое, што нарэшце знайшоў работу кіроўцы рэфрыжэратара, цяпер працуе на транспартную кампанію „Lovold A/S", возіць траску з Лафатэнаў у нашу Буду.

З далёкім-далёкі сваяком Дракулы мы здружыліся – не, ну, вядома, ня так, як з табою калісьці, Леанідавіч, не раўнуй, дарма. З табою нас зьвяла маладая, яшчэ неакрэплая, але ўсё ж наша ўласная ідэя свабоднай Беларусі. З Аляксеем-малдовіным мяне зьвяла... як бы гэта лепш сказаць? Ага, во: сацыяльна-класавая салідарнасьць і... руская мова, якую ён трохі ведаў. Так што пятае праз дзесятае мы зь ім маглі паразумецца. Пазьней, калі камуна пасяліла мяне ў старым паваенным гатэлі, Бантэй забягаў да мяне пасьля рэйсу, мы частаваліся кавай, раскурвалі самакруткі з дацкай табакі, а па ўсім я прадаваў яму добрае стокавае адзеньне, якое Аляксей адпраўляў сваёй радні ў Малдову. Хоць ён і працаваў ужо, і меў банкаўскую картку, але неяк атрымлівалася ў яго, што ён заставаўся бяз грошай і прыходзіў пазычаць да мяне. Я маладому чалавеку верыў і – пазычаў. Я разумеў, што работа, якую ён нарэшце атрымаў у нашай нарвежскай Будзе, яму даражэй за тыя няшчасныя пяцьсот крон, у мяне пазычаныя. І таму ён аддасьць іх, *кроў з носу* аддасьць.

Пасьля бібліятэкі ізноў увайшоў у вобраз беспрытульнага басяка, таўкуся на старым месцы каля банкамату, паклаўшы побач шапку й аб'яўку жабрака. Бокам-скокам падкаціўся знаёмы ўжо тутэйшы басячок-мацачок, зірнуў на заяву, разгаварыў-

ся, параіў пашукаць месца ў адным старым гатэлі тут, у цэнтры. Потым, падумаўшы, даў дзьве цыгарэты, 30 крон, кіўнуў моўчкі і зьнік па сваіх справах.

Ідуць 8-я суткі басьцяньня па вакзалах. 23-га студзеня начую на морвакзале разам з польскай парай, чые заплечнікі былі любоўна пакрытыя польскім бела-чырвоным сьцягам. А 2-й гадзіне начы прыехала служба аховы „NOKAS”, якая правярае сігналізацыю і непарушнасьць замкоў, і ёмкі этнічны нарвежац гадоў 25-ці пачаў нас будзіць – маўляў, прытулак зачыняецца. З спальніка дасталася цёмна-русая галоўка тыповай полькі і пачала нешта спрасоннае лапатаць. На гэтае лапатаньне адгукнулася й вышчалукнулася галава маладога чалавека. Я загаварыў да іх на польска-нарвежскай трасянцы, але размова не завязалася – палякі хацелі спаць. Нарвежскі ахоўнік, праверыўшы электронныя зашчапкі на дзьвярах, нешта сабе падумаў і дазволіў нам перабываць да 5-й раніцы.

Будзільнік мабільніка разбудзіў мяне роўна ў прызначаны час, але ніхто не зьбіраўся выганяць нас з вакзалу, і я, паправіўшы капшук на галаве, вырубіўся да восьмай.

Наступны раз я абачнуўся ад шоргату швабраў прыбіральшчыцы. Некалькі хвілін я назіраў за ейнымі хуткімі зладжанымі рухамі, потым яна падыйшла да століка, за якім ляжала маё цела, і тут нашы позіркі скрыжаваліся: я ўбачыў абветраны твар саракапяцігадовай жанчыны з падвыцьвілымі ўжо вачыма, у якіх я імгненна прачытаў і ейную славяншчыну, і ейную гатоўнасьць...

Я ляжаў з напятым фаласам і чакаў, пакуль яна прыбярэ ў зале і перамесьціцца ў туалет. Я ведаў, яна пачне з левага аддзяленьня для калекаў – там, дзе падлога з падагрэвам, і работы менш.

І сапраўды, падмёўшы падлогу ў зале і памяняўшы пластыкавыя мяхі ў сьметніцах на новыя,

жанчына зайшла ў прыбіральню для інвалідаў. Я падхапіўся з свайго імправізаванага „ложка”, нахаду расшпіліў крок, скінуў з сябе кітайскі пухавік, які цудам захаваўся аж з раньніх 90-х, і шуснуў сьледам за кабетай, замыкаючы за сабой дзьверы. Прыбіральшчыца якраз жа спаласквала ўнітаз з блісkучымі перакладзінамі з нержавейкі, калі я падыйшоў да яе ззаду і, запускаючы безапеляцыйным рухам сваю нахабную руку ў ейнае міжножжа, правібрыраваў пад’ячэўным голасам і моваю ўладальніка *карты польскай: „– Як се мысьліш, ежэлі зробімы тэго?” „– Давай, прэндтко!”* – быў адказ, і я хуткімі, але дакладнымі рухамі сьцягнуў штаны з сваіх і зь ейных клубоў. Пакуль жанчына спрабавала як найямчэй абаперціся аб сталёвыя нержавейныя брыжы інваліднага ўнітазу, я наладжваў уваход у ейную гаспадарку. Вільготныя губкі ўжо апухалі і пялёсткамі ружы раскрываліся пад пальцамі маёй правай – левай я задзіраў маёй партнёрцы на сьпіну ейныя швэдар і камбінашку. Нарэшце плацдарм гатовы, і я іду ў наступ, моцна трымаючы маю прыбіральшчыцу за бакі...

*Мой дружа далёкі*, я ня стану спакушаць цябе прапісваньнем любоўных дэталяў, гэта будзе выглядаць нялітасьціва з майго боку. Проста я зрабіў, што трэба было і ёй, і мне, і нашай людской прыродзе. Прыбіральшчыца аднекуль з Плоцку выявілася сакавітай, як тая антонаўка ў лістападзе на Піліпаўку, падатлівай і надзіва негаворкай. Паўсім тым я падцягнуў свае штонікі, з адцяжкай пацалаваў яе ў крыж і выйшаў у другое аддзяленьне мужчынскага туалету – па малой патрэбе. На ўнутраным баку дзьвярэй, зьверху незмывальнай чорнай фарбай было засьведчана катэгарычнае: „Legia! Tu stara kurwa”.

Пасьля такога нечаканага ранку пругкай паходкаю, з падкіндосам, што называецца, іду-пру-

жыню ў Шкляны Дом. Па дарозе мяне засьпявае званок ад земляка-беластаччаніна, які працуе ў нас у запалярнай Нарвегіі шафёрам вялікагруза. Зямляк запрашае пад'ехаць у суседні гарадок Фаўску, куды ён павінен прыкаціць на сваім шасьцівосным грузавічку. Мне, вядома, цікава разьвіртуаліцца з земляком, але грошай на білет не хапае. Апошні транспарт да станцыі Гнілушка – а якраз так перакладаецца слова „Фаўска" – адыходзіць а 9-й вечара. Дзе знайсьці сто крон? Сто нарвежскіх крон, Леанідавіч, гэта дванаццаць еўрапейскіх талераў. Для нас, галаты, гэта грошы. Але і тых няма.

І тут я заўважаю знаёмага басяка Ёна, падыходжу да яго і тлумачу, як мне пазарэз трэба дастацца да Гнілушкі. Ён цярэбіць патыліцу, кажа пачакаць яго, а сам ідзе ў краму „Нарвэсэн" і нешта перацірае з прадавальшчыкам. Вяртаецца Ён з надарванай купюрай у кулаку і працягвае яе мне. У абмен на гэта я падпісваю майму крэдытору кнігу Аўтара і ляту на чыгуначны вакзал.

На станцыі Гнілушка я сыйшоў а 10-й вечара, 367-ы „Буда–Трандхейм" пакаціў далей, а я мусіў думаць, дзе мне перакантавацца яшчэ пяць гадзін да спатканьня – станцыйная пачакальня зачынілася акурат перад маім носам. Доўга ня думаючы я пашыбаваў у цэнтар мястэчка.

Аказалася, аднак, што ў пятніцу вечарам у студзені 2015-га у цэнтры запалярнага населенага пункту Фаўска жыцьцё цепліцца хіба толькі ў піцэрыі „Мілано", якая адкрыта акурат да 3-й ночы. Я зайшоў у забягалаўку, прысеў за столік і дастаў кніжку турэмнай прозы з неапетытнай назваю „Чарвяк". Калі шчыра, гэтую кніжку аднаго маладога чалавека з нашай цярплівіцы Юдэі я прачытаў яшчэ па дарозе ў Нарвегію. Цяпер я думаў перачытаць выбраныя месцы, калі скончыцца думка й ня будзе чаго запісваць у мой апельсінавага колеру на-

татнік, які я таксама выцягнуў з заплечніка. Але неяк не атрымлівалася адключыцца й засяродзіцца – за сьпіною ў мяне, за суседнім столікам са смакам наварочвалі нейкія бліны з падлівай два аўганцы – чамусьці гэтых апошніх я беспамылкова вылічваю па тварах, як і палякаў.

Выгляд, відаць, я меў такі, што не пашкадаваць мяне было нельга. Тым больш, што за стойкай піцэрыі завіхаліся курды, а ўжо ж хто-хто, а курды й аўганцы ведаюць, што такое бяда, нішчымніца, вайна...

Я нядоўга сядзеў на самоце – курд-бартэндэр папытаўся, ці не хачу я кавы. Я адказаў, што гэтай марознай ноччу з радасьцю выпіў бы што-небудзь гарачае, але ня маю на такую раскошу грошаў. Гэтая прамова канчаткова разжаліла курда, і ён прынёс мне двухсотграмовы кубак гарачай кавы. Паглядзеўшы, што я сёрбаю адну пустую каву, аўганцы з-за суседняга століка прапанавалі мне свой блін. З курдскай кавай і аўганскім блінцом я павесялеў, седзячы за столікам пустой курдскай забягалаўкі (аўганцы толькі што выйшлі) пасярод запалярнага нарвежскага мястэчка.

Хоць за работай, хоць у чаканьні – час ляціць, і ўжо пераваліла за 12-ю начы. Курд прынёс другі кубак кавы і прапанаваў нейкі наедак з запечанага цеста. Адчуваю, як прэюць мае ногі ў цяжкіх паходных чаравіках з каўчукавай падэшвай. „Але ж нічога, не бяды, – кажу я сабе, Леанідавіч, – я хоць і кінуў сябе з волі Аўтара ў запалярныя нарвежскія авантуры і бесхацімства, ды ўсё ж на свабодзе і кірую сваім бадзяжніцтвам. А як жа тыя нашы, хто змагаецца ў нашай Юдэі за свае палестыны!? Як ім цяжка, хто зразумее?..".

Тым часам гаспадар закусачнай „Мілано" зусім разжаліўся і прынёс мне вялізны гамбургер за 75 крон, ведаючы, што я некрэдытаздольны...

Ну вось, навярнуў і гамбургер. Але мушу прызнацца, такая ежа толькі для спataленьня голаду – не для смаку. Па добрай волі есьці такое – ніколі! Асабліва калі памятаць, як пахнуць сьвежыя адвараныя бондачкі; як наганяе сьліну фасолевы суп на малацэ; як смакуе вяндліна пад чарачку і сяброўскую размову... А за гамбургер курду дзякуй! За ўвагу да адзінокай беспрытульнай душы!

Электронны тэрмометр над дзьвярыма закусачнай паказвае мінус чатыры па Цэльсіі. На вуліцы мяце і падвявае, а мяне пасьля кавы і мучнога з падазронымі інгрыдыентамі пацягнула ў цянёты паэзіі:

З вакна закусачнай „Milano”
гляджу дапытліва я ў ноч:
аднекуль – гукі фартэп’яна,
кудысьці позірк пары воч.
У небе зоры, як звычайна,
і, як звычайна, ў сэрцы сум,
і быццам стрэл папераджальны,
тваё нямецкае „Warum?”

... А трэцяй начы, як і было дамоўлена між намі, спаткаўся з суайчыньнікам – беларусам з *падпольскай* Гайнаўкі. Выпіваючы нарвежскае піва ў двухпавярховай кабіне ягонага аўто, мы гаварылі і гаварылі – пра нашу несамавітую будучыню ў выпадку, калі не самаарганізуемся; пра пастаўкі зброі; пра стварэньне касы ўзаемадапамогі... Толькі пра свае асабістыя жыцьці не пасьпелі пагаварыць.

Завяршаючы свой зварот да цябе, брат Іваноў, не магу не згадаць пра брата румуна, які зьявіўся ў нашай запалярнай Будзе ў пачатку сакавіка. Я пазнаёміўся зь ім на Перыметры, дзе звычайна зьбіраю пустыя пляшкі-бляшанкі. Гляджу, нейкі стары з учарнелым тварам канкурэнцыю мне

робіць? Я аж захваляваўся: во, думаю, яшчэ бяда на маю галаву. Падыйшоў да яго, загаварыў панарвежску, па-ангельску, – ня разумее. Тады я паруску – ён і адгукаецца, кажа, што з Румуніі. А ў самога такая дзіўная руская мова, ў якой і „добра”, і „грошы”, і куча іншых нашых словаў, а галоўнае, што акцэнт наш, вымаўленьне! „Ну, – кажу, – ты ж па-беларуску гаворыш! Які з цябе румун!?. Але я табе не паліцыя, допыт рабіць ня буду...”. Праўда, нейкую сваю легенду ён усё ж расказаў, намякнуў нібы, што бацька альбо дзед яго аднекуль з Украіны родам. Потым яшчэ нагаварыў, што ў Італіі ў яго сяброўка была з нашай Юдэі, дык, кажа, навучыла гарэлку піць. Але хваліў за тое, што надзейная была, жыць зь ім хацела. А ён сюды, у холад нарвежскі. І ўсё пытаецца, калі ж тут вясна настане...

Ужо трэці месяц румун, якога Паўлам зваць, сьпіць дзесьці ў самаробным шалашы – калі яму верыць. Але дзе – расказаць ня хоча. Перажывае, каб паліцыя не пагнала. Некалькі тыдняў ён кантаваўся на *маім* месцы ў морвакзале, але яго ўрэшце ахоўнікі адтуль вытурылі.

Днямі я пастрыг яго ў туалеце для інвалідаў нашай вялізнай новай бібліятэкі. На лысага, вядома, каб галава ня прэла ў цёплай зімовай шапцы. Удзячны быў, што не загідзіўся я, піва купіў ды частаваў мяне, ды расказваў пра свае прыгоды нялёгкія. І так ён мне цябе нагадваў, што я аж узлаваўся на ўсё. Спадзяюся, пасьля гэтага пісьма ты нарэшце пакінеш мяне ў спакоі і выйдзеш з маёй галавы туды, куды ўсе мы выходзім. Пакінь мяне, Іваноў, мне яшчэ трэба пабыць тут – дзеля славы Аўтара і самога жыцьця, якім бы яно ні было. Жыцьцё паважаць трэба, тады яно ўдасца.

Бывай, брат Іваноў! І няхай душа твая нарэшце супакоіцца ў гэтых радках!

Дарагі Кнут!

Не сумняваюся, што ты не пазнаў бы цяпер ні гораду, у якім пачынаў пісаць, ні тым больш людзей... О, гэтыя людзі!.. Нас ужо сем з гакам мільярдаў! Мы расьцём у геаметрычнай прагрэсіі, з хуткасьцю паскарэньня. Ведаеш, ужо нават нацыянальны нарвежскі касьцюм шыюць у Кітаі. Нарвежцы сваёй тымчасовай выгады не ўпускаюць. Яны і пра будучыню думаюць, як ім здаецца. Нарвежцы цяпер да кожнай бочкі стараюцца знайсьці сваю затычку. Ува ўсім яны цяпер разьбіраюцца і пра ўсё ведаюць, акрамя свайго ўласнага кантыненту – Еўропы. І *пра цану на яе* забыліся. А цана несувымерная...

Пасьля цябе, гадоў праз дзесяць, твае дапытлівыя землякі знайшлі на шэльфах Каралеўства праклятае чорнае золата – нафту. Многа нафты. Гэта як-бы твой Хапалацi знайшоў столькі тысяч мільёнаў нарвежскіх крон, што мог бы на гэтыя грошы скупіць для сваёй Ілаялі ўсю вуліцу імя караля Карла Юхана разам са сталіцай Осла ў дадатак.

Голад, дарагі Кнут, вельмі непрыемная і нават страшная зьява. А сытасьць? Дзяржаўная статыстычная служба Нарвегіі ў сваёй штогадовай справаздачы сярод іншага паведамляе пра адзін мільён тон прадуктаў, якія ідуць ў адкіды проста з прадуктовых фабрык. Я ўжо пісаў камусьці пра гэтыя лічбы. Так што сытасьць – таксама бяда. Нафту знайшлі, а рук, якія яе качаць будуць, не хапае. І паехалі, паплылі ў старую добрую Нарвегію чужамоўныя і чужародныя. І здрыгануліся ў жаху князі Валгалы: з пяці мільёнаў грамадзянаў Каралеўства адзін мільён – іншаземцы-чужавернікі!

Ведаеш, на сьцяне аднаўленага яшчэ пры тваім жыцьці гатэлю „Гранд”, з таго краю, дзе была вежа,

у якой ты здымаў нумар, калі прыязджаў у Буду, цяпер вісіць памятная шыльда і нагадвае пра цябе... Да гатэлю нашчадкі прыбудавалі гандлёвы пасаж, увесь такі са шкла і металаканструкцыяў, так што мы, абывацелі, празвалі яго Шкляным Домам. У ім знаходзяць прытулак сучасныя Ілаялі і Хапалацi. У выхадныя дні да іх далучаюся і я, пакідаючы свае апартаменты ў гатэлі „Нарона". Я займаю зручную пазіцыю і назіраю: усе нашы прыдуркі, п'яніцы і наркаманы – этнічныя нарвежцы, альбо, калі быць зусім дакладным, – прадстаўнікі белай расы. Ніводнага *каляровага* іншаземца! Толькі свае, нашы, белыя нашчадкі колішніх вікінгаў, – п'юць свой паршывы алкаголь і ўжываюць наркотыкі, якія шырокім *гальфстрымам сьмерці* плывуць у Еўропу з далінаў і гор Аўганістану, з джунгляў малой Азіі і Лацінскай Амерыкі...

*Наркаматычна-п'янтоўчая* грамада нашай Буды з 18:00 вечара да 10:00 раніцы лакалізуецца ў начным доме, начлежцы для наркаманаў. Тут, браце Кнут, твой галодны, халодны і беспрытульны Хапалаці знайшоў бы сухую цёплую пасьцелю, каб пераначаваць; сьняданак раніцай і вячэру вечарам. Толькі днём ён мусіў бы туляцца па горадзе, як гэта робяць нашы тутэйшыя бесхацімцы-бедакі. „Шкляны Дом" – „Начлежка" – іх адвечная траекторыя. З году ў год яны перамяшчаюцца ўздоўж па ёй, пакуль не аддаюць канцы дзе-небудзь у туалеце забягалаўкі „Кароль бюргераў" ад перадазіроўкі, як гэта здарылася ў нас у пачатку вясны. Ведаеш, усе гэтыя прытулкі і дапамогі толькі расьцягваюць у часе распад, гніеньне і канец гэтых белых няшчасных.

Некаторых я ведаю яшчэ з 2005-га, ужо дзесяць гадоў. Дзесяць гадоў, як яны існуюць выключна дзякуючы сацыяльнай дапамозе свайго Каралеўства.

Вось, напрыклад, Чалавек-банкамат, мой знаёмы гаротнік. Ён любіць падляцець да банкамата і з выглядам заклапочанага ўладальніка банкаўскай карткі ўдаваць зь сябе багатыра, якому чамусьці не ўдаецца зьняць патрэбную суму ў нарвежскіх кронах. Разводзячы рукамі і нешта мармычучы, ён адыходзіць ад бяздушнай металічнай скрынкі, перабіраючы ў пальцах чэкі, пакінутыя іншымі кліенатамі, якія жывуць у іншых аперацыйных сістэмах. Бывае, якая-небудзь раскошная дама пакідае каля банкамата асабліва густое воблака парфумы, і тады Чалавек-банкамат забываецца, што ён хацеў рабіць за хвіліну да таго як, і доўга прынюхваецца, нібы гадавалае дзікае сьвінчо, якое нечакана выскачыла на ўзьлесак. У такія моманты ён не зьвяртае ўвагі на мінакоў і заняты размоваю выключна з самім сабою. Пры гэтым Чалавек-банкамат пляскае сябе тыльным бокам далоні па ілбе, як быццам знайшоў адказ на галоўнае пытаньне жыцьця, і цярэбіць за правым вухам...

З тэй пары, калі я апошні раз бачыў яго тры гады назад, няшчасны пастарэў і схуднеў. Як вядома, народжаныя псіхічна нездаровымі, жывуць мала. Здаецца, што прырода, заўважыўшы сваю памылку, саромеецца яе, хоча выправіць недаробкі ў чалавечай натуры і як найхутчэй забраць жывы механізм назад у сваё ўлоньне...

Так я думаю, гледзячы на запалыя шчокі Чалавека-банкамата, на яго *скура ды косьці* фігуру, на якой целяпаецца старая паляўнічая куртка; на даўна нястрыжаную галаву з бруднымі даўгімі валасамі і прыліплымі да іх дзе-нідзе крупкамі колішняга сьняданку... Ён падыйшоў да мяне ледзь не ўпрытык, і таму я так добра бачу і яго маршчыны, і выцьвілыя вочы; ён нешта мне гаворыць, пра штосьці пытаецца, але ніколі ня просіць грошай, хоць і чакае, што вось гэты іншы зь белымі ка-

роткімі валасамі і гладкай скурай на твары, дасьць яму некалькі нарвежскіх талераў. Але я і ня думаю гэтага рабіць; я не люблю сентыментальных жэстаў, як правіла, бессэнсоўных, і Чалавек-банкамат, пажадаўшы мне *ha en finn dag*, ужо ляціць наперарэз іншаму госьцю гандлёвага цэнтру...

Час ад часу мне ўдаецца ўбачыць нашу тутэйшую Іллаялі – жанчыну гадоў пад трыццаць, з доўгімі русымі валасамі, якія свабодна аблiпаюць ейны шырокі сьветлы твар з сінімі вачыма. Цела ў яе цяжкое, прысадзістае. Звычайна жанчына ў лёгкіх цёмных штанах, у якіх угадваюцца тоўстыя моцныя ногі і праступае гэткая ж масастая *румпа*[34]. Наша Іллаялі хоць і цяжкая целам, але тэмпераментам актыўная: як акторка, якая іграе Ганну Карэніну ў апошняй сцэне драмы, жанчына бегае ад вітрыны да вітрыны; ад шапіка з марозівам да ювелірнага буціка і нешта сабе разважае. Здараецца, у ейных вачах успыхвае непадробная радасьць надзеі...

Я пазнаёміўся зь ёю гадоў дзесяць назад, летам, каля помніка Хаакону Сёмаму. Яна сядзела на каменнай лаве пад стодам худога каменнага ж караля ў вайсковай форме, і ўсьміхалася. Я толькі-толькі пераехаў з бежанецкага лагера ў горад і пасьля двух гадоў без жанчыны мне здавалася, што кожная гараджанка без увагі на ўзрост усьміхаецца асабіста мне.

„Вось яна, мая будучая нарвежская жоначка!” – *пульсарам жарсьці неўтаймоўнай* стрэліла мне дзесьці ў патыліцы дзёрзкая думка, і я загаварыў да ўсьмешлівай незнаёмкі з распушанымі валасамі. Нарвежскую я яшчэ толкам ня ведаў, і таму, *што* адказала маладая сімпатычная дзяўчына, ёрзаючы ёмкай румпай па халоднай скале, я элементар-

---

[34] *Румпа (нарв.)* – задніца.

на не зразумеў. Праз якую хвіліну яна падарвалася зь месца і неяк залішне імпэтна, як мне на імгненьне здалося, пачыкільгала ў пасаж. Я ірвануў сьледам, нагнаў яе, ізноў нешта плёў на жахлівым букмоле ўперамешку з Буда-дыялектам, а дзяўчына адказвала кароткімі рэплікамі, перамяшчаючыся па нейкай ламана-хаатычнай траекторыі, логіку якой я зразумець ня мог. Хвілін пятнаццаць мы танцавалі не зразумелы нам самім танец пад купалам Шклянага Дому, пакуль я раптам не заўважыў, што мы стаім пад лесьвіцай у падземны гараж, твар у твар, і я бачу ў ейных вачах нейкі дзікаваты водбліск невядомага полымя, а вусны прыадкрытыя настолькі, што за імі відаць белая костка роўных дзявочых разцоў.

Я перайшоў у наступ, больш не спрабуючы зразумець, што яна там шэпча. А дзяўчына і не шаптала зусім – яна ўжо войкала, вохкала і стагнала, ледзь толькі я залез ёй паміж ног і ліхаманкава (а як жа яшчэ!) шукаў гузікі і зашчапкі, якія мусіў аператыўна расшпіліць. Дзяўчына мала што войкала – яна павісла на мне, і ейнае грузнае цела абсаджвала мяне ўніз і перашкаджала сьцягваць з шырокіх клубоў ейныя баваўняныя штаны. Сяк-так мне нешта троху ўдалося, даланя прасьлізнула пад майткі, і пальцы мае як раздвоены язык лясной гадзіны, засьлізнулі ў жаночае вільготнае ўлоньне...

І тут Ілаялі войкнула неяк па-асабліваму, адпіхнулася ад мяне, сьцягнула нагавіцы да каленяў і прысела, выпускаючы з сябе густы і пругкі струмень на каменную пліту лесьвічнай пляцоўкі. У нос мне шухнуў арыгінальны водар атамаў мачавіны, вагінальнай змазкі і лімфатычнага любоўнага соку. На імгненьне я разгубіўся, пагас і змоўк. Мне нават здалося, што я адключыўся, удыхнуўшы на поўныя грудзі густы малекулярны канцэн-

трат жывога жаночага цела. Не пасьпеў я разабрацца, што здарылася, як мая нарвежская німфа скончыла сваю работу і ўстала, пахістваючы клубамі з боку ў бок, як робяць усе жанчыны, нацягваючы на свае ножкі зацесныя штаны. У наступную хвіліну яна, як нічога ніякага, усьмешліва глянула перад сабой і паднялася па лесьвіцы наверх, сьпіхнуўшы мяне з дарогі лёгкім штуршком сваёй белай рукі з абгрызенымі пазногцікамі.

Я ня кінуўся за ёй сьледам. Я лагічна падумаў: ня гэтым разам (нарвежскія дзяўчаты – яны такія; што я ўвогуле пра іх ведаю? можа ў гэтай сінявокай праблемы з мачавым пухіром, і ёй на дас[35] хацелася, а не любошчаў?)...

Толькі праз некалькі месяцаў, ізноў убачыўшы дзяўчыну ў Шкляным Доме, да мяне нарэшце дайшло, што яна – *іншая*, не як мы. Не-не, звонку яна і вунь якая сімпатычная! Сапраўдная скандынавачка, берсерачка, я сказаў бы, якая шукае свайго берсерка. Але ня знойдзе. І не дачакаецца – прырода стварыла яе *не такой*, не як мы, *нармальныя*. А хто ж захоча з ненармальнай!?. Ну хіба я, Вільман? Дык я сам хутчэй *іншы*, чым нармальны.

Як бы там ні было, брат, але ўсё гэта жорстка з усіх бакоў: Прырода, захапіўшыся натуральным адборам, прадукуе свой стабільны працэнт *іншых* і слабых духам, якія хутка пакідаюць дыстанцыю барацьбы. Асабліва разьвітыя людскія грамадствы спрабуюць нейкім чынам сацыялізаваць *іншых*, зблізіць іх з астатнімі. Калі ж паглядзець на такія спробы незамыленым прапагандай вокам аб'ектывіста-практыка, то ўсё роўна прыходзіш да невясёлых высноваў.

Каб хоць нечым загрузіць таптуноў-наркама-

---

[35] *Дас (нарв. dass)* – уборная.

наў, алгаголікаў і проста хворых на галаву, *нармальныя* арганізавалі для іх прадпрыемства з гучнай назвай „Фабрыка анёлаў”. У рэдкія моманты прасьвятленьня некаторыя *іншыя* прыходзяць на гэтую фабрычку й атрымліваюць работу, але ня больш чым на чатыры гадзіны ў дзень. Пасьля заканчэньня *рабочай зьмены* гора-работнічкам сплачваюць заробак гатоўкай, на рукі. Да канца дня ён будзе прапіты альбо абмяняны на некалькі дазьнякоў амфетаміну ці якой хаш-травы.

Паспрабаваў быў і я замальдавацца на гэтай фабрычцы, а раптам дастану якой работы з неадкладнай выплатай? Але не, не пашанцавала, ня змог я, як настойліва радзіў мне знаёмы чачэн Сулейман, прыкінуцца *іншым*, наркаманам там ці п’янтосам. Ад усяго сэрца спачуваючы, мяне тым ня менш не прынялі ў сям’ю белых нарвежскіх басякоў. Занадта я Вільман, і на абліччы маім прастаўлена пячатка самаволі, самастойнасьці і самаарганізацыі.

Такіх, як я, цяжка, а, зрэшты, і немагчыма далучыць да якой бы там ні было кампаніі. Я вылучаю такую энергію, што ўсе іншыя арганізмы ў зоне майго энэргетычнага поля могуць існаваць толькі прыняўшы мае правілы гульні... У выніку я не атрымаў свае гіпатэтычныя 400 крон за гадзіну, альбо 1600 NOK за чатыры гадзіны рабочага дня, альбо 188 еўра ў эквіваленце.

20 красавіка, у панядзелак – гэта быў акурат панядзелак, а не які іншы дзень тыдня — седзячы ў бібліятэцы „Шторм”, я прачытаў у абласной газэце пра адзінокую афрыканку Марту Амару Тэклю, якая ўжо шэсьць гадоў сядзіць-чакае ў нашым запалярным Нурландзе адказу з Дырэктарату па справах замежнікаў на сваю заяву аб прытулку. Якраз днямі кантора адмовіла ёй, і яна павінна добраахвотна пакінуць Нарвегію (цяпер улады не

высылаюць прымусова, няма такога). Каб не пайшла пабірацца альбо на падпольную панэльку прастытуцыі, выдаюць ёй 900 NOK на два тыдні – жыві!.. Але ня гэтыя біяграфічныя дэталі, добра вядомыя мне па ўласнай справе заваяваньня Нарвегіі, зацікавілі мяне ў журналісцкім матэрыяле пра грамадзянку Этыёпіі (былая Абісінія) Марту Тэклю – мяне ўразіў і, можна сказаць, зваліў з ног на скальны нарвежскі дол ейны здымак у профіль! Класічны рымскі тыпаж, толькі носік меншы, зграбнейшы, і без гарбінкі, роўненькі; прапарцыйнай велічыні вочы і бровы; роўныя, ня тоўстыя, і не затонкія каля костачкі, ікраножныя мышцы, як гэта ё ў еўрапейскіх жанчын; адно што колер скуры зацёмны, лілейна-сьлівовы такі, з налётам цялеснай пацiны. Як жа такое можа быць, такая класічная прыгажосьць твару і гармонія фігуры!?. Я проста зьляцеў з катушак, браце Кнут! Я кінуўся шукаць, дзе ж той лагер, у якім чакае лепшага жыцьця трыццацішасьцігадовая абісінская прынцэса Марта Амарыя Тэклю? Шукаў доўга, паўдня цэлага. Спачатку знайшоў стары бежанецкі лагер, у якім і сёньня жывуць, але адны мужчыны. Каля ўваходу ў адзін з будынкаў я спаткаў афрыканца, які аказаўся самалійцам, маладым і гаваркім. Ён спачатку паказаў мне дарогу да новага лагеру, а потым мы, раскурваючы яго цыгарэты, перайшлі да тэмы палітыкі, і самаліец аказаўся даволі абазнаным у справах нашай крывіцкай Юдэі. „Адкуль, пытаюся, ты ўсё гэта ведаеш? Бо ня кожны нарвежац зможа знайсьці на мапе нашу Гардарыку?" „Адтуль і ведаю – з тэлевізара. Гэта ж галоўная наша забава ў гэтай сумнай халоднай краіне...". Так мы пагаварылі, потым я сеў на ровар і пакруціў педалі далей шукаць маю *абісіянскую* прынцэсу Марту з вельмі крывіцкага гучаньня прозьвішчам *Тэклю*.

У будынку новага лагеру для бежанцаў нехта падказаў мне пастукаць у пакой нумар 211, што я і зрабіў. Адчыніла дзьверы іншая афрыканка, таксама даволі прыемная з твару, сказала, што Марты сёньня няма, а будзе заўтра а 3-й дня. Я расквітнеў ад спадзяваньняў на хуткую сустрэчу, пакінуў нумар свайго тэлефону і паехаў на швартовую прыстань дыхаць сьвежым паветрам Атлантычнага акіяну. Падумаць толькі, я знайшоў сваю Прынцэсу! Няхай сабе яна і з далёкай афрыканскай Этыёпіі-Абісініі...

27-га красавіка з раніцы я прыняў ванну, пагаліўся, абмыўся пад душавым струмянём, выцерся насуха не адзін раз вывараным ручніком і абліўся калісьці здабытым на блышыным рынку eau de toilette „Must de Cartier”. Цяпер я быў гатовы да спатканьня з Мартай Тэкляй... У бяз трох хвілін тры гадзіны дня я пастукаў у дзьверы пакоя нумар 211. Гэтым разам адчыніла сама Марта, якую я адразу ж пазнаў па здымку, зьмешчаным у газэце. Сэрца маё затахкала дзесьці ў горле, так што было адчуваньне, нібы з вушэй у мяне з хвіліны на хвіліну пойдзе пара, як з паравога карабельнага катла. Тым часам, мы пачалі знаёміцца: я гаварыў па-нарвежску, Марта – на ангельска-нарвежскай трасянцы. Суседка Марты, таксама абісінка, з даволі няўсьмешлівым, я сказаў бы, скептычным выглядам твару, разьлівала нам каву. Я, напусьціўшы на сябе важны выгляд, удаваў зь сябе карэспандэнта месячніка „Ekko”, які піша пра наркаманаў, алкаголікаў ды іншых людзей вуліцы. На грудзях у мяне матляўся бэдж вулічнага прадаўца гэтага часопісу, які я выдаваў за журналісцкае падсьведчаньне.

Хвілін дваццаць мы з Мартай спрабавалі наладзіць кантакт пры дапамозе моваў, і ёй, і мне чужых як найменей. Потым мая прынцэса стамі-

лася і запрасіла на дапамогу свайго маладзейшага земляка, які перакладаў маю макаранічную нарвежскую на абісінскую, і наадварот. Я навrouteчваў, што ў жыцьці заўсёды застаюцца варыянты, і што ў прынцэсы Марты Амарыі ёсьць прынамсі адзін пэўны спосаб легалізавацца ў Нарвегіі – выйсьці замуж за грамадзяніна Каралеўства і нарадзіць хоць адно дзіця тут, а лепш двух і больш... Але я не заўважыў ажыўленьня ў вачах Марты ад майго намёку-прапановы. Прынцэса не злавіла, не падхапіла маю ноту і не падыграла на маёй струне. Аблічча ейнае, ейны прыгожы еўра-абісінскі твар застаўся збольшага смурны, і я таксама пачаў згасаць і супакойвацца.

Хвілін праз дзесяць я ўжо раскланьваўся, падарыўшы Прынцэсе ангельска-нарвежскі слоўнічак і, як актыўнай верніцы артадаксальнай царквы, медны *кельцкі* крыжык – на доўгую, што называецца, памяць.

У маім нумары старога, як сама назва, гатэлю „Norrøna” няма лядоўні. Можа ў каго ў нумары і ё маразілка, а ў мяне – няма, таму я карыстаюся агульнымі лядоўнямі, якія стаяць у кухні на другім паверсе. Там жа я назіраю шараговых і ўнтэр-афіцэраў арміі еўрапейскага пралетарыяту, якая дзейнічае і за межамі Еўразьвязу – напрыклад, у Нарвегіі. Час ад часу я бачу сонных дзяўчат родам з цэнтральнай Польшчы, якія ўкалваюць на мясной фабрыцы „Max Mat”. Забягаюць зрэдзьчас на кухеньку польскія мужычкі, *ктурэ працуён на будове*. Але часьцей за ўсё я бачу на нашай агульнай тэрыторыі партугальцаў, якіх я спачатку лічыў венгерцамі – з-за мовы. Мову гэтых венгра-партугальцаў я чуў упершыню, і была яна мне непрыемная на слых, і я проста мусіў дапытацца, хто ж яны такія, носьбіты мовы, якая гучыць, быццам

адначасова на пліце падгарае рыс у рондлі і сквярэцца мяса нарвежскага парсюка. Носьбіты аказаліся партугальцамі, прадстаўнікамі калісьці каланіяльнай нацыі, якія цяпер працуюць на будоўлі ў нашым запалярным паўночна-еўрапейскім гарадку – будуюць заводзік для спаленьня цьвёрдых адкідаў.

Спачатку мова, а потым і самі ейныя носьбіты мне не спадабаліся. У гэтых партугальскіх работнічках я пазнаю сваіх, крывіцкіх пралетарыяў: вечна незадаволеныя, посныя фізіяноміі; спартыўныя штаны з адтапыркамі на каленях; безрукаўкі з ідыёцкімі надпісамі сьпераду й ззаду; адвіслыя брухі й падбародзьдзі і вечная тэма жэрава...

Ніхто іншы не таўчэцца на кухні так часта, як гэтыя *партугезы*. Як толькі канчаецца рабочая зьмена, яны ўжо тут як тут, на кухні: прыносяць з нумару кухоннае начыньне ў зялёным прадуктовым кантэйнеры, узгарушчваюць яго на агульны стол і пачынаюць кухарыць. І ўсё гэта іхнае варушэньне зь ежай выклікае ў мяне надзвычайную агіду – большую, чым калі б я глядзеў нажыва якую-небудзь парнаграфічную сцэну. Ну не магу я спакойна сачыць за тым, як пузаты дзядзя ў пляжнай майцы займаецца маніпуляцыямі з арганікай, засыпаючы яе солькамі і перчыкамі, заліваючы соўсікамі і маянэзікамі, і яшчэ невядома якой брыдой, якая у мяне, напрыклад, не разьвівае, а, наадварот, забівае ўсялякае адчуваньне смаку. Цьху, паскудства!

Партугальскі пралетарыят зарабляе на нарвежскай будоўлі; вечарамі ён з адчуваньнем у сабе поўнага на тое права наядаецца; падчас і пасьля яды дзеліцца паміж сабою ўспамінамі пра сваіх выдатных жонак-кухарак, смакуючы нарвежскае бляшаначнае піва; па заканчэньні кухоннага вячэрняга фэсту партугальскі пралетарыят Нарвегіі

выкідвае пустыя пляшкі ў сьметніцу – пралетарыят ня лічыць капейкі, зарабляючы тысячы грашовых знакаў; і таму пралетарыят застаецца самім сабой – пралетарыятам, які ніколі не выходзіць за межы сваёй сацыяльнай групы...

Дарэчы, пра тару, пра тыя самыя пустыя бутэлькі і бляшанкі з пластыку, шкла і дзюралюмінію, якія я вучыўся зьбіраць доўгія гады на дарогах тваёй радзімы, брат Кнут.

Пустыя пляшкі з-пад піва ў Нарвегіі пачалі зьбіраць аж ў 1902 годзе, яшчэ ў часы твайго станаўленьня як пісьменьніка. Тады за пустую шкляную бутэльку плацілі 6 ойра. Сёньняшнія цэны на пустую тару – 1 крона за паўлітровую і 2,50 за двухлітровую – існуюць з 1993-га. Дырэктарат па справах навакольнага асяродзьдзя (о, якіх толькі дырэктаратаў няма ў сучаснай Нарвегіі!) абяцае, што цэны за пустыя пляшкі хутка падвысяць да 2 крон за паўлітровую і да 3 NOK за пляшкі, аб'ёмам ад аднаго літра й больш. Вось будзе радасьць нам, зборшчыкам!

Таварыства „Infinitum", якое арганізуе ў Нарвегіі тэхналагічны ланцужок па прыёме, аплаце і перапрацоўцы пустой тары, паведамляе, што ў 2014-м годзе напрыклад, было сабрана 820 мільёнаў штук бляшанак і бутэлек і выплачана каля аднаго мільярду нарвежскіх крон, што складае прыкладна 117 мільёнаў у еўрапейскай валюце. Неверагодныя лічбы, праўда? І тым ня менш, твой раман „Голад" застаецца актуальным і ў нашым часе...

27 лютага 2015-га я сядзеў у новай вялізнай бібліятэцы і гартаў фрэндастужку сацыяльнай сеткі „Фэйсбук", у якой чарговы раз дружна абмяркоўвалі *жыдоўскае пытаньне*. Убачыўшы зорку цара Давіда ў чыімсьці каментары, не стрываў жаданьня пагаварыць і падруліў да мяне інтэлігентнага выгляду нарвежац, які сядзеў за суседнім сталом.

Сусед назваўся Янам Ульсэнам (Jan Olsen) і запэўніў мяне, што гэта самыя крымінальныя і самыя распаўсюджаныя ў Нарвегіі імя й прозьвішча. Потым на добрай літаратурнай нарвежскай пачаў распавядаць мне сваю біяграфію. Паколькі гаварыў ён нясьпешна, добра выгаворваючы словы і фразы, я амаль усё разумеў, і таму не без цікавасьці выслухоўваў, як ён, 21-гадовы Ян Ульсэн, у пачатку 80-х служыў у міратворчых войсках ААН („блакітныя каскі"), якія стаялі на лініі размежаваньня ў лівана-ізраільскім канфлікце, і менавіта там яму прыйшлося твар у твар сутыкнуцца *„з жыдоўскай агрэсіяй"*... Пасьля філасофскіх развагаў пра юдаізм і нарвежскія дабрачыннасьць і талеранцыю, Ян перайшоў да штодзённасьці быцьця – распавёў, што жыве ў каюце сваёй нядаўна купленай шаланды, матор якой жарэ 8 літраў саляры за гадзіну работы, і з такім расходам паліва доўга не паплаваеш, *і „дзякуй" сябру, які ўдружыў яму такое жарлівае карыта*...

Пад канец другой гадзіны гаварэньня я, п展назіраўшы за чалавекам, стаў падазраваць у ім таго самага *іншага* – мужчыну з некласічнай сэксуальнай арыентацыяй. Каб скончыць нарэшце ягоны маналог, я падсунуў яму нумар свайго мабільніка й сваё вольналюбнае імя.

Праз тыдзень, у пятніцу, я, як заўсёды, выйшаў на збор бутэлек ды пошук іншых прыгодаў вакол Шклянага Дому. Іду сабе з выглядам караля Хаакона Сёмага пасьля яго вяртаньня з Лондану ў Осла ў 1945-м, і тут бачу таго самага Яна Ульсэна: стаіць ён каленьмі на каменнай падлозе і прамаўляе, а вакол яго маладыя падшыванцы. Ну я і зачапіў яго. У выніку гэты Ян паласкаў мне вушы да 3-й начы. А я ж такі месцамі цярплівы, што самому паскудна. А гэты Ян такі ўжо такі: чырвонае вінцо з нейкай аптэчнай бутэлечкі па-

цягвае, але мне не прапануе; і ўсё за ручку мяне бярэ й не адпускае; і каленцам, каленцам аб маё трэцца; і хельтэрам (героем, значыць) называе; і намякае-напрошваецца да мяне ў гатэль *у госьці*...

Так я таго разу і не сабраў бутэлечак, заслухаўшыся інвектывамі нарвежскага міратворцы-гомасэксуаліста Яна Ульсэна А ў пакой да сябе я яго не запрасіў, Я, можа, таксама *іншы* і *не такі*, брат Кнут, але, як і ўсе іншыя жывыя істоты, імкнуся да процілеглага мне полу, бо толькі такое рознапалярнае імкненьне і гарантуе працяг жыцьця як такога.

Мы разьвіталіся з Янам каля ўваходу ў гатэль „Нарона", але падымацца ў нумар яшчэ не хацелася, і я, зайшоўшы ў хол, праз некалькі хвілін ізноў высунуў галаву на двор. Ян Ульсэн заставаўся на плоскасьці гарадскога цэнтру, пастаянна зьмяняючы вектар перамяшчэньня: то ён ішоў у бок прыстані, дзе гойдалася на якары ягоная аднамачтовая шаланда; то раптам спыняўся, разварочваўся ў адваротны бок і праставаў да ўжо абязьлюдзелага Шклянага Дому, але на паўдарозе зьмяняў курс і зноў шыбаваў да гатэлю. тады я вяртаўся ў хол і сачыў за Янам праз вакно, пакуль ён не зьнікаў з сектара агляду. У нейкі момант я быў пашкадаваў, што не запрасіў яго да сябе, бо нічога ніякага і не было б, акрамя таго, што я даў бы чалавеку прытулак на некалькі гадзін часу...

Вярнуўшыся ў нумар, я доўга мыў рукі маім любімым жоўценькім яечным мылам „Lano", потым доўга выціраў іх у два ручнікі, і нарэшце сеў за мой часовы рабочы стол. Спаць не хацелася, я паклаў перад сабой чысты аркуш фармату „А-4", узяў асадку з чорным атрамантам у стрыжні і запісаў: „Дарагі Кнут!..".

... дарагі Кнут! Праз пяцьдзесят гадоў пасьля твайго адыходу нарвежцы ізноў гавораць і пішуць

пра цябе, а ў Хамароі пабудавалі вялікі культурны цэнтр твайго імя. За паўвеку землякі неяк забыліся пра тваю „германафілію” і ўспомнілі тваю глыбінную нарвежскасьць. Адным словам, усё стала на свае месцы. Праўда, магчыма, што і позна... Нарвегія, як і ўся Еўропа, так зьмянілася, што ты не пазнаў бы сёньня свайго народу. Цяжка сказаць, чым усё скончыцца. Вось, напрыклад, газэты пішуць, што кожны чацьвёрты нарвежскі мужчына ў свае сорак пяць усе яшчэ застаецца бязьдзетным, і хуткія на хвацкія загалоўкі рэпарцёры тут жа назвалі праблему мужчынскай адзіноты *новай чумой*. Дык вось я і думаю: можа адзінота сучаснага еўрапейскага чалавека — гэта і ёсьць *цана Еўропы*?

А, зь іншага боку, Нарвегія за апошнія пяцьдзесят гадоў так разбагацела на здабычы нафты, што адзінота на палітычным полі нашаму Каралеўству не пагражае, хутчэй наадварот. Вялікія капіталы патрабуюць вялікіх укладаньняў – і грошыкі пацяклі ў будаўнічую сьферу. Але сваіх будаўнікоў, як высьветлілася, не хапае – і тысячы палякаў, венграў, грамадзянаў Літвы, Латвіі і Эстоніі; грамадзянаў Малдовы з румунскімі пашпартамі і нават партугальцы паехалі будаваць Нарвегію. У нашай Будзе пабудавалі столькі, што дзесяткі дамоў стаяць пустыя – няма каго засяляць нават ў новыя будынкі і канторы; не хапае новых бізнэсаў, каб арэндаваць пустыя плошчы квадратных метраў, вызваленых былымі арандатарамі ў самых цэнтравых кварталах нашай паўночнай сталіцы...

Сёньняшняя Нарвегія, брат, гэта двухаблічны Янус, які адным сваім бокам дэманструе чалавекалюбства і клопат пра ўсіх на сьвеце *іншых*, няшчасных і галодных, а другім – паблажлівую ўсьмешку перакормленай экзістэнцыі. Нашае Ка-

ралеўства – прыклад пераяданьня, агідная, несімпатычная тлустая задніца з кілямі нарослага тлушчу, пазбавіцца ад якога можна толькі аператыўнааперабельным шляхам. І ты як ніхто іншы ведаеш: хранічны паражор, як і хранічны недаедак, вядуць акурат да аднаго й таго ж выніку – сьмерці індывіда, грамадства, культуры і ўрэшце самой дзяржавы.

Дарагі Кнут, я пішу гэты ліст з прадчуваньнем *вялікай вайны*, якую ілжывыя еўрапейскія палітыкі ізноў назавуць „сусьветнай". Гэтым разам у прорву нябыту нясецца Расея, якая вуснамі сваіх галоўных кіраўнікоў адкрыта пагражае ядзерным ударам. І ўсё гэта ізноў адбываецца ў Еўропе. Яшчэ раз на тыя ж самыя граблі, выштукаваныя з гарматных ствалоў?

Мой нарвежскі таварыш Ян Ульсэн распавядаў днямі неверагодныя рэчы: аказваецца, нарвежцы ўжо ня першы год сур'ёзна рыхтуюцца да глабальнай вайны! Самыя багатыя перабіраюцца ў далёкія ад *поясу нестабільнасьці* землі: у Новую Зеландыю, Аўстралію, Канаду і аж ці не на Мадагаскар; бяднейшыя (сярэдні нарвежскі клас) арганізуюцца ў таварыствы, што выкупляюць у дзяржавы старыя закінутыя тунэлі і пячоры, у якіх *ствараюць недатыкальны запас* на выпадак тэрмаядзернага ўдару, хімічных, біялагічных і тэхнагеннакалапсуальных атак.

З іншага боку вось што нам паведамляюць разьведвальныя агенцтвы некаторых заходне-еўрапейскіх краін і нарвежскі палітычны вышук: ад 60 да 100 грамадзянаў Нарвегіі сёньня ваююць у Іраку і Сірыі на баку вельмі брутальнай у сваёй ваяўнічасьці ісламісцкай арганізацыі „Ісламская дзяржава". Адзін з такіх жаўнераў *ісламскай ідэі* прызнаецца на старонках фэйсбуку: „Мне няма чаго рабіць у сёньняшняй Нарвегіі. Я паехаў у зьнішча-

ны нявернымі Ірак, каб ваяваць за перамогу ісламу, за мусульманаў і супраць сучасных еўра-атлантычных крыжаносцаў...”.

Так што бачыш, брат, лакальная падрыхтоўка да канфлікту, перш за ўсё ідэйная, псіхалагічна-палітычная, ідзе поўным ходам. Еўропа сёньня — гэта 10 мільёнаў квадратных кіламетраў тэрыторыі і каля 750 мільёнаў жыхароў, гатовых увязацца ў новую гарачую кантынентальную вайну...

*„Натуральна, што я – еўрапеец. Я ведаю гэтую частку планеты, і гэта мой сусьвет. Але нешта зь ім пайшло ня так. І тут уласная віна Еўропы; ніхто ня можа сказаць, што еўрапейскі мацярык ня быў папярэджаны, альбо што мы не былі папярэджаныя[36]”.*

*Канец*

[36] *„Натуральна, што я – еўрапеец...”* – цытата з трылогіі нарвежскага пісьменьніка Енса Б’ёрнабу „Імгненьне свабоды. Парахавая вежа. Цішыня”.

